Katedra Białorutenistyki
Uniwersytetu Warszawskiego

*Мікола Хаўстовіч*

# ДАСЛЕДАВАННІ І МАТЭРЫЯЛЫ:

## ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСІ XVIII–XIX СТАГОДДЗЯЎ

### Творы невядомых аўтараў

**ТОМ ДРУГІ**

Warszawa 2016

# ЗМЕСТ

# *Замест прадмовы*

Планавалася, што ў другі том *Даследаванняў і матэрыялаў*, апрача раздзела *Ананімная літаратура*, увойдуць тэксты і дакументы, датычныя жыцця і творчасці Яна Чачота, Гераніма Марцінкевіча, Эдварда Жалігоўскага, Аляксандра Ельскага і Альгерда Абуховіча. Аднак спакваля аб'ём першага раздзела павялічыўся на столькі, што давялося адмовіцца ад першапачатковае задумы[1].

Мы палічылі патрэбным засяродзіць увагу на асобных ананімных творах другой паловы XVIII – XIX стагоддзяў: "пашпартызаваць" і апублікаваць даступныя нам спісы вядомых тэкстаў. Не ставілася задача ўключыць у том усю беларускамоўную ананімную літаратуру акрэсленага перыяду. Мусім прызнацца: на сённяшні дзень мы не маем у сваім распараджэнні ўсяго корпусу тэкстаў. Больш за тое, мы не ведаем пра месцазнаходжанне шэрагу рукапісаў апублікаваных і даволі вядомых твораў. А як паказвае практыка, нават змяшчэнне тэкста ў навуковым выданні не з'яўляецца гарантам дакладнае перадачы асаблівасцяў арыгіналу/спісу/копіі. Напрыклад, публікуючы (ці рыхтуючы да друку) літаратурныя тэксты, Міхал Федароўскі рэдагаваў іх: папраўляў як занатаванае іх самім, так і атрыманае ад сваіх карэспандэнтаў. Часам гэтыя праўкі слушныя і неабходныя: запісанае малаадукаванымі людзьмі патрабавала адлюстравання на пісьме асаблівасцяў беларускае мовы: дзекання і цекання, акання і якання, правапісу літары "ў" і інш. Аднак сваё рэдагаванне М. Федароўскі распаўсюдзіў і на тэксты, якія паходзілі з даўніх часоў – пачатку ці сярэдзіны XIX стагоддзя. Ён правіў не толькі арфаграфію[2] ды пунктуацыю рукапісаў, але і – здаралася – уводзіў лексічныя змены. З гэтай прычыны мы палічылі патрэбным апублікаваць у дадзеным выданні *Гутарку Данілы са Сцяпанам* паводле рукапісу (захаваўся ў паперах М. Федароўскага) з сярэдзіны (?) XIX стагоддзя, хоць зусім нядаўна змясцілі ў часопісе "Acta Albaruthenica" дадзены твор паводле кнігі *Lud białoruski na Rusi Litewskiej*[3].

Амаль палова з дваццаці васьмі пададзеных у гэтым томе ананімных твораў ці то аніколі не друкавалася, ці то была апублікаваная ў старых, маладаступных сёння выданнях XIX – пачатку XX стагоддзяў. Вядома, можна

---

[1] Спадзяемся, што падрыхтаваныя і апрацаваныя ўжо ў значнай ступені матэрыялы пра названых літаратараў убачаць свет ў трэцім томе *Даследаванняў і матэрыялаў*.

[2] Думаецца, значную "шкоду" тэкстам прынёс М. Федароўскі там, дзе замяняў без агаворак літары грамадзянскага шрыфта ў тэкстах лацінкаю на адпаведныя лацінскія.

[3] Гл.: М. Хаўстовіч, *Гутарка Данілы са Сцяпанам у кантэксце беларускай ананімнай літаратуры XIX стагоддзя*, „Acta Albaruthenica" 2014, t. 14, s. 15–37.

зразумець беларускіх гісторыкаў літаратуры савецкае эпохі: па-першае, з ідэалагічных прычынаў не надаваліся ў той час да друку творы палітычнае, выразна антырасейскае ці рэлігійнае арыентацыі, па-другое, невысокі мастацкі ўзровень большасці з іх з’яўляўся нібыта законнаю падставаю дзеля таго, каб не згадваць пра такія тэксты ў літаратуразнаўчых працах.

Не на карысць беларускамоўным тэкстам г. зв. “дарэвалюцыйнага перыяду” было і тое, што друкаваліся яны пераважна ў хрэстаматых для студэнтаў філалагічных факультэтаў ці ў літаратурна-мастацкіх выданнях, бо творы адаптоўваліся да вымогаў чытацкае аўдыторыі. У выніку – мова літаратуры XIX стагоддзя спакваляператварылася ў зрусіфікаваную беларускую мову XX стагоддзя. Відавочна, меў рацыю вядомы польскі публіцыст і літаратар беларускага паходжання Міхал Паўлікоўскі (1893–1972), калі пісаў пра адметнасць даўнейшае беларускае мовы: “І ў непісьменнага Аляксандра, і ў іншых, як ён, непісьменных беларускіх браканьераў, Тадзіка заўсёды здзіўляла багацце вобразных параўнанняў і смеласць арыгінальных метафараў. <…> Слухаючы паляўнічыя фантазіі беларуса, мы разумеем, што народная беларуская мова прыгожая і багатая, на шмат прыгажэйшая і багацейшая за сённяшнюю афіцыйна-літаратурную беларушчыну! Тадзік няраз пазней шкадаваў, што не запісваў у нататнік незлічоныя словы і звароты, якімі Аляксандар шчодра аздабляў свае апавяданні”[1].

Беларуская літаратурная мова XIX стагоддзя ў якасці крыніцы жыўлення мела невычэрпнае народнае мора. А таму мова жыла натуральным жыццём. Мова была незвычайнай каштоўнасцю. Мову шанавалі: “З парабкамі і вясковымі гаспадарамі размаўлялі толькі па-беларуску. Правільнае і свабоднае маўленне па-беларуску было нібы своеасаблівым стылем. Высмейвалі і глуміліся як з русіцызмаў, так і паланізмаў. Дабрадушна здзекаваліся з бабулі, якая паходзіла з Валыні і ніколі належна не апанавала беларушчыну. Пані Іртэньская кпіла таксама з мужа, які бавячыся на вёсцы толькі час ад часу, размаўляў з сялянамі на нейкім беларуска-расейскім жаргоне. Веданне беларускіх прымавак, песняў і вершаў (часта непрыстойных) было абавязковым поруч з веданнем польскай патрыятычнай літаратуры. Пазней, калі Тадзік быў у старэйшых класах гімназіі, збіралася вечарамі ў Мінску кола калегаў з земляўласніцкіх сем’яў і рэцытавалі беларускія байкі альбо выхваляліся адзін перад другім веданнем рэдкіх, малавядомых беларускіх слоў. Ну, і памятаць трэба тое, пра што далікатна прамаўчалі сучасныя беларускія літаратуразнаўцы, – калыскай літаратурнай беларушчыны быў польскі двор, перадусім, польскі дробнашляхецкі засценак”[2].

Не будзем цяпер дыскутаваць з аўтарам пра “польскасць” шляхецкіх засценкаў, адно прыгадаем, што ён падаў у сваёй кнізе шэраг фрагментаў з ананімных беларускамоўных тэкстаў. І калі, напрыклад, радкі:

Chto nia smotryć na dwururku,
A pilnuje adnu dziurku,

[1] M. K. Pawlikowski, *Dzieciństwo i młodość Tadeusza Irteńskiego*, Łomianki 2010, s. 176.
[2] *Ibidem*, s. 64.

Toj ci u szczaści, ci u biadzie
Jak ni strelnie – papadzie.

вядомыя нам на *Суседчыку Гавейскаму* Вільгельма Пратасэвіча, дык шэраг іншых не знойдзем ні ў хрэстаматыях ды анталогіях, ні ў нашай навуковай літаратуры[1].

Літаратурная спадчына беларускамоўнага XIX стагоддзя не ёсць шматлікая і багатая. Адсутнасць нацыянальнае перыёдыкі, забароны і пераслед сталі тымі прычынамі, які перашкаджалі станаўленню і развіццю нармальнага літаратурнага працэса. А гэта прывяло да таго, што пэўная частка даробку беларускіх літаратараў не захавалася. Аднак нават тое, што дайшло да нашага часу, не дачакалася навуковае публікацыі.

У падрыхтаваны Нінай Сянкевіч *Канкарданс беларускае мовы XIX стагоддзя* ўключана 403 літаратурныя творы пераважна невялікага аб'ёму. Да ананімнае літаратуры ("Група ананімных твораў і твораў спрэчнага аўтарства") складальніца аднесла 83 тэксты. Але твораў – усё ж – крыху менш: выключыўшы спісы і варыянты – па нашых падліках – іх 66. Вядома, гэта не ўсё з таго, што захавалася. На нашу думку, корпус беларускамоўнае ананімнае літаратуры XIX стагоддзя налічвае больш за сто літаратурных твораў. (Пра нашае разуменне "ананімнасці" апавядаецца ў раздзеле *Беларуская ананімная літаратура XIX стагоддзя: праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі*). Прыдзе час – усе яны (таксама іх спісы і варыянты) будуць надрукаваны. Сведчаннем чаму можа быць той факт, што ў нашым выданні – 8 твораў, якіх няма нават у *Канкардансе*.

Мастацкі ўзровень пераважнае большасці ананімных твораў XIX стагоддзя даволі нізкі; аніяк не скажаш, што мы маем справу з тэкстамі, якія вызначаюцца высокімі эстэтычнымі вартасцямі. Аднак не будзем забываць пра тое, што сумарны корпус тэкстаў з'яўляецца якраз тым – перайначваючы словы класіка – ***што і праз тысячу гадоў будзе сведчыць пра нас, пра нашу культуру***.

[1] Вось, напрыклад, як невядомы паэт перадае песню цецярука:

Twoj parobok u mojeho parobka tapor ukrau,
Skaży swajemu parobku,
Kab majemu parobku
Tapor addau (*Ibidem*, s. 241).

# *Беларуская ананімная літаратура XIX стагоддзя: праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі*

Сёння не выклікае сумненняў, што "Гісторыя беларускае літаратуры XIX стагоддзя" – гэта асобны прадмет, асобная дысцыпліна, адметны аб'ект літаратуразнаўчага даследавання. Для Рамуальда Падбярэскага прадмет ягонага даследавання не быў яшчэ "гісторыяй літаратуры", а вось Аляксандар Рыпінскі, Адам Кіркор, А. Ельскі, хоць, фактычна, і былі сучаснікамі (і ўдзельнікамі) літаратурнага працэсу, падыходзілі да яго, гэтага літаратурнага працэсу, як гісторыкі літаратуры.

Канчаткова "Гісторыя беларускае літаратуры XIX стагоддзя" як асобны прадмет сфармавалася ў працах Яўхіма Карскага: менавіта ён у якасці асноўнага элемента беларускае літаратуры "абраў" "народный язык" і паклаў адлік гэтае літаратуры ад першых гадоў XIX ст. (праўда, згадаўшы і пра "пробы пера на чисто народном языке еще с половины XVIII века")[1].

Канцэптуальна палажэнні Я. Карскага грунтуюцца на высновах Аляксандра Пыпіна, на расейскай імперыяльнай ідэі, на дазволе старэйшага брата мець малодшаму свае этнаграфічныя асаблівасці.

Але гэта быў пачатак. Ад "белорусской литературы на чисто народном языке" да "Гісторыі беларускае літаратуры XIX стагоддзя" страшэнна вялікая адлегласць, якую мы і сёння яшчэ не адолелі, бо з самага пачатку некаторыя (свае і чужыя) хацелі бачыць "Гісторыю беларускае літаратуры XIX стагоддзя" толькі як праяву этнаграфізму. Можна прыгадаць, як А. Пыпін "с русской точки зрения" абмяжоўваў беларускую літаратуру "чисто народным элементом", як Я. Карскі адгукнуўся на першае выданне *Гісторыі беларускае літэратуры* Максіма Гарэцкага (1920): "Тут рассматривается и белорусская литература, и произведения, возникшие на белорусской территории, и памятники, часто не имеющие непосредственного отношения к Белоруссии, а только к древне-русской литературе"[2].

Звычайна (за рэдкім выключэннем) гісторыкі літаратуры абмяжоўвалі "Гісторыю беларускае літаратуры XIX стагоддзя" беларускамоўнымі тэкстамі. М. Гарэцкі ў *Хрэстаматыі* (1922) дазволіў сабе толькі двойчы

[1] Е. Карский, *Белорусы: В 3 томах*, том 3, книга 2: *Очерки словесности белорусского племени*, Минск 2007, с. 243.
[2] *Ibidem*.

парушыць гэты прынцып: даў у перакладзе адно апавяданне з *Шляхціца Завальні* Яна Баршчэўскага і фрагмент прозы Паўла Шпілеўскага. (Праўда, у перакладзе падавалася і *Пінская шляхта*). А вось зборнік *Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, выдадзены ў 1940 г. пад рэдакцыяй Янкі Купалы, пазбыўся і Я. Баршчэўскага, і П. Шпілеўскага.

У даваенны час беларускамоўныя тэксты XIX ст. не дачакаліся навуковых публікацый: да сталінскіх рэпрэсій не было навукоўцаў, якія б маглі гэтым заняцца (як выключэнне, Міхайла Піятуховіч ды яшчэ пару гісторыкаў літаратуры), пасля рэпрэсій – кадраў фактычна не засталося, а таму доўгі час тое, што лічылася беларускай літаратурай XIX ст., магло адно толькі пацвердзіць тэзіс бальшавіцкае ідэалогіі пра поўную прыгнечанасць беларускае нацыі да "кастрычніцкае рэвалюцыі": эксплуататары не далі магчымасці таленавітым прадстаўнікам народа стварыць літаратуру.

Амаль тры пасляваенныя дзесяцігоддзі (1945–1970) нібыта і існавала беларуская літаратура XIX ст., але ўвесь корпус ейных тэкстаў заключаўся ў 300-старонкавым зборніку[1]. І толькі ў 1960-я гг., з аднаго боку актыўнасць новага пакалення гісторыкаў літаратуры (Сцяпан Александровіч, Адам Мальдзіс, Генадзь Кісялёў), а з другога – патрэбы вышэйшае школы (беларускіх аддзяленняў філфакаў) актывізавалі гісторыка-літаратурныя даследаванні. Сотая гадавіна вызвольнага паўстання 1863 г. актывізавала не толькі пошук матэрыялаў, звязаных з Кастусём Каліноўскім, але і шэрагам іншых яго ўдзельнікаў-літаратараў. У выніку павялічыўся корпус матэрыялаў пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Арцёма Вярыгу-Дарэўскага, Ялегі Пранціша Вуля, Фелікса Тапчэўскага. І значна павялічыўся корпус тэкстаў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Гэта зафіксавала выдадзеная ў 1971 г. хрэстаматыя[2].

Праўда, з ідэалагічных прычынаў шмат якія літаратурныя творы (напрыклад, *Плынуць ветры*, *Як былі пад панам* і інш.) не друкаваліся і звычайна не згадваліся. Сітуацыя змянілася толькі ў другой палове 1980-х гг. Найвялікшы здабытак гэтага часу – публікацыя матэрыялаў М. Піятуховіча, у якіх – фрагменты з рукапісаў А. Рыпінскага[3]. *Хрэстаматыя*, выдадзеная Алегам Лойкам і Вячаславам Рагойшам у 1988 г., стала падрахаваннем савецкага перыяду даследаванняў гісторыі беларускае літаратуры XIX ст.[4].

*Хрэстаматыя* апублікаваная як "вучэбнае выданне", але ў яго ўключаны шмат якія тэксты, якія раней не друкаваліся. У *Хрэстаматыі* яны падаваліся ў адаптацыі ўкладальнікаў, хоць навуковыя публікацыі гэтых твораў адсутнічаюць. Нічога дзіўнага: усе творы беларускай літаратуры

---

[1] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, пад рэд. Ю. Пшыркова; склалі В. Барысенка, М. Ларчанка, Л. Фіглоўская, Мінск 1950, 339 с.

[2] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1971, 373 с.

[3] М. Піятуховіч, *Рукапісы А. Рыпінскага*, публ. В. Скалабана [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, укл. Г. Кісялёў, Мінск 1990, с. 218–274.

[4] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., склад. А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1988, 487 с.

XIX ст. звычайна друкаваліся ў літаратурна-мастацкіх ці вучэбных выданнях. Адаптацыя нібыта законная. Але з-за гэтае заганнае практыкі, фактычна, мы не маем навуковых выданняў тэкстаў. Спроба Я. Карскага даць навуковае выданне *Энеіды навыварат* не знайшла свайго працягу. Тэксты ў пасляваенны час выдавалі звычайна паводле надрукаваных у 1920-я гг. (*Хрыстаматыі* М. Гарэцкага), не звяраючы з першадрукам ці рукапісам; іх адвольна рэдагавалі, "вычышчалі" ад ідэалагічных хібаў і г. д.

Цікавым з'яўляецца і той факт, што творы толькі пяці[1] беларускіх пісьменнікаў XIX ст. былі выдадзены асобнымі кніжкамі: В. Дуніна-Марцінкевіча (1940, 1945, 1957, 1958, 1981, 1984), Ф. Багушэвіча (1940, 1956, 1952, 1967, 1976), Янкі Лучыны (1953, 1988), Уладзіслава Сыракомлі (1966) і Я. Чачота (1989). Вядома, у "Мастацкай літаратуры". Бо не было практыкі (як не было і культуры ды тэхналогіі) выдаваць тэксты ў навуковым выдавецтве ("Навука і тэхніка"). Зрэшты, нават манаграфіі вядомых літаратуразнаўцаў, што выдавала "Навука і тэхніка", цяжка назваць навуковымі выданнямі з чыста фармальнага боку: у пераважнай большасці кніг адсутнічалі абавязковыя кампаненты навуковых кніг (напрыклад, індэкс асобаў, даведачны апарат і г. д.).

Мы зыходзім з прызнання таго факту, што беларуская літаратура XIX ст. – гэта літаратура ў сваёй аснове шматмоўная. Нацыянальная рэканструкцыя літаратурнага працэсу ў Беларусі дыктуе толькі такое яго разуменне. А таму толькі ўсебаковае вывучэнне літаратуры эпохі (у тым ліку і кантактаў з суседзямі) дазволіць адказаць на пытанні, якія немагчыма высветліць, калі мы будзем даследаваць беларускамоўную складковую гэтага працэсу. Даўно прыйшоў час адмовіцца ад заганнае практыкі падзелу літаратараў на "сваіх" і "чужынцаў". Наколькі больш простай аказалася б атрыбуцыя беларускіх ананімных тэкстаў, каб мы не вырывалі іх з кантэксту, каб вывучалі не толькі асаблівасці ўзнікнення беларускамоўных твораў, але ведалі літаратурную сітуацыю ўвогуле.

Гісторыкі і тэкстолагі Новай беларускай літаратуры павінны былі пачынаць ад навуковага выдання літаратурных тэкстаў ды іншых гісторыка-літаратурных дакументаў, якія датычаць літаратурнага працэсу ў краі. Але адбывалася звычайна інакш: літаратуразнаўцы пераказвалі (часам з памылкамі) прачытанае з даўніх выданняў пра паэтаў і пісьменнікаў, мастацкія тэксты адаптоўвалі да вымогаў цэнзуры і чытача; нармальная тэксталагічная праца звычайна не вялася.

Вядома, цягам XX стагоддзя шмат было зроблена: выяўлена ў бібліятэках і архівах аграмадная колькасць матэрыялаў, якія хоць і не заўсёды публікаваліся, але ў пераказах уводзіліся ў навуковы ўжытак. Што датычыць мастацкіх тэкстаў, дык трэба прызнаць, што хрэстаматыі і анталогіі XX і XXI стст. даюць адно прыблізнае ўяўленне пра даробак літаратараў Беларусі XIX ст. Зрэшты, усе яны прызначаліся для шырокага чытача

[1] У *Канкардансе* Н. Сянкевіч змешчаны творы 54 аўтараў.

(студэнцкае аўдыторыі), а таму не маглі быць навуковымі. Фактычна, навуковым выданнем літаратурных тэкстаў XIX ст. у нас ніхто не займаўся.

Надзвычай катастрафічна выглядае справа з беларускай ананімнай літаратурай XIX стагоддзя. Апрача двух вядомых паэм, іншыя ананімныя тэксты – на маргінэсе літаратуразнаўчых даследаванняў. Увогуле – што гэта такое: беларуская ананімная літаратура XIX стагоддзя? Што мы ведаем пра корпус ейных тэкстаў?

Як вядома, ананімнымі звычайна называюць творы, "якія выйшлі ў свет або распаўсюджваюцца ў рукапісах без пазначэння імя аўтара"[1]. Прычыны ананімнасці могуць быць самыя розныя: найчасцей – пераслед афіцыйных уладаў ці нежаданне быць вядомым з-за няўпэўненасці ў станоўчай ацэнцы твора.

У Беларусі XIX ст. ананімнасць прадвызначалася фактычнай адсутнасцю беларускамоўнага друку, а таксама рэпрэсіямі чужынцаў-захопнікаў. Да сярэдзіны 1840-х гг (1844 г. – публікацыі нарыса Р. Падбярэскага *Беларусь і Ян Баршчэўскі* і 1846 г. – выхаду ў свет *Ідыліі-Sielanki* В. Дуніна-Марцінкевіча), здаецца, беларускамоўныя творы (ці часткі твораў) не друкаваліся пад прозвішчам аўтара[2]. У сярэдзіне 1850-х гг. з'явіўся *Нячысцік* А. Рыпінскага (1853) і *Гапон* ды *Вечарніцы* В. Дуніна-Марцінкевіча (1855)[3].

Зрэшты, публікацый пад уласным прозвішчам у XIX ст. мы ведаем вельмі мала. А таму беларускамоўная літаратура таго часу – ананімная ў сваёй пераважнай большасці.

Напачатку на гэта амаль не звярталі ўвагі: Р. Падбярэскі ў згаданым нарысе называе тры беларускамоўныя творы – і ўсе тры аўтарскія: *Энеіду*, на яго думку, напісаў Ігнат Манькоўскі, а *Дзеваньку* і *Рабункі мужыкоў* – Я. Баршчэўскі. Аднак ва ўсіх іншых, хто пазней пісаў пра беларускую літаратуру, нязменна ўзнікалі праблемы з атрыбуцыяй называных імі тэкстаў. І калі А. Кіркор і А. Ельскі адно канстатавалі вядомыя ім факты, то Мітрафан Доўнар-Запольскі, Еўдакім Раманаў і Я. Карскі імкнуліся давесці свой пункт гледжання, палемізуючы з апанентамі. Гэта сведчыць, між іншым, і пра тое, што "з'явілася" ананімная літаратура.

---

[1] М. Лазарук, *Ананімныя творы* [у] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі ў 5 т.*, т. 1, Мінск 1984, с. 109.

[2] 28 "уласных вясковых песняў" Я. Чачота ў зборніку *Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, z dołączeniem pierwotnych w mowie sławiano-krewickiej* (1844) выдадзены ананімна, хоць публічнасць – нават эмігранты ў Парыжы – ведалі хто іх аўтар.

[3] Трэба прызнаць той факт, што да часоў В. Дуніна-Марцінкевіча беларускамоўныя тэксты заставаліся па-за межамі ўласна літаратуры. Мажліва, гэтая акалічнасць (беларускамоўнасць як прыкмета непрафесійнае літаратуры) скіроўвала тагачасных пісьменнікаў і паэтаў да творчасці па-польску. Сацыяльная дыферэнцыяцыя грамадства (селянін–шляхціц) яшчэ больш аддаляла прафесійную літаратуру ад непрафесійнай. Разам з тым, апошняя ў новых сацыяльна-палітычных умовах і пад уплывам друкаванага слова выразна аддаляецца ад фальклору. М. Гарэцкі называў яе "сялянскаю літаратураю нявєдамага аўтарства", адрозніваючы тым самым ад шляхецкай польскамоўнай літаратуры.

Тут варта колькі слоў сказаць пра "колькасны склад" корпусу беларускамоўнае ананімнае літаратуры XIX ст. Бо, наколькі нам вядома, публікацый пра гэта не існуе.

Спачатку звернемся да трэцяе кнігі трэцяга тома *Беларусаў* Я. Карскага[1]. Славуты лінгвіст у сваёй працы называе і цытуе больш за шэсцьдзясят твораў, якія падпадаюць пад вызначэнне "ананімныя". Зрэшты, удакладнім: ён называе ***сорак твораў***, пра аўтараў якіх няма аніякіх згадак (напрыклад: *О мой Божа*; *Віншаванне Савасцея*; *Быв на Русі чорны бог*; *Тэатр*; *У панов ніхто без спросу...* ды інш.); таксама называе ***пятнаццаць твораў*** "аўтары" якіх хоць і пазначаны, аднак іхнія прозвішчы, крыптанімы ці псеўданімы да сённяшняга дня застаюцца "нерасшыфраванымі" (напрыклад: *Могілкі* Д–Ко; *Ноччу ў сяле* Н. Ф.; *Крыўда і праўда* Ф. Пчыцкага; *Лятэстат* Ягалкоўскага; *Езусу Цвяцінскаму...* Ігната Тамашэвіча; *Словна з неба божый дар* Якуба Т.....кага; *Из жизни* Н. Шахава ды інш.). І, нарэшце, сярод названых Я. Карскім "аўтарскіх" твораў маецца колькі з няпэўнай атрыбуцыяй (напрыклад: *Энеіда навыварат*; *Тарас на Парнасе*; *Заграй, заграй, хлопчэ малы...*; *Бяседа старога вольніка з новым*; *Вясна гола перапала...*; *Гутарка старога дзеда*; *Божа, што Польшчы...*; *Гутарка Данілы са Сцяпанам* ды інш.).

Нам падаецца, што мэтазгодна падзяліць корпус беларускамоўных ананімных тэкстаў на тры групы. Да першай варта аднесці творы ***неатрыбутаваныя***; да другое – творы ***з нерасшыфраванай артыбуцыяй***; да трэцяе – творы, атрыбуцыя якіх заснавана на ***ўскосных дадзеных*** або з ***няпэўнай атрыбуцыяй***.

Цяпер звернем увагу, як укладальнікі хрэстаматый у розны час класіфікавалі корпус тэкстаў беларускае літаратуры. Згодна з нашаю схемай у рукапісным зборніку А. Рыпінскага 6 твораў падаюцца як ананімныя; 5 – як творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй; 2 – з няпэўнай атрыбуцыяй.

| **Неатрыбутаваныя творы** | **Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй** | **Творы з няпэўнай атрыбуцыяй** |
| --- | --- | --- |
| ➢ *Eneida (na iznanku)*<br>➢ *Chłopskie powinszowanie imienin*<br>➢ *Dzied i Baba*<br>➢ *Hoład! Wiasna nam prypała*<br>➢ *Atwieczerek. Akazija u karczmie pad Falkowiczami*<br>➢ *Żydouski Parabak Siamion i szto jamu słuczyłasia u karczmie* | ➢ A. Hromyka, *Zabytek z 1812 roku*<br>➢ A. Hromyka, *Hulanka mużyckaja*<br>➢ A. Hromyka, *Kazanie*<br>➢ Bondar Sawasciej, *Satyryczne opisanie powstania 1831 roku*<br>➢ T. Mihanowicz, *Ihnat Slinka* | ➢ K. Werenicyn, *Taras: Opowiastka*<br>➢ K. Werenicyn, *Dwa djauły* |

У рукапіснай *Хрэстаматыі* Браніслава Эпімах-Шыпілы 8 твораў XIX стагоддзя падаюцца як ананімныя; 1 – як твор з нерасшыфраванай атрыбуцыяй; 1 – з няпэўнай атрыбуцыяй

[1] Е. Карский, *Белорусы...* с. 233–433.

| Неатрыбутаваныя творы | Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй | Творы з няпэўнай атрыбуцыяй |
|---|---|---|
| ➢ *О мой Божа*<br>➢ *Гутарка старога дзеда*<br>➢ *Добрыя весці*<br>➢ *Тарас*<br>➢ *Вясна*<br>➢ *Да Дэльфіны Патоцкай*<br>➢ *На памяць хычліваму ад сям'і*<br>➢ *Расказ Доўгага Гарасіма* | ➢ І. Тамшэвіч, *Езусу Цвяцінскаму* | ➢ Ф. Тапчэўскі, *Панскае ігрышча* |

У *Хрыстаматыі* М. Гарэцкага[1] як ананімныя пададзены 10 твораў; апрача таго 1 тэкст (Ф. Блуса) трэба лічыць як твор з "нерасшыфраванай" атрыбуцыяй, а 7 як творы з няпэўнай атрыбуцыяй. Невялікі аб'ём кнігі, прызначэнне яе для вучняў школ прычыніліся да ўключэння ў яе даволі невялікае колькасці ананімных тэкстаў.

| Неатрыбутаваныя творы | Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй | Творы з няпэўнай атрыбуцыяй |
|---|---|---|
| ➢ *Яко ценцерук у лесе балбоча...*<br>➢ *За пенкнай паненкай аж душа сумуе...*<br>➢ *Тарас на Парнасе*<br>➢ *Прачыстая сярод ночы...*<br>➢ З *Гутаркі Паўлюка*<br>➢ З *Гутаркі Кузьмы з Апанасам*<br>➢ З *Казаньня* (*Вот цяпер які люд стаў...*)<br>➢ З гутаркі *Гэй, каб нам быць весялей...*<br>➢ З гутаркі *У паноў ніхто бяз спросу...*<br>➢ З *Маладзіковай гутаркі* | ➢ Ф. Блус, З *Мовы Старавойта* | ➢ В. Равінскі, З *Беларускай Энэіды*<br>➢ П. Бахрым, *Заграй, заграй, хлопча малы...*<br>➢ П. Бахрым, *Гутарка Данілы з Сьцяпанам*<br>➢ П. Бахрым, *Размова пана з мужыком пасьля прыгону*<br>➢ У. Сыракомля, *Ужо птушкі пяюць усюды...*<br>➢ В. Дунін-Марцінкевіч, *Вясна, голад, перапала...*<br>➢ В. Дунін-Марцінкевіч, *Пінская шляхта* |

Трэба, аднак, заўважыць, што і М. Гарэцкі, і ўсе наступныя складальнікі хрэстаматый ды анталогій звычайна выкарыстоўвалі "любую" атрыбуцыю твораў "няведамага аўтарства". Дастаткова было, каб нехта адно выказаў гіпотэзу – складальнікі смела (без пытальніка нават) "узаконьвалі" гэтую гіпотэзу. Праўда, часам складальнікі ў каментарах выказвалі свае сумненні адносна гіпотэз, хоць і ўключалі той ці іншы тэкст у даробак пэўнага аўтара.

Далі веры, напрыклад, таму, што Павел Багрым – аўтар верша *Заграй, заграй...*, Міхась Ларчанка і ягоныя калегі, калі складалі вельмі патрэбны ў той час (бо *Хрыстаматыя* М. Гарэцкага была забаронена) зборнік у 1940 г.

[1] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*, Вільня 1922, 264 с.

Другое выданне зборніка[1] Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук, нягледзячы на павелічэнне аб’ёму кнігі, утрымлівае тую самую колькасць ананімных тэкстаў, што і першае: паводле нашае схемы тут 14 твораў падаецца як неатрыбутаваныя, а 2 – з няпэўнай атрыбуцыяй.

| **Неатрыбутаваныя творы** | **Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй** | **Творы з няпэўнай атрыбуцыяй** |
|---|---|---|
| ➢ *Энеіда навыварат*<br>➢ *Тарас на Парнасе*<br>➢ *Васкрэсенне Хрыстова і сашэствіе яго ў ад*<br>➢ *Панская ласка*<br>➢ *Тэатр*<br>➢ *Ой, вясна, вясніца!*<br>➢ *Праўда*<br>➢ *Вясна гола перапала...*<br>➢ *Размова пана з хлопам*<br>➢ *Вось цяпер які люд стаў...*<br>➢ *Гутарка Данілы са Сцяпанам*<br>➢ *Сход*<br>➢ *Гутарка пана з селянінам*<br>➢ *Дзядзька Антон* | | ➢ П. Бахрым, *Заграй, заграй, хлопча малы...*<br>➢ В. Дунін-Марцінкевіч, *Пінская шляхта* |

У хрэстаматыі 1971 г.[2] колькасць ананімных твораў павялічылася амаль у два разы: тут неатрыбутаваных твораў – 27 (праўда, асобныя з іх можна класіфікаваць як творы з “нерасшыфраванай” атрыбуцыяй). Апрача таго, тут 5 тэкстаў падаецца, уласна, як творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй, а 7 – “няпэўнай” атрыбуцыяй.

| **Неатрыбутаваныя творы** | **Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй** | **Творы з няпэўнай атрыбуцыяй** |
|---|---|---|
| ➢ *Энеіда навыварат*<br>➢ *Уваскрэсенне Хрыстова*<br>➢ *Тарас на Парнасе*<br>➢ *Скажы, вяльможны пане...*<br>➢ *Тэатр*<br>➢ *Праўда*<br>➢ *Вясна гола перапала...*<br>➢ *Вось цяпер які люд стаў...*<br>➢ З *Гутаркі Паўлюка*<br>➢ *Гутарка Данілы са Сцяпанам*<br>➢ *Дзецюкі! Худа нам жыць...*<br>➢ *Гутарка пана з селянінам*<br>➢ *Паўстанцкая песня*<br>➢ *Кінуў-рынуў паўстанне...*<br>➢ *Дудар* | ➢ Эдвард Г......., *Ну, браточак...*<br>➢ Якуб Т......кі, *Слоўна з неба божы дар...*<br>➢ В. Пратасевіч, *Суседчык Гавейскі*<br>➢ І. Мігановіч, *Імяніннае віншаванне Ігната Сліўкі*<br>➢ І. Тамашэвіч, *Езусу Цвецінскаму скарга на Даўмантаў* | ➢ П. Багрым, *Зайграй, зайграй, хлопча малы...*<br>➢ Я. Баршчэўскі, *Гарэліца*<br>➢ А. Рыпінскі, *Плач пакінутага каханай*<br>➢ А. Рыпінскі, *За пенкнай паненкай аж душа сумуе...*<br>➢ В. Каратынскі, З *Гутаркі старога дзеда*<br>➢ У. Сыракомля, *Ужо птушкі пяюць усюды...* |

[1] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, Мінск 1950, 339 с.
[2] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1971, 373 с.

| | | |
|---|---|---|
| ➢ *Пад дуду*<br>➢ *Зямелька мая*<br>➢ *Гутарка ў карчме*<br>➢ *Ноччу ў сяле*<br>➢ *Могілкі*<br>➢ *Ой, у полі вецер вые...*<br>➢ *Хто я?*<br>➢ *Палякам у дзень 3-га мая*<br>➢ *Я клічу вас...*<br>➢ *Пра багацце і беднасць*<br>➢ *Дзядзька Антон*<br>➢ *На памяць зычліваму для сям'і* | | ➢ В. Дунін-Марцінке-віч, *Пінская шляхта* |

А вось у другім выданні "ўніверсітэцкай" хрэстаматыі[1] складальнікі "перавялі" шэраг твораў з разраду ананімных у аўтарскія (напрыклад, *Энеіда* замацоўвалася за В. Равінскім). Аднак ад гэтага колькасць ананімных твораў не зменшылася: тут неатрыбутаваных твораў – 27 (зноў жа, асобныя можна класіфікаваць як творы з "нерасшыфраванай" атрыбуцыяй); з "нерасшыфраванай" атрыбуцыяй – 6; а з "няпэўнай" атрыбуцыяй – 14.

| **Неатрыбутаваныя творы** | **Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй** | **Творы з няпэўнай атрыбуцыяй** |
|---|---|---|
| ➢ *Песня беларускіх жаўнераў*<br>➢ *Уваскрэсенне Хрыстова*<br>➢ *Віншаванне бондара Савасцея*<br>➢ *Імяніннае віншаванне*<br>➢ *Вясна гола перапала...*<br>➢ *Тарас на Парнасе*<br>➢ *Два д'яблы*<br>➢ *Гутарка Данілы са Сцяпанам*<br>➢ *Паўстанцкая песня*<br>➢ *Гэй жа, хлопцы!..*<br>➢ *Гутарка двух суседаў*<br>➢ *Пра багацце і беднасць*<br>➢ *Дзядзька Антон*<br>➢ *Пані Твардоўская*<br>➢ *Дзякуй богу і гасудару...*<br>➢ *Гутарка пана з селянінам*<br>➢ *Дудар*<br>➢ *Праўда*<br>➢ *Вось цяпер які люд стаў...*<br>➢ *Гутарка Паўлюка*<br>➢ *Тэатр*<br>➢ *Гутарка ў карчме* | ➢ Адэля з Устроні, *Мачыха*<br>➢ Эдвард Г......., *Ну, браточак...*<br>➢ Якуб Т......кі, *Слоўна з неба божы дар...*<br>➢ В. Пратасевіч, *Суседчык Гавейскі*<br>➢ І. Мігановіч, *Імяніннае віншаванне Ігната Сліўкі*<br>➢ І. Тамашэвіч, *Езусу Цвецінскаму скарга на Даўмантаў* | ➢ Я. Баршчэўскі, *Гарэліца*<br>➢ Я. Баршчэўскі, *Не будзем жыці...*<br>➢ П. Багрым, *Зайграй, зайграй, хлопча малы...*<br>➢ В. Равінскі, *Энеіда навыварат*<br>➢ І. Легатовіч, *Скажы, вяльможны пане...*<br>➢ А. Рыпінскі, *Плач пакінутага каханай*<br>➢ А. Рыпінскі, *За пенкнай паненкай аж душа сумуе...*<br>➢ Г. Марцінкевіч, *Адвячорак*<br>➢ У. Сыракомля, *Ужо птушкі пяюць усюды...*<br>➢ В. Каратынскі, *Гутарк а старога дзеда*<br>➢ В. Дунін-Марцінкевіч, *Пінская шляхта*<br>➢ Ю. Ляскоўскі, *Пад дуду*<br>➢ Ю. Ляскоўскі, *Зямелька мая* |

[1] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., Мінск 1988, 487 с.

| | | |
|---|---|---|
| ➢ *Ноччу ў сяле*<br>➢ *Могілкі*<br>➢ *Хто я?*<br>➢ *Палякам у дзень 3-га мая*<br>➢ *Я клічу вас...* | | ➢ Ф. Тапчэўскі, *Панскае ігрышча* |

Уладзімір Казбярук у сваёй аўтарскай хрэстаматыі[1] фактычна ішоў следам за сваімі папярэднікамі, хоць – відавочна – дэманстраваў адметны падыход да беларускага прыгожага пісьменства: толькі беларускамоўныя тэксты ўключаны ім у даробак беларускіх літаратараў XIX ст. (гісторык літаратуры дазволіў сабе адно на два выключэнні: змясціў двухмоўныя *Ідылію* і *Залёты* В. Дуніна-Марцінкевіча). Колькасць ананімных тэкстаў амаль не змянілася: неатрыбутаваных твораў – 24, з "нерасшыфраванай" атрыбуцыяй – 8; з "няпэўнай" атрыбуцыяй – 9. Праўда, некаторыя змены тут ёсць: "узаконіўшы" амаль усе тагачасныя гіпотэзы (у яго: П. Багрым, І. Легатовіч, В. Равінскі, Канстанцін Вераніцын, Г. Марцінкевіч – аўтары славутых твораў), ён тым не менш колькі тэкстаў з разраду аўтарскіх перавёў у ананімныя (*Пад дуду*, *Зямелька мая*).

| **Неатрыбутаваныя творы** | **Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй** | **Творы з няпэўнай атрыбуцыяй** |
|---|---|---|
| ➢ *Пані Твардоўская*<br>➢ *Уваскрасенне Хрыстова*<br>➢ *Віншаванне бондара Савасцея*<br>➢ *Дзед і баба*<br>➢ *Гутарка Данілы са Сцяпанам*<br>➢ *Закляцце на душу*<br>➢ *Ой, калі б, калі...*<br>➢ *Із-за Слуцка, із-за Клецка...*<br>➢ *Быў на Русі чорны бог...*<br>➢ *Гутарка двух суседаў*<br>➢ *Гэй жа, хлопцы!..*<br>➢ *Хто былі нашы найдаўнейшыя дзяды...*<br>➢ *Вялікая памылка нашых беларусаў*<br>➢ *Сказка не сказка, быль не быль...*<br>➢ *Дзякуй Богу і гасудару*<br>➢ *Гутарка пана з селянінам*<br>➢ *Хто я?*<br>➢ *Я клічу вас...*<br>➢ *Палякам у дзень 3-га мая*<br>➢ *Тэатр*<br>➢ *Дудар*<br>➢ *Дзядзька Антон*<br>➢ *Пад дуду*<br>➢ *Зямелька мая* | ➢ Адэля з Устроні, *Мачыха*<br>➢ І. Мігановіч, *Імяніннае віншаванне Ігната Сліўкі*<br>➢ Ф. Блус, *Речь Старовойта к крестьянам о свободе*<br>➢ Н. Ф., *Ноччу ў сяле*<br>➢ Д. К-о, *Могілкі*<br>➢ Н. Шахов, *Из жизни*<br>➢ В. Пратасевіч, *Суседчык Гавейскі*<br>➢ Іяхім Тамашэвіч, *Езусу Цвецінскаму скарга на Даўмантаў* | ➢ П. Багрым, *Зайграй, зайграй, хлопча малы...*<br>➢ І. Легатовіч, *Скажы, вяльможны пане...*<br>➢ В. Равінскі, *Энеіда навыварат*<br>➢ К. Вераніцын, *Тарас на Парнасе*<br>➢ К. Вераніцын, *Два д'яблы*<br>➢ Г. Марцінкевіч, *Адвячорак*<br>➢ У. Сыракомля, *Ужо птушкі пяюць усюды...*<br>➢ В. Дунін-Марцінкевіч, *Пінская шляхта*<br>➢ К. Каліноўскі, *Пісьмо ад Яська-гаспадара...* |

[1] *Занядад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, уклад., прадм. і заўв. У. Казберука, Мінск 2001, 606 с.

Зусім іншым шляхам пайшоў Кастусь Цвірка[1]: з аднаго боку, ён пашырыў корпус тэкстаў беларускай літаратуры за кошт польскамоўных аўтараў Беларусі, а з другога, – даў атрыбуцыю шмат якім раней ананімным творам (напрыклад, *Віншаванне бондара Савасцея* ў яго стала *Віншаваннем* Савасцея Бондара; *Віншаванне* з нарысу І. Цытовіча – вершам самога І. Цытовіча). У яго ва ўсім "беларускім" XIX стагоддзі – неатрыбутаваных твораў – 8, з "нерасшыфраванай" атрыбуцыяй – 2; з "няпэўнай" атрыбуцыяй – 14.

| **Неатрыбутаваныя творы** | **Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй** | **Творы з няпэўнай атрыбуцыяй** |
|---|---|---|
| ➢ *Дзед і баба*<br>➢ *Закляцце на душу*<br>➢ *Ой, калі б, калі...*<br>➢ *Із-за Слуцка, із-за Клецка...*<br>➢ *Быў на Русі чорны Бог...*<br>➢ *Вясна гола перапала...*<br>➢ *Гутарка Данілы са Сцяпанам*<br>➢ *Гутарка двух суседаў* | ➢ Адэля з Устроні, *Мачыха*<br>➢ Бондар Савасцей, *Віншаванне Бондара Савасцея* | ➢ Я. Аношка, *Плач пакінутага каханай*<br>➢ В. Равінскі, *Энеіда навыварат*<br>➢ Я. Баршчэўскі, *Гарэліца*<br>➢ І. Легатовіч, *Скажы, вяльможны пане...*<br>➢ І. Цытовіч, *Чалом, чалом, айцец, тутулька*<br>➢ В. Дунін-Марцінкевіч, *Пінская шляхта*<br>➢ П. Багрым, *Зайграй, зайграй, хлопча малы...*<br>➢ Г. Марцінкевіч, *Адвячорак*<br>➢ У. Сыракомля, *Ужо птушкі пяюць усюды...*<br>➢ Ю. Ляскоўскі, *Пад дуду*<br>➢ Ю. Ляскоўскі, *Зямелька мая*<br>➢ В. Каратынскі, *Гутарка старога дзеда*<br>➢ К. Вераніцын, *Тарас на Парнасе*<br>➢ К. Вераніцын, *Два д'яблы* |

Падрыхтаваныя прыкладна ў той самы час 3–5 тамы "Залатой калекцыі беларускай літаратуры" (пад грыфам Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі), думаецца, сталіся сведчаннем новага падыходу да адлюстравання здабыткаў літаратурнага працэсу ў Беларусі ў XIX стагоддзі. Упершыню корпус тэкстаў пазамінулага стагоддзя пададзены ў такім вялікім аб'ёме: 1840 кніжных старонак, ці 170,5 др. ар.[2]. Твораў, якія можна лічыць ананімнымі, – 67. З іх – неатрыбутаваных твораў – 48, з "нерасшыфраванай" атрыбуцыяй – 6; з "няпэўнай" атрыбуцыяй – 13.

У трэцім томе неатрыбутаваных твораў – 11, з "нерасшыфраванай" атрыбуцыяй – 2; з "няпэўнай" атрыбуцыяй – 3:

---

[1] *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: Анталогія*, уклад. К. Цвірка, І. Шпакоўскі, К. Антановіч, Мінск 2013, 862 с.

[2] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 3–5, Мінск 2012–2013.

| Неатрыбутаваныя творы | Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй | Творы з няпэўнай атрыбуцыяй |
|---|---|---|
| ➢ *Энеіда навыварат*<br>➢ *О мой Божа...*<br>➢ *Скажы, вяльможны пане...*<br>➢ *Паўстанне* (*Кінуўшы, рынуўшы паўстанне...*)<br>➢ *Быв на Русі Черный Бог...*<br>➢ *Із-за Слуцка, із-за Клецка...*<br>➢ *Ой, колы б, колы...*<br>➢ *Закляцце на душу*<br>➢ *Вось цяпер які люд стаў*<br>➢ *Гутарка Данілы са Сцяпанам*<br>➢ *Пані Твардоўская* | ➢ Шалуха, *Адной маткі ўсі мы дзеткі...*<br>➢ Адэля, *Мачыха* | ➢ Я. Баршчэўскі, *Гарэліца*<br>➢ І. Яцкоўскі, *Заграй, заграй, хлопчэ малы...*<br>➢ І. Цытовіч, *Чалом, чалом, ацец, тутулька...* |

У чацвёртым томе неатрыбутаваных твораў – 21, з “нерасшыфраванай” атрыбуцыяй – 2; з “няпэўнай” атрыбуцыяй – 8:

| Неатрыбутаваныя творы | Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй | Творы з няпэўнай атрыбуцыяй |
|---|---|---|
| ➢ *Песнь на Божы час*<br>➢ *Гэй жа, хлопцы, досі спаць*<br>➢ *Гутарка двух суседаў*<br>➢ *Пісьмо ад Яська-гаспадара з-пад Вільні...*<br>➢ *Плынуць вятры*<br>➢ *Чы знаеце, мае дзеці...*<br>➢ *Крыўда і праўда*<br>➢ *Гутарка старога дзеда*<br>➢ *Перадсмяротны разгавор пустэльніка Пятра...*<br>➢ *Божа, што Польшчы...*<br>➢ *Хто былі нашы найдаўнейшыя дзяды...*<br>➢ *Ці добра мы зрабілі, пакінуўшы унію?*<br>➢ *Вялікая памылка нашых беларусаў*<br>➢ *Размова на цментары...*<br>➢ *Сказка не сказка, быль не быль...*<br>➢ *Гутарка пана з селянінам*<br>➢ *Речь Старовойта*<br>➢ *Дзякуй богу і гасудару...*<br>➢ *Гутарка Кузьмы з Апанасам*<br>➢ *Таму дворнаму войту...*<br>➢ *Разгавор Лянковіцкіх крэсцьян* | ➢ І. Мігановіч, *Ігнат Сліўка*<br>➢ В. Пратасевіч, *Суседчык Гавейскі* | ➢ В. Дунін-Марцінкевіч, *Пінская шляхта*<br>➢ Ю. Ляскоўскі, *Пад дуду*<br>➢ Ю. Ляскоўскі, *Зямелька мая*<br>➢ У. Сыракомля, *Ужо птушкі пяюць усюды...*<br>➢ К. Вераніцын, *Тарас на Парнасе*<br>➢ К. Вераніцын, *Два д’яблы*<br>➢ Г. Марцінкевіч, *Адвячорак*<br>➢ Ф. Тапчэўскі, *Панскае ігрышча* |

У пятым томе неатрыбутаваных твораў – 16, з “нерасшыфраванай” атрыбуцыяй – 2; з “няпэўнай” атрыбуцыяй – 2:

| Неатрыбутаваныя творы | Творы з нерасшыфраванай атрыбуцыяй | Творы з няпэўнай атрыбуцыяй |
|---|---|---|
| ➢ *Пра багацце і беднасць*<br>➢ *Хто я?*<br>➢ *Дудар*<br>➢ *Да А...*<br>➢ *Лясная драма*<br>➢ *Не свае дзіла*<br>➢ *Я клічу вас...*<br>➢ *Палякам у дзень 3-га мая*<br>➢ *Як былі пад панам*<br>➢ *Гутарка Паўлюка*<br>➢ *Гутарка ў карчме...*<br>➢ *Ноччу ў сяле*<br>➢ *Могілкі*<br>➢ *Вот відзіця вы, дзеці...*<br>➢ *Тэатр*<br>➢ *Маладзікова гутарка* | ➢ Н. Шахов, *Из жизни*<br>➢ І. Тамашэвіч, *Езусу Цвецінскаму скарга на Даўмантаў* | ➢ А. Абуховіч, *Узбійся ўгору, мой саколе...*<br>➢ А. Абуховіч, *Шоў я ўчора ўночы з Глуска...* |

Так у самым вялікім корпусе тэкстаў XIX ст.

Аднак нават у гэтае выданне ўключана далёка не ўсё. Па нашых падліках больш за сто беларускамоўных тэкстаў XIX ст. можна лічыць ананімнымі (альбо неатрыбутаванымі, з нерасшыфраванай атрыбуцыяй ці няпэўным аўтарствам). Сярод іх – паўтара дзясятка тых, якія сталі хрэстаматыйнымі (і класічнымі), але нягледзячы на клопаты некалькіх пакаленняў гісторыкаў літаратуры – іхняя атрыбуцыя ўсё яшчэ няпэўная (выклікае сумненні).

Вядома, можна не звяртаць увагу на шэраг пытанняў і адназначна сцвярджаць: *Энеіду навыварат* напісаў В. Равінскі, верш *Заграй, заграй хлопча малы* – П. Багрым, камедыю *Пінская шляхта* – В. Дунін-Марцінкевіч, драматычную паэму *Адвячорак* – Г. Марцінкевіч, верш *Скажы, вяльможны пане* – І. Легатовіч, паэму *Мачыха* – Габрыэля Пузыня, паэмы *Тарас на Парнасе* і *Два д'яблы* – К. Вераніцын. Нават у пытанні атрыбуцыі *Тараса* рана ставіць кропку, як гэта робяць аўтары "папулярнага нарыса" *Словы ў часе: Літаратура ад рамантызму да сімвалізму і нашаніўскага адраджэння* Л. Баршчэўскі, П. Васючэнка і М. Тычына, сцвярджаючы, што "дзякуючы тытанічным намаганням выбітнага беларускага гісторыка літаратуры Генадзя Кісялёва і працы гісторыка-архівіста Віталя Скалабана, сёння гэтая важная праблема фактычна вырашаная, і малаверагодна, што доказы названых даследчыкаў калі-небудзь могуць быць абгрунтавана абвергнутыя"[1]. Якія доказы? Ці можа быць доказам спіс твора, падпісаны пэўным прозвішчам? Тым больш, што і спіс сам не захаваўся, а толькі інфармацыя М. Піятуховіча. Ці не паўтараецца тут гісторыя са спісам *Тараса на Парнасе*, падпісаным В. Дуніным-Марцінкевічам?

---

[1] Л. Баршчэўскі, П. Васючэнка, М. Тычына, *Словы ў часе: Літаратура ад рамантызму да сімвалізму і нашаніўскага адраджэння*, Санкт-Пецярбург 2014, с. 122.

Для літаратуразнаўства, якое засноўваецца на аўтарытэтах, – аніякая аргументацыя не трэба. Калі ж мы адмаўляемся ад дыктату аўтарытэтаў – узнікаюць пытанні, адказаць на якія павінны гісторыкі літаратуры. Адказаць аргументавана: напрыклад, *Пінскую шляхту* напісаў В. Дунін-Марцінкевіч, бо гэта можна пацвердзіць дакументальна. І тады ні Ніна Мячкоўская, ні Аляксандар Ільін, ні Ігар Запрудскі не змогуць запярэчыць: В. Дунін-Марцінкевіч не мог напісаць гэты твор, бо ў камедыі адлюстраваны не ягоны светапогляд, бо ён не так ставіўся да шляхты, як аўтар *Пінскае шляхты*. А ў вядомых на сёння дакументах "нигде прямо не сказано, что В. Дунин-Марцинкевич автор"[1].

Тое ж самае можна сказаць і пра паэму *Тарас на Парнасе*. Давядзе гісторык літаратуры, што К. Вераніцын меў літаратурны талент, дасць дакументальнае пацвярджэнне – і на адну загадку стане менш.

Здзіўляе няўвага і літаратуразнаўцаў, і гісторыкаў літаратуры да драматычнае паэмы *Адвячорак*. Першыя фактычна не прааналізавалі тэкст як мастацкі твор. Другія – проста прынялі ўскосную аргументацыю за ісціну. Сапраўды, на падставе чатырох кароткіх інфармацый [1. Ф. Аляхновіч, *Беларускі тэатр*, Вільня 1924, с. 83–84: "Геранім Марцінкевіч напісаў камэдыю *Аказія пры Палкоўніцах*, якая ставілася ў Віцябску ў 1862 г. Адрыўкі гэтай камедыі меў п. Вінцэнт Мяніцкі ў Віцябску" (паводле інфармацыі Рамуальда Зямкевіча); 2. часопіс "Полымя" 1928, № 7, с. 218: у маёнтку Селігоры Лепельскага павета калісь захоўваўся рукапіс драмы Г. Марцінкевіча *Аказія падпалкоўніцам*; 3. М. Ларчанка, Л. Фіглоўская, *Новыя матэрыялы аб беларускай літаратуры XIX ст.*, "ЛіМ" 1939, 9 сак.: у Ленінградскім архіве нібыта маецца п'еса *Адвячорак* Сазановіча; 4. Д. Васілеўскі са спасылкаю на Р. Зямкевіча, "Наш край", 1929, № 5: нібыта ў Віцебску ставілі п'есу *Аказія пад палкоўніцамі*] чыста інтуітыўна было выведзена: драматычная паэма *Адвячорак: Аказія ў карчме пад Фальковічамі* з рукапісаў А. Рыпінскага з'яўляецца творам Г. Марцінкевіча. Але ці дастаткова гэтага, каб замацаваць за Г. Марцінкевічам дадзены твор? Дарэчы, В. Скалабан, які апублікаваў *Адвячорак*, прапаноўваў не спяшацца з канчатковымі высновамі адносна аўтарства[2].

Дыскусіі па праблемах атрыбуцыі ў нас фактычна яшчэ не было, хоць былі падставы для дыскусіі. У 1990-я гг. раз-пораз чуліся галасы пачаць такую дыскусію. Але літаратуразнаўцы не прыслухаліся: за лепшае лічылася друкаваць у хрэстаматыях (у тым ліку школьных) і зборніках так, як прыходзіла ў галаву.

Часта здаралася, што нехта з гісторыкаў літаратуры, не здолеўшы аргументаваць дакументамі пэўную падзею літаратурнага працэсу, прапаноўваў

---

[1] Н. Мечковская, *Винцент Дунин-Марцинкевич не был автором водевиля ПИНСКАЯ ШЛЯХТА*, "Wiener Slawistischer Almanach", t. 46 (2000), s. 225–238.

[2] В. Скалабан, *Новыя матэрыялы з гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя* [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1990, с. 216.

вынікі сваіх даследаванняў як гіпотэзу, але ягоныя калегі прымалі яе як ісціну. А таму ўкладальнікі хрэстаматый стварылі нам сваю літаратуру, літаратуру-міф. Школьнікам, студэнтам, чытачам прапануецца шмат у чым фальшывая гісторыя літаратуры.

Сітуацыю, якая склалася, выправіць цяжка, а можа, і немагчыма. Шмат каго пераканаць, што Паўлюк Багрым не з'яўляецца аўтарам славутага верша, не атрымаецца. І не толькі аматараў-краязнаўцаў, землякоў-крашынцаў, літаратараў, якія прысвяцілі майстру-кавалю свае творы, але нават і дасведчаных літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры. Чалавечае мысленне часам настолькі кансерватыўнае, што не ўспрымае відавочнае.

Аднак майма надзею. Бо ўсё ж у паслясавецкую эпоху шмат у чым стройная раней сістэма літаратуразнаўчай іерархіі пачала разбурацца. У асяроддзі як спецыялістаў-філолагаў, так і аматараў прыгожага пісьменства пачуліся галасы-прапановы правесці рэвізію ўсяго даробку літаратуразнаўчае навукі. У дачыненні да XIX ст. гэта вылілася ў пастаноўку пытання новай атрыбуцыі. Варта пачаць вайну супраць правіла ўскосных сведчанняў.

1. Ускоснымі сведчаннямі кіраваўся Р. Падбярэскі, калі сцвярджаў, што беларускую *Энеіду* напісаў І. Манькоўскі.

2. М. Доўнар-Запольскі як галоўны аргумент у справе атрыбуцыі *Тараса* палічыў рукапіс твора з подпісам В. Дуніна-Марцінкевіча. Яму запярэчыў Е. Раманаў сваімі ўскоснымі сведчаннямі.

3. Я. Карскі на ўскосных сведчаннях пабудаваў сваю атрыбуцыю *Энеіды навыварат.*

4. М. Гарэцкі без усялякіх сведчанняў "трансфармаваў" Пётрака з Крашына ў Паўлюка Багрыма.

5. Ускоснае сведчанне А. Рыпінскага ("*Taras*, opowiastka Konstantego Werenicyna", але з пазнакаю, што Вераніцын – гэта псеўданім, пад якім выступае паэт з шляхецкага асяроддзя) сталася асноваю нараджэння класіка – аўтара двух ці не самых лепшых твораў XIX ст. – Канстанціна Вераніцына (у Язэпа Янушкевіча – Кастуся Вераніцына).

6. Згадкі (нават не ўскосныя сведчанні) гісторыкаў літаратуры прывялі да таго, што драматычная паэма *Адвячорак* стала прыпісваецца Г. Марцінкевічу.

7. К. Цвірка дадаў у почат паэтаў XIX ст. Бондара Савасцея, бо, маўляў, так падпісаў паэт сваё *Віншаванне*.

8. В. Рагойша ў двух выданнях *Хрэстаматыі* даводзіў, што г. зв. макаранічныя вершы *Плач пакінутага каханай* і *За пенкнай паненкай аж душа сумуе* належаць А. Рыпінскаму, хоць той толькі падаў адзін з іх у кнізе *Беларусь* (другі ўзяты, відаць, з *Хрыстаматыі* М. Гарэцкага).

9. Гэтыя ж самыя тэксты У. Мархель без усялякае аргументацыі далічыў да даробку Францішка Рысінскага.

Варта падрыхтаваць навуковыя выданні беларускамоўных літаратурных тэкстаў XIX ст. Хрэстаматый мы ўжо маем дастаткова. Тых хрэстаматый, дзе можна і трэба падаваць творы ў адаптаваным выглядзе. Але ўзнікае пытанне: на аснове чаго рабіць адаптацыю? Паводле тэкстаў, "сапсаваных" у савецкі час? Бо яны даступныя, а літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры, якія маюць у сваім хатнім архіве копіі рукапісаў і першадрукаў, – у нас амаль няма.

Усё гэта даводзіць, што нягледзячы на пэўную вывучанасць літаратурнага працэсу на Беларусі ў XIX ст., застаецца шэраг крыніцазнаўчых і атрыбуцыйных пытанняў, якія павярхоўна акрэслены ў беларускім літаратуразнаўстве. Наяўнасць вялікае колькасць ананімных тэкстаў, сумненні ў правільнасці раней ужо атрыбутаваных твораў ставяць новыя задачы перад гісторыкамі літаратуры ў XXI ст.

# *О мой Божа, веру Табе...*

Па сведчанню А. Рыпінскага, верш *О мой Божа, веру Табе...* быў вельмі папулярны ў першай палове XIX стагоддзя: "Гэтую песню з надзвычайнаю энергіяй, зладжана спяваюць усе прысутныя, бо іхняя родная мова менш выклікае ім цяжкасці ў спеве, чым наша пальшчызна, якая ў іхніх вуснах як па грудах ідзе; а да таго ж няма аніводнага хлопца, аніводнае дзяўчыны альбо замужняе жанчыны, якія б яе дасканала на памяць не ведалі. Гэтую песню яны спяваюць нават на працы, у падарожжы і дзе толькі ім прыйдзе жаданне звярнуцца да Бога"[1]. А. Рыпінскі, народжаны ў 1809 г., апавядае тут пра свае дзіцячыя і юнацкія гады – 1810–1820-я. Аднак – трэба думаць – напісаная яна была раней.

Я. Карскі, аўтарытэтны даследчык даўняе беларускае рэлігійнае літаратуры, пісаў, што "ў старых рукапісных Богагласніках" яна адсутнічае. А гэта, на яго думку, дае падставы лічыць, што ўзнік твор напрыканцы XVIII – пачатку XIX стагоддзя[2]. Гэткай жа думкі быў і Р. Зямкевіч, які, аспрэчваючы М. Гарэцкага, што датаваў верш XVII ст.[3], сцвярджаў: "Верш жа *О мой Божа, веру Табе* і верш *Стары Восіп барадаты* – творы беларусаў-езуітаў Полацкай калегіі з канца XVIII сталецьця"[4].

Першыя зафіксаваныя згадкі пра гэтую песню датуюцца 1820-мі гадамі. У ведамай Я. Карскаму і Вацлаву Ластоўскаму *Odezwie Jaśnie Wielmożnego Jakuba Martusiewicza*[5]*, Łuckiego Unickiego Diecezalnego Biskupa i administratora Połockiej Archdyecezii do urzędników onej w 1824 roku miesięca października okolnie rozesłanej dla nieodmiennego spełnienia*[6], між іншым, гаварылася: "Што да азначанае песні <...> Кіраўнікам парафій рэкамендую абавязкова распаўсюджваць яе, з тым, каб не толькі ў Цэрквах пасля заканчэння набажэнства сабраным людам, але і ў кожнай гаспадарскай хаце <...> яе спявалі"[7].

---

[1] A. Rypiński, *Białoruś: Kilka słów o poezyi prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, śpiewie, tańcach etc.*, Paryż 1840, s. 37–38.

[2] Е. Карский, *Белорусы...*, с. 145.

[3] Гл.: М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры...*, с. 58–59.

[4] Р. Земкевіч, *Гутаркі аб беларускай літэратуры*, "Новае жыцьцё" 1923, № 1, с. 3.

[5] Якуб Мартысевіч (? – 1833), уніяцкі святар, доктар багаслоўя і кананічнага права. У 1814 г. абраны (высвечаны ў 1818 г.) біскупам Луцкім, а ў 1823 г. абраны адміністратарам Полацкага уніяцкага архібіскупства; архібіскупам Полацкім стаў у 1826 г.

[6] Гл.: В. Ластоўскі, *Гісторыя беларуская (крыўскай) кнігі: Факсімільнае выданне*, Мінск 2012, с. 634–635.

[7] Цыт. па: Е. Карский, *Белорусы...*, с. 145. В. Ластоўкі сведчыў, што арыгінал гэтай адозвы знаходзіцца ў Львоўскім музеі ім. Шаптыцкага.

Пэўна, у тыя ж 1820-я гг. гэтая песня была выдадзена друкам. Пра гэта сведчыць той факт, што Б. Эпімах-Шыпіла ў 1889 г. перапісаў яе "z kartki drukowanej", на якой было пазначана: "Po odspiewaniu tej pieśni zmówić poklękawszy: *Подъ твою милость*[1] za dusze czyscowe i na intencyę wydawców onej. Imprimatur Jacobus Martusewicz Episcopus P. Unit. Luceoriensis, Administrator Polocensis Archidioeceseos (m. p.) [Cerkwi Wiedreńskiej[2]]. Spisano w czerwcu miesiącu 1889 r. w Sielihorach u p. W. Mienickiego z kartki drukowanej. Pieśń ta wydrukowana jest u „Шейна"[3]. Тут звяртае на сябе слова *Imprimatur* (лац.) – "няхай будзе адбіта" – звычайны дазвол царкоўнае ўлады на друк кніжкі. Такім чынам, можна ўпэўнена сцвярджаць верш *О мой Божа, веру Табе* ў 1823–1826 гг. трапіў на друкарскі варштат.

Распаўсюджвалася гэтая песня не толькі сярод уніятаў, але і сярод католікаў. У 1835 г. яна была ўключана ў катэхізіс *Krótkie zebranie nauki chrześciańskiey dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim*[4] *wyznania rzymsko-katolickiego*, выдадзены ў Вільні з дазволу біскупа Віленскай дыяцэзіі Энджэя Бенедыкта Клангевіча, які пазначыў, што "ten krótki *Katechizm* zawiera w sobie naukę zdrowa i dla prostaczków pożyteczną"[5].

Я. Карскі лічыў, што тут надрукаваны "поўны тэкст песні". Сапраўды, вядомыя сёння спісы верша маюць найбольш 48 радкоў. Аднак ёсць некалькі, дзе твор падаецца часткова. Так, А. Рыпінскі пасля амаль дзесяці гадоў эміграцыі змог прыгадаць толькі 24 радкі[6]. Прычым – з некаторымі зменамі.

Па памяці, відаць, цытаваў чатырохрадкоўе з верша і Я. Баршчэўскі:

---

[1] Маецца на ўвазе вядомае царкоўнае песнапенне: "Под Твою милость прибегаем, Богородице Дево, // молений наших не презри в скорбех, // но от бед избави нас, Едина чистая // и благословенная. Аминь. // Пресвятая Богородице, спаси нас".

[2] Запіс ў квадратных дужках – гэта, відавочна, удакладненне Б. Эпімах-Шыпілы: так ён перадае надпіс пячаткі. Апрача таго, яно азначае, што Якуб Мартусевіч карыстаўся пячаткаю царквы вёскі Ведрына на Лепельшчыне. Паводле *Геаграфічнага слоўніка*, вёска з 1761 г. была ўласнасцю вядомага сваёй дабрачыннасцю Юстыніяна Шчыта (1740–1824), апекуна паэта Яна Аноўкі; пазней яна дасталася ў спадчыну ягонаму сыну, лепельскаму маршалку Юзафу Шчыту. Гл.: *Słownik geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XIII, Warszawa 1893, s. 300–301.

[3] "Пасля адспявання гэтае песні прамовіць укленчыўшы *Подъ твою милость* за чысцовыя душы і за намеры ейных выдаўцоў. Дазваляю друкаваць. Якуб Мартусевіч, біскуп уніяц. Луцкі, адміністратар Полацкай архідэяцэзіі (m. p.) [Ведрынскай царквы]. Спісана ў чэрвені месяцы 1889 г. у Селігорах у п. В. Мяніцкага з друкаванае карткі. Гэтая песня надрукавана ў Шэйна". Гл.: Рук. БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 3. Дзякую Ірыне Багдановіч за дапамогу ў расчытанні каментара Б. Эпімах-Шыпілы.

[4] Цікава, што невядомы рэцэнзент *Катэхізіса* ў "Журнале Министерства Народного Просвещения" (1835, ч. VIII, с. 178–180) [рэцэнзія ў перакладзе перадрукавана ў газетах "Tygodnik Petersburski" (1835, nr 95) і "Korrespondent" (Warszawa 1835, nr 355)] даводзіць, што больш правільна будзе называць гэтую мову беларускаю. У рэцэнзіі падаюцца тры пачатковыя страфы верша *О мой Божа, веру Табе*..., прычым – даволі дакладна: толькі слова *wieru* зменена на *верю*, а ўсе іншыя асаблівасці арыгіналу былі захаваныя.

[5] *Krótkie zebranie nauki chrześciańskiey dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego*, Wilno, w drukarni Dyecezalnej, 1835, 24 s.

[6] A. Rypiński, *Białoruś*..., s. 34–35.

O! Spasicielu nasz Panie,
Jedyne serca kochanie,
Ruczki, oczki w niebo wznosim,
Odpuszczenia hrachow prosim[1].

Аўтар *Шляхціца Завальні* спалучыў тут два пачатковыя радкі сёмае страфы з двума заключнымі восьмае.

На пачатку рэвалюцыйных 1860-х гг. песню *О мой Божа, веру Табе* двойчы ўключалі ў склад беларускамоўных брашураў, што друкаваліся ў Варшаве. Не можам, аднак, сцвердзіць адназначна, што і *Pieśni nabożnyja*, і *Elementarz dla dobrych dzietok katolikou*[2] выдавалі тыя самыя людзі, хоць вельмі верагодны факт друкавання абодвух кніжак у тыпаграфіі Караля Кавалеўскага на рагу вуліц Каралеўскай і Маршалкоўскай у будынку тэатра[3].

У варшаўскіх выданнях песня *О мой Божа, веру Табе...* пададзена амаль гэтак, як і ў віленскай публікацыі 1835 г. Вядома, змены ёсць. Яны датычаць як арфаграфічных правак рэдактараў-выдаўцоў, так і замены асобных лексем.

Шырокая распаўсюджанасць песні сярод каталіцкага і уніяцкага насельніцтва Беларусі, не стала, аднак, падставаю дзеля публікацый яе ў фальклорных зборніках XIX стагоддзя, бо, здаецца, толькі П. Шэйн друкаваў яе ў сваіх працах у 1873 і 1893 гг.[4].

Можна было б дапусціць, што здарылася гэта з-за антыкаталіцкіх установак цэнзуры, але – усё ж – тут, відаць, нейкая іншая прычына: напрыклад, як патлумачыць той факт, што мы не знаходзім яе сярод “палявых” запісаў М. Федароўскага, які даследаваў Ваўкавышчыну, Пружаншчыну, Сакольшчыну і Наваградчыну, уласна, “каталіцкі” рэгіён Беларусі? Праўда, у архіве і ў адным з тамоў *Ludu białoruskiego na Rusi Litewskiej* славутага этнографа і фалькларыста дадзены верш ёсць[5].

---

[1] Jan Barszczewski, *Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach*, Petersburg 1845, t. II, s. 30.

[2] *Elementarz dla dobrych dzietok katolikou*, Warszawa: Nakładem Księgarni Celsa Lewickiego w Gmachu Teatru, 1862, 40 s.

[3] Пра гэта гл. больш падрабязна: М. Хаўстовіч, *Elementarz dla dobrych dzietok katolikou. Першы беларускі лемантар* [у:] *Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: Навуковы зборнік*, выпуск дзесяты, Мінск 2009, с. 208–229; ён жа, *Першы беларускі лемантар*, “Arche” 2010, № 4, с. 243–262; ён жа, *Беларускамоўныя рэлігійныя кнігі XIX ст.* [у:] *Шляхамі да беларускасці: Нарысы, артыкулы, эсэ*, Варшава 2010, с. 581– 586.

[4] *Бѣлорусскія пѣсни, собранныя П.В. Шейномъ* [в:] *Записки императорскаго русскаго географическаго общества по отдѣлению этнографіи*, том пятый, С.-Петербургъ 1873, с. 680–681; *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-западнаго края*, Санктпетербург 1893, т. 2, с. 635–636.

[5] Гл.: M. Federowski, *Lud białoruski: Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1905*, tom V: *Pieśni*, Warszawa 1959, s. 891. Надрукаваны тут тэкст паходзіць з “чыстага” варыянту, падрыхтаванага супрацоўнікамі М. Федароўскага (Rkps BUW 440–IVb, k. 1–3). У каментары пазначана: “Pieśń pobożna przez XX. Misjonarzów ułożona”, аднак няма інфармацыі, што гэты тэкст – “апрацаваны” М. Федароўскім рукапіс 1820–1823 гг. з архіву Л. Узембла.

Выяўлены ў апошні час у архіве М. Федароўскага рукапіс 1820–1823 гг. з колішніх збораў Люцыяна Уземблы не вырашае справу атрыбуцыі вядомага рэлігійнага верша. Мы адно маем яшчэ адну гіпотэзу[1]. І даволі праўдападобную. Місіянеры (Аб'яднанне ксяндзоў-місіянераў св. Вінцэнта з Паўла, Congregatio Missionis) з'явіліся ў Вільні напрыканцы XVII стагоддзя. Тут яны заснавалі школу, дзе навучалі чытанню, пісьму, катэхізісу[2]. Пляцоўкі місіянераў існавалі да 1832 г. (у гэтым годзе аб'яднанне місіянераў было ў Расіі скасавана) у Асвеі, у Лыскаве на Пружаншчыне, у Оршы, у Смілавічах на Ігуменшчыне, у Смолінску каля Ашмянаў. Паўсюль абавязкова існавала школка. Апрача таго, святароў яны рыхтавалі ў семінарыях у Вільні, Магілёве і Краславе.

Зусім верагодна, што менавіта місіянеры дзеля сваіх вучняў-сялянаў падрыхтавалі верш-песню, якая дзякуючы спрыяльным абставінам – распараджэнню вярхоўнае царкоўнае ўлады і друку – шырока распаўсюдзілася. Бо езуіты – усё ж – у сваіх школах давалі адукацыю пераважна прадстаўнікам вышэйшых станаў. Зрэшты, ёсць і пярэчанне: і Я. Баршчэўскі, і А. Рыпінскі, і Я. Тышкевіч даводзяць, што менавіта ад езуітаў паходзіць гэтая песня.

Варта звярнуць увагу яшчэ на адну дэталь. У рукапісе са збораў Л. Уземблы, творы Я. Баршчэўскага і ў зборніках П. Шэйна 1873 і 1893 гг. у вершы ўжываецца слова "Спасіцелю". Гэтая царкоўна-славянская форма даводзіць: па-першае, што верш прызначаўся для уніяцкіх вернікаў (у выданні для каталікоў слова заменена на "Езусе", у А. Рыпінскага – на "Збавіцелю"; па-другое, пацвярджае першаснасць "місіянерскага варыянту", які з часам перанялі католікі і выкарыстоўвалі ў сваёй працы з мясцовым людам.

У XX стагоддзі верш некалькі разоў передрукоўваўся ў рэлігійных выданнях. Як толькі стала магчыма (пасля вядомага царскага дэкрэта пра свабоду слова, друку і веравызнанняў), суполка пецярбурскіх беларусаў перавыдала варшаўскае выданне лемантара-катэхізіса 1862 г. *Elementarz dla dobrych dzietak katolikaû*, Pb. druk. K. Piantkoûskaha, 1906, 28 s.[3], – вядома, з вершам *О мой Божа, веру Табе*... З гэтага ж выдання передрукавалі верш у кніжцы *Karotki katachizm dla prysprasableńnia dziaciej da pieršaj spowiedzi i kamuńji światoj*,

---

[1] А. Рыпінскі пісаў, што "гэтую прыгожую памятку ім пакінулі пасля сябе езуіты", г. зн.: яна напісана да 1820 г. Падобнае сцвярджаў і Яўстах Тышкевіч (1814–1873): "Гэтая песня [маецца на ўвазе калядная песня *Stary Wosip baradaty*. – *M. X.*], звязаная з куццёю, магчыма, напісаная айцамі езуітамі, як і іншыя па-беларуску, напрыклад, *O mój Boże! wieru u Ciabie* i t. d.". Гл.: [E. Tyszkiewicz], *Opisanie powiatu borysowskiego: pod względem statystycznym, geognostycznym, historycznym, gospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim: z dodaniem wiadomości: o obyczajach, spiewach, przysłowiach i ubiorach ludu, gusłach, zabobonach i t. d.*, Wilno 1847, s. 383.

У асобных сучасных публікацый верш адназначана прыпісваецца Якубу Мартусевічу і датуецца 1829 годам. Гл.: *Вянок беларускай духоўнай лірыкі: Якуб Мартусевіч, арцыбіскуп Полацкі. Песня*, "Наша вера" 2000, № 4 [online], http://media.catholic.by/nv/n14/art9.htm [доступ: 21.11.2015].

[2] А. Ярашэвіч, М. Дабрынін, *Місіянеры* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 тамах*, Мінск 1999, т. 5, 210–211.

[3] Інжынер Казімір Пянткоўскі быў з 1892 г. уладальнікам польскае друкарні ў Пецярбурзе. З ягоных варштатаў выйшлі шматлікія кнігі выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца".

pierarobleny z katachizmu k. R. Filachouskaho[1], Wilnia 1907, 32 s. і ў малітоўніку Баляслава Пачопкі[2] *Boh z nami: Biełaruski madliteunik*, apracawau B. P–ka, Druk. „Znicz" Wilna 1915, 264 s. Змешчаны верш таксама і ў выданнях Вінцэнта Гажальняскага[3] (Wincenty Gorzelniaski, *O mój Bože, wieru Tabie… Kaścielnaja biełaruskaja pieśnia*, Pg. 1917, 4 s. z not.; Wincenty Gorzelniaski, *Kaścielnyja pieśni: Sabraû W. Gorzelniaski, dyrygent Katedralnaha choru, wučyciel spiewaû u Katalickaj akademii i seminayj u Pietrahradzie*, Pg. wyd. L. Chwiecko i Sp–ka, 1917, 30 s. z not.).

У раздзеле *Произведения религиозно-богословского характера* другое кнігі трэцяга тома *Белорусов* верш *О мой Божа, веру Табе*... Я. Карскі коратка ахарактарызаваў[4], а ў трэцяй кнізе трэцяга тома згадаў пра яго ў раздзеле пра А. Рыпінскага. В. Ластоўскі ўключыў верш у *Wypisy z biełaruskaj literatury* (Wilnia 1918), пазначаючы: "Урэшце песня *О мой Божа, веру Табе* – гэта самая папулярная духоўная каталіцкая песня. Яна дагэтуль пяецца ў касцёлах у некалькіх парафіях Магілёўшчыны"[5]. Адольф Клімовіч (1900–1970), які даследаваў і збіраў рэлігійныя песні ў Заходняй Беларусі і ў паваеннай Вільні, сцвярджаў, што гімн *О мой Божа, веру Табе* быў "зложаны ў 1829 годзе полацкім біскупам Мартусэвічам"[6]. У савецкую эпоху гісторыкі беларускае літаратуры

---

[1] Ксёндз Рох Філахоўскі (1838–1896) – аўтар шматлікіх перавыданняў кніжкі *Krótki Katechizm w celu przygotowania dzieci do pierwszej Spowiedzi i Komunii świętej, ułożony i praktykowany przez X. R. F.*, Warszawa, druk. Czerwińskiego i Spółki, 1873, 32 s.

[2] Баляслаў Пачопка (1884–1940) – грэка-каталіцкі святар, выдавец газеты "Biełarus" (1913–1915), аўтар *Hramatyki biełaruskaj mowy* (Wilnia 1918, 37 s.).

[3] Вядома, што Вінцэнт Гажальняскі ў 1897 г. закончыў славутую Школу касцельнае музыкі ў Ратызбоне (Рэгэнсбург, ням. Regensburg – горад ў зямлі Баварыя). Жыў і працаваў у Пецярбурзе. У 1920-я гг. жыў у Лодзі, выдаў там *Śpiewnik kościelny dla użytku młodzieży szkolnej* (1925). У штотыднёвіку Таварыства настаўнікаў сярэдніх і вышэйшых школаў "Przegląd Pedagogiczny" (Warszawa 1930, r. 49, z. 2, s. 30) змешчаны некралог *Z żałobnei karty. Ś. p. Wincenty Gorzelniaski*, у якім гаворыцца: "Пайшоў з жыцця чалавек вялікіх заслугаў, с. п. Вінцэнт Гажальняскі. Ён быў арганістам (як шмат хто з нашых музыкантаў) і адначасна настаўнікам музыкі ў сярэдніх школах. Ведалі яго як выдатнага педагога спачатку ў Пецярбурзе, а ў апошні час – у Лодзі, дзе ён і памёр, знясілены цяжкаю працаю. Апрача рэлігійных кампазіцый (надрукаваных і што засталіся ў рукапісах), с. п. Гажальняскі знаны сваімі творамі ў галіне класічнае музыкі. Гэта ён напісаў музыку да хораў *Іфігеніі ў Аўлідзе* Эўрыпіда ў перакладзе Каспровіча, якую колькі разоў выконвалі ў школьным тэатры ў Варшаве, Лодзі, Закапаным і іншых гарадах. Гэтая кампазіцыя, вельмі прыгожая і першая ў дадзенай галіне ў нас, чакае свайго выдаўца. Ён таксама стварыў музыку да шматлікіх метраў Гарацыя, якая ўвайшла ў зборнік *Poezja łacinska w pieśni* Ст. Цыбульскага. Запісаныя на грамафонных плытах, кампазіцыі с. п. Гажальняскага часта выкарыстоўваюцца на ўроках латыні. Таксама нельга не сказаць пра грамадзянскую дабрачыннасць с. п. Гажальняскага, які ў свой час з рызыкаю для жыцця выявіў месца зняволення архібіскупа Цепляка і прычыніўся да вызвалення яго з бальшавіцкіх лёхаў у Маскве і Пецярбурзе. Чэсць Яго памяці!"

[4] Е. Карский, *Белорусы...*, с. 145–146.

[5] Гл.: І. Багдановіч, *Шлях да святыні: вобраз святыні ў беларускай паэзіі*, "Наша вера" 2000, № 4 [online], http://media.catholic.by/nv/n14/art8.htm [доступ: 29.01.2016 г.].

[6] *Ibidem*. Пра А. Клімовіча як даследчыка рэлігійнае паэзіі згадвала калісь і Зоська Верас, крытыкуючы кнігу Рыгора Семашкевіча *Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе: канец XIX-пачатак XX ст*. (Мінск 1971): "Гімн *О мой Божа, веру Табе* напісаны нейкім віцебскім ці магілеўскім Уладыкаю – вестка ад А. Клімовіча. Казаў мне год і імя

пра гэты тэкст не згадвалі. І толькі ў наш час верш надрукаваны ў шэрагу публікацый[1].

## Першы спіс

Рукапіс захоўваецца сярод папераў М. Федароўскага, а паходзіць “ze zbioru autografów Lucyana Uzięby[2] w Wilnie”[3]. Датаваны 1820–1823 гг. (нататка: “Rękopis z lat 1820–23” у правым ніжнім кутку – хутчэй за ўсё – зроблена рукою М. Федароўскага); ён складаецца з аркуша паперы шэрага колеру фармату А 4 з тэкстам, напісаным у дзве калонкі. Уверсе аркуша – тытул твора: *Pieśń Nabożna przez XX. Missyonarzów ułożona*. У левай калонцы змешчана 8 строф верша, у правай – 3. Адразу пасля тэксту чорным чарнілам пазначана: “Otrzymałem w upominku od znanego literata p. Lucjana Uzięby. Michał Federowski. Styczeń, 1903 r.”[4].

Верш М. Федароўскі паправіў алоўкам (мы налічылі 72 праўкі: фактычна, фальклярыст “прывёў” мову ў адпаведнасць з гаворкамі таго рэгіёну, які ён даследаваў): падзяліў тэкст на словы (*Zawsio – Za wsio*; *Nietakże – Nie także*; *Dauże – Da uże* і інш), замяніў *o* на *a*, *w*, *u* і *ł* на *ŭ*, *t'* на *ć*, *y* на *j* і інш, замест “старых” літараў падаў зверху “новыя”, а таксама замяніў асобныя словы (Prostyi – *Daruj*; *Spasytelu – Zbawicielu*). На падставе ягоных правак быў падрыхтаваны чыставы рукапіс для друку, на якім алоўкам ажыццёўлена растаноўка націскаў[5].

Друкуецца паводле рукапісу (Rkps BUW 441–I, k. 5), атрыманага М. Федароўскім у падарунку ад Л. Узембы ў студзені 1903 г., з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала.

---

Уладыкі – не запісала і ня помню. Магчыма, знайду ў лістах Клімовіча” (З ліста да А. Пяткевіча ад 14 снежня 1971 г.). Гл.: Зоська Верас, *Я помню ўсё: успаміны, лісты*, Гародня–Wrocław 2013, с. 113.

[1] *Кароткі збор хрысціянскае навукі* [у:] *XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах*, кн. першая, Мінск 1999, с. 56–57 (паводле выдання 1835 г.); *Вянок беларускай духоўнай лірыкі: Якуб Мартусевіч, арцыбіскуп Полацкі. Песня*, “Наша вера” 2000, № 4 [online], http://media.catholic.by/nv/n14/art9.htm [доступ: 21.11.2015] (адаптаваны, з некаторымі зменамі і датаваны 1829 г. Відаць, публікатар карыстаўся *Biełarusskaj Chrestomatijej* Б. Эпімах-Шыпілы); *Elementarz dla dobrych dzietok katolikou* [у:] *Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта*, вып. дзесяты..., с. 224–225 (паводле выдання 1862 г.); Невядомы аўтар, *О мой Божа, веру Табе* [у:] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 3..., с. 16–17 (адаптаваны, паводле выдання 1835 г.).

[2] Люцыян Узембла (1864–1942), віленскі публіцыст, калекцыянер, аматар даўніны, ініцыятар стварэння ў 1899 г. таемнага “Towarzystwa Miłośników Starożytności i Ludoznawstwa” (знанага таксама як “Kółko Archeologiczne”).

[3] Дадзены запіс выкананы каліграфічным почыркам (магчліва, пячатка) у ніжнім правым кутку аркуша.

[4] Рукапіс са збораў Л. Узембы знаходзіцца ў папцы “Michała Federowskiego rękopisy pieśni nie ludowych białor. wyjęte z notat do *Przedmowy* do *Pieśni*” – Rkps BUW 441–I, k. 5.

[5] Перапісаны каліграфічным почыркам верш не мае тытулу (алоўкам зверху пазначана: “Pieśń pobożna przez XX. Misjionarzów ułożona”). Цяпер ён знаходзіцца ў папцы “Michał Federowski. Pobożne. 4. Religijne pieśni białoruskie (teksty)” – Rkps BUW 440–IVb, k. 1–3.

## *Pieśń Nabożna przez XX. Missyonarzów ułożona*

O móy Boże[Ia][1] wieru Tobie[Ib] –
I wsie wjeruju[Ic] dla Ciebie –
Wsiu[Id] nadzieju w[Ie] Tabie maju,
Za|wsio[If] Ciebie wychwalaju.

Ty satwarył[Ig], Ty odkupił[Ih],
Ty sam nas Boże[Ii] oświecił
Niechay[Ij] Tabie dziejuć Ludzie[Ik]
Cześć i Chwała[Il] od[Im] wsich[In] budzie –

Tabie Boże[Io] kłaniajusie,
W|wsim[Ip] na|Wolu zdajusie,
Byt'[Iq] tolko żaleju w Niebie[Ir]
Pa wsie[Is] wieki lubit Tiebie[It] –

Żal mnie Boże[Iu], zhraszyu[Iv] Tabie
prez Hrech[Iw] piekło dastau[Ix] sabie
Nie|także[Iy] żal zhuby maiey[Iz]
Jak żal Boże[IIa], krywdy[IIb] Twaiey[IIc] –

Ach że[IId] Boże[IIe] wsie[IIf] kajusie
Prostyi mienie[IIg], popraulusie[IIh],
Da|uże[IIi] Sto raz umiert[IIk] wolu
Na hrech bolszy nie|pryzwolu[IIl] –

o Spasytelu[IIm] nasz Panie,
Jedyne Serce[IIn] kochanie
Ruczki i nożki Twe całuiem[IIo]
Za hrechi[IIp] swoie[IIq] żałujem –

Całujuczy Twoie[IIr] Rany[IIs],
Spasytelu[IIt] nasz kochany[IIu]
Ruczki, oczki k|Niebu[IIw] wznosim[IIx]
Odpuszczenia hrechów[IIy] prosim –

Ślozy naszy wyliwajem
Szczyrym Sercem[IIz] pryrekajem
Pokul[IIIa] budiem z|Ludźmi[IIIb] Życi
Ne|budiem[IIIc] boley hreszyci –

o Maryo[IIId] matko Boża
Prynadabnaja Rajska[IIIe] Roża –
Pryczynsia k Bohu za nami
Za|nehodnymi[IIIf] hresznikami –

[1] Рымскімі лічбамі з літарамі пазначаны словы, якія М. Федароўскі паправіў алоўкам. Не пазначающца тыя выпадкі, калі было выпраўлена старое напісанне некаторых літараў.

Wsie[IIIh] światyie[IIIi] hlańtie[IIIj] z|Nieba[IIIk]
Waszey Łaski[IIIl] nam potreba[IIIm],
~~Pryczyntysie k Bohu~~[1]
Maliycie[IIIn] Boha za|Nami[IIIo]
Za|Niehodnymi[IIIp] hresznikami –

Chwała Bohu prawdziwomu[IIIq]
w Troycy[IIIr] Świątoy[IIIs] Jedynomu[IIIt]
Chwała Oycu[IIIu] i Synowi,
Chwała Swiatomu Duchowi –

***Праўкі М. Федароўскага*:** [Ia] mój Boża; [Ib] Tabie; [Ic] wieruju; [Id] Ŭsiu; [Ie] ŭ; [If] za|ŭsio; [Ig] satwaryŭ; [Ih] adkupiŭ; [Ii] Boża; [Ij] Niechaj; [Ik] ludzie; [Il] chwała; [Im] ad; [In] ŭsich; [Io] Boża; [Ip] ŭwsim; [Iq] Być; [Ir] ŭ Niebie; [Is] ŭsie; [It] lubić Ciebie; [Iu] Boża; [Iu] zhraszyŭ; [Iw] hrech; [Ix] dastaŭ; [Iy] Nie także; [Iz] maiej; [IIa] Boża; [IIb] kryŭdy; [IIc] Twaiej; [IId] ża; [IIe] Boża; [IIf] ŭsie; [IIg] Daruj że mnie; [IIh] papraŭlusie; [IIi] Da uże; [IIk] umierć; [IIl] nie pryzwolu [IIm] O Zbawicielu; [IIn] serca; [IIo] całujem; [IIp] hrachi; [IIq] swaje; [IIr] Twoje; [IIs] rany; [IIt] Zbawicielu; [IIu] kochany; [IIw] k Niebu; [IIx] ŭznosim; [IIy] hrechóŭ; [IIz] sercem; [IIIa] Pakul; [IIIb] z Ludźmi; [IIIc] Nie budiem; [IIId] O Maryo; [IIIe] rajska; [IIIf] za Nami; [IIIg] niehodnymi; [IIIh] Ŭsie; [IIIi] światyje; [IIIj] hlańcie; [IIIk] z Nieba; [IIIl] Waszej łaski; [IIIm] patreba; [IIIn] Malecie; [IIIo] za Nami; [IIIp] Za Niehodnymi; [IIIq] praŭdziwamu; [IIIr] ŭ Trojcy; [IIIs] Światoj; [IIIt] Jedynamu; [IIIu] Ojcu.

## Другі спіс

Друкуецца паводле кнігі *Krótkie zebranie nauki chrześciańskiej dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego*, Wilno: w drukarni dyecezalnej, 1835, s. 22–24 з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала.

## PIEŚŃ

O moy Boże! wieru Tabie,
I wsio wieru ja dla Ciabie.
Wsiu nadzieju w Tabie maju,
Za wsio Ciabie wychwalaju.

Ty satwaryu, Ty atkupiu,
Ty mianie Boże aświaciu.
Niechay Tabie, hdzie jość ludzie,
Cześć i Chwała at wsiech budzie.

Tabie Boże! kłaniajusia,
Wa wsiom na wolu zdajusia;
A być tolka chaczu w Niebie,
Po wsie wieki lubić Ciabie.

Żal mnie Boże! zhraszyu Tabie!

[1] Радок выкраслены перапісчыкам.

Czrez hrech dastau piekła sabie.
Da nia tak żal zhuby maiey,
Jak żal Boże krywdy Twaiey!

Ach że Boże! wsio kajusia,
Praści ż mianie, papraulusia;
Da wżo sto raz umierć wolu,
Na hrech boli nie zezwolu.

Dla Twayho ja upadabania,
Chaczu chawać prykazania.
Żyć i umierać wolu Tabie,
Szto Ty jość sam w Sabie.

JEZUSIE! Ty nasz Panie!
Jedyne serca kochanie.
Ruczki i nożki Twe całujem,
Za hrachy nasze żałujem.

Całujuczy Twaje rany,
O JEZUSIE nasz kochany.
Ruki i woczy k Niebu wznosim,
Atpuszczenia hrachow prosim.

Ślozy nasze wylewajem,
Szczyrym sercem pryrekajem,
Pakul budzim z ludźmi życi,
Nia budzim Bohu hraszyci.

O MARYA Matka Boża!
Preświataja rajska roża,
Malisia Bohu za nami,
Niehodnymi hresznikami.

Wsie Swiatyje wzhlańcie z Nieba,
Waszey łaski nam patreba.
Malicieś Bohu za nami,
Niehodnymi hresznikami.

Chwała Bohu Istynnomu,
Sława w Troycy Jedynomu,
Sława Otcu, i Synowi,
Sława Swiatomu Duchowi. A.

## Трэці спіс

Друкуецца паводле кнігі A. Rypiński, *Białoruś: Kilka słów o poezyi prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, śpiewie, tańcach etc*. (Paryż 1840, s. 34–35) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала.

* * *

O! moj Boże wieru tabiè,
I ûsiò wieru ja: dla ciebiè;
Usiù nadzieju û tabiè maju,
Za ûsiò ciebiè wychwalaju!

Ty satwaryû, ty atkupiuû,
Ty nas Bòżuchna aświaciû;
Nichàj tabiè hdzie jość ludzi:
Cześć i chwałà at wsich budzi!

Tabièż Boża kłaniàju sia,
(Tu wszyscy uchylają czoła)
Susim na wolu zdajù sia;
Żyć i ûmieràć chaczù û tabiè
Pa ûsi wieki lubić ciebiè.

Całùjuczy twai rany,
Zbawicielu nasz kochany:
Ruki, woczy k niebu ûznosim,
Adpuszczenia hrachòû prosim.

O! Marija Maci Bòża!
Prepadobna rajska roża:
Pryczyńsia k Bohu za nami,
Niahòdnymi hresznikami! –

Usi światyje hlańcie z nieba!
Waszèj łaski nam patreba:
Malicia k Bohu za nami,
Niahòdnymi hresznikami!...

## Чацвёрты спіс

Надрукаваны ў брашуры *Pieśni nabożnyja*, што ўбачыла свет у 1861 г. з дапіскаю ў канцы кнігі з дазволам друкаваць: “Варшава, дня 17 (29) лістапада 1861 г. Старшы цэнзар А. Функенштэйн”. С. Александровіч выявіў асобнік выдання ў следчай справе (Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1248–1–125, k. 15–18), матэрыялы якое даводзяць, што цэнзурны дазвол – фальшывы[1]. Вядомы толькі два (?) асобнікі брашуры, якія захоўваюцца ў следчых справах (апрача згаданае – у фондзе Канцылярыі Віцебскага грамадзянскага губернатара Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі: ф. 1430, воп. 1, спр. 31237, л. 4-7 v)[2].

У брашуры змешчаны два творы: песня *O nasz Boże, wierym Tobie*... і малітва *Boże, Ty Polszczy praz douhija wieki*... Тэкст песні падаецца ў адметнай рэдакцыі: “лірычны герой” выступае ад імя грамады, заўсёды кажа “nasz Boże”, “my dla Ciebie” і г. д. Папраўкі (а яны часам прыводзяць ад парушэння рытму) паслядоўна адлюстроўваюць устаноўку рэдактара-выдаўца на калектыўнасць выканання твора. Заўважаем таксама (перадусім, у першай страфе) імкненне перадаваць беларускі гук [ў] спецыяльнаю літараю – *ü*, але, магчыма, з-за адсутнасці неабходных знакаў у друкарні зроблена гэта толькі чатыры разы.

Друкуецца паводле: *Pieśni nabożnyja,* 1861, s. 1–5 з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку.

* * *

O nasz Boże, wierym Tobie
I üsio wieru my dla Ciebie,
Usiu nadzieju ü Tobie majem,
Za üsio Ciabie wychwalajem.
Ty satwaryu, Ty adkupiu,
Ty sam Boże, nas aświaciu;
Niechaj Tabie, hdzie jést ludzie,
Pa usie wieki chwała budzie.
Tabie, Boże, kłaniaimsia,
Na usiu wolu zdawaimsia;
Choczim tolko być u niebie
Pa usie wieki chwalić Ciebie.
Żal nam, Boże, szto zhreszyli;
Za hrech piekła zasłużyli;
Nie żal, Boże, zhuby majej,
Jak żal, Boże, kryûdy Twajej.

---

[1] С. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова: Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзя,* Мінск 1971, с. 19.

[2] Гл.: *Брашура “Песні набожныя” з двума вершамі на беларускай мове, у т. л. будучым гімнам паўстанцаў* [online], http://archives.gov.by/index.php?id=293139 [доступ: 29.01. 2016 г.].

Ach, nasz Boże! usie kaimsia,
Daruj Ty nam, papraulimsia;
Umierć chacia sto raz wolim,
A użo na hrech niezazwolim.
Dla Twajaho ja spadabania
Choczem chawać prykazania,
Żyć, umirać choczem Tobie,
Bo Ty dobry sam u Sobie.
Zbawicielu, nasz ty Panie,
Najmilejszeje kachanie,
Ruczki, nożki twe całuim
Za hrechi swaje żałuim.
Całujuczy Twaje rany,
Zbawicielu nasz kachany,
Ruki, woczy k'niebu wznosim
Adpuszczenia hrechou prosim.
Ślozy naszy wylewaim,
Szczerym sercem pryrekaim,
Pakul budziem z ludźmi życi,
Nie|budziem Bohu hreszyci.
O Maryjo, Matko Boża,
Ty świataja u Niebie róża,
Pryczynisia tam za nami
Niehodnymi hreszn kami[1].
Usie Światyje hlańcie z Nieba
Waszej łaski nam patreba:
Malicie Boha za nami,
Niehodnymi hresznikami.
Chwała Bohu praudziwemu,
W Trójcy Światoj jadynemu,
Chwała Ojcu i Synowi
I Świątomu Jch Duchowi.

[1] Так у арыгінале: літара ***i*** ці то не адбілася, ці то прапушчана наборшчыкам.

## Пяты спіс

Надрукаваны ў брашуры *Elementarz dla dobrych dzietok katolikou, Warszawa: Nakładem Księgarni Celsa Lewickiego w Gmachu Teatru, 1862,* s. 37–[39] з захаваннем усіх арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў.

# PIEŚŃ.

O moj Boże! wieru Tabie,
I usio wieru ja dla Ciabie.
Usiu nadzieju w Tabie maju,
Za usio Ciabie wychwalaju.

Ty satwaryu, Ty adkupiuu,
Ty mianie Boże aświaciuu.
Niechaj Tabie, hdzie jość ludzie,
Cześć i chwała ad usich budzie.

Tabie, Boże! kłaniajusia,
Wa usiom na wolu zdajusia,
A być tolka chaczu u Niebie,
Pa usie wieki lubić Ciabie.

Żal mnie Boże! zhraszyu Tabie!
Praz hrech dastau piekła sabie.
Da nie tak żal zhuby majej,
Jak żal, Boże! kryudy Twajej!

Achże Boże! usio kajusia,
Praściż mianie, papraulusia;
Da użo sto raz umierć wolu,
Na hrech boli nie zezwolu.

Dla Twojaho ja upodobanija,
Chaczu chawać Prykazanija;
Żyć i umirać wolu Tabie,
Szto Ty jość dobry sam w Sabie.

O Jezusie! Ty nasz Panie!
Jedyne serca kochanie!
Ruczki, nożki Twe całujem,
Za hrachi nasze żałujem.

Całujuczy Twoje rany,
O Jezusie nasz kochany,
Ruki i woczy k Niebu wznosim,
Adpuszczenija hrachou prosim.

Slozy nasze wylewajem,
Szczyrym sercem pryrekajem,
Pakul budzim z ludźmi życi,
Nia budziem Bohu hraszyci.

O Maryja Matko Boża!
Preświataja rajska roża!
Malisia Bohu za nami,
Niehodnymi hresznikami.

Usie Swiatyje wzhlańcie z Nieba!
Waszej łaski nam patreba.
Malicieś Bohu za nami,
Niehodnymi hresznikami.

Chwała Bohu Praudziwemu,
Chwała w Trojcy Jedynemu,
Chwała Atcu i Synowi,
Chwała Swiatomu Duchowi.
Amen.

## Шосты спіс

Пасля скасавання Уніі песня *О мой Божа, веру Табе*... паступова пачала выходзіць з ужытку, бо праваслоўныя святары не віталі яе выкарыстанне. Мала пашыралася яна і ў каталіцкім асяроддзі. Відаць, з гэтай прычыны песня паступова забывалася. Былыя уніяты памяталі адно толькі фрагменты даўняга гімна. У 1860-я гг. П. Шэйн запісаў у Віцебскім павеце каротую (усяго 32 радкі) і перайначаную версію твора.

Друкуецца паводле: *Бѣлорусскія пѣсни, собранныя П.В. Шейномъ* [в:] *Записки императорскаго русскаго географическаго общества по отдѣленію этнографіи*, том пятый (С.-Петербургъ 1873, с. 680) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку.

* * *

Ахъ, мой Боже, вѣру табѣ!
Я ўсе вѣру, што длѣ цябе;
Ўсю надзѣю Табѣ маю
За ўсе Бога выхваляю
Ты сотвариў, Ты откупиў,
Сынъ Божій посвяциў.
Ахъ мой, Боже згрѣшиў Табѣ,
Скрось грѣхъ достаў пекло сабѣ.
Ахъ, мой Боже, ўсе каюся,
Пусци грѣхи, поправляюся.

Жиць, умирацъ велю табѣ.
Што ты ёсь добрый самъ сабѣ.
Для твоего сподобання,
Хочу ховаць приказання.
Слезы наши выливаны
Щирымъ сердцемъ пререканы,
О, Марія матка Божа,
Пресвятая райска рожа!
Молися Богу за нами
Негодными грѣшниками!
Ўси святые зглянься зъ неба!
Ваша ласка намъ потреба.
Ручки вочки къ нему взносимъ,
Отпущення грѣхоў просимъ.
Ўси святые зглянься зъ неба,
Ваша ласка намъ потреба!
Цѣлуючи твои раны,
Спасителю нашъ коханый!
Поколь будземъ за людьми жици,
Ня будземъ Бога грѣшици.
Слава Отцу и Сыну
И святому Духови.

## Сёмы спіс

Дадзеная версія твора запісана М.П. Сахаравым у Гарадоцкім павеце Віцебскай губерні ў 1860-я гг. Друкуецца паводле: *Бѣлорусскія пѣсни, собранныя П.В. Шейномъ* [в:] *Записки императорскаго русскаго географическаго общества по отдѣлению этнографіи*, том пятый (С.-Петербургъ 1873, с. 680–681) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку.

* * *

Ой, Боже, вѣру Табѣ
И все вѣру ли и цябе
И все надѣюсь на цябе:
И за все выхваляю цябе;
Ты сотвориў, откупиў,
Ты насъ Божинька просвѣциў.
Чиразъ грѣхъ пекла достаў сабѣ;
Жаль мнѣ, Боже, согрѣшиў табѣ!
Гдзѣ ёсть людзи – нихай чесць и хвала будзи.
Табѣ, Божинька, клонюся,
Просци грѣхи, поправлюся.
То разъ велю умираци,

На грѣхъ долѣ не дозволю,
Ли твоего подобання.
Хочу хуваць приказання.
Жиць и умираци велю табѣ,
Што ты ёсць добрый самъ сабѣ.
Цалую раны, спасителю нашъ пане;
Ручки вочки къ небу ўзносимъ,
Отпущення грѣхоў просимъ.

## Восьмы спіс

Змешчны ў рукапіснай *Biełarusskaj Chrestomatii* Б. Эпімах-Шыпілы (Рук. БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 1–3) пад нумарам 1. Заўвага-каментар укладальніка тлумачыць з якой крыніцы, калі і дзе быў занатаваны твор (гл. адпаведнае месца ва ўступным артыкуле да гэтага раздзела). Звернем увагу, што ў спісе 48 радкоў і што тэкст вельмі блізкі да апублікаванага ў беларускамоўных выданнях 1835 і 1862 гг. Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу.

## *Pieśnia*

O, moj Boże! wieru Tabie,
I ŭsio wieru ja dla Ciabie.
Ŭsiu nadzieju ŭ Tabie maju,
Za ŭsio Ciabie wychwalaju.
    Ty satwaryŭ, Ty atkupiuŭ,
    Ty mianie, Boże, aświaciuŭ.
    Niechaj Tabie, hdzie jość ludzie,
    Cześć i chwała at ŭsich budzie.
Tabie, Boże! kłaniajusia,
Wa ŭsiom na wolu zdajusia,
Być tolka żełaju ŭ niebie,
Pa ŭsie wieki chwalić Ciebie.
    Żal mnie, Boże, zhraszyŭ Tabie:
    Czraz hrech dastaŭ piekła sabie;
    Da nie tak żal zhuby majej,
    Jak żal, Boże, kryŭdy Twajej!
Achże, Boże, ŭsio kajusia,
Praściż hrachi, papraŭlusia,
Da ŭżo sto raz umierć wolu,
Na hrech boli nie zezwolu.
    Dla Twajho ja ŭpadabannia,
    Chaczu chawać Prykazannia;
    Żyć i ŭmierać wolu Tabie,
    Szto ty jość dobry sam ŭ Sabie.

O, Jezusie! Ty nasz Panie!
Jadyne serca kachanie,
Ruczki i nożki Twe całujem,
Za hrachy naszy żałujem.
Całujuczy Twaje rany,
O, Jezusie nasz kachany!
Ruki i woczy k niebu ŭznosim,
Adpuszczennia hrachoŭ prosim.
Slozy naszy wylewajem,
Szczyrym sercem pryrekajem,
Pakul budzim z ludźmi życi,
Nia budzim Bohu hraszyci.
O Marya, Matka Boża!
Praświataja rajska roża!
Malisia Bohu za nami,
Niahodnymi hresznikami.
Ŭsie światyje ŭzhlańcie z nieba,
Waszej łaski nam patreba;
Malicieś Bohu za nami,
Niahodnymi hrasznikami.
Sława Bohu Istynnemu,
Sława ŭ Trojcy Jedynemu,
Sława Otcu i Synowi,
Sława światomu Duchowi!
Amiń.

## Дзявяты спіс

Дадзены варыянт, датаваны 25 кастрычнікам 1879 г. (Октября 25 дня 1879 года. Орша. С.Я. Цѣханскій), быў дасланы П. Шэйну, які апублікаваў яго ў зборніку *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населения Сѣверо-западнаго края* (Санктпетербург 1893, т. 2, с. 635–636). Дзякуючы Ігару Станкевічу ўдалося высветліць, што Цяханскія ў XVII–XVII стст. валодалі маёнткам Вусце (Устье) Аршанскага павета. Стафан, сын Якуба Цяханскі (1814 г. нараджэння, зацверджаны ў шляхецтве разам з братамі Адамам, 1798 г. н., Іванам, 1801 г. н., Кліменціем, 1807 г. р.) адгукнуўся на заклік П. Шэйна, змешчаны ў “Виленскомъ Вѣстнике” за 1877 г., садзейнічаць яму ў збіранні помнікаў народнай творчасці. Хутчэй за ўсё С.Я. Цеханскі паходзіў з уніяцкае сям'і (ці ён быў уладальнікам маёнтку, у якім жылі уніяты). Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў перашадруку.

## *Костельная пѣснь бѣлорусскаго народа*

Ахъ мой Бо́жа – вѣ́ру Табѣ́,
Я ўсѐ вѣ́ру, ўсѐ для Цябе;
Ўсю́ надзе́ю ў Табѣ́ маю́,
За ўсѐ Цябе́ лепшъ коха́ю.
Ты сотва́рыў, Ты отку́піў,
Ты насъ Бо́жа – самъ посвя́ціў.
Ниха́й Табѣ́ – гдзе ёсць людзи́ –
Чесьць и хва́ла отъ всѣхъ бу́дзи.
Табѣ́, Бо́жа, кла́няемся,
На ўсю́ во́лю мы зда́емся,
Жиць и умира́ць хо́чимъ Табѣ́,
Што Ты ёсьць до́брый самъ въ сабѣ.
Ахъ мой Бо́жа зграшиў Табѣ́,
Празъ грѣхъ пе́кла достаў са́бѣ;
Не жаль, Божа́, згу́бы мое́й,
Якъ жаль, Божа́, кры́ўды Твоей!
Ру́чки и во́чки къ не́бу ўзно́симъ –
Отпуще́ння гра́хоў про́симъ.
Ахъ мой, Бо́жа, ўсё ка́юся,
Просци грахи́, попраўлюся;
И ўжё сто разъ уме́рць во́лю,
На грѣхъ боли́ не призво́лю;
А для Твойго́ сподобання –
Хочу хова́ць приказа́ння:
Жиць и умира́ць хочу́ Табѣ́,
Што ты ёсьць до́бры самъ въ сабѣ.
Слё́зы на́ши выливаимъ,
Щѐрымъ сэ́рцэмъ при́река́имъ:
Поку́ль будзи́мъ з людзьми́ жици́,
Ня бу́дзимъ Бо́гу гра́шици.
О Спа́сителю – нашъ Па́не!
Еды́нэ наше́ коха́не,
«Руки́ и ноги́ Твэ ца́луемъ,
«За грахи́ свое жа́луемъ –
«Цалуемы́ Тво́е раны
«Спасителю́ нашъ коха́ны!
О Марія, Ма́тка Бо́жа,
Преподо́бна ра́йска ро́жа,
Причи́ныя къ Бо́гу за́ нами
Нягодными́ грѣшника́ми.
Ўсѣ святы́я гля́ньця з не́ба,
Ва́ша ла́ска намъ потре́ба;

Моли́ця Бо́га за́ нами́
Нягодными грѣшника́ми.
Хва́ла Бо́гу пра́удзивэму,
Въ Тро́йцы Свя́той е́дынэму;
Хва́ла Ойцу́ и Сыно́ви –
Хва́ла Свято́му Духо́ви. Аминь!

***Заўвага П. Шэйна***: Пѣсня эта была сильно въ ходу среди бѣлорусскаго населенія во время уніи и усердно распѣвалась богомольцами какъ въ церквахъ уніатскихъ, такъ и въ костелахъ, почему и называется *костельною*. Простой народъ въ сущности мало отличалъ одинъ Божій храмъ отъ другаго; онъ съ одинаковымъ усердіемъ молился какъ въ томъ, такъ и въ другомъ. Точно также онъ, помимо наружнаго вида, мало отличалъ ксендза отъ священника-уніята. И къ тому и къ другому онъ, въ случаѣ надобности, всегда обращался со словами: батюшка ксендзъ, или ксендзъ-батюшка! О степени-же распространенности этой пѣсни въ эпоху до *возсоединенія* достаточно будетъ привести здѣсь нѣсколько строкъ изъ отзыва уже покойнаго досточтеннаго моего сотрудника С.К. Шимковича по разсмотрѣніи имъ въ рукописи отдѣла духовныхъ стиховъ, приготовленнаго къ печатавшемуся въ 70-ыхъ годахъ И. Р. Геогр. Обществомъ моего перваго бѣлорусскаго сборника. При этомъ надо замѣтить, что почтенный мой рецензентъ былъ коренной бѣлоруссъ, вышедшій изъ среды мѣстнаго духавенства, и горячо любившій свой народъ. Вотъ эти сторки: “Прочитавъ вашу тетрадь съ духовными стихами и стихотвореніями, я вспомнилъ, что нѣкоторые изъ нихъ мнѣ часто приходилось слышать въ молодости моей, лѣтъ 25, 30 тому назадъ, въ мѣстечкахъ Бѣшенковичи, Чашники (Витебской губ.) и Смолянахъ (Могилевской губерніи); таковы: *Ахъ, мой Боже, вѣру Табѣ* и *Ишли три паненки Христа шукаци*. Пѣніе этихъ двухъ пѣсенъ, особенно первой, было очень употребительно въ народѣ (до возсоединенія уніятовъ съ православными) въ уніатских церквахъ, городовъ, мѣстечекъ и селъ; по воскресеньямъ и праздничнымъ днямъ ее часто можно было слышать. Послѣ обѣдни и вечерни всѣ присутствующіе въ храмѣ мущины и женщины становились на колѣна и общимъ хоромъ пѣли ее. Эта пѣсня была перепечатываема въ нѣкоторыхъ богослужебныхъ книгахъ уніатскихъ, но въ народномъ употребленіи подвергалась разнымъ измѣненіямъ, впрочемъ незначительнымъ. <…> Напѣвъ этихъ пѣсенъ мнѣ и теперь помнится. Не знаю, поются ли онѣ обѣ и въ настоящее время гдѣ нибудь, но первую изъ нихъ, лѣтъ 8 назадъ, я слышалъ въ м. Сиротино, во время храмоваго праздника отъ нищихъ, которые пѣли ее вмѣстѣ съ *Лазаремъ*, сидя при дорогѣ, и не очень давно въ м. Приджуйскѣ[1],тоже отъ нищихъ при костелѣ”[2].

[1] Дадзенае мястэчка не ўдалося выявіць на картах XIX стагоддзя. Магчыма, назва пададзена недакладна.

[2] П. Шейн, *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-западного края*, Санктпетербург 1893, т. 2, с. 713–714. Дадзены фрагмент П. Шэйн упершыню апублікаваў у прадмове да раздзела *Духовные пѣсни* у працы *Бѣлорусскія пѣсни, собранныя П.В. Шейномъ* [в:] *Записки императорскаго русскаго географическаго общества по отдѣленію этнографіи*, том пятый, С.-Петербургъ 1873, с. 669–670.

## Дзясяты спіс

Апублікаваны ў брашуры пад тытулам *Kantyczka*, выдадзенай Беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні. Відаць, падставаю для друку быў тэкст верша з рукапіснай *Biełarusskaj Chrestomatii* Б. Эпімах-Шыпілы. Невядома хто з супрацоўнікаў выдавецтва (Янка Купала[1], Вацлаў Іваноўскі, Іван Луцкевіч і г. д.) паправіў твор у адпаведнасці з патрабаваннямі тагачаснай літаратурнай нормы. У 1917 г. В. Ластоўскі надрукаваў верш паводле дадзенай рэдакцыі ў 66 нумары газеты “Гоман”[2].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў перашадруку паводле: *Kantyczka, abo Sabrannie nabożych piesień dla użytku katalikou biełarusau*, Wilnia 1914, s. 33–36.

### *O moj Bože!*

O moj Bože! wieru Tabie
I ŭsio wieru ja dla Ciabie,
Ŭsiu nadzieju ŭ Tabie maju,
Za ŭsio Ciabie wychwalaju.

Ty stwaryŭ, Ty atkupiuŭ,
Ty nas, Bože, aświaciuŭ,
Za to Tabie, hdzie jość ludzi,
Češć i sława nichaj budzie.

Tabie, Bože kłaniajusia,
Wa ŭsim na wolu zdajusia,
A być tolki chaču ŭ niebie,
Pa ŭsie wieki sławić Ciabie.

Žal mnie, Bože, zhrašyŭ Tabie,
Praz hrech dastaŭ piekła sabie,
Dy nie tak žal zhuby majej,
Jak žal, Bože, kryŭdy Twajej!

Ach moj, Bože, Tabie kajusia,
Daruj winy, ja papraŭlusia;
Dy ŭžo sto raz pamierci wolu,
Na hrech bolej nie pazwolu.

Dla Twajho ja ŭspadabania
Chaču chawać prykazania;

---

[1] “Што тычыцца *Кантычкі*, то, як піша А. Клімовіч, песні для яе “на беларускую мову пераклаў Я. Купала”. Гл.: І. Багдановіч, *Шлях да святыні: вобраз святыні ў беларускай паэзіі*, “Наша вера” 2000, № 4 [online], http://media.catholic.by/nv/n14/art8.htm [доступ: 29.01. 2016 г.].

[2] Гл.: *Duchounyje pieśni: O moj Bože*, „Homan” 1917, nr 66 (17 žniunia).

Žyć i ŭmirać chaču ŭ Tabie,
Szto ty jość dobry sam ŭ Sabie.

O Jezusie, Ty naš Panie,
Serca našaho kachanie!
Ručki i nožki Twaje całujem,
Za hrachi našy žałejem.

Całujučy Twaje rany,
O, Jezusie naš kachany,
Ruki j wočy k niebu ŭznosim,
Adpuščeńnia hrachoŭ prosim.

Ślozy našy wylewajem,
Ščyrym sercam pryrekajem,
Pakul budziem z ludźmi žyci,
Nia budziem Bohu hrašyci.

O, Maryja, Matka Boska!
Praświataja kwietka rajska!
Malisia Bohu za nami,
Niahodnymi hrešnikami.

Ŭsie światyje ŭzhlańcie z nieba!
Wašaj łaski nam patreba;
Maliciesia Bohu za nami,
Niahodnymi hrešnikami.

Sława Bohu praŭdziwamu,
Sława ŭ Trojcy Jadynamu,
Sława Ajcu, razam Synu,
Sława i Duchu Światomu.

# ***Дзесяць Боскіх прыказанняў***

Матэрыялы этнографаў, якія даследавалі ў XIX ст. беларускую народную культуру, сведчаць, што ў вуснай традыцыі захоўваліся як літаратурна-мастацкія, так і рэлігійныя тэксты. Пэўную цікавасць для нас уяўляюць беларускамоўныя вершы, у якіх пераказваецца змест *Дэкалогу – Дзесяці Боскіх прыказанняў* (*Дзесяці запаведзяў*). Згодна з *Пяцікніжжам*, *Дэкалог* быў дадзены самім Богам Маісею на гары Сінай на пяцідзесяты дзень пасля зыходу жыдоў з Егіпта. Як вядома, у розных хрысціянскіх традыцыях пералік прыказанняў падаецца па-рознаму: Праваслаўная Царква дзеліць другое паводле жыдоўскае традыцыі прыказанне на два, у той час як Каталіцкі Касцёл робіць тое самае ў адносінах да дзясятага паводле жыдоўскае традыцыі прыказання. “Беларускія прыказанні” ў асноўным вытрымліваюцца паводле каталіцкага падзелу, хоць у асобных версіях прысутнічае і свой адметны “пункт гледжання”.

### **Першы спіс**

*Пѣсня 10 заповѣдей* (тытул дадзены, відавочна, публікатарам) запісана настаўнікам народнае школы ў вёсцы Карма Рагачоўскага павета Магілёўскае губерні[1] ад 60-цігадовага жабрака (старца). Апрача ўласна дзесяці прыказанняў тут маецца і адзінаццатае, а таксама адметнае папярэджанне ды заклік не служыць жыдам (гэта азначала – хутчэй за ўсё – не піць гарэлку, пра што сведчыць, магчыма, згадванне ў адзінаццатым прыказанні “вады белай”).

Друкуецца паводле: *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западного края, собранные и приведенные въ порядокъ П.В. Шейномъ* (Санктпетербургъ 1893, т. 2, с. 637–638) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку.

## ***Пѣсня 10 заповѣдей***

А вы люди христіане!
Послушайтя приказанья,
Што вамъ Самъ Богъ приказавъ,
Што вамъ дѣлать заказавъ.
*Первое*: штобъ ня мѣли...

[1] Сёння гарадскі пасёлак Гомельскае вобласці. Паводле *Геаграфічнага слоўніка*, мястэчка Карма ля ракі Сож было ўласнасцю Быкоўскіх. Там мелася драўляная царква, народная школа. Асноўнае насельніцтва – жыды. Гл.: *Słownik geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. IV, Warszawa 1883, s. 403.

Другимъ быга́мъ ня вѣрили,
Чырывника́мъ ни дать вѣры,
Чартьемъ ничимъ ни тять фяры.
*Бо́гымъ клятца*, – то *другоя*[I][1],
Заказуя намъ Богъ тоя.
Кары вѣчный ни миная,
Хто ныпра́сна прысигая.
*Третье*: штобъ вы знали
Праздничный день святкова́ли,
Бога просиць и молитца,
Въ церкывъ ходиць ни лянитца.
*Четвертое*: шануй *батьцку*,
И поважай свою матку.
Хто отца, матку шану́я,
Тому Богъ вѣку даруя.
*Пятые*: ни зыбивай,
Людцкія крывы ни разливай,
Кр$^{ыо}$въ *упойства* (?)[2] до Бога
Клича: ни калечь никого.
*Шастое*: биряжися:
Зъ чужимъ мужымъ ни ложися;
То вяде въ пекло человѣка,
Оттуль ня выйдя до вѣку.
*Сядмоя*: ни вкрадь ничо́го,
Й ни намовляй никого.
Ня чинь ніякой краде́жи
Ни зъ денегъ, ни зъ збожжа, ни зъ одежи.
*Восьмая*: ня *свѣтчь* хвальчива,
Живи зъ людьми справедливо,
Ни налягай ни на кого,
Покинь злости, бойся Бога.
*Девятое*: ни пожондай,
Зъ чужой жоной не засидай,
Ни дай прычины до грѣху,
Покинь чертовску утѣ́ху.
*Десятое*: Бога люби,
И ближняго свого ни губи,
Люби яго якъ самъ сябя
Дѣлай добря, дасть Богъ табѣ.
*Одиннадцатое*: ни якой бяды ня дѣлай,
Ни зымути́ водой бѣлой.

[1] Тут і далей у раздзеле рымскімі лічбамі пазначаны словы, якія П. Шэйн пераклаў-патлумачыў на доле старонкі.
[2] Трэба: *убойства*. Пытальнік, відавочна, П. Шэйна.

Послушійтя християне!
Поселѣдняе время живемь,
Будемъ слезы проливатцы,
Сами сябе проклинатцы.
Нявмѣли Бога молить,
Только умѣли жидамъ служить;
Бо Бога ни вмолили,
Только жидамъ услужили.
Попы, ксяндзы про то знайтя,
Служить жидамъ запрещайтя.

***Заўвага П. Шэйна***: [1] – т. е. другое приказанье – другая заповѣдь.

## Другі спіс

Запісана валасным пісарам Хадасевічам у Ланскай воласці[1] (у П. Шэйна: Ланкой) Слуцкага павета Мінскае губерні.

Друкуецца паводле: *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западного края, собранные и приведенные въ порядокъ П.В. Шейном*ъ (Санктпетербургъ 1893, т. 2, с. 638–640) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку.

*   *   *

Вы людзи хрисьціяне
Слухайце приказаньня,
Што намъ Господзь приказýець,
Ўсимъ намъ дзѣло указýець:
А *первоя*, – штобъ мы Бога знали,
Инымъ Богóмъ ня вѣрили,
Чароўникамь не даць вѣры,
А чартóмъ не учиниць офяры.
Клясцься съ Богомъ – *то другоя*,
Заказуя намъ Богъ тоя;
Вѣчна кара ня миная,
Хто напрасно присягая.
А *трецея*, – штобъ мы знали,
Дзень нядзѣли святковáли,
Бога хвалиць и молитца,
Ў церкоў ходзиць ня лянитца.

[1] Сёння – Ланскі сельсавет у Нясвіжскім раёне Мінскай вобласці. А. Ельскі ў *Геаграфічным слоўніку* падае, што Ланская воласць (ля паштовага нясвіжска-пінскага гасцінца) складаецца з 9 сельскіх таварыстваў (абшчынаў), 43 вёсак; тут жыве больш за 2300 сялян мужчынскага полу. Гл.: *Słownik geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. V, Warszawa 1884, s. 579.

*Чацьвертоя*: шануй отца,
Поважай мацеръ свою.
Хто отца мацеръ шануя,
Тому Богъ вѣку даруя.
*Пятоя*: не забивай!
Люцкой криви не разливай.
Кроў до помсты[1] до Бога;
Кличуць: не тойся ничо́го.
*Шо́стоя*: беражися!
Ни съ кого ни глумися;
Ня ўводзь ў пекло чаловѣка, –
Одтуль ня выйдзя до вѣка.
*Сёмоя*: не крадзь ничо́го,
И не подмоўляй никого.
Ня чини жаднай крадзежи,
Живи по Божай удзержи.
*Восьмоя*: не фальшъ фальшиве,
Живи зъ людзьми справядливе;
Не налягай ни на ко́го,
Покинь злосьць, бойся Бога.
*Дзевятоя*: не пожала́й,
Съ чужой жонкой не засѣдай,
Не дай причины къ грѣ́ху,
Покинь шатанскую уцѣху.
*Дзесятоя*, – то для до́му:
Не дзѣлай обижды нико́му;
Люби ўсихъ, якъ самъ сябе,
Молись Богу, Богъ дасьцъ табѣ.

***Заўвага П. Шэйна***: [1] *Помста* – мщеніе. *Слов*. Носовича.

## Трэці спіс

Запісана ў Дудзіцкай воласці[1] Рэчыцкага павета Мінскае губерні настаўнікам народнага вучылішча Мікалаем Яцко[2]. Друкуецца паводле: *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западного края, собранные и приведенные въ порядокъ П.В. Шейном*ъ (Санктпетербургъ 1893, т. 2, с. 640–641) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку.

[1] Сёння – вёска ў Калінкавіцкім раёне Гомельскай вобласці. А. Ельскі ў *Геаргафічным слоўніку* падае, што Дудзіцкая воласць (ля дарогі з Даманавіч да Мазыра) складаецца з 21 вёскі; тут жыве больш за 1200 сялян мужчынскага полу. Гл.: *Słownik geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. II, Warszawa 1881, s. 210.

[2] Карэспандэнт П. Шэйна Мікалай Геранімавіч Яцко (1855 – ?) паходзіў з Бабруйшчыны; вучыўся ў Слуцкай гімназіі; запісваў фальклор у Рэчыцкім і Ігуменскім паветах. У 1887–1892 гг. працаваў настаўнікам у мястэчку Колбча Ігуменскага павета.

## *Дзесяцеро Божыхъ прыказаньней*

1. Азь есь Господзь Богъ твой на не́би, который ву́вяў зь Ипецкой нявóли.
2. Не взывай пана Бога по именьнѣ надарэмне.
3. По́мни дзень свяциць недзѣльній.
4. Шануй оццá и мáцяру и будзешъ жыць доўголѣценъ на зямли.
5. Не чужанось[I].
6. Не крадзь.
7. Не моў напроціў бли́жняму свойму.
8. Ня будзь свѣткою[II] хвальчываю на зямли́.
9. Ни пожалай ни раба, ни раби́ни яго, бо я грѣшный чаловѣкъ.
10. Сповѣдайся, прощайся назадъ цябе, напе́радъ цябе, нейдзи ко мнѣ ни въ ядзе́ньни, ни въ ў пице́ньни, ни ў походни, ни ў рабóци, ни у моёмъ сьнѣ. Прыдзи ко мнѣ янгаль откупицель-приступицель, Прачыста святая Матка Божа, Господáрня вялика, очысьци мою душу, безъ числа перэдъ тобою сограшыўшу – словами, думами, мусьлями, нячыстотою, пухотóю, обжорствомъ, лѣнествомъ. Господзи просьци! Матка Божа! закрывай, заступай рызою святою, ласкою небесною, оццовою молитвою, мáччынымъ порождэньнемъ. *Ой–мецца*[III] и Сына и Святого Духа. Аминъ.

***Заўвагі П. Шэйна***: [I] Ошибочно вмѣсто *не чужаложь*, искаженное въ свою очередь, съ польскаго *cudzołoż*. Въ полск. библіи заповѣдь: *не прелюбы сотвори* выражено такъ: *Nie będziesz cudzołożył*. *Cudzołożyć* – значить прелюбодѣйствовать; [II] свѣтка – свидетель. *Слов*. Носовича; [III] т. е. во имя Отца.

### Чацвёрты спіс

*Дзесяць Боскіх прыказанняў* запісаў Б. Эпімах-Шыпіла ад ксяндза Андрэя Буевіча, родам з Лепеля, пробашча касцёла Святое Кацярыны ў Пецярбургу, а пасля Маскоўскага вайсковага капелана, які чуў іх ад “падкасцельных старцаў”. Упершыню апублікаваны ў каталіцкім штотыднёвіку “Biełarus” (8 жніўня 1913 г.). Ірына Багдановіч у дадатку да артыкула *На шляху нацыянальнага і духоўнага адраджэння* (пра адраджэнкую дзейнасць Б. Эпімах-Шыпілы) перадрукавала гэты твор з калекцыі навукоўца (гл.: “Наша вера” 2009, № 4).

Друкуецца паводле: “Biełarus: tydniowaja katalickaja hazeta” (1913, nr 21) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку.

## *Dziesiać Boskich prykazańniau*

(Piajecca na notu *Ach, moj Boże, wieru Tabie!*)

Hej, wy ludzi, chryścijanie!
Zbierahajcie prykazańnia,
Szto Boh każeć, prykazujeć,
Szto nia wolna, zakazujeć!

Pierszaje znajmieńnie Boha:
Ty nia miej sabie druhoha,
Nia wier u gusły, u szepty, u czary,
A jdzi do Bożaj achwiary.

A druhoja: nie bażysia
I duszoju nie klanisia;
Hety hrech, Bohu nia luby,
Prywodzie duszu da zhuby.

A treciaja treba znaci,
Dzień niadzielny światkawaci,
Chadzić u kaścioł malicca,
Służyć Bohu nie lanicca.

Czaćwiertaja: szanuj baćku
I poważaj swaju matku;
Chto ajca, matku szanujeć,
Tamu Boh wieku darujeć.

Piataja woś: nie zabiwaj,
Czużoj krywi nie praliwaj:
Krou klicze pomsty ad Boha;
Nie zabiwajżeż nikoha!

A szostaja: zbirahajsia,
Czużałożstwam nie marajsia;
Hety hrech duszu pahubić;
Jaho Boh duża nia lubić.

Siomaja: Nie kradź niczoha!
I nie nawuczaj nikoha;
Ni z skacinki, ni z adzieży,
Nia rob nijakaj kradzieży.

Wośmaja: nia świedcz chwalszywa;
Żywi z ludźmi sprawiadliwa;
Nie nalehaj ni na koha;
Pakiń hraszyć, bojsia Boha!

Dziewiataja: Ścierażysia,
S czużoj żonkaj nie wadzisia,
Nia jszczy pryczyny da hrechu,
Pakiń czartousku uciechu.

Dziesiataja: Ani domu
Nie zawidywaj nikomu,
Ni skacinki, ni paszeńki,
Żywi z ludźmi charaszeńka;
Żywi z ludźmi z Boham z Panam
Aż na wieki wiekau. Amen.

# *Казанне (Вот цяпер які люд стаў...)*

У XIX стагоддзі надзвычай папулярнаю была гутарка, якая ў нашых хрэстаматыях называецца *Вось цяпер які люд стаў*. 147 радкоў у выданні 1950 г. друкавалася з пазначэннем "скарочана", але пазней гэтае пазначэнне знікла[1]. Літаратуразнаўцы другое паловы XX стагоддзя, не займаючыся атрыбуцыяй дадзенага твора, усё ж нязменна згадвалі пра яго ў сваіх публікацыях. Асабліва акцэнтавалі ўвагу на тым, што гутарка адлюстроўвае ломку патрыярхальнага побыту ў сувязі з выспяваннем капіталістычных адносінаў. У апошні час пра гэты твор увогуле не згадваецца[2]. Вось так – амаль дзве з паловаю сотні вершаваных радкоў аказаліся непатрэбнымі гісторыі літаратуры.

Пра колішнюю папулярнасць гутаркі сведчыць выдадзеная пад рэдакцыяй Яўстаха Тышкевіча кніга *Апісанне Барысаўскага павету*: "Ёсць нават рыфмаванае казанне (kazanie rymowe), даволі папулярнае"[3]. (Словы "kazanie rymowe" Васіль Скідан і Кастусь Цвірка пераклалі не зусім дакладна – "вершаванае набажэнства"[4]). Гэтае казанне, як і песню *O mój Boże! wieru и Ciabie*, аўтары кнігі – Я. Тышкевіч і ягоныя калегі – прыпісвалі, дарэчы, езуітам.

У сярэдзіне XIX стагоддзя (1848 г.) гэты твор (першы радок: *Вотъ ціеперъ якій людъ ставъ*..., усяго – 234 радкі) атрымаў Іван Насовіч ад святара "из Унитов, принявшаго Православіе Мстиславской, Казимирово-Слободской церкви[5] отца Григория Бочко" і апублікаваў у 1873 г. у сваёй працы *Бѣлорусскія пѣсни*, змешчанай у выданні *Записки императорскаго русскаго географическаго общества по отдѣлению этнографіи*[6].

---

[1] Гл.: *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*, Мінск 1971, с. 32–34, 339; *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*, Мінск 1988, с. 432–434, 482; *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 3..., с. 1042–1046, 1079–1080.

[2] Гл.: *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, том 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007.

[3] [E. Tyszkiewicz], *Opisanie powiatu borysowskiego: pod względem statystycznym, geognostycznym, historycznym, gospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim: z dodaniem wiadomości: o obyczajach, spiewach, przysłowiach i ubiorach ludu, gusłach, zabobonach i t. d., Wilno 1847,* s. 383.

[4] *Беларуская народная творчасць: Фальклор у запісах Яна Чачота і братоў Тышкевічаў*, Мінск 1997, с. 226.

[5] Мястэчка Казімірава Слабада – гэта прадмесце Мсціслаўля. Мураваная царква была пабудаваная ў сярэдзіне XIX стагоддзя на месцы былой драўлянай уніяцкай царквы.

[6] *Бѣлорусскія пѣсни, собранныя И.И. Носовичемъ* [в:] *Записки императорскаго русскаго географическаго общества по отдѣлению этнографіи*, том пятый, С.-Петербургъ 1873, с. 126–133.

Асобныя беларускія фалькloразнаўцы даводзяць, што праца *Бѣлорусскія пѣсни* з'яўляецца несамастойнай: "складальнік узяў тэксты (а іх там больш за 350) са зборнікаў Я. Чачота і А. Рыпінскага і выдаў іх, не пазначыўшы крыніц запазычвання"[1]. Больш за тое, Іван Цішчанка сцвярджае, што ў працу *Бѣлорусскія пѣсни* І. Насовіч уключыў уласныя гутаркі. *Вотъ цеперъ якій людъ ставъ*... – адна з іх. Як аргумент ён падае той факт, што ў рукапісе яна называецца *Изображение развращения нравов*[2].

Магчыма, *Kazanie księdza Antoniego Hromyki* (1845) з рукапіснай хрэстаматыі (не захавалася) А. Рыпінскага – гэта яшчэ адзін запіс гутаркі *Вот цяпер які люд стаў*.

А. Рыпінскі, дарэчы, называе яшчэ два творы А. Грамыкі: *Zabytek z 1812 roku* (урывак) і *Hulanka mużyckaja*. *Hulanku mużyckuju* – ёсць меркаванне атаясамліваць з гутаркаю *У пановъ нихто безъ спросу*.

М. Піятуховіч, які працаваў з паперамі А. Рыпінскага, даў *Kazaniu* адно толькі кароткую (відавочна, з прычыны атэістычнага духу часу) характарыстыку: "Гэты твор найменш цікавы з усіх тых, якія змешчаны ў рукапісах Рыпінскага. Твор прадстаўляе сабою вершаваны пераказ розных павучальных палажэнняў, якія звычайна развіваюцца ў касцельных казаннях"[3]. Цікавы той факт, што ў хрэстаматыі А. Рыпінскага *Kazanie* было запісана на 13 старонках (с. 75–87), а г. зн. мела прыкладна 150–160 радкоў.

Звернем увагу, што Антона Грамыку А. Рыпінскі ўключыў у лік 55 літаратараў,"якія нарадзіліся на Белай Русі, або таксама пра яе пісалі на абедзвюх мовах нашай правінцыі, як польскай, так і русінскай"[4]. Г. Кісялёў, не падаючы крыніцу, каментуе дадзены запіс: "Грамыка Антон Ігнатавіч – зямляк і сучаснік Рыпінскага, ксёндз-настаяцель Станькаўскай[5] парафіі Віцебскага пав."[6].

Вядома таксама, што напрыканцы 1850-х гг. А. Грамыка быў пробашчам аднаго з касцёлаў Суражскага пав.: ягонае прозвішча знаходзіцца сярод падпісчыкаў на часопіс "Teka Wileńska" на 1859 г.[7]; істотным з'яўляецца і тое, што святар быў аўтарам варшаўскага часопіса "Pamiętnik Religijno-Moralny"[8] (праўда, публікацыі не выяўлены); памёр Антон Грамыка ў 1862 г.[9].

Гісторыкам мовы і літаратуры вядома таксама публікацыя фрагментаў гутаркі ў газеце "Виленскій вѣстникъ" у 1889 г.: нехта Ив. Сиротко надрукаваў

---

[1] І. Цішчанка, *Насовіч Іван* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах*, т. 4, Мінск 1994, с. 382.

[2] Гл.: І. Цішчанка, *Хто аўтар ананімнай паэмы*?, "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі" 1984, № 3, с. 22–23; І. Цішчанка, *Насовіч Іван* [у:] *Беларускія пісьменнікі*..., с. 382).

[3] М. Піятуховіч, *Рукапісы Рыпінскага* [у:] *Шляхам гадоў*..., с. 230.

[4] А. Рыпінскі, *Пісьмо да Адама Плуга* [у:] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, 2-е выд., Мінск 2003, с. 176.

[5] Маёнтак і вёска Станькі. Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Марыі пабудаваны ў 1688 г. Ім апекаваліся айцы-кармеліты.

[6] Гл.: *Пачынальнікі*..., с. 180.

[7] Гл.: *Lista prenumeratorów na „Tekę Wileńską"*, „Teka Wileńska" 1858, nr piąty.

[8] Гл.: K. Estreicher, *Bibliografia polska XIX stulecia*, II wyd., t. X, Kraków 1972, s. 411.

[9] Гл.: *Archidyecezya Mohilewska*, „Gazeta Warszawska" 1863, nr 90 (21 kwietnia). За інфармацыю дзякую Вячаславу Мартысюку.

*Проповѣдь старика къ молодежи о томъ насколько молодые заблудились и отъ Бога отступились: У насъ цяперъ такихъ многа* (76 радкоў) з уступам і пасляслоўем.

Звернем увагу, што яшчэ М. Гарэцкі, аналізуючы “літаратуру няведамага аўтарства”, падаў, што “этнографу Шэйну запісалі яго [верш *Казанне*. – М. Х.] (да 1893 г.) у іншай рэдакцыі ў Віленшчыне”[1]. Сапраўды, у зборніку Паўла Шэйна *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западнаго края* ў раздзеле *Вирша новѣйшей формаціи* змешчана гутарка *Цяперъ у насъ такихъ много*[2] (110 радкоў), запісаная “ученикомъ Свислочевской семинаріи” Ракоцкім у вёсцы Рабуні (так у П. Шэйна; правільна: Рабунь) Вілейскага павета Віленскай губерні[3].

Як версію названага твора можна разглядаць “казанне зашаломскага бацюшкі” *Вотъ видите вы, дѣти...*, надрукаванае ў кнізе Е. Радзіміча (Е. Раманава) *Милостивый Осипъ, или Милости хочу, а не жертвы: Быль*, (Витебск 1896, с. 21–22)[4]. Тут толькі 61 радок.

На пачатку ХХ ст. пра гутарку пісалі, а фактычна ўвялі ў навуковы ўжытак Я. Карскі[5] і М. Гарэцкі. Апошні да таго ж апублікаваў уласны запіс (161 радок), зроблены на “Амсьціслаўшчыне”[6]. Тэкст М. Гарэцкага вельмі блізкі, дарэчы, да надрукаванага І. Насовічам (чытаючы, складваецца ўражанне, што апушчаны радкі, дзе закранаецца рэлігійная тэматыка). А таму можна дапусціць, што М. Гарэцкі, рыхтуючы свой запіс да друку, выкарыстоўваў і публікацыю І. Насовіча.

Не пакінем без значэння і той факт, што ў Беларускім дзяржаўным архівемузеі літаратуры і мастацтва (у фондзе Лукаша Бэндэ) захоўваецца тэкст *У нас цяпер такіх многа, што забываюцца на Бога...* з наступнымі пашпартнымі дадзенымі: “Неўстаноўлены аўтар. Вершаваная аповесць. Рукапіс. [1930-я гг.]” (БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1369, арк. 1–9). Аднак не выклікае сумненняў, што гэта рукапіс нашаніўскага часу і перапісаны ён адным з адраджэнцаў, які амаль паслядоўна карыстаўся беларускаю лацінкаю. Верагодна, што перапісчык выкарыстаў дасланы нейкім з чытачоў “Нашай нівы” рукапіс. Дадзены рукапіс яшчэ не ўведзены ў навуковы ўжытак.

Зусім нядаўна Лявон Баршчэўскі выявіў у аддзеле рукапісаў бібліятэкі імя кн. Чартарыскіх у Кракаве гутарку *Wiersz Ruski o Religii i Obyczajności*[7], якая нагадвае гутарку *Вот цяпер які люд стаў*... Праўда, сам літаратуразнаўца, а так-

---

[1] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*, Мінск 1992, с. 194.

[2] П. Шейнъ, *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западного края*, т. 2, Санктпетербургъ 1893, с. 677–680.

[3] Я. Янушкевіч у каментарах да перавыдання *Гісторыі* М. Гарэцкага фактычна падтрымаў гіпотэзу І. Цішчанкі, што аўтарам гутаркі *Вотъ цеперъ якій людъ ставъ...* трэба лічыць І. Насовіча.

[4] Тэкст апублікаваны ў *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5: *Літаратура другой паловы XIX ст. у 2 ч.*, ч. 2, Мінск 2013, с. 59–60, 788.

[5] Е. Карский, *Белорусы*..., с. 330–332.

[6] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры...*, с. 182–185.

[7] Rkps Czart. 13139: *XVIII–XIX w. Wiersze przeważne patriotyczne, satyry polityczne, rozprawki, tłumaczenia, varia literackie*.

сама шэраг навукоўцаў (Я. Янушкевіч, А. Мальдзіс) не надаюць гэтаму асаблівага значэння, бо лічаць, што “наўпроставых супадзенняў <...>зусім няшмат”. І катэгарычна не пагаджаюцца “лічыць знаходку шараговым, яшчэ адным спісам раней вядомай гутаркі”[1].

Што значыць: зусім няшмат? Л. Баршчэўскі і Я. Янушкевіч падаюць 5 радкоў, якія, на іх думку, з’яўляюцца агульнымі для гэтых двух розных твораў.

Мы, аднак, засумневаліся ў дакладнасці дадзенага сцвярджэння і правялі ўласны параўнальна-супастаўляльны аналіз. У пададзенай ніжэй табліцы ў левай калонцы – строфы з гутаркі *Вотъ циперъ якій людъ ставъ*..., апублікаванай І. Насовічам у 1873 г., а ў правай – строфы з гутаркі *Wiersz Ruski o Religii i Obyczajności*, выяўленай Л. Баршчэўскім у 2014 г. У дужках – нумары радкоў.

| *Вотъ циперъ якій людъ ставъ...* | *Wiersz Ruski o Religii i Obyczajności* |
|---|---|
| 1. Есць таких на свѣцѣ много,<br>Што запомнили на Бога.<br>Себе любюць ўсего болѣ,<br>По своей идуць ўси волѣ,<br>Малу вѣру въ Бога маюць,<br>Ворожбитовъ призываюць....<br>(3–8) | 1. U nas teper takich mnoha –<br>Szto nie pomnieć wżo na Boha,<br>A na bliżnoho nikoli –<br>Wsio czyniać po swoiey woli.<br>Boha swajho znieważajut –<br>Warażbitow pryzywajut...<br>(1–6) |
| 2. Нарѣкаюць въ томъ на Бога,<br>Што у ихъ нема ничóго.<br>(9–10) | 2. A na Boha narekajem –<br>Szto w chacie chleba nie majem.<br>(11–12) |
| 3. Надъ крохою хлѣба млѣець:<br>Даць голодному жалѣець.<br>(15–16) | 3. Nad kryszkoy chleba mlejesz –<br>Hołodnomu dać żalejesz.<br>(53–54) |
| 4. На небо циперъ не дбаюць:<br>Мужи по дзвѣ жонки маюць,<br>Жонки другихъ мужиковъ.<br>Знаць циперъ ужъ свѣтъ таковъ.<br>(19–22) | 4. Ciepier na Boha nie dbajuć<br>Bo wżo pa dwie Żonki majuć.<br>Żąka czasom troch mużakow –<br>Wot ciepier swiet nie takow!<br>(31–34) |
| 5. Взяць чужое имъ не грѣхъ;<br>Думаюць, – уйдзець за смѣхъ.<br>(25–26) | 5. Szto czużoje wziatʼ to nie hrech –<br>Razumiejesz być to za smiech.<br>(35–36) |
| 6. Хто безъ грошей и безъ хлѣба,<br>Тыхъ людзей и намъ не треба...<br>(29–30) | 6. Mało hroszy, mało chleba –<br>Mało ziemli, boley treba.<br>(43–44) |
| 7. И панъ цягнець по богатомъ,<br>Коли судзиць брата съ братомъ.<br>Богачъ скривдзивъ, ёнъ и правъ;<br>Бѣдный скривженъ, чымъ пропавъ.<br>(33–36) | 7. Prijdet sudyt tabie kaho –<br>Pier[sz] uhlaniesz na bahataho.<br>Chto dasć boley, prawda taho –<br>Chudy prapaw, wina jaho.<br>(47–50) |
| 8. Нападаець братъ на брата;<br>Роднымъ браццямъ цѣсна хата...<br>(73–74) | 8. Hniewajecca Brat na Brata –<br>Czasem kryku połna chata.<br>(55–56) |

[1] Л. Баршчэўскі, Я. Янушкевіч, *Два новыя тэксты беларускай літаратуры XIX ст.: жанравая прыналежнасць, моўныя асаблівасці, праблемы атрыбуцыі*, “Acta Albaruthenica” 2016, nr 16, s. 311–322.

| | |
|---|---|
| 9. Сестра сестрѣ клятбы досыць, –<br>Кабъ пропала, Бога просиць!<br>(77–78) | 9. Mież siestrami kladby dosyć –<br>Kap prapała, Boha prosić.<br>(57–58) |
| 10. Дзѣци часто бацьку лаюць,<br>Клянуць матку, зневажаюць...<br>(79–80) | 10. Baćku Matku znieważajesz –<br>Za szto wiek karotki majesz.<br>(17–18) |
| 11. Жаль куска для бацьки хлѣба,<br>Якъ бы ѣсць ему не треба...<br>(85–86) | 11. Żaliesz kawałka chleba –<br>Won honisz z chaty da nie treba.<br>(25–26) |
| 12. И рукамъ своимъ дасць волю,<br>На свою не помня долю...<br>(91–92) | 12. Kali rukom dajesz wolu,<br>Pomniy na swoju niedolu.<br>(27–28) |
| 13. И за то быць у пекли грѣцьца,<br>Коли словомъ къ имъ порвецца...<br>(97–98) | 13. Chto jezykom bić parwiecca –<br>Tamu treba w piekle hrecca.<br>(29–30) |
| 14. Всегды зависць маець голый,<br>Што у сусѣда хлѣбъ и пчелы.<br>(103–104) | 14. Majeć chleba, majeć pszczoły –<br>Ty b chaciew jak ty kab ion byw hoły.<br>(61–62) |
| 15. Хоць свойго ажъ натто маець,<br>А чужое ўсе хапаець.<br>(111–112) | 15. Inszy nadto swajho majeć –<br>Taki czużoje chapajeć.<br>(81–82) |
| 16. А позычиць, то на тое<br>Квапиць квоты узяць у двое.<br>(115–116) | 16. Bo pozyczajesz na toje –<br>Sztoby odabrać we dwoje.<br>(41–42) |
| 17. Свѣтъ увесь ёнъ, кабъ примѣвъ,<br>Енъ къ собѣ соскресци бъ мѣвъ.<br>(117–118) | 17. Wieś swiet zharnut odyn chatiew<br>Kali b z stolki syły miew.<br>(45–46) |
| 18. Свята хоць не много маемъ,<br>Ици въ церковь забываемъ...<br>(163–164) | 18. Swiata choć nie mnoho majem –<br>I to na mszy nie bywajem.<br>(9–10) |
| 19. Бацька самъ бывъ не цекавъ,<br>Богородзицы не знавъ...<br>(171–172) | 19. Każesz Baćko toż nie umiew –<br>Chleb dzialtoho dobry miew...<br>(125–126) |
| 20. Годы жь хлѣбны узъявились,<br>Зновъ на Бога мы забылись.<br>(179–180) | 20. Aż jak tolka chleb zjawiwsia –<br>Znowu na Boha zabywsia.<br>(129–130) |
| 21. Кольки хлѣба намолоциць,<br>У корчомку ўсе волочиць...<br>(193–194) | 21. Xiędzu czasem dać nie choczesz<br>A w Karczmu zausiod wałoczysz.<br>(105–106) |
| 22. Жонка ци зачнець сварицьца,<br>Ёнъ кидаецца къ ей бицца...<br>(203–204) | 22. Jak stanieć w Domu swarycca –<br>A prytom zacznieć i bicca...<br>(139–140) |
| 23. Отморозиць руки-ноги,<br>Тогды вѣчный ёнъ убогій.<br>(217–218) | 23. Ad marozu ruki nohi –<br>Ot ciepier wieczny ubohi.<br>(171–172) |
| 24. Обвандруець уси селы,<br>Босый, калѣка и голый.<br>(227–228) | 24. Wymandrujesz usie sioły –<br>Jak byw, tak i budziesz hoły.<br>(183–184) |

Фактычна, 56 радкоў у тэкстах – агульныя! А гэта чацвёртая частка твораў. Ці маем мы права сцвярджаць, што перад намі “самастойныя” гутаркі? Тым больш, што яны датычаць аднае і тае ж тэматыкі, узнімаюць падобную праблематыку ды маюць ідэнтычны пафас.

Такім чынам, на сённяшні дзень мы маем сем тэкстаў (шэсць – надрукаваныя ў розных выданнях і адзін рукапісны), пры даследаванні якіх узнікаюць шматлікія праблемы: найперш – наколькі самастойныя гэтыя тэксты? І калі адзін тэкст напісаны на падставе другога, то які з іх быў першасным?

Яшчэ раз назавём гэтыя тэксты:

1. *Вотъ цеперъ якій людъ ставъ*... (234 радкі). Гутарка паходзіць з Усходняй Беларусі (Мсціслаўшчына), датуецца 1848 г. Апублікавана І. Насовічам у 1873 г.

2. *Проповѣдь ихъ* [стариковъ. – *М. Х.*] *къ молодежи, въ которой старикъ старается доказать, насколько молодые заблудились и отъ Бога отступились: У насъ цяперъ такихъ многа*... (76 радкоў). Падаў да друку нехта Ив. Сиротко. Няма аніякіх звестак, дзе і калі запісана гутарка. Апублікавана ў газеце “Виленскій вѣстникъ” у 1889 г.

3. *Цяперъ у насъ такихъ много*... (110 радкоў). Тэкст запісаны ў другой палове XIX ст. у в. Рабунь Вілейскага павета. Апублікаваны П. Шэйнам у 1893 г.

4. *Вотъ видите вы, дѣти*... (61 радок). Тэкст паходзіць з другой паловы XIX ст.; магчыма, запісаны і выпраўлены Е. Раманавым. Апублікаваны ў 1896 г.

5. *Казаньне: Вот цяпер які люд стаў*... (161 радок). Тэкст паходзіць з тых самых мясцінаў, што і спіс І. Насовіча; запісаны ён напачатку XX ст. Не без значэння, што ён вельмі блізкі да тэксту, дасланага Рыгорам Бочкам І. Насовічу (адсутнічаюць радкі, дзе закранаецца рэлігійная тэматыка). Апублікаваны М. Гарэцкім у 1922 г.

6. *У нас цяпер такіх многа, што забываюцца на Бога...* (Рукап. БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1369, арк. 1–9.) Будзе апублікаваны ў нашым выданні.

7. *Wiersz Ruski o Religii i Obyczajności* (206 радкоў). Л. Баршчэўскі і Я. Янушкевіч сцвярджаюць, што паходзіць твор з “заходніх абшараў нашай краіны”, маючы на ўвазе той факт, што рукапіс знаходзіўся ў Шчучынскім архіве князёў Друцкіх-Любецкіх. Аднак жа даследчыкі забыліся, што “архіў фарміраваўся самім князем Францішкам Ксаверыем Друцкім-Любецкім у Санкт-Пецярбурзе ў асноўным у 1821–1830 г.” і толькі пасля ягонае смерці ў 1846 г. быў перасланы ў Шчучын. А г. зн., што аркуш паперы з гутаркаю мог трапіць да князя з родных мясцін-уладанняў (мястэчка Пагост Загародскі на Піншчыне), а таксама падчас ягоны шматлікіх службовых паездак-падарожжаў. Мова рукапісу сведчыць пра ягонае палескае паходжанне. Аналіз іншых матэрыялаў папкі, дзе захоўваецца гутарка, дазволіў даследчыкам сцвердзіць, што беларускі твор паходзіць “з прамежку часу паміж другой паловай 1810-х гг. і 1824 гг.”, г. зн. датаваць тэкст можна першаю чвэрцю XIX стагоддзя. Апублікаваны ў часопісе “Acta Albaruthenica” (2016).

Вывучэнне і аналіз дадзеных спісаў дазволіла зрабіць наступную выснову: тэксты І. Насовіча (1873) і М. Гарэцкага (1922) – гэта адзін звод; спісы І. Сіроткі, Ракоцкага і Л. Баршчэўскага – другі, а спіс з архіва Л. Бэндэ – трэці. (Тэкст Е. Раманава, нягледзячы на ягоную адрознасць ад усіх іншых тэкстаў, можна далучыць да другога зводу). Усе зводы – гэта творы маральна-этычнае праблематыкі.

Фактычна, мы маем справу з трыма зводамі вершаваных тэкстаў XVIII – першае паловы XIX стст.

Чаму мы называем іх зводамі? Бо можам вылучыць у іх пэўныя складковыя часткі.

Напрыклад, у першым зводзе (спісы І. Насовіча, М. Гарэцкага):

па-першае, вершаваныя тэксты-развагі, напісаныя на падставе *Дзесяці Божых прыказанняў* (радкі 1–26). Дарэчы, існаваў беларускамоўны *Дэкалог* – вершаваныя і празаічныя Дзесяць Божых прыказанняў у вуснай традыцыі;

па-другое, фрагмент гутаркі-казання пра багатага і беднага (радкі 27–58);

па-трэцяе, фрагмент гутаркі-казання пра сапсаванасць нораваў ў апошні час, пра варажнечу паміж сваімі: братамі, сёстрамі, бацькамі і дзецьмі (радкі 59–100);

па-чацвёртае, фрагмент гутаркі-казання пра сквапнасць і зладзейства (радкі 101–120);

па-пятае, фрагмент гутаркі-казання пра праўду (радкі 121–148);

па-шостае, фрагмент гутаркі-казання, у якім тлумачацца прычыны, чаму сапсаваліся норавы (забыліся пра Бога) (радкі 149–180);

па-сёмае, фрагмент гутаркі-казання пра жыццё і смерць п'яніцы (радкі 181–234). Зусім верагодна, што А. Ельскі напісаў сваю гутарку *Аб жыцці і смерці п'яніцы* на падставе вядомых яму народных тэкстаў на падобную тэматыку.

У другім зводзе (спісы І. Сіроткі, Ракоцкага і Л. Баршчэўскага):

па-першае, вершаваныя тэксты-развагі, напісаныя на падставе *Дзесяці Божых прыказанняў* (радкі 1–70, 101–104);

па-другое, фрагмент гутаркі-казання пра багатага і беднага (радкі 71–82);

па-трэцяе, фрагмент гутаркі-казання пра Страшны суд (радкі 83–100);

па-чацвёртае, гутарка-казанне пра жыццё і смерць п'яніцы (радкі 105–206).

У трэцім зводзе (спіс з архіва Л. Бэндэ):

па-першае, фрагменты першага і другога зводу;

па-другое, маралізатарскі аповед пра свякруху і нявестку, якія, не падзяліўшы печ, у якой гатавалі ежу, пабіліся, а пасля судзіліся, давёўшы гаспадарку да заняпаду.

Вядома, наш падзел (асабліва цвёрдая прывязка да пэўных радкоў) умоўны. Бо, відавочна, даступныя нам сёння тэксты запісаныя ад людзей, якія трымалі "маральную навуку" ў сваёй памяці. Магчымыя перастаноўкі некаторых фрагментаў.

Варта яшчэ раз падкрэсліць: паўтарэнне асобных строфаў у зводах паходзіць з тае прычыны, што аўтары зводаў адвольна выкарыстоўвалі ведамыя ім тэксты асобных гутарак-казанняў, напісаных у даўнія часы ці то святарамі-уніятамі, ці то нейкім ерархам Уніяцкае царквы дзеля паляпшэння маральнасці сваіх парафіянаў.

## Першы звод. Першы спіс

Тэкст у 1848 г. перададзены святаром Рыгорам Бочкам І. Насовічу.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку: *Бѣлорусскія пѣсни, собранныя И.И. Носовичем*ъ [в:] *Записки императорскаго русскаго географическаго общества по отдѣленію этнографіи*, том пятый, С.-Петербургъ 1873, с. 126–133.

*  *  *

Вотъ цеперъ якій людъ ставъ,
Хицеръ, золъ, не удалъ, лукавъ!
Есць такихъ на свѣцѣ много,
Што запомнили на Бога.
Себе любюць ўсего болѣ,
По своей идуць ўси волѣ,
Малу вѣру въ Бога маюць,
Ворожбитовъ призываюць.
Нарѣкаюць въ томъ на Бога,
Што у ихъ нема ничо́го.
А разбога́цiиць хто,
Штобъ-то дзяковаць[Ia][1] за то!
Нѣ! не ўзглянець ёнъ на небо,
Ему еще больши треба.
Надъ крохою хлѣба млѣець:
Даць голодному жалѣець;
Гониць бѣднаго зъ двора,
Хоць якая будзь пора.
На небо цеперъ не дбаюць[Ib]:
Мужи по дзвѣ жонки маюць,
Жонки другихъ мужиковъ.
Знаць цеперъ ужъ свѣтъ таковъ;
Знаць цеперъ такіе часы,
Што ўси на чужое ласы[Ic];
Взяць чужое имъ не грѣхъ;
Думаюць, – уйдзець за смѣхъ.
Кого мы собе не прочимъ,
Съ тымъ и знацьца мы не хочемъ:
Хто безъ грошей и безъ хлѣба,
Тыхъ людзей и намъ не треба:
А коли да хто богатъ,
Кажному и сватъ и братъ.

[1] Рымскімі лічбамі з літарамі пазначаны словы, якія пераклалі (ці пракаментавалі) І. Насовіч альбо А. Мілер.

И панъ цягнецъ по богатомъ,
Коли судзицъ брата съ братомъ.
Богачъ скривдзивъ, ёнъ и правъ;
Бѣдный скривженъ, чымъ пропавъ.
Выйграцъ справу ему трудно:
Нудному усюдыхъ[Id] нудно!
Къ справнику енъ не добьецца,
Тольки шіи достаецца,
Къ секлетарю безъ приносу
Не потыкай бѣдный носу.
Было-бъ то надъ чудомъ чудо,
Штобъ бѣднякъ правъ выйшовъ зъ суда.

На ховтурахъ, ци на ксцинахъ,
На весили, на менинахъ[Ie]
Богатому усяго досъ[If],
А бѣдному скула въ носъ!
Хто ободраный и нагій,
Къ тому ни якей уваги[Ig];
А одзѣтаго богато
Маецъ панъ за пана брата,
Знаюцъ, ёнъ крутней[Ih] разжився;
Знаюцъ, слезъ людзкихъ напився;
Да чесцъ отъ усихъ ему,
Коли придзецъ енъ къ кому.
А бѣднякъ душой будзь чесценъ;
Ёнъ и зло́дзѣй и безчесценъ.

Свой свойго, у насъ бывало,
Не допусцицъ а ни мало
До обиды, до криви,
Хоцъ ты ему воко рви.
А цеперъ и межъ своими
Хуже, чимъ-си межъ чужими;
Нема ладу, нема миру,
Каженъ собѣ глядзицъ къ виру[Ii];
Нема двора, нема хатки,
Штобъ было безъ жаднэй звадки[Ij];
Згоды[Ik] межъ бацьковъ нема,
Гнѣваюцца за дарма.
Дзѣци зъ бацькина прикладу[Il]
Межъ собой немаюцъ ладу:
Нападаецъ братъ на брата;
Роднымъ брацциямъ цѣсна хата,
Гонюцъ сердце, гонюцъ злосцъ;
Грыжа, якъ ў собакъ за косцъ.

Сестра сестрѣ клятбы досыць, –
Кабъ пропала, Бога просиць!
Дзѣци часто бацьку лаюць,
Клянуць матку, зневажаюць:
А убравшися у силу,
Гонюць бацьку у могилу.
Сами смашно[Im] жруць и пьюць,
Ему поливку[In] даюць.
Жаль куска для бацьки хлѣба,
Якъ бы ѣсць ему не треба:
Бацьку свойго за обѣдомъ
Называюць дармоѣдомъ.
А другій такій есць шельма,
Што, свое заливши бѣльма[Io],
И рукамъ своимъ дасць волю,
На свою не помня долю,
Свойго бацьку пхаець съ хаты.
Ёсць же сынъ такій проклятый,
Хто на бацьку, альбо матку
Съ дуру ляпнець мову[Ip] гадку;
И за то быць у пекли грѣцьца,
Коли словомъ къ имъ порвецца,
А якіяжъ будуць муки,
Хто взнесець на бацьку руки?
Дзиво намъ, што горькой (?) братъ,
Братнему кавалку[Iq] радъ.
Всегды зависць маець голый,
Што у сусѣда хлѣбъ и пчелы.
А вотъ сквапный[Ir]! свойго досыць,
А чужую траву косиць;
Чужіе снопы берець
И черезъ межу орець.
Сквапный жадзенъ до чужого,
Сквапному виць треба много,
Хоць свойго ажъ натто маець,
А чужое ўсе хапаець.
Збожжа[Is] маець хоць в запасѣ,
Да не вызволиць ёнъ въ часѣ[It].
А позычиць[Iu], то на тое
Квапиць[Iv] квоты[Iw] узяць у двое.
Свѣтъ увесь ёнъ, кабъ примѣвъ[Ix],
Енъ къ собѣ соскресци бъ мѣвъ.
Дзиво жь што злодзѣйски[Iy] вочи
Лѣзуць красць по клѣцямъ въ ночи.

Много, што на правду плююць,
Кулакомъ подъ носъ тымъ суюць,
Хто по праўдзѣ скажець имъ;
Не зови его лихимъ,
Не кажи што ёнъ сваволиць;
Правда, кажуць, вочи колиць.
Не по праўдзѣ присягаюць,
Не по праўдзѣ выцягаець
У бѣдняка акономъ
Буццымъ[Iz] правду бизуномъ.
Не по праўдзѣ бѣдныхъ гонюць,
И не къ праўдзѣ судъ свой клонюць.
Запытайся правды въ су́дзѣ,
Поглядзимъ, што съ того будзе!
Много ёсць такихъ на свѣцѣ,
Што по злосци лихо плеце,
Язычкомъ своимъ поганымъ
Своихъ брацціј передъ паномъ
Уѣдаець ни за што,
Штобы самому за то
Ласку заслужиць у пана:
Панъ послухаець сата́на,
Здзерець спину ажъ до пятъ,
Хоць бы хто й невиноватъ;
Альбо въ некруты небогу,
Альбо въ цяжкую налогу,
Альбо въ дальніј трудный пуць
Злые людзи упекуць.

Отъ чего жь такъ, усе што дали[IIa]
Людзи не полюдзку стали
Злы, зависливы, суцяги,
Пьяницы, альбо плуцяги,
Непокорны, драчуны,
Сквапные до чужбины;
Отъ чего такъ людзи грязны,
Не живуць меж-собъ въ пріязни?
Отъ чего такъ людзи сами
Лѣзуць въ пекло и зъ цѣпями?
Отъ чего межъ усихъ не ладъ,
Што чужей бѣдѣ ўсякъ радъ?
Ото того што въ серцу Бога
Нема цеперъ ни у кого,
Свята хоць не много маемъ,
Ици въ церковь забываемъ,

Каждаго святаго дня
Корчма повна до повдня,
Мы до церквы ўси недужи[IIb],
До молитвы недосужи;
Малый вочче[IIc], што научився,
Якъ подросъ, усе забывся.
Бацька самъ бывъ не цекавъ[IId],
Богородзицы не знавъ;
Вѣрую, хиба[IIe] зъ начала,
Матка може трохи[IIf] знала.
Только вспомнимъ мы на Бога,
Коли зайдзець насъ тревога;
Урожай на полѣ плохъ,
Чуемъ, што караець Богъ.
Годы жь хлѣбны[IIg] узъявились,
Зновъ на Бога мы забылись.
Людъ мы плохiй! людъ свавольный!
Къ бедному не хлѣбосольный!
А въ корчму – иное дзѣло!
Тамъ душа наша и цѣло!
Охъ! нашь братъ ёсць и такiй,
Што ў его и нравъ лихiй.
На торгу продасць возъ сѣна,
А што узявъ, въ корчмѣ ўсё сѣло.
Вдвору съ пьяными вочами,
Вернець съ голыми руками.
А въ дворѣ за тоежь зелле,
Треба взяцца за похмѣлле.
Кольки хлѣба намолоциць,
У корчомку ўсе волочиць;
Решту[IIh] коли будзець што,
На горѣлку прець и то.
Тамъ ёнъ днюець и ночуець,
Скóготу[IIi] дзѣцей не чуець.
Там дадуць ему и ѣсци,
Зъ голоду жь въ дворѣ мруць дзѣци.
Придзець въ двору дужо[IIj] пьянъ,
Да и норовомъ поганъ:
Жонка ци зачнець сварицьца[IIk],
Ёнъ кидаецца къ ей бицца,
У сихъ разгониць д’ одного.
Кому дзѣло до его?
Передъ имъ и панъ не панъ.
Самъ себѣ ёнъ панъ, якъ пьянъ.

Хто такого здзержаць мусиць?
Коли хто чего укусиць,
Не покинець до могилы.
Покуль живы, пійце жилы!
Спившись, двора не пильнуець[IIl],
Гдзѣ ночуець, а йдзѣ днюець,
Пьець, покуль зубы сотнець[IIm],
Ци на холодѣ заснець;
Отморозиць руки-ноги,
Тогды вѣчный ёнъ убогій.
Пойдзець просиць погорѣлымъ,
Буццымъ въ огнѣ обгорѣлымъ,
Таиць, што черезъ своволю
Гетаку наживъ недолю:
Нарѣкаець въ томъ на Бога,
Што за дзень собравъ не много.
Не долужный неборакъ[IIn],
Дражнець по дворамъ собак;
Обвандруець[IIo] уси селы,
Босый, калѣка и голый.
Хто побоженъ[IIp], дасць убогу,
Зжалившись къ ему небогу,
А ёнъ што въ дзень соберець,
Въ карчму на горѣлку прець,
Покуль зъ холоду калѣкій
Подъ плетнемъ заснець на вѣки.

***Заўвагі І. Насовіча і рэдактара тома Арэста Мілера (О. М.)*:** [Ia] Благодарить; [Ib] не заботятся; [Ic] лакомы; [Id] всюду; [Ie] *Хавтуры* – погребеніе, поминки. *Ксцины* – крестины. *Веселле* – свадьба; [If] *Досъ* – вм. *досиць* – до сыта, вдоволь; [Ig] внимания; [Ih] плутовствомъ; [Ii] Виръ – вырь, водоротъ въ реке или озере; всякое опасное место. *Виры* – нечистые духи, живущіе въ водяныхъ пропастяхъ (*Слов.* г. Носовича, с. 58); [Ij] безъ всякой ссоры; [Ik] согласия; [Il] примѣра; [Im] *Смашно* – тоже что *смачно* – вкусно (*Слов.* г. Носовича, с. 594); [In] похлебку; [Io] Собственно *бѣльмы* – говорится укоризненно въ смысле: *глаза* (*Слов.* г. Носовича, с. 41); [Ip] рѣчь; [Iq] куску; [Ir] алчный; [Is] Збожже – всякий хлѣбъ въ зернахъ и въ посѣвѣ, Божій даръ (*Слов.* г. Носовича, с. 196). Слово весьма древнее, встрѣчающееся уже въ *Судѣ Любуши*: deti vsie tu sboziem vjedno vladu. *Пр. О. М.*; [It] Не поможетъ въ пору – т. е. въ худую пору. *О. М.*; [Iu] дать в займы; [Iv] алчетъ; [Iw] проценты; [Ix] смогъ; [Iy] воровские; [Iz] будто бы; [IIa] чѣмъ далѣе; [IIb] недужны, больны; [IIc] Т. е. молитву *Отче наш. О. М.*; [IId] любопытенъ; [IIe] развѣ; [IIf] немножко; [IIg] урожайны; [IIh] остатка; [IIi] вопля; [IIj] очень; [IIk] браниться; [IIl] не стережетъ; [IIm] *Сотнуць*, сцинаць – снять, срубить однимъ взмахомъ (*Слов.* г. Носовича, с. 608); [IIn] слабосильный бѣдняк; [IIo] обойдетъ. Отд. нѣм. wander; [IIp] благочестивъ.

**Першы звод. Другі спіс**

Запісаны М. Гарэцкім у родных мясцінах. Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку: М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*, Вільня 1922, с. 182–185.

## З *Казаньня*

Вот цяпер які люд стаў:
Хіцер, зол, няўдал, лукаў!
Сябе любяць ўсяго болі,
Па сваей ідуць ўсе волі.
Над скарынкай хлеба млеюць,
Даць галоднаму жалеюць;
Гоняць беднага з двара,
Хоць якая будзь пара...
Хто бяз грошы і бяз хлеба,
Тых людзей і нам ня трэба.
А калі ды хто багат, –
Кожнаму і сват і брат.
І пан цягнець за багатым,
Калі судзіць брата з братам.
Багач скрыўдзіў, ён і праў;
Бедны скрыўджан – і прапаў,
Выйграць справу яму трудна.
Нуднаму усюдых нудна!
К спраўніку ён не даб'ецца,
Толькі шыі дастаецца.
К сэклетару бяз прыносу
Не патыкай бедны носу.
Было-б то над чудам чуда,
Каб бядняк праў выйшаў з суда.
Хто абодраны і нагі,
Таму ніякой увагі,
А адзетага багата
Маець пан за пана-брата.
Хоць і ён крутнёй разжыўся,
Добра сьлёз людзкіх напіўся,
Ды чэсьць ад усіх яму,
Калі прыдзець ён к каму.
А бядняк душой будзь чэсьцен,
Ён і злодзей і бязчэсьцен.
Свой свайго у нас бывала
Не дапусьціць а ні мала
Да зьнявагі, ды крыві,

Хоць ты вока яму рві.
А цяпер і між сваімі
Горшы, чым-ся між чужымі.
Няма ладу, няма міру,
Кожны сабе глядзіць к віру.
Няма двара, няма хаткі,
Каб было бяз жаднай звадкі.
Згоды між бацькоў няма,
Гневаюцца задарма.
Дзеці з бацькіна прыкладу
Між сабой ня маюць ладу:
Нападаець брат на брата,
Родным брацьцям цесна хата.
Гоняць сэрца, гоняць злосьць,
Грыжа, як ў сабак за косьць.
Сястра сястры – клятбы досіць, –
Каб прапала, Бога просіць!
Дзеці часта бацьку лаюць,
Клянуць матку, зьневажаюць.
А убраўшыся у сілу,
Гоняць бацьку у магілу.
Самі смашна жруць і п’юць,
Яму поліўку даюць.
Шкода ім для бацькі хлеба,
Як-бы есьць яму ня трэба.
Бацьку свайго за абедам
Называюць дармаедам.
А другі такі ёсьць шэльма,
Што, свае заліўшы бельма,
І рукам сваім дасьць волю,
На сваю ня помніць долю.
Свайго бацьку пхаець з хаты. –
Ёсьць-жа сын такі пракляты!
Ўсёгды завісьць маець голы,
Што ў суседа хлеб і пчолы.
А вот сквапны: свайго досіць,
А чужую траву косіць,
Чужыя снапы бярэць
І цераз мяжу гарэць;
Хоць свайго аж надта маець,
А чужое ўсё хапаець.
Збожжа маець хоць ў запасе,
Ды ня вызваліць ён ў часе,
А пазычыць, то на тое

Квапіць квоты ўзяць удвое.
Сьвет увесь ён, каб прымеў,
Ён к сабе саскрэсьці-б меў.
Дзіва-ж, што зладзейскі вочы
Лезуць красьці ў клець уночы!
Многа, што на праўду плююць,
Кулаком пад нос тым суюць,
Хто па праўдзе скажаць ім;
Не заві яго ліхім,
Не кажы, што ён сваволіць, –
Праўда, кажуць, вочы колець!
Не па праўдзе прысягаюць,
Не па праўдзе выцягаець
У беднага аканом
Быццам праўду бізуном.
Не па праўдзе бедных гоняць,
Й не па праўдзе суд свой клоняць.
Запытайся праўды ў судзе,
Паглядзім, што з таго будзе!
Многа ёсьць такіх на сьвеце,
Што па злосьці ліха плеце
Язычком сваім паганым,
Сваіх брацьцяў перад панам
Уядаець нізашто,
Каб ды самаму за то
Ласку заслужыць у пана.
Пан паслухаець сата́на,
Зьдзярэць сьпіну аж да пят,
Хоць-бы хто й невінават.
Або ў некруты нябогу,
Або ў цяжкую налогу,
Або ў дальны трудны пуць
Злыя людзі упякуць.
Ох, наш брат ёсьць і такі,
Што ў яго і нраў ліхі.
На таргу прадасьць воз сена,
А што ўзяў, ў карчме ўсё села.
Ўдвору з п’янымі вачамі,
Вернець з голымі рукамі,
А ўдварэ за тое-ж зельле,
Трэба ўзяцца за пахмельле.
Колькі трэба, намалоціць,
У карчомку ўсё валочыць;
Рэшту, калі будзець што,

На гарэлку прэць і то.
Там ён днюець і начуець.
Там дадуць яму і есьці,
З голаду-ж ўдварэ[I] мруць дзеці
Прыдзець ўдвору дужа п’ян,
Ды і норовам паган:
Жонка ці зачнець сварыцца,
Ён кідаецца к ёй біцца.
Усіх разгоніць да ‘днаго,
Каму дзела да яго?
Перад ім і пан ня пан.
Сам сабе ён пан, як п'ян.
Хто такога зьдзержаць мусіць?
Калі хто чаго укусіць,
Не пакінець да магілы.
Пакуль жывы, пійце жылы.
Сьпіўшысь, двара[II] ня пільнуець,
Гдзе начуець, а дзе днюець,
П’ець, пакуль зубы сатнець
Ці на холадзе засьнець.
Адмарозіць рукі-ногі,
Тады вечны ён убогі.
Пойдзець прасіць пагарэлым,
Быццам ў агні абгарэлым,
Тоіць, што цераз сваволю
Гэтаку нажыў нядолю.
Недалужны небарак –
Дражнець па дварах сабак.
Абвандруець усе сёлы,
Босы, калека і голы...
Хто пабожан, дасьць убогу,
Зжаліўшысь к яму, нябогу,
А ён, што ў дзень сабярэць,
Ў карчму на гарэлку прэць, –
Пакуль з холаду, калекі,
Пад плятнём засьнець навекі.

***Заўвагі М. Гарэцкага***: [I] Удварэ, ўдвору – дома, дамоў; [II] Свайго дому.

## Другі звод. Першы спіс

Падаў да друку нехта Ів. Сиротко з мястэчка Крэва Ашмянскага павета[1]. У сваю карэспандэнцыю ён уключыў верша *Кабъ ты вѣдау, братъ кумище*, пасля чаго змешчаны своеасаблівы ўступ да твора *У насъ цяперъ такихъ многа*: “Къ молодому поколѣнію старики относятся покровительственно, считаютъ его баловнемъ судьбы и не могутъ согласовать измѣнившейся жизни молодежи съ своей простотой и патріархальностью. Для ознакомленія съ этими взглядами привожу проповедь ихъ к молодежи, въ которой старикъ старается доказать, насколько молодые заблудились и отъ Бога отступились”.

А напрыканцы – каментар Ів. Сиротко: “Вот мораль старика-простолюдина и его взглядъ на молодое поколѣніе. Много у старикахъ нравственныхъ недостатковъ, но много есть и святой простоты, вѣры въ жизнь, безропотной покорности судьбѣ и сильнаго обличенія жизни молодого поколения, какъ видно изъ последнихъ стиховъ. Спокойно и невозмутимо смотритъ онъ въ глаза дѣйствительности даже въ трудные моменты, такъ что невольно позавидуешь его плебейскому стоицизму…”

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку: “Виленскій Вѣстнікъ: Газета литературная и политическая” 1889, № 70 (30-го марта), с. 3–4. Тэкст зверыў з арыгіналам Вячаслаў Мартысюк.

* * *

У насъ цяперъ такихъ многа,
Што ня помняць на Бога,
А на ближняго николи
И жиць могуць по своей воли.
Бога свойи зневажаемъ,
Ворожбитоу[I] призываемъ,
Творца неба забываемъ
И на неправуду присягаемъ.
Свята[II] хоць ня много маемъ
И то у церкви ня бываемъ,
А на Бога нарекаемъ,
Што Его милости ня маемъ.
Бацьку и матку лаешь[III],
Еще и залапъ[IV] притримаешь,
Жалѣешь имъ ковалка хлѣба,
Вонъ ихъ гонишь, хоць ня треба.
Кали рукамъ даешь волю,

[1] Апрача дадзенай карэспандэнцыі Ів. Сиротко надрукаваў у газеце матэрыял пра замак у Крэве. Пра гэта сведчыць наступная заўвага рэдакцыі: “Этому же автору принадлежитъ и корреспонденція изъ м. Крево, помѣщенная въ № 62 „Виленскаго Вѣстника” и по ошибкѣ подписанная буквами И. О–чъ”.

Помни, браце, на свою нядолю,
Бо хто и языкомъ биць порветца[V]
И тому треба у пеклѣ грѣтца.
А цяперь на Бога не дбаюць[VI],
Иншіе по двѣ жонкі маюць,
А жонки часомъ трехъ мужоу –
Вотъ свѣтъ цяперешній якоу!?
Ближнему добра ня зычаць[VII],
Хоть ему што и позычаць[VIII],
А може позычаць на тое,
Капъ якъ взыскаць зъ его втрое.
Мало грошей, мало хлѣба,
Мало земли – болѣй треба,
Усю-бъ землю мѣць хоцѣу,
Калибъ толькъ силу мѣу.
Гнѣваетца братъ на брата,
И такъ крику поуна хата,
У сястры съ сястрой крику досиць[IX],
Кабъ пропала – Бога просіць.
Завидуешь ты другому,
Што порядокъ въ его дому;
Што енъ мае хлѣба, пчелы.
Бо ты хочешь, кабъ енъ якъ ты быу голый.
А иншій ажъ вельми мае,
Але и много чужого хопае,
Якъ станемъ на страшномъ судѣ,
Ня добре тамъ такимъ буде.
Кабъ можно было оттуль вернутца,
Можно было-бъ иначей звярнутца,
Але ужо такъ быць ня може,
Бо такая есть воля Божья.
Ня выкупиць бацька и маци
Свайго роднаго дитяци,
А мужикъ жонки своей,
Хоць енъ присужены ей.
А цяперь на душу забываюць,
Мши[X] святой не закупляюць.
Якъ тольки хлѣба ня много,
Тады успоминаюць на Бога.
Скольки снопоу намолоциць
Зразу на торгъ поволочиць,
То на желѣзо, то на колы[XI],
Якъ быу, такъ и будець голы.
Съ такимъ господарствомъ, браце,

Будуць пустки у твоей хаце,
Бо покуль тольки молоцишь,
Потуль и на торгъ волочишь.
А потомъ, пане Якиме,
Будзешь кланятца мякине.
Чимъ быу, браце, у колысцѣ[XII],
Зъ гэтымъ будзешь у могилцѣ.
На свѣте живешь ня много,
А много хопаешь чужого,
Якъ на той свет прибиратца,
Ажъ ня хочешь споведатца.
А хто прауду скаже зъ боку,
Той табѣ якъ соль въ воку,
Але якъ хочешь круци,
То усе треба померци.

***Заўвагі рэдакцыі “Виленскаго Вѣстника”***: [I] знахарей; [II] праздниковъ; [III] ругаешь; [IV] за волосы; [V] рѣшится; [VI] забываютъ; [VII] не желаютъ; [VIII] одолжатъ; [IX] довольно; [XI] обѣдни; [XI] колеса; [XII] колыбель.

## Другі звод. Другі спіс

Запісана вучнем Свіслацкай семінарыі Ракоцкім у вёсцы Рабуні Вілейскага павета Віленскае губерні. Звернем ўвагу на апошні, дванаццаты прыпіс П. Шэйна да дадзенай публікацыі: у архіве навукоўца могуць захоўвацца падобныя “вирши” “въ бóльшемъ количествѣ”.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку: П. Шейн, *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западного края*, т. 2, Санктпетербургъ 1893, с. 677–680.

# *Вирша новѣйшей формаціи*

Цяперъ у насъ такихъ много,
Што ня помняць на Бога,
А на ближняго никóли,
Же чиняць по своей воли.
Бога свойго зниважаимъ[I][1],
Ворожбитовъ призываимъ,
Ствурца неба ображаимъ[II],
Хоць неправду присягаимъ.
Свя́та[III] хоць ня много маимъ,
И то на мши ня бываимъ,
А на Бога нарекаимъ,
Што отъ Яго ласки ни маимъ.

[1] Рымскімі лічбамі пазначаны словы, якія пераклаў (ці пракаментаваў) П. Шэйн.

Можно вѣдаць, хоць Богъ нявинны тому:
Якая заслуга наша,
Такая намъ отъ Бога па́ша.
Бацьку и матку клянець, лаиць,
Еще изъ золокъ потримаиць;
Жалѣиць ковалка хлѣба,
Вонъ гониць изъ хаты, – ня треба.
Коли даешь рукамъ волю,
То помни на свою нядолю.
Цяперъ на свѣцѣ занедбаюць[IV],
Часомъ по дзвѣ жо́нки маюць,
А жонки часомъ пяць мужикоў;
Бо цяперъ свѣтъ такоў, –
Што чужо ўзяў, то ня грѣхъ,
Разумѣць сабѣ быць на смѣхъ;
А часомъ чужое украсьци,
Абы тольки якъ не попасьци.
Ближняму добра ня жычиць[V];
Хоць яму́ што позычиць[VI],
Ёнъ позычиць на тое,
Капъ сыскаць зъ яго ў трое.
Увесь свѣтъ бы мѣць хоцѣли,
Капъ мы только силу мѣли.
Судьдзя, ци панъ судзиць по тымъ,
Кого видзиць богатымъ;
Хто боли даў, – праўда того,
Худы пропаў, – вины яго.
Пыху[VII] ў сэрцу своимъ маиць
Мизэрнымъ нагаржаець[VIII].
Надъ крыхою[IX] хлѣба млѣиць,
Голодному даць жалѣиць.
Гнѣваица брать на брата,
Клятба, крику поўна хата.
Систра зъ сястрою грыжи[X] досиць,
Капъ пропала Бога просиць.
Завидуешъ ты другому,
Што поводзитца ў яго дому:
Маиць хлѣбы, маиць пчо́лы,
Ты бъ хоцѣу, капъ ёнъ быў голы.
Бога хвалиць ляницца,
Яму́ ня хочацца молицца.
Што духовны навучаиць,
Ёнъ и тое нересмѣваиць;
Побожныхъ словъ ня взываиць

И кломствомъ[XI] называиць.
По мшу пойдзець зъ міра збирäць,
Капъ ничо́го свое ни дäць.
Ў косцелѣ ня бываиць спѣвакомъ,
На кириаши ходзиць ракомъ.
Осянины часомъ у цябе, –
Тогды нима роўны табѣ.
Гдзѣ хрезбины чуваишъ,
Хоць ня кумомъ, – тамъ бываешь,
А ў вясельли хто съ приносомъ,
А ты перши придзешъ зъ носомъ;
Пьешь, яси́, ашъ празъ горло,
Ни одному и назадъ поперло.
Али гдзѣ горѣлка бываиць,
Часомъ и на смерць запаляець;
А ни запалиць, дыкъ повалиць по дорозѣ,
Одморозишь руки, ноги, –
Вотъ тогды вѣчны убоги.
Пойдзешь тогды по горэлымъ,
Што празъ своволю сголѣлымъ.
Якъ святы дзень пройшоў, –
Ўзяў мяшо́къ насыпаў
Ды ў каршму пошоў, –
Што́ пропіў, а рэшто згубіў.
Тольки сабѣ заліў во́чи,
Пришоў домоў ў ночи.
Якъ ўстануць ў дома сварицца,
Ёнъ ня уцярпѣў, зачаў бицци.
Ахъ! не съ такимъ осподарствомъ, брацьця,
Капъ ня были пустки ў хацѣ.
Якъ станемъ на страшнемъ су́дзѣ,
Ня добра тамъ такимъ будзя:
Добрымъ до неба на вѣки,
А злымъ до пекла на мэнки.
Ня выкупиць бацьки и маци,
Хоць бы роднаго дзицяци,
Ани панъ слуги своей,
Хоць у яго гроши много.
А тамъ хоць найбольшому пану,
Ўсё яму будзиць дано.
Якъ хто скажиць праўду зъ боку,
Дыкъ яму́ якъ соль ў во́ку.
Што годъ мяжу́ разрываиць,
А ўсе тамъ хлѣба шукаиць.

А ў-мяжи́ ни знайдзишъ хлѣба,
Капъ Богъ даў намъ такъ и неба.
Мы дзивимся гаратно́му,
Што ёнъ часомъ радъ чужому.
Инши ажъ надто свойго маиць.
А ўсё чужого хапаиць.
Скольки снопоў одмоло́ циць,
Стольки и на торгу поволочиць.
А цяперъ, пане, Якиме,
Будзимъ молоцици и мякине**XII**.

***Заўвагі П. Шэйна:*** [I] Зневажаць: поносить, безславить, ругать. *Сл.* Носовича; [II] оскорбляемъ; III *свя́то* – праздникъ; [IV] отъ гл. занедбаць – оставить безъ вниманія, въ пренебреженіи. *Сл.* Носовича. Далѣе видно недостаетъ стиха; [V] желаетъ; [VI] дасть въ займы, одолжитъ; [VII] гордость, спесь. *Сл.* Носовича; [VIII] надъ бѣдными издѣваются; [IX] крохою; [X] *грыжа* – ссора, брань, ворчаніе на всякую бездѣлицу, частые выговоры. *Сл.* Носовича; [XI] кломство – съ польск. kłamstwo: ложь, неправда, обманъ; [XII] Подобных виршей не мало въ ходу среди русскаго населенія Сѣверо-Западнаго края. Несмотря на неуклюжесть ихъ внѣшней формы, онѣ отличаются значительнымъ богатствомъ своего религіозно-нравственнаго и бытоваго содержанія, и потому не могутъ не послужить подспорьемъ для научныхъ изслѣдованій въ области этногафіи означеннаго края. Со временемъ мы надѣемся сообщить этого рода виршей въ бо́льшемъ количествѣ.

## Другі звод. Трэці спіс

Запісаны, відавочна, Е. Раманавым. Друкуецца паводле: Е. Радимичъ, *Милостивый Осипъ, или Милости хочу, а не жертвы: Быль*, Витебск 1896, с. 21–22.

## *Казанье*

Вотъ видите вы, дѣти,
Якіе теперь люди на свѣти:
Пышный на бѣднаго не спогадаеть,
Хлѣба-соли ему не позычаеть,
А бьетъ на тое,
Штобъ содрать зъ бѣднаго
Водвое и втрое.
Придеть у церкву,
Самъ стоитъ у злоти,
А голову́ держить
Якъ на коловро́ти:
Ни ему Богу молитца,
Ни ему одёжей хвалитца!
Ёнъ хорошо до обѣдни наѣвся,
И тепло, пригоже надѣвся.
А выйдеть изъ церквы,

Кру́житца, верти́тца,
Якъ бы коло бѣднаго
Горѣлки напитца.
Не стыдно богатому и ўкрасти,
Да на бѣднаго напасти.
А стань говорить – слухать не хочеть,
Морду завернеть, болмочеть.
Усего ему мало:
Мало соли, мало хлѣба, –
Еще болѣй треба.
А кабъ силу мѣли,
Увесь ба свѣтъ хотѣли.
Одинъ у Бога просить хлѣба и пчелъ,
А другій просить, кабъ ёнъ пропавъ и ставъ голъ!
Да не такъ часто мы ходимъ и молитца:
Звыкли дома сидѣть, хочемъ лѣнитца.

Дакъ воть видите, дѣти,
Якіе теперь люди на свѣти!
Одна жонка трехъ мужиковъ любить.
А на Бога нарекаеть,
Што ласки отъ Яго не маеть.
А посудимъ мы хоть кого!
Ти не видить же Богъ того?
Мужикъ и себѣ трехъ жонокъ маеть,
И за смѣхъ почитаеть.
Батьку-матку старыхъ не ўважаемъ
Здѣкаемся надъ ими, ругаемъ,
И гонимъ ихъ вонъ отъ себе безъ хлѣба,
Яны намъ теперь не потреба!

Ти видите вы, дѣти,
Якіе теперь люди на свѣти?
Братъ на брата – крику полна хата;
Сестра на сестру несеть клятьбу.
Нема никого, хто боли,
Уси пошли по своей воли:
Насыпавши мѣшокъ, да въ корчму понёсъ,
То на мазь, то на соль, –
А самъ остався, якъ бизунъ, голъ!
Гдѣ горѣлку почуеть,
Тамъ и днюеть и ночуеть;
А у шкаликъ якъ зазвонють,
Такъ его діяволъ туды й гонить!

Дакъ видите вы, дѣти,
Якіе теперь люди на свѣти!
Не робьте, дѣти, вы такъ...

### Другі звод. Чацвёрты спіс

Выяўлены Л. Баршчэўскім у аддзеле рукапісаў бібліятэкі імя кн. Чартарыскіх у Кракаве напрыканцы 2014 г. Упершыню апублікаваны ў часопісе "Acta Albaruthenica" 2016, t. 16, s. 317–321. Л. Баршчэўскі дае наступнае яго апісанне: "Рукапіс складаецца з аркуша паперы шэрага колеру фармату А 4, перагнутым папалам, з тэкстам, напісаным ад рукі ўпоперак у дзве калонкі з абодвух бакоў аркуша. Тэкст займае тры поўныя старонкі, на апошняй, 4-й старонцы, 2 радкі. Кожны радок рукапісу мае два вершы (усяго іх 206), кожны парны верш пачынаецца з працяжніка". Дадазім: перапісчык непаслядоўна карыстаўся дыякрытычнымі знакамі, ужываў таксама асобныя "старыя" літары і інш.

Друкуецца паводле фотакопіі Muzeum Narodowe w Krakowie, Biblioteka ks. Czartoryskich, oddział zbiorów rękopisów, sygn. 13139. XVIII–XIX w. Luźne i poszyty. Archiwum szczuczyńskie Druckich-Lubeckich. Wiersze przeważne patriotyczne, satyry polityczne, rozprawki, tłumaczenia, varia literackie. Archiwum Druckich-Lubeckich. Nr 66, k. nlb.

## Wiersz Ruski o Religii i Obyczaynosci

U nas teper takich mnoha –
Szto nie|pomniec wżo na Boha;
A na bliznoho nikoli –
Wsio czyniac po swoey woli.
Boha swayho znieważajut –
Waraźbitow pryzywajut,
Na Stworcu Nieba nie|dbajuć –
Choc nieprawdu przysiahajuć.
Swiata choc nie mnoho majem –
I to na Mszy nie bywajem.
A na Boha narekajem –
Szto w chacie chleba nie majem.
Jak my z Bohem, tak Boh z nami –
Pastuplajec hultajami.
Chocisz miec szto w tym papraw się –
Tolko skoro a nie baw się.
Backu Matku znieważajesz –
Za|szto wiek karotki majesz. +[1]
+ Scierwiak, hniłka prezywajesz:

[1] Радкі 19–24 спачатку былі запісаны пасля тэксту твора, а пасля дапісаны на першай старонцы збоку.

+ Starych z chaty wyhaniajesz,
+ Za takojo paruhanie:
+ I Backow nieszanowanie
+ Takim dzieciom oy! po uszy:
+ W piekle pryidziec byc da duszy!
Zaliesz kawałka chleba –
Won honisz z chaty ~~choc~~ nie|treba.
Kali rukom dajesz wolu –
Pomniy na swoju niedolu.
Chto iezykom bic parwiecca –
Tamu treba w piekle hrecca.
Ciepier na Boha nie|dbajuć –
Bo wżo pa dwie Żonki majuć.
Żąka czasom troch mużakow –
Wot ciepier swiet nie takow!
Szto czużoje wziat to nie hrech –
Razumiejesz być to za smiech.
A czasom ciszkom ukrasci –
To wżo jakby mieł w prepasci.
Blizniomu dobra nie życzysz –
Choc jomu szto i pażyczysz
Bo pożyczajesz na toje –
Sztoby odabrał we dwoje.
Mało hroszy, mało chleba –
Mało ziemli, boley treba.
Wieś swiet zharnut odyn chatiew
Kali|b z stolki syły miew.
Prydet sudyt tabie kaho –
Pier uhlaniesz na bahataho.
Chto dasc boley, prawda taho –
Chudy prapaw, wina jaho.
Pychu w sercu swoim majesz –
Mizerakow znieważajesz.
Nad kryszkoy chleba mlejesz –
Hołodnomu dac żalejesz.
Hniewajecca Brat na Brata –
Czasem kryku połna chata,
Mież siestrami kladby dosyc –
Kap prapała Boha prosic.
Zawidujesz szto druhomu. –
Szto wiedziecca w jeho domu,
Majec chleba, majec pszczoły –
Ty|b chaciew [jak ty] kab ion byw hoły.
A Boha chwalić lenicca –

I nie choczec tož malicca.
Szto Duchowny nauczaiet –
Toje on wsio presmiewajet.
Chto haworyt szto ab Boha
Tepier nie lubiet takoha.
Swiatych słow nie prymajut –
Jeszcze płutem nazywajut.
Nie nakormic haładnoha –
Ani pakryjec nahoho.
Jeszcze czasem nasmiewaiut –
Z tych szto niczoho nie maiut.
Szto hod mieżu przydzieraiesz –
Usio tam chleba szukajesz
Ale z mieży czużoy niemasz chleba –
Sztob mnie tak dau Boh i Nieba.
Sny dziwiom się haratnomu, –
Szto nie|majet, rad cużomu,
Inszy nadto swayho majec –
Taki czużoje chapajec.
Jak staniem na Strasznym Sudzie –
Nie dobro tam takim budzie.
Dobry poydzie w Boskie ruki –
A ~~zły~~ ladaszty w Piekła muki.
Kab można ad tul wiernucca –
Moch|by lepiey pakranucca,
Ale wżo tam byt nie|może –
Bo tak stało słowo Boże.
Nie adkupic Backo, Maci –
Choc|by rodnoho dziciaci,
Ani też Muż lubey Żony –
Choc jon byw iey prysiażony.
Ani też Pan słuhy swaho –
Choc u niaho hroszy mnaho.
Tak kab naybolszoho Pana –
Taki budziec skura drana.
Taki szto cużomu chciwy –
Chrescianin nieprawdziwy,
Pan Boh raskazow blizniomu –
Żyć iak sam samomu.
Nie czyni krywdy nikomu –
Day Bratu szto majesz w Domu
Xiędzu czasem dac nie choczysz –
A w Karczmu zausiod wałoczysz. B.[1].

[1] Радкі 107–110 напісаны збоку.

B. Chto z patreby pa harełku –
B. Ty za nimi pomalenku
B. W Karczmie przez dzien prebywajesz
B. Harełycu papiwasz,
Na Mszu idziesz z mira zbierac –
Kab niczoho swoyho nie dac,
Umierłych chawat nie choczysz –
A na chałturach chachoczysz.
Na Duszu zapominajesz –
Mszy Swietoy nie zakuplajesz,
W Cerkwi nie iość ty spiewakom –
Na kiermaszach chodzisz rakom
Do spowiedzi nie uczeszczajesz –
Chyba raz w rok bywajesz.
I to ieszczo nie za cnoty –
Boday tolko nie z nudoty.
Pacier z małku nie uczywsia –
Jak pabolszam, zaleniwsia,
Każesz, Backo toż nie|umiew –
Chleb dzialtoho dobry miew
Jak chleba staniec nie mnoha –
Tahdy wspomnisz i na Boha,
Aż jak tolka chleb zjawiwsia –
Znowu na Boha zabywsia
Z kolko snopow premałocisz –
Zaraz w Karczmu pawałoczysz,
Na żelezo, toż na koły –
Aż niet hroszy, i sam hoły.
Tolko szto sam zaliw oczy –
Nie doydziesz da Domu w noczy.
Połowinu hroszy prapiw –
A szto było resztu zhubiw.
Jak staniec w Domu swarycca –
A prytom zaczniec i bicca
Z takim haspadarstwem Bracie –
Pustki byc mohuć u chacie.
Bo poko małocisz –
Poty i na torch wałoczysz
A potym Panie Jakimie –
Nada malicca miakinie.
Sztob tabie dau Boch i mnoho –
I z taboy było|by niczoho
Ale z czym Bracie byw hoły w kałysce –
Z tym bydz pryidzie i $^{w}$ mahice.

U Łapuszki prehrywajesz –
[A] u chacie i chleba nie majesz.
A choc czasem i chleb majesz –
Na hru z chaty prykradajesz.
W asieninach w pierad ciebie –
Tam nie majesz rownych siebie.
A hdzie chrezbiny czuwajesz –
Choc nie kumem tam bywajesz.
Na weselu chto z prynosem –
A ty pierwszy pryidziesz z nosom.
Jak u flaszki chto zadzwonie –
Tam ciebie jak licho honie
Pijesz mnoho, aż po horło, –
Nie darmo nazad papiorło.
Za toje kara nie ad Boha –
Ale ad ciebie samoho.
I z harełki to bywaje –
Szto da smierci zabiwaje
A czasem szto i zapalic –
Albo na darozie zwalic.
Ad marazu ruki nohi –
Ot ciepier wieczny ubohi.
Jak wżo bankiety minucca –
Wspomnisz koło czoho zawinu…[1]
Pojdziesz da chaty skalełym –
A ~~szto~~ prez swywolu zhalełym
Szto dzien dakuczajesz Bohu –
Kap tabie dau zapomohu
Nuż kali szto ukrasci możysz –
Uziac tam hdzie nie pałozysz,
Pabożny dajec dla Boha –
Choc i sam nie maiec mnoha,
Wymandrujesz usie sioły –
Jak byw, tak i budziesz hoły.
Na swiecie żywiac nie mnoha –
A mnoho kraduc czużoha.
Jak na toj swiet prybieracca –
Ty nie choczysz spawiadacca,
A tam za czużoje Czerci –
Buduc w piekle skuru dzierci
Nie znajut Nieba, ani hrechu –
Ani toż ludzkoho smiechu
Inszy aż pokul zhynie –

[1] Апошнія літары слова адсутнічаюць: папера пашкоджаная.

Хлѣбъ и мясо давали − слова нѣтъ.
Мы-бъ тогды у всю польшь забрали,
Но якъ выйшли мы въ поле,
И стали мы въ долѣ,
И споткалися, якъ ціомная туча, зъ Москалями,
Такъ не вѣдаемъ, што и дзѣлаць сами!
Тыи якъ жаруць, такъ жаруць и огнемъ и мечемъ,
А мы кабъ и хацѣли, такъ нѣчимъ.
Ци прахъ москалю давъ близко къ намъ падходзиць,
И ждаць, пакуль мы зачнемъ головы имъ косиць?
Ихъ кули по яйцу добромъ кали ушей свищуць,
А наши коменданты еще ботовъ ищуць.
Правда, што зъ вечера іоны падпили и смачно падъѣли,
Такъ нечего дзивицься, што-й спаць захацѣли!
А москали неуважаюць,
И милосьци на мужиковъ немаюць!
Тырь, тырь, тырь – съ ружья, нѣтъ имъ и уходу,
А нашому мужику брату, хоць ты бовць у воду!
Ціомна, ціомна въ очахъ, да въ ушахъ звениць,
Да галубки, ажь волосъ дыбомъ становиць!
Якъ заиграли москали въ свои гармаци[Ib],
Такъ и духу нѣтъ у нашей браци!
И комендантъ тогды прочнувся,
Якъ погибели дачувся;
Што москаль моцъ свою ужо взявъ,
И смѣло къ мѣсту приступавъ,
Крыкнувъ тольки: дзѣтки! да брони!
Агу! мы пазнали што не на прыгони!
Дзѣ урядникъ, зайшовши, у засѣни храппець,
И нашъ братъ съ працы смѣло оддыхнець.
А тутъ надо крѣпко драцься,
Да и на силы здобывацься.
Правда и у насъ была одна дубовая ступа,
Да видзь іона и зрабліона неглупо:
Желѣзными обручами збита,
Густо, тлусто порохомъ набита.
А якъ пришлося намъ зробиць зъ нее загнетъ[Ic],
Такъ на гэту пору и огню у насъ нѣтъ,
Бо то въ нашей польши,
Кожденъ хочець быць большый.
Ты за огніомъ идзи! ты идзи! одзинъ кажець на другого!
Видзь нихто непослухавъ, небоявся Бога,
А москали неуважаюць,
Кулями якъ жаруць, такъ жаруць,

Якъ несхвацило у насъ зъ пановки,
Видзимъ, што не переливки,
Што москаль смѣло въ городъ уступаець,
Рѣзаць, вѣшаць, калоць у всихъ чисто маець,
И комендантамъ тогды укололо въ пяты,
Крыкнули тольки: “уцекайце ребяты”.
Дзѣ кто можець зъ косами,
Ховайцеся за углами!”
А сами свиснувши по коняхъ, да дай|же въ драку!
А нашему мужику брату горѣй[Id] за сабаку!
Ни сюды, ни туды, ни въ лѣво, ни въ право!
Якъ свиньи въ плоци, худа наша справа!
Ужо видно намъ братъ, тутъ не косиць,
Хацѣлося-бъ человеку земельки порицъ.
Ци прахъ его цѣлое лѣто будзець зъ косою за угломъ стояць?
Надо-бъ якъ нибудь до домовъ уцекаць,
По мху, по болоцѣ, хоць троху[Ie] промокъ,
Хвала-жь тобѣ Боже, што въ хату уціокъ!
Вотъ тобѣ польская война! Кабъ ее вѣкъ не знаць,
Адкуль можно жовнерамъ смѣло уцекаць.
Косы паламали, ничого недоказали,
А якъ пришлося по Петрѣ сѣно косиць,
Такъ незашто было и косы купиць,
Богъ васъ галубки одъ гэтога сцерогъ,
Што вы не выйшли изъ хаты за порогъ!
Што вы въ гэту кашу не мѣшались,
Дай-же вамъ Боже, доугій вѣкъ весіолый,
Кабъ вы и мужики не были голы,
Кабъ вы сами своимъ розумомъ управляли,
И николи комисарамъ вѣры не давали,
Дай-же вамъ Боже, кабъ вы зъ москалями,
Веселились якъ зъ друзьями,
За ихъ плечами, якъ за муромъ[If] сѣдзѣли,
Одъ ихъ помощь въ потребѣ и нещастью мѣли.

***Заўвагі-пераклад М. Дзмітрыева***: [Ia] лихорядка; [IIb] пушки; [Ic] выстрѣлъ; [Id] хуже; [Ie] немного; [If] стѣною.

## Пяты спіс

Захаваўся сярод матэрыялаў М. Федароўскага ў фондзе 438 (*Materiały do baśni, podań, przypowieści, anegdot i opowiadań do tomów I, II i III Ludu Białoruskiego. Bruliony i czystopisy z warsztatu Michała Federowskiego*) Кабінета рукапісаў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта ў двух версіях: чарнавік (пісаны невядомаю асобаю; праўкі алоўкам – М. Федароўскага; ім жа пазначана: “Nowogródzkie,

w. Boryszyn”[1]) і чыставік, прызначаны для друку[2]. Аднак пазней аўтарам *Ludu Białoruskiego* было прынята наступнае рашэнне адносна, праўда, іншага тэксту, але, думаецца, тым жа прынцыпам кіраваўся ён і ў дадзеным выпадку: “Сярод старэйшага пакалення засцянковае шляхты і дваровых афіцыялістаў дасюль яшчэ кружляюць тут урыўкі з вядомае *Гутаркі старога дзеда*. Але з тае прычыны, што гэты твор не народнага паходжання, бо, як вядома, у палітычных мэтах быў надрукаваны ў Парыжы (гл.: *Wielka Encyklopedia Illustrowana*, t. VIII, s. 652), а таму лічым за збыткоўнае змяшчаць яго тут”[3].

Фрагмент (24 радкі), транслітэраваўшы на грамадзянскі шрыфт і мадэрнізаваўшы тэкст) апублікаваў Я. Саламевіч у кнізе *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1971, с. 44.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу: Rkps BUW 438, vol. VI, nr 21.

## *Hútarka*

Kinuu, rynyu paustanie[4]
Prybieh k Tabie Mospanie[5]
Ja k twaim nożkam Panie[6] prybiehaju
Światym Tadeusam pazd***p***aulaju[7]
Uzdumali pany Poszcz[8] waracić
Badaj ci nie lepej Sudaru[9] służyć
Polsczy ni adbili, narod pahłamili[10]
A biedy pa uszy narabili
Jak harełku dzialili, chleb[11], miaso dawali
Słowo niet, my|b Polscz usiu sabrali[12]
Da jak wyszli u pole, stan***y***li u[13] dole

---

[1] З вёскі Барышына паходзяць наступныя тэксты: *Hútarka* і творы В. Пратасэвіча. Пісаны яны адною рукою, на аднолькавай паперы (вузкія доўгія палосы; папера разлінеяна гарызантальна і – лініямі чырвонага і блакітнага колеру – вертыкальна; такая сярод рукапісаў М. Федароўскага сустракаецца вельмі рэдка, прычым парэзаная на невялікія карткі).

[2] Rkps BUW 438, vol. I, nr 21, k. 59–63.

[3] M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej: Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1894*, t. 3: *Baśnie, przypowieści i podania ludu z okolic Wołkowyska, Słonima, Lidy i Sokółki*, cz. 2: *Tradycye historyczno-miejscowe oraz powieści obyczajowo-moralne*, Kraków 1903, s. 18–19.

[4] Папраўлена алоўкам: *K*inu*й,* ryn*uй* pa*й*stanie.

[5] Папраўлена чарнілам: *t*abie *m*ospanie.

[6] Папраўлена чарнілам: *p*anie.

[7] Папраўлена алоўкам: Tadeu*s*zam pazd*r*a*й*laju (тут, магчыма, было *р* грамадзянскага шрыфту).

[8] Папраўлена чарнілам і алоўкам: *Й*zdumali ... Po*l*szcz.

[9] Папраўлена алоўкам і чарнілам: lep*i*ej *s*udar*u*.

[10] Папраўлена алоўкам: Pols*z*czy … pahł*u*mili.

[11] Папраўлена чарнілам: har*y*ełku … chl*y*eb.

[12] Папраўлена чарнілам і алоўкам: Słow*a* ... Pols*z*cz *й*siu *z*abrali.

[13] Папраўлена алоўкам і чарнілам: *й* ... stan*u*li (тут, магчыма, было *у* грамадзянскага шрыфту) *й*.

Spatkalisie jak ciomnaja tucza z Maskalami
Tak i niewiedajam[1], szto dziełaci sami
Tyje[2] jak zarać tak zarać i ahniom i mieczam[3]
A my choć chacieli|b tak dapraudy[4] nieczym
Była u nas stupa abruczami zbita
I tłusto i husto poracham nabita
Da jak pryszłosie zrabić zahniet
Tak i achnia[5] padać kamu niet
Bo hetak ŭ nasuj[6] Polszczy
Usiaki chacieu być bolszy[7].
Ty idsi![8] ty idzi![9] adsim[10] na druhoho
Nichlo nie pasłuchau[11], nie bajausie Boha[12]
Jak nie spaliło s panauki[13]
Widziać szto ni pieszoliuki[14]
Szto maskal u[15] horad pastupaje
Usich czysto rezać[16] i kałoć maje
I kamadanta ukałoło u|piatu[17]
Kryknuu tolko “uciekajce rabiatu![18]
Hdzie chto moża s[19] kasami
Chawajciesie za uhłami
A sami uziauszy po[20] koniach day dalej u draku
A ty nasz brat mużyk puszcze[21] za sabaku
Ni siudy, ni tudy, ni u lewo ni u[22] prawo

---

[1] Папраўлена чарнілам: nie wiedajam.
[2] Папраўлена чарнілам: Tyj*a*.
[3] Папраўлена чарнілам: miecz*ä*m.
[4] Папраўлена алоўкам: dapra*й*dy.
[5] Папраўлена алоўкам: a*h*nia.
[6] Папраўлена алоўкам: nas*z*uj.
[7] Папраўлена алоўкам і чарнілам: chacie*й* ... b*ö*lszy.
[8] Папраўлена алоўкам (*z*) і чарнілам (*!*): id*z*i*!*
[9] Папраўлена чарнілам (*!*): idzi*!*
[10] Папраўлена алоўкам (*z*) і чарнілам (*n*): ad*z*i*n*.
[11] Папраўлена алоўкам і чарнілам: Nich*t*o ... pasłucha*й* ... baja*й*się.
[12] Папраўлена чарнілам: Boh*a*. Апошняя літара ў слове перакрэслена так, што немагчыма прачытаць, што было на яе месцы раней.
[13] Папраўлена чарнілам і алоўкам: *z* pana*й*ki.
[14] Папраўлена чарнілам: pierali*й*ki. “ПЕРЕЛИВКИ <…> 3. Пустое занятіе, какъ бы переливаніе изъ пустого въ порожнее. *Гето тобѣ не переливки*. Посл.”. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...*, с. 405.
[15] Папраўлена чарнілам: *M*askal ... *й*.
[16] Папраўлена чарнілам: *Ŭ*sich … r*y*ezać.
[17] Папраўлена чарнілам і алоўкам: kama*n*danta ... *й* piat*y*.
[18] Папраўлена чарнілам і алоўкам: Kryknu*й* ... rabiat*y*.
[19] Папраўлена чарнілам: *z*.
[20] Папраўлена чарнілам: *й* … p*a*.
[21] Зверху чарнілам: *horszy*.
[22] Папраўлена чарнілам: *й* ... *й*.

Jak świnia u płocie[1] kiepska nasza sprawo
Użosz jak niebuć[2] tut nam nie krucić
Chaciełosie|b[3] tolka czaławieku żyć
Po mchu po bołuci[4] choć trochi pramok[5]
Chwała tabie Boże[6] ceł taki uciok
Boh cibie panoczek ad hetaго ścieroh[7]
Szto ty nie[8] wystupiŭ s chatki na paroch
A czerez heto wiernym sudaru astaŭsie
Pa pietroucy[9] prydziećsa sieno kasić
A tut niezaszto i kasy kupić
Żywi Panie[10] zdarowy,
Jak ryżyk barowy[11]
Miej torbu hroszy
A biedy ni troszy[12]
Żywi Panie żywi daj hudki[13] ni|maj[14]
Tym cibie wienczujeć[15]
Bondar Sewasciej[16].

## Шосты спіс

Рукапіс захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў калекцыі дакументаў аддзела рукапісаў Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні (паперы Беларускага навуковага таварыства ў Вільні). Працяглы час (хіба, да пачатку 1990-х гг.) гэтыя паперы ў складзе папкі “Белорусское буржуазное научное общество” знаходзіліся ў закрытым фондзе з грыфам “сакрэтна”. Праўда, дакумент ведалі складальнікі хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* (Мінск 1971), якія, аднак, для хрэстаматыі выкарысталі фрагменты тэксту з бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта.

Твор запісаў Іван Луцкевіч “у 1903 г. ўлетку у Лепельскім павеце, вёсцы Ухвішчы, ад лясьніка Канстантына Косьцюка”. Ім жа дадзены, відавочна, і тытул: не ведаючы публікацыі 1848 г. славуты дзеяч беларускага адраджэння

[1] Папраўлена чарнілам: *ŭ* ... plоc*i*.
[2] Папраўлена чарнілам: Użo*ż* … niebu*dź*.
[3] Папраўлена алоўкам: Chacieł*a*sieb.
[4] Папраўлена алоўкам: p*a* … p*a* ... b*a*łucie.
[5] Закрэслена слова *pramok*, але алоўкам зверху яно напісана зноў.
[6] Папраўлена чарнілам: Boż*a*.
[7] Папраўлена чарнілам: B*ŏ*h ... panocz*a*k … heta*h*o ściér*ŏ*h.
[8] Папраўлена алоўкам: n*i*.
[9] Папраўлена чарнілам (*P*) і алоўкам (*ŭ*): *P*ietro*ŭ*cy.
[10] Папраўлена чарнілам: *p*anie.
[11] Словы “Jak ryżyk barowy” “перацягнуты” ў папярэдні радок.
[12] Словы “A biedy ni troszy” “перацягнуты” ў папярэдні радок.
[13] Зверху над словам алоўкам пастаўлены пытальнік (?).
[14] Папраўлена алоўкам: ni maj.
[15] Папраўлена чарнілам: win*s*zujeć.
[16] Словы *Bondar Sewasciej* “перацягнуты” ў папярэдні радок.

палічыў, што гутарка ўзнікла пасля паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Дужкі, у якія першапачаткова ўзятыя словы “аб паўстаньні 1863 году”, пазней скрэслены.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: БДАМЛіМ, ф. 3, вып. 1, адз. зах. 275, с. 3–5.

## Сялянскі верш
## (аб паўстаньні 1863 году)

Кінуўшы рынуўшы паўстане,
Прыбег к табе, маспане.
Ліха іх пабяры,
Польскія каўняры!
К тваім ножкам прыпадаю
І з сьвятым Тадэушам паздраўляю.
Здумалі паны Польску вараціць,
А бадай чы ня лепей гасудару служыць.
Бо Польшчу не зрабілі
І народ паглумілі,
І сабе бяды па вушы нарабілі.
Як гарэлку дзялілі, хлеб, мяса давалі,
Слова нет: мы ўсю Польшу забралі[1].
Але як выйшлі ў поле
І сталі ў доле,
Як спаткаліся як цёмная туча з маскалямі,
Ня знаем, што і дзелаць, самі.
Яны як жáруць, так жáруць агнём і мечам.
Чы прах яго! Пад нас блізка падходзяць.
Чы ждаць датуль, пакуль зачнуць галовы касіць?
У іх кулі па яйцу добрым, як каноплі, сьвішчуць,
А нашы каманданты яшчэ ботаў ішчуць.
Слова нет: звячора добра падпілі,
Нечага дзівіць, што спаць захацелі.
А яны як тыр, дык тыр! – нет уходу,
А нашаму брату хоць ты боўць у воду!
Як зайгралі ў усе армаце,
У нас палякаў нет і духу, браце!
Маскаль з места суступаець,
Крычыць: вешаць, калоць нас усіх чыста маець.
Тады і наш камандант прачнуўся,
Як пагібелі дачуўся.
Крыкнуў: dziatki, do broni!
Пазналі мы, што нам не на прыгоне:

[1] У слове “забралі” цяжка вызначыць якой першасна была літара – “з” ці “с”.

Бо як даўней на прыгоне враднік пад кустом храпнець,
То і наш брат сьмела з працы адпачнець.
А цяпер нада брацца,
З усей сілы упраўляцца.
Праўда, і ў нас была ступа дубовая,
Жалезнымі абручамі зьбітая
І туста (?) поўна порахам набітая.
Але|ж падлажыць загнет
Агню падаць каму нет.
“Ты ідзі! Ты ідзі!” – адзін на другога.
Ніхто не пайшоў, не баяўся Бога!
Ні ўлева, ні ўправа:
Як сьвіньня у плоце, худа наша справа.
Калі у нашай Польшчы
Кажды хочаць быць большы.
Тады нашы каманданты,
Пасядаўшы на коні, у дарогу!
А ты тут прападай за Бога (?)
Чы прах яго: будзем стаяць?
Трэба як-небудзь уцякаць.
Па маху, па балоту,
Хоць трохі абмок,
Але слава Богу,
Што ад вайны ўцёк.
Ну, і цябе, паночак, Бог сьцярог,
Што ня выступіў з сваёй хаткі за парог,
Што ў нашу касьбу не ўмяшаўся,
За то і гасудару верным астаўся.
Дай Божа табе, паночак, век доўгі, вясёлы!
Каб быў я пры табе, ня быў бы я голы.
Бо мы косы паглумілі
І Польшчы не зрабілі,
А як прыдзецца па Пятрэ касіць,
То і няма за што і касы купіць!

## *Парай, міласцівы пане...*

З сярэдзіны 50-х гг. XX ст. прыцягваў увагу беларускіх даследчыкаў рукапісны зборнік, які захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі Навук імя Урублеўскіх (Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka) у фондзе 21, сігнатура 927. Трапіў ён сюды, відавочна, з Музея Івана Луцкевіча.

Невядомы аматар прыгожага пісьменства (польскага, беларускага, расейскага і ўкраінскага), а таксама народнай творчасці напрыканцы XIX – пачатку XX ст. занатаваў у адмысловым сшытку на 292 старонках шэраг цікавых літаратурных твораў. Перапісваў ён, відавочна, з друкаваных выданняў і рукапісаў. З беларускіх мастацкіх твораў у першую чаргу варта назваць вершы і вершаваныя апавяданні Ф. Багушэвіча са зборніка *Дудка беларуская* (1891): *Zdarenia*[1] (s. 102–106), *Kiepska budzie!* (s. 106–130), *Вуй и czyscy* (s. 130–137), *Chreśbiny Maciuka* (s. 137–141), *Maja chata* (s. 141–144), *Praŭda* (s. 144–147), *Maja dudka* (s. 147–153), *U sudzie* (s. 153–154), *Jak praŭdu szukajuć* (s. 154–164), *Boh nia roŭna dziele* (s. 164–166), *Durny mużyk, jak warona* (s. 166–169). Парадак размяшэння тэкстаў Ф. Багушэвіча, а таксама тое, што іх тут адзінаццаць, а не дзевятнаццаць, паказвае, што перапісчык карыстаўся, верагодна, не самім зборнікам, а ягонаю рукапіснаю копіяй. У той жа час ён ведае, хто аўтар твораў, бо ўсе яны падпісаны: “Przez Buraczka”. Параўнанне дадзенага рукапісу з першавыданнем *Dudki Białaruskaj* намі не праводзілася.

Ведае перапісчык і гутарку Ф. Тапчэўскага *Pańskaje ihryszcze* (s. 170–173), але не са зборніка Ф. Багушэвіча *Smyk Białaruski* (1894), а з нейкай іншай крыніцы: на гэта звярнуў увагу яшчэ У. Абрамавічус[2].

Асноўнае месца з зборніку займаюць ананімныя творы. Некалькі з іх – даволі вядомыя. Паэма *Taras na Parnasie* (s. 174–184) падаецца паводле невядомага спісу: перапісчык не карыстаўся ні першадрукам у газеце “Минский листок” (1889, № 37), ні аніякім іншым выданнем канца XIX ст. Тое ж можна сказаць і пра *Hutorku staroha dziada na Białorusi* (s. 86–98): перапісана яна не з друкаванай крыніцы, а невядомага сёння рукапісу ці ўзноўлена па памяці[3]. А як своеасаблівы ўступ да гутаркі змешчана тут празаічнае *Od staryha dzieda* (s. 84–86). Пасля гутаркі – у пэўным сэнсе ейны працяг *Ci znaiecia mai dzieci*? (s. 98–102).

---

[1] Тут спачатку перапісчык гук [ў] перадававаў літараю ***w***, а пасля паправіў на ***й*** (як і ў іншых беларускіх тэкстах).

[2] В. Абрамавичюс, *Библиография по белорусской литературе XIX века: Художественные и публицистические произведения, опубликованные и рукописные*, Вильнюс 1949, с. 85. [Машынапіс].

[3] Найбольш верагодна, – перапісана з літаграфаванага выдання.

Шэраг ананімных твораў зборніка невядомы чытачу. Бо хоць беларускія даследчыкі і карысталіся дадзеным рукапісам (В. Барысенка, К. Пракошына, С. Баркоўскі, С. Кліманскі, Г. Кісялёў, У. Казбярук, А. Лозка і інш.), але пра вершаваныя тэксты *Jak zaprasili cieszcza i cieść dy ziacia k sabie na cześć* (s. 77–83), *Paraj miłościwy Panie* (s. 196–197), *Powinszawannie Pana* (197–199), *Powinszawannie Popa* (199–203) ніхто не згадваў у сваіх працах

Верш *Paraj miłościwy Panie*, з аднаго боку, паказваючы цяжкую сялянскую долю, з другога, – ствараў вобраз селяніна, які недазволена нізка кланяўся "міласціваму пану". Цэнзура магла яшчэ дазволіць на "існаванне" вобраза мужыка, які хоць і нясмела ды асцярожна, але пагражаў "вяльможнаму пану" Страшным Судом, як у вершы *Скажы, вяльможны пане*, што беспадстаўна прыпісваецца Ігнату Легатовічу. І не абавязкова было навукоўцу даводзіць рэакцыйнасць паставы і аўтара верша, і ягонага героя: за лепшае лічылі проста не згадваць пра такія тэксты. Нягледзячы нават на тое, што верш *Paraj miłościwy Panie* мае даволі дасканалую форму: амаль чысты чатырохстопны харэй, дакладныя рыфмы; і напісаны жывою народнаю моваю.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, s. 196–197.

*   *   *

Paraj miłościwy Panie
Jak ja maju żyć na świeci?
Woŭk kabyłu zjeŭ u ranni
I ni zierna niet u kleci.
Z surocuŭ karowa pała
I z hołodu dzietki puchnuć
Żonka z karczmy zachwarała
Pryszłoś awosiu[1] choć zdochnoć.
Na tu biadu po śmierkaniu
Jekanom pabiŭ dawoli
Nie koniec na tom mospanie
Prybiacaŭsia jaszcze boli.
A tut papu nie ŭzhadać
Atkul tuju zsypku ŭziać
Ratuj dobrodzieju z napaści
Nie daj zhinuć i prapaści[2].

[1] Апошняя літара, магчыма, *a*.
[2] У наступным радку адно слова: *finis*.

# *Павіншаванне пана*

Захоўваецца ў рукапісным зборніку невядомага аўтара ў бібліятэцы Акадэміі Навук імя Урублеўскіх. Паходзіць, відавочна, з таго часу, калі вясковая грамада мела звычай віншаваць свайго пана (ці папа) з імянінамі. Менавіта на падставе гэтага звычаю і вершаваных узораў Я. Чачот напісаў у 1819 г. *Яжовыя імяніны*.

Структура гэтых віншаванняў аднатыпная: селянін выпадкова (ці ўдае, што выпадкова) трапляе на свята, а што не мае падарунка, дык складае "вершы".

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, s. 197–199.

*    *    *

## *Powinszawannie Pana*

Szto heta siahodnia za świata?
Usi ludzi ŭ karczmie, a pustaja chata
Pjuć, hulajuć, wiesielatca!
A u pańskom to dwore panoŭ
Jak u piatroŭki kamaroŭ.
Ni widaŭ że ja takoha narodu
Kab pili puncz jak wodu.
Ni kali|b ja ni dahadaŭsia
Sztob u swajho siabry Chomki ni spytaŭsia
A Chomka każyć, szto ty brat pytajesz,
Ci ty hetaha ni znajesz?
Jetaż naszaha pana siahodnia dzień imianin
Niaŭżo|ż pra jeta ja ni|znaŭ adzin
Ja naczaŭ ziukać, ziukać wierszy
Zhadziu dziaka po swojom pierwszy
A dziak każe: ni za swajo, ty brat, dzieła wziaŭsia
I razumniejszaha|b ty papytaŭsia
Dyk zchadżu da Kandrasza
Kab była pieśnia charasza…
„Da ty ni pan, da ty Janhieł Bożyj
„Da ci jość na ciabie chto pachożyj
„U ciabie niawinnaść, rozum, dobrota

„Usio ŭ ciabie Boh ulapiu
„Nie zatwarajutca twoi waroty
„Usi ŭ twoju roszczu
„Jak ŭ Warkałabuskuju proszczu[1]
„A ty ni z łaski jadynej
„Syplisz hroszy jak miakiny
„Niczoha by ja|b ni chacieŭ ad Boha
„Kali|b mnie daŭ takuju załotuju
„Paru jak pan i pania.
„Izwini, panok, ja|b taki i bolszy na ziukaŭ
Dy użo mój jazyk prastukaŭsia”.

[1] Маецца на ўвазе асвечанае месца ля Баркулабава, куды ў Сухую сераду (Преполовение Святой Пятидесятницы), а таксама ў іншыя святы ішлі хросным ходам.

# *Павіншаванне папа*

Захоўваецца ў рукапісным зборніку невядомага аўтара ў бібліятэцы Літоўскай Акадэміі Навук імя Урублеўскіх. З'яўляецца пазнейшым спісам віншавальнага верша *Чалом, чалом ойцец, татулька*..., апублікаванага выкладчыкам расейскае, славянскае і лацінскае моў Полацкага духоўнага павятовага вучылішча Іосіфам Цытовічам (каля 1811 – 1870) у часопісе "Маяк" (1843, т. IX, кн. XVII, с. 33–38). У І. Цытовіча тэкст падаецца, на нашу думку, даволі блізка да арыгіналу: пра гэта сведчаць восем правільных адычных строф. У дадзеным спісе – толькі пачатак твора вытрыманы ў адпаведнасці з патрабаваннямі адычнае страфы (першая аказалася, праўда, "расцягнутай" трыма дадатковымі радкамі, але другая – гэткая ж, як і ў публікацыі), ад усіх іншых засталіся толькі фрагменты.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, s. 199–203.

## *Powinszawannie Popa*

Zdaroŭ nam budź, aciec tatulka
Nia padziwi i ty matulka
Niaŭciejkoj my siudy zasli.
Byŭ ja siahodnia tut na mieście
Z swoim siabram Sapronom umieście
Za wialikim dziełom za nuždoj
Jon łapci prodawaŭ, a ja łyki
I zbyŭszy jetyj kłopot z haławy wialikij
Paszli damoŭ.
Idziom domoŭ
Pramiž saboj ziuku, ziuku
Aż botca z zadu chto kryczyć „pastoj"
Ja staŭ i sam sabie dziŭlusia
Na|szto|b patrebin ja kamu
Staju zdajetca ni bajusia
I ni winawat ja ni kamu
Aż zir, zir i zaraz dahadaŭsia
Adkul za mnoj hołos ŭziaŭsia
Użo ja i sam kryczu pastoj
Sapron ci czuisz jak spiawajuć
Imianiny heta tut hulajuć
Pajdziom chadzi za mnoju

Dyk wot jakim słuczajem
My tatka k-tabie zaszli
Choć i chleba soli ni maim
Dyk ni zwini, szto tak pryszli. –
   Koli daść Boh dy żywy budzim
Jak daduszy, dy ni zabudzim
Jajeczyk paŭkapy pryniasiom
A jak dażdżom Pietra swiatoha
To takoha haścińca at nas budzis mieć
Bolszy sotni piunoŭ
Choc ty ŭ haścincach nużdy ni majesz nijakoj
Bohat ty sałom i mukoj
Maisz ty krupy, masła
Jasi ty pa pańsku słasna
Choć tatka wialić zakon:
Biez zapasu
ani czasu!
Choć by hnali na pryhon
Hladzi|b kalib kupiŭ piroh charoszyj
Wot i znadobiŭsia
Nia siolita ja radziusia
Dy użo 60 hadoŭ jak radziusia
Dy i na $3^{ciej}$ żanie
Ni atsochła pamiać mnie
Jak naszy dziady harełyczku papiwali
Bawała|ż to jany na hospodarskija imianiny iduć
Adzin niasieć piŭca bikłażku
Druhij harełki panu flaszku
Ni prostyja syczynyj z miadkom
Na zakusku saczeni pszanicznoj
Skawarodniki try jajeczni
I ŭ satce masła ka blinam
Tak to u smak na hawarytca
Adkul u nich słowieczki biarutca
Oj oj oj oj oj jo!
Czym że my ciabie tatulka pazdrawim
Kali|b ciabie Boh żaleŭ ludzi paważali
Kab tabie było heta
Archirejskaja szapka nadzieta
A patom taho pażyuszy mnoha
Kab ty wart byu ŭ Boha
Pałuczyć wianiec
I koniec.

# *Цуда Божае: Поп і Кірык*

Пад час свайго побыту ў кастрычніку 1858 г. у Вільні А. Вярыга-Дарэўскі колькі разоў сустракаўся з аматарам беларускай пісьменнасці Мамертам Рэніерам (1814– ?). Так, 24 кастрычніка ён пакінуў свой запіс у *Альбоме* Беларускае Дуды: "У доказ прыязных пачуццяў, шчырай пашаны, мілага знаёмства ў Вільні на дарагую памяць", а праз некалькі дзён перадаў віцябляніну ўласны беларускамоўны верш *Arciomka darahienki*..., які пазней будзе падклееены ў той жа *Альбом*[1]. Вядома, таксама, што А. Вярыга-Дарэўскі 25 кастрычніка 1858 г. атрымаў ад свайго новага сябра ўкраінскамоўны[2] твор *Цуда Божае: Поп і Кірык*. Запіс на "тытульнай" картцы можа сведчыць, што аўтарам твора трэба лічыць самога М. Рэніера: "Na pahulance w Wilnie hety wierszy napisau // I Białoruskomu Dudaru na pamiatku addau". Але словы "hety wierszy napisau" ніхто з гісторыкаў літаратуры не ўспрынімае літаральна, бо ведама было, што яшчэ ў 1857 г. Пантэлеймон Куліш уключыў дадзены твор у выданне "Записки о Южной Руси" (т. II, с. 83–95), але цэнзура забараніла публікацыю (старонкі былі выразаныя з кнігі).

Такім чынам, застаецца прызнаць, што М. Рэніер[3] скапіраваў украінскі твор, які меў у сваёй бібліятэцы. Аднак узнікае чарговае пытанне: якім чынам *Цуда Божае* трапіла да віленскага аматара прыгожага пісьменства? Ці магчыма, што ён выкарыстаў адзін з тых нешматлікіх асобнікаў "Записокъ о Южной Руси", старонкі з якіх не былі выразаны? Параўнанне спісу М. Рэніера і публікацыі П. Куліша паказвае, што тэксты маюць значныя – і фармальныя, і змястоўныя – адрозненні. А таму трэба шукаць іншыя крыніцы паходжання спісу балады *Чуда Божае: Поп і Кірык*.

Прапануем наступную гіпотэзу: украінскі сатырычны верш стаў вядомы ў віленскім літаратурным асяроддзі, дзякуючы Адаму Плугу (1823–1903), які жывучы ў 1850-я гг. на Житоміршчыне, падтрымліваў сувязь з У. Сыракомлем. Цікавы і той факт, што сярод беларускамоўных твораў А. Плуга была і вершаваная легенда *Аб папе з рагамі*. Перадусім, Р. Зямкевіч, публікуючы апавяданне *Кручаная баба*, напісаў: "Мала хто ведае, што вядомы польскі пісьменьнік Адам Плуг пісаў у сваей моладасці па беларуску. Чытаючы карэспандэнціі Адама Плуга да польскіх газэт у старых гадавіках, спатыкаем вельмі часта

---

[1] Гл.: М. Хаўстовіч, *Тэкст і кантэкст*, "Acta Albaruthenica" 2015, t. 15, s. 243–249.

[2] Лепш будзе сказаць: украінскамоўны твор запісаны (а пасля і перапісаны) асобаю, што не вельмі добра ведала ўкраінскую мову.

[3] Г. Кісялёў, не называючы крыніцу, піcaў, што М. Рэніер паходзіў з Піншчыны, ведаў украінскую мову, цікавіўся ўкраінскім фальклорам. Гл.: Г. Кісялёў, *Арцём Вярыга-Дарэўскі* [у:] Г. Кісялёў, *Загадка беларускай Энеіды*, Мінск 1971, с. 173–174.

ўрыўкі песен, беларускіе звароты і тым падобнае. Залічыць яго да беларускіх пісьменьннікаў на гэтай падставе было бы несправедліва. Але ўдалося нам мець у руках беларускі рукапіс Адама Плуга 1849 года, у якім былі 4 апаведаньня з жыцця народа і адна легенда. Рукапіс быў ахвяраваны пану Эўстахію Рдултоўскаму, аб чым сьведчыць надпіс: «Wielmożnemu Panu Marszałkowi Eustachemu Rdułtowskiemu, miłośnikowi języka ludu białorusińskiego składa na pamiątkę Autor». Адам Плуг <…> пісаў прозай і вершам. З вершаў яму прыпісываюць беларускую легенду *Аб папе з рагамі*. Вучыўся ён у Слуцкай гімназіі, гдзе ў той час быў гурток беларусаў, з каторага і выйшлі некаторые беларускіе пісацелі і дзеячы, староннікі скасаваньня прыгону. Вышэй надрукованае апаведаньне мы даем згодна з тэкстам арыгінала”[1].

Ведаючы пра шматлікія – назавём так – містыфікацыі Р. Зямкевіча, варта крытычна паставіцца да ягонага паведамлення: ці не запісаны А. Плугам украінскі верш падае гісторык літаратуры за беларускую легенду, нібыта створаную пісьменнікам? Адказаць на гэта пытанне стане магчымым тады, калі ўдасца выявіць страчаныя рукапісы А. Плуга: усё ж апрацоўка ім іншых фальклорных сюжэтаў, як паказвае апавяданне *Кручаная баба*, дазваляе дапускаць верагоднасць напісання паэтам “беларускай легенды” пра папа з рагамі.

Балада *Цуда Божае: Поп і Кірык* заснаваная на ўсходнеславянскай казцы, сюжэт якое пададзены ў паказьніку Аарне–Андрэева пад нумарам 831: “Поп у казлінай (бычынай) шкуры: поп хоча забраць знойдзены бедняком скарб; ён надзявае на сябе казліную ці бычыную шкуру з рагамі, каб напалохаць яго; шкура прырастае да цела зайздроснага папа”[2].

Даволі блізкую да спіса М. Рэніера – хоць вельмі кароткую – казку запісаў у 1880-я гг. у вёсцы Латыгава Сененскага павета ад селяніна Міхала Паўлоўскага Е. Раманаў: “***Завидливый***. Якъ живъ сабѣ одзинъ дзѣтъ, да бывъ ёнъ дужо бѣдный. И бывъ у того дзѣда одзинъ сынъ. Вотъ тэй сынъ простудзився у зимку, зыхворѣвъ и помёръ. Пошовъ дзѣтъ просиць, капъ пумогли яму выкупаць ямку и здѣлыць труну. Ну нихто къ яму ня йдзéць, бы ёнъ бывъ дужо бѣдный. Тогды ёнъ кажець самъ собѣ: ёсь у мяне корыто, укладу я яго у корыто, дóшкой накрыю и пухуваю! И пошовъ самъ кыпаць яму. Кыпавъ енъ, кыпавъ, зямля мерзлая, ашъ тыпоромъ сячéць... Идзéць нѣйкій человѣкъ, старенячкій: «пумогай Бохъ!» – «Дзякуй, дзядулька» – «А ци мéрзла зямéлька?» – «А няго нѣ, дзядулька!» – «Кыпай-тку ты вунъ тамъ подъ éлкой: тамъ будзець мякчѣй!..» Скызавъ гэтакъ и пошовъ. Ставъ енъ кыпаць подъ éлкой, ашъ тамъ зямля мяккая. Кыпавъ, капавъ енъ, и выкыпавъ горлачъ зóлыта. Обрадывався дзѣтъ, пошовъ домовъ, нанявъ дзѣлыць хорошую труну, и нанявъ пупа хуваць. Вотъ, якъ пухували, дзѣтъ и заплацивъ имъ чарвонцáми. Тоды жонка того пупá стала завидуваць дзѣду, и кажець на пупа, капъ ёнъ пошовъ, укравъ у того мужука золото. Попъ кажець: якъ жа я пойду: енъ мяне спызнаець! А яна кажець: «зарѣшъ

[1] *Старая беларуская пісьменнасць: З архіву Ромуальда Земкевіча*, “Варта” 1918, кастрычнік, № 1, с. 22.

[2] Н. Андреев, *Указатель сказочных сюжетов по системе Аарне*, Ленинград 1929, с. 58.

вола, облупи яго зъ гыловой, надзѣнь на сябе шкуру зъ рогами, а я зашію. Идзи гэтыкъ къ яму, енъ спужаетца и пыбяжиць, а ты возьми золыто». Попъ обшився у волиную шкуру и пошовъ къ мужуку. Тэй якъ увидзѣвъ, перапужавсь и побѣхъ уцекаць. Узявъ попъ сабѣ золыто и понёсъ домовъ. Отдавъ тамъ жонцы золыто и ставъ знимаць съ сябе шкуру. Ды нѣ! шкура ня знимаетца, бы зжилась. Так енъ и не знявъ яé, и помёръ. Завязли яго ў лѣсъ, укинули ў ровъ, и закúдали колодками...”[1].

Казкі і вершаваныя тэксты падобнай тэматыкі ў XIX ст. былі запісаныя і надрукаваныя ў зборніках Аляксандра Афанасьева, Паўла Чубінскага, Мікалая Янчука, Юзэфы Машынскай, Міхала Драгаманава, Уладзіміра Дабравольскага, Фядота Кудрынскага[2], М. Федароўскага і інш. Цікава і тое, што ў мемуарнай літаратуры (Дзмітрый Завалішын, Юзаф Працлаўскі) згадваецца, як у кастрычніку 1825 г. у Пецярбурзе спачатку хадзілі чуткі, а пасля дзясяткі тысяч чалавек намагаліся трапіць у Казанскі сабор, каб убачыць прывезенага з “Маларосіі” рагатага папа.

На падставе народных казак, а магчыма і пэўных падзей на Валыні ў 1820-я гг. узнікла вершаваная балада. Яе запісаў у 1856 г. ад лірніка Васіля Ліпніка з мястэчка Дымер на Кіеўшчыне фалькларыст і этнограф Мікола Белазерскі (1833–1896) ды перадаў П. Кулішу, які, апрацаваўшы твор, уключыў яго ў раздзел *Сказки и сказочники* другога тома зборніка *Записки о Южной Руси*[3]. Прыкладна ў тыя ж 1850-я гады іншы варыянт балады запісаў на Падоллі валасны пісар і фалькларыст Андрэй Дымінскі (1829–1905). Абодва гэтыя запісы ў шырокі навуковы ўжытак увёў у 1927 годзе Мікола Леўчанка (1903–1934), які спрабаваў таксама атрыбутаваць твор[4]. Аналізуючы тэкст балады і карыстаючыся звесткамі з мемуарнай і навуковай літаратуры, ён лакалізаваў месца напісання твора Валынню. Сапраўды, у творы сцвярджаецца, што дзеянне адбываецца ў Оўруцкім павеце; рагатага папа вядуць у губернскі горад Жытомір; пасля ён трапляе ў Пачаеў, Анаполь і Загайчынцы – усё гэта тапаграфічная Валынь. М. Леўчанка вызначыў і час напісання *Вірша про Кирика*: на яго думку, terminus post quem – гэта 1821 г., бо толькі з гэтага году валынская праваслаўная кафедра пасля пажару ў Астрозе была перанесена ў Анаполь; a terminus ante quem – пачатак 1830-х гг., калі быў зачынены Пачаеўскі базыльянскі кляштар. Дадзеная атрыбуцыя, на нашу думку, дастаткова верагодная[5]. Праўдападобнаю падаецца і гіпотэза навукоўца адносна аўтарства балады. М. Леўчанка ў сваім артыкуле імкнецца давесці, што твор мае выразны антыправаслаўны характар і таму аўтара трэба шукаць у шляхецка-уніяцкім асяроддзі. Аднак выразнага

[1] Е. Романовъ, *Бѣлорусский сборникъ,* томъ первый*: Губернія Могилевская,* вып. третій: *Сказки*, Витебскъ 1887, с. 334.

[2] Фядот Кудрынскі (1867–1933), этнограф і гісторык, настаўнік Якуба Коласа.

[3] *Баллада изъ временъ Уніи* [у:] *Записки о Южной Руси*, издалъ П. Кулишъ, томъ второй, С.-Петербургъ 1857, с. 83–95.

[4] М. Левченко, *Вірша про Кирика як антиправославний, уніятський витвір*, “Етнографічний вісник” 1927, кн. 5, с. 74–82.

[5] Сучасныя ўкраінскія навукоўцы лічаць, што балада *Цуда Божае: Поп і Кірык* узнікла на аснове сюжэту народнае казкі ў другой палове XVIII ст.

супрацьпастаўлення уніяцкага веравызнання праваслаўнаму ў творы ўсё ж не назіраецца. Як не заўважаем мы і аўтарскага жадання акцэнтаваць антыправаслаўны пафас твора. Думаецца, на высновы М. Леўчанкі паўплывалі спробы П. Куліша давесці (магчыма, з цэнзурных меркаванняў), што балада скіравана супраць уніяцкіх святароў: “Въ ней представлено бѣдственное состояніе Греко-Русской Церкви во времена уніи, когда духовенство въ Южной Руси назначалось, мимо воли православныхъ епископовъ, по усмотрѣнію властей, непренебрегавшихъ никакими мѣрами для объединенія двухъ вѣроисповѣданій. Церкви въ приходахъ, отвернавшихъ унію, были закрыты; въ другихъ же мѣста приходскихъ священниковъ (уніятовъ) не рѣдко доставались людямъ недостойным, которые, будучи *наемниками*, а не *пастырями*, естественно унижали себя въ глазахъ собственной паствы. <…> Помѣщаемая здѣсь баллада изображаетъ красками, очевидно взятыми съ натуры, попа-уніята, продающаго прихожанамъ церковые требы тѣмъ дороже, что они просятъ его исполнить ихъ съ *благочестіем*ъ, т. е. по обрядамъ православной церкви”[1].

Украінскія даследчыкі, здаецца, не ведаюць пра існаванне спісу М. Рэніера, што вызначаецца шэрагам асаблівасцяў: па-першае, перапісчык кепска валодаў украінскаю моваю, а таму не зусім дакладна перадаў асобныя словы; пра гэта ж сведчыць і ягоныя праўкі, напр., замена першаснай літары ***i*** на ***y***. Па-другое, тэкст вызначаецца даволі зграбнаю формаю: запісаны пераважна 14-складовікам. Па-трэцяе, дадзены спіс мае 358 радкоў, што толькі на 12 радкоў менш, чым спіс А. Дымінскага (370 радкоў), і значна паўнейшы за спісы Ф. Кудрынскага (153 радкі) і П. Куліша (176 радкоў).

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1135–4–391, k. 7–14v.

## *Czudo Bożeje*
## *Pip i Kiryk*

### Ballada

Szczo sia stało na Wołyni w Owrućkim Powiti,
Takie czuda jakieho szcze ne buło na świti;
Słuchayteż uważna bo choć wymowa ne hładka:
Ale|ż prauda oczywydna, jak wywynuu z płatka.

W jednom seli meży borem tamże tecze ryczka
Chrest zełeny i swiatoho Jwana kapłyczka.
Dworeć harny w nim Didycza rozkoszne mieszkanie,
Jmiejuszczaho nad mużyki czesnoje władanie.

Sered seła stoyt Cerkwa błahoczestywaja
Tam swiaszczennyk borodatij, popadia hładkaja,

---

[1] *Баллада изъ временъ Уніи* [у:] *Записки о Южной Руси...*, с. 84.

W tom|że seli mużyk bidny Kirykom win zwawsia,
Robyu szczyra tay nykoły dobra ne doždausia.

Toy|że Kiryk mau y żynku y dytia małoje,
No w bidnosti w nedołuhie, puzate y słabkoje;
W sered lita w czas roboczy – neszczasna hodyna!!!
Kirykowi w bilszy kłopit, pomerła detyna.

Kiryk smutny i z żynkoju stały hołosyty,
Taże treba domowynki i pochoronyty,
Piszow Kiryk do susiedyu pomaszczy szukaty,
Ale nychto w ciłom seli ne|chtiu posłuchaty.

Kiryk slezno zapłakawszy, spłesnuwszy rukamy,
Doznau jakaja lubou myży susiadamy.

Piszou Kiryk do Pipa upau na kolina,
Poratuy mia czesny Otcze pomerła detyna,
W taku poru szczo ne maju ni hroszy ni chliba
Neszczasnomu czołowiku wełyka zahyba.

Uczynte dobre a detynu mini pochoronyte,
Zapłaty jaka należyt k oseni pożdyte.
Pip zirnuu na Kiryka strasnuu borodoju,
Szczo ty bajesz suczy synu ja|ż tobi słuhoju

Szczo ty mini nazalajesz nema czym płatyty,
To ty możesz mni za teje kilka dni kosyty;
Żynka twoja tożesz może piyty na łan żaty,
Nisz ja maju twojej płaty do osieni żdaty.

Oh! ne można czesnij Otcze bo czas ne do toho
Ja sam w domu jedynoki ne maju nykoho.
Treba|ż panszczynu odbyty, jażcze w Panskoy własty,
Sobi|ż dbaty szczoby tożesz zusim ne propasty.

Pip kryknuu na Kiryka tupnuuszy nohoju,
Ja ne możu zhodytysia na układ z toboju.
Ne majesz czym płatyty ne choczesz robyty,
A ja|ż tobi harmo, darmo budu choronyty;

Ty maszennyk, szut, brodjaha, hultay pijanycia,
Twoja żynka potaskucha b……[1] lubołeżnia.
Potomu u was nyczoha nema i ne bude,
Szczob takii wsi propały łukawyi liudy.

Nareszti Pip Kiryka, kułakom u spynu,
Piszou won Ladaszczo, czmute, ty proklaty synu,

[1] Пропуск у рукапісе. У спісе А. Дымінскага: *блядь*.

Znou|że Kiryk na neszczasnu dolu narykaje,
Chodyt błudyt hirki słezy swoi połykaje.

Piszou z płaczem do Dwora, aż Didycz na wstreczu,
Spytau – czoho zażuryusia? dla jakoy reczy;
Kiryk wsiu pryczynu Didyczu skazuje.
Didycz nad nym użałyusia taku radu daje.

Ne znajut tebe susidy, Pip ne chtiu tia znaty,
Smiło możesz sam detynu swoju pochowaty;
Piszou Kiryk wziau łopatu szczo|ż z bidy robity,
Zayszou z płaczem na mohyłki no poczau znaczyty.

Aż prychodyt k jemu starec, boroda sywaja,
W nioho szołomach[1] jasnęki, odeża krasnaja;
Pomahaj Bich czołowicze szczo choczesz dijaty
Recze starec do Kiryka, czy jamku kopaty?

Styi! Nebożе ja znaju tut za twerdo bude,
Nechay w|tom misti kopajut krepczeyszyi liudy,
Poczynayno w sej dołynci tut miachko kopaty,
Budzesz mia błahadaryty douho spomynaty.

Piszou stareć, Kiryk chutku do kopania wziausia,
Aż ne dołho i do kotełcia z hroszyma dobrausia,
Wytiahaje na werh jak duż i szczo maje syły,
Adkryu hledyt aż tam samy karbowanci biły.

Kiryk welmi uradowausia, podnis w Niebo oczy,
Kinczau jamku potom pobih do domu ochoczy,
Zawynuwsia hroszy nyszkom w komoru sprowayw,
Skazau żynci potom obiad huczny rozporadyu.

Wziyu w Arendi spust[2] horyłki wdruh, sam napyusia
Po wełykich pracach, bidach, troszku pokrepyusia:
Chliba, miasa, pywa, medu, prydbau win do domu,
Je szczo isty i szczo pyty, byle było komu.

Żynka ciłu nycz nie spała, pekła i waryła,
Wsich susidyu zawydływych duże zadywyła;
Kiryk schopyusia ranenka, tоże mało spauszy;
Pobih chutka do Pipa w karmani rubey wziawszy.

Pryszouszy z dobrym rezonom stau smiło pytaty,
Mnoho treba czesny Otcze za pochoron daty,

[1] У спісе А. Дымінскага: *йоломок* – круглая шапка з войлака ці аўчыны, якую насілі на Палессі.
[2] Спуст – тры вядры.

A do toho ja chotiu|by z bractwom choronyty,
Szczob wy chtiły z chrestom, z diakom, z pałamarom wyity.

Pip dywytsia na Kiryka i recze ty wpywsia
Czy z wełykich mudroszczey ty wydno skrutyusia.
A kohda|ż ty tak chwastujesz, jakby chto bohaty,
Choczesz pyszno chronyty, pomynki spraulaty.

Day piatnatcat’ karbowancyw, tak jak dajut liudy,
A wże|sz z twoim udowolstwiem choroszenko bude.
Nie dołha Kiryk spreczausia z karmana dostauszy,
I z nahałstwem korbowańcy na stył wysypawszy.

Pobih jeszcze do Bratczykiu toże zahodyty,
Dau try rubli seyczas stały na bractwa dzwonyty,
Mnożestwo ludey ziszłosia z Łanyu pozchodyły,
I z choroszym błahoczestyiem dytia z choronyły.

Wsich iduszczych z hrobowyszcza zaprosyu do chaty,
Kiryk wsich obilno wziausia czastowaty,
Uczestowauszy prychodnich na nyżczych morhaje
I tym szczodru myłostiniu i poczestku daje.

Na obid win zaprosyu Pipa z Pipadioju,
Diakau, bratczykou, susidou, z ciłoju rodnioju.
Jediat, piut, a nyszczeczkom wsiudy pohladajut,
Jedny bajut, druhie szepczut, a innyie marhajut.

Nychto jak Pip zawydływy, żere aż do iżłyszestwa
I dumku dumaje
Szczo takieje wczeraś Kiryk na kolinkach łazyu
Mołyu, prosyu a nykoho słezmy ne prorazyu.

A nyne syple hroszyma, bohato czastuje
Neużesz|to jemu Didycz stylko userstwuje.
I sumlewajuś ja mnoho czczo ta za pryczyna
Treba dobre w kluby wziaty pohańskoho syna.

Hosti wże dosyta naiwszyś, napawszyś
Rozchodyłysia do domu besedu skonczyuszy.
Ludy tyj szczo u Kiryka smaczno iły i piły,
Zyszowszysia na ułyci jeszczo howoryły.

Bacz kazały szczo Kiryk chliba kusoczka ne maje
Szczo win wsehda jak sobaka z hołodu umiraje,
A sehodnia tak swerch wseho podostatkom stało.
Jak w|żadnoho bohatyra takby ne wystarczało.

I Pip zayszowszy do domu stau żestka dumaty,
Jakim|by tut sposobem u Kiryka spytaty,

Chto joho tak spomahau, de|ż win tak nabrausia,
Szczo wsich liudey zadywyu Bohatyrom stausia.

A ne|mohszy nyiakim sposobem zdumaty
Piszou do swey Dobradziki stau jeje pytaty:
Popadja pryszła z obidu lahła roztiachłasia,
Poczuuszy takuju sprawu, chutka schopyłasia.

Prestań recze mij hołubcze w moje rozsużdenie,
Niechay pryide do spowidi Kiryk w woskresenie.
Poki win wseho ne skaże do poty pryczastia,
Ne obiciay iomu daty, chosz|by mau propasty.

Utieszyusia Pip, podskoczyu w dołoni poplaskau,
Poczuchausia po hołowi, borodu pohłaskau.
A w sobotu do Kiryka djaka posyłaje
Kiryk zmusu w Woskresenie spowid odpraulaje.

Wyznauszy wse błahoczesnym spowidi zwyczajem
Jak nayszou koteleć z hraszmi i jakim słuczajem.
Pip pokrutyu hołowoju, pocmakau hubami
Rek ty nehodny, ty nayszouszy koteleć z rublami

Ty powinen wdruh do mene pryity i prosity,
Hroszy może zaklatyi daby poswiatyty,
Poswiatywszy i na cerkow połowinu oddaty
Jak nie znaju czy ich błaho budesz używaty.

Jak uże ludiey czastujesz, kormysz, sam hulajesz,
Tak robleczy chutko duszu swoju poterajesz.
Lipsz staraysia mij lubezny o duszy spasenije
Naruhauszy Pip Kiryka led dau rozreszenije.

Ale|ż potym udyulenny stau krepko dumaty,
Jak|by można wid Kiryka hroszy widebraty.
A ne|mohszy wydumaty Pipadiu wzywaje,
I pered neju nehodnuju myśl swoju widkrywaje.

Popadia sia usmichnuła, ne douho i dumała.
Zawydływomu Pipowy łatwyi sposyb dała.
Jak u nas recze na banti szkura wołowaja
Czorna z chwistom i z|rohamy ale że suchaja.

Treba|b ieje namoczyty, w noczy szkuru napnesz,
Pidesz Kiryka nastraszysz karbowanci chapniesz.
Pip skoczyu hromom po skuru namoczyu wodoju,
Jak pryszła nycz zaczynyusia w chati z popadioju.

Położyu szkuru na stoli nauskryś roztiahaje,
Chwacka popadia Pipa w szkuru odjahaje.

Odiahnuuszy jak ryzoju wziauszy dratwoju zszyła
Zyusim Popa i z hołowoju prystono obszyła.

Znały jak ponatiahaty na ruki na nohy,
Na hołowie ustawyła skaradnyia rohy,
Tak zayszou Pip do Kiryka stau dwery łomaty
Odmennym hłazom chrapływym poczau mirkitaty.

Kiryk wikna widczynyuszy, hlanuu społochausia
Baczyt czorta i z|rohamy z strachom zapytausia,
Czoho|by chtiu idoł czorny do wikna pustyusia,
I z|rohami do Kiryka pramo nastawyusia.

Potom reunuu dykim hłasom jak ty smieu zabraty,
Moi hroszy na mohyłkach z kotelciem wziaty.
Odday seyczas bo ja tebe w pazury pouiauszy,
Wkinu w ohoń neuhasymy hołowu urwauszy.

Kiryk led żyu wziau kotelce za poroh wysunuu
Łopnuu dweryma chuteńko i zasuukuu zasunuu
Zauszou w chatu siu na łauci, ruki załamauszy,
Jak tiszyusia tak znou smutny rubliki pozbyuszy.

Pip łukawy ne chtiu douho nad hryszmy dumaty,
Chwatyu jomka za kotełeć ponis do swey chaty.
Cikawaja Popadia wiknom wyhladała;
Bacz jak chutenko sprawywsia, ja dobre kazała.

A pokaży|sz czy mnoho Pip chotiu widdaty,
Aż na ruki wid kotełcia ne chotiat odstaty,
Pip z radości raptom w tosku wełyku popauszy
Płaczet słezno kary bożey na sobi doznauszy.

Ałczuszczaja popadia stała załkowaty,
Chtiła rubli pryhorszczamy z kotełcia wybraty,
Ale|ż i tak nie można wziaty ne dałysia,
Bo wsi rubli w jednu kamu krepko złepyłysia.

A nie|mohszy rubłey wziaty, ny ruk widczepyty.
Chtiła z Popa szkuru zniaty ne można złupyty.
Oy! hore! Pip kryczyt! Piszczyt! wereszczy kosmaty z rohamy
O wy! hroszy proklatyi propau|że ja z wamy.

Ciłu nycz Pip nad hroszyma sydia narykaje
Jak skoro deń do Kiryka żynku posyłaje
Popadia ukoryłasia do Kiryka wchodyt,
Wsiu istorya czudesnuju pered nym rozwodyt.

Recze szczo pip smijuczysia chtiu pożartowaty,
Zdumau sztuku w dobry sposyb hroszy widebraty,

Napiauszy szkuru z rohamy sztuka udałasia,
No w neszczasnuju hodynu w raka[1] wczepałasia.

Odiahnysia chody proszu za|mnoju do chaty,
Twoi hrosz może tobi dadutcia widniaty.
Kiryk słuchau, s|pyłnostiju reszty dohadausia
Ne darmo tak na spowidi Pip dopatawausia.

Pryszow k Popu storopyusia, Pip spustyuszy oczy,
Ja to recze chodyu, straszyu tebe o piunoczy,
Wozmy swoi karbowancy zanesy do domu,
No ne każy pered nikim i słowa ob tomu.

Kiryk ne|chtiu wdruh z kotełciem karbowancyu braty
Pobih pędom do dwora didiczu skazaty,
Rozkazauszy wsiu pryhodu didycz zadywyusia,
A pryszouszy do Popa i perechrystyusia.

Baczyt szczo czort hydki, merski sedyt i rohaty,
Sotnika i wsiu hramadu wełeu zakłykaty,
Pryszli liudy i bratczyki, da wsi ustraszenny;
Szczo z Popa ditko zrobyusia Satan skaradenny.

Didycz weliu pry hromadi Kirykowy wziaty
Swoi hroszy i z kotełciem zanesty do chaty.
Mnoho ludey na sprobunek za kotełeć brały,
No u żadnaho Popowi ruki nieodsały.

Kiryk skoro do Kotełcia dotknuusia rukamy,
Aż Pip seyczas odniau ruki skryhytnuu zubamy
Didycz weliu szczeż i skury czy nie można zniaty
A wsiakimi sposobamy stały probowaty.

Ałe|ż trudno sokrowycia żywa wytryskaje,
Pip z bołeźni kryczyt sylno, w obmorok wpadaje
Wsi wdostoweryłyś, wydiat szczo ne żarty
A didycz wziau bumahu, staw pysaty karty.

Opysawszy wsiu historyiu nowoje zjawłenye
Szle joho aż do Żytomira w duchowne prawłenije
Wedut Popa zaczepywszy werouku za rohy,
Za nym kupoju zo wsich storon beżyt narod mnohy.

Wedut joho od seła do seła tołpamy
Skazau|by chto szczo cyhany chodiat z medwiediamy
Jak pryweły w Żytomir ne można|sz skazyty
Szczo tam tohdy dijałosia trudno opysaty.

[1] У рукі.

Bihły żydy, pany, kupcy, każdy hlediu
Szwec, krawec i wsiaki remesnyk w chati nie|usediu
Po ułycach po bazarach tumany kuryły
W Katołyczeskoy sabory na gwałt zadzwonyły.

Niekotory dumały szczo horod pałyusia
A innyia że żydyuski Mesyasz zjawyusia.
Ale|ż chto uzreu Popa czornoho z rohamy,
Dumau szczo czorta poymały deś meżdu widmamy.

Stau|że Pip pod dweryma w Duchownoy Pałati
I podały Protopopu bumahu czytaty.
Protopop pereczytawuszy duże zadywyusia
Wibih hłedit na komira[1] i perechrystyusia.

Rek szczo ty zrobiu czudodiicze[2] bacz jak hospod karaje
Toho kotoryi zakonyu joho swiatych ne chowaje.
I ja|ż tobi ne daruju radi Chrysta muki
Oddam tebe jak sleduje w pałaczeyskii ruki.

I skonczyuszy Protopop swoju wyhoworu,
Wozmite kryknuu na pachołkiu skaradnu potworu
Chesteńko|ż spraulatesia i czasu ne hayte,
Roztiahnyte po swojemu piatsot pałok daytie.

Szwydki mołodcy jak łewy idoła porwały,
Czornu szkuru rohatuju krepko wyczuhały.
Po takomu nakozaniu stau Pip szczekotaty,
Ta na swoju hładenkuju żonku zurkowaty.

Rek supruho! supruho! moja, szczo ty mni zrobiła?
Ty to mene do łyhoho diła nawodyła,
Ty bez tuhy sedysz w doma mene publikujut,
A pałkamy bezmyłosty cupko w skuru dujut.

Protopop rozharaczyusia i duże serdyty
Ne pozwoływ popu daty ni isty ni pyty.
Nałajauszy na haubyuszy, zruhauszy bez czesty
Weliu joho pid konwojem po wsim myru westy.

Po horodach, sełach, cerkwach, daby wsiudu zwaty
Szczoby wsi liudy czudesa bożii poznały.
J popy wsi wydia tye szczoby kajałysia,
Wsiakoho diła chudoho krepko sterehłysia.

[1] У спісе А. Дымінскага пратапоп называе папа кумам.
[2] У спісе А. Дымінскага пратапоп тут і далей называе папа па прозвішчы: Карчэўскі.

Otoż nasz bidny kożewnyk[1] wsiudy wołoczyusia
Wsiudy narod udywlau a sam soromyusia
Zauszou win aż do Poczojewa, hde chrystowa maty
Wełyki czuda zływaje, chto ich chocze znaty.

Tam słepy, hłuchy, chramy, duże pokurczanny
Tai wsiakom dili hresznyk bywaje spasenny
Ałe|ż chto tam spasenia chocze dostupyty
Dołżen prežde duszu swoju z hrechou oczystyty.

Otoż tam i nasz popyszcze chtiu czudu doznaty,
Daby moh błahowremenno z szkury wyłyniaty,
Ale|ż w takomu słuczaju ne znaw obiżenny,
Hde pijty i szczo robyty jak|że proizrenny.

Zauszou win do Manastyra i stau korydysia[2]
Zyczyu sobie szczob na wsehda moch tam ostatysia.
Stau prosyty! o wy czesny otcy wasylanie[3]
Budu wam wirne służyty poki wika stanie.

I budu zakonnym Bożych peresterchaty
W myłosty Bohorodyci hrychy wyznawaty.
Wasyljanie skozały my|b teje zrobyły,
Pryniały|b tia i za tebe Hospoda|b mołyły.

Znajem dobre że naszaja preczystaja maty,
Nykoły Prawowiernomu ne daść zahybaty,
A ne możem uczynyty na twoje proszenye
Aż po formi budisz maty sobi pozwolenye[4].

Na pysmi od Archireja idy|ż nie haysia,
Jeśli choczesz chytro|ż mudro o teje staraysia.
Piszou nasz Pip dumajuczy aż do Annopola
Stau uże u Archireja neszczastnaja dola.

Izpużannomu trasutsia ruki i nohy
Szyrst na skury najeżyłaś, nastawyłyś rohy
Przyszły jemu na pamiat Żytomirskie pałki,
Tut że mene posiczut chyba uże w kawałki.

Preozwczenny łaskawy Władyka wychodyt
Krasnoreczymi słowami spużateia łahodyt,

---

[1] У спісе А. Дымінскага: Карчэўскі.
[2] Скарыўся.
[3] Базыльяне, манахі уніяцкага ордэна св. Базыля (Васіля).
[4] Базыльяне не могуць узяць у кляштар праваслаўнага, а таму просяць прыйсці з дазволам ад праваслаўнага архірэя, які пасля пажару 1821 г. у Астрозе меў рэзідэнцыю ў Анаполі.

Czesnym wyhoworom chody dieła izwiniaje
A dobrymi sowietami ............[1] peresterehaje.

Pip upauszy na kolina podaje proszenye,
Szczob zyskau u Archireja sobi pozwolenye
Wernutyś do Poczajewa i tam zostawaty
Poty poki preczystaja Maty

Ne|pokażet swoho czudu, szczob szkura i rohy złyniaty,
Bo tam mnohyie narody czudu doznawayut
Archirey tye poczuuszy plunuu popu w hłaza
Rek ty idołu pokłończe hercyska prokaza.

Ty werno iz uniajatow perekinczyk czura,
Nie darmo k tobi i pyrosły i rohy i szkura.
Połno tobi wołoczytyś udyulaty myra
Pijdesz seyczas do Zahaycyn[2] tam do Manastyra

Tam jak szczo den tysiąc pałok na spynu dostaniesz
To o Poczajewskich czudach dumati perestaniesz[3]
Po srożayszemu ukazu Archireyskoy własty,
Wedut popa do Zahaycyn na medowyie słasty.

Jak pryweły u Monastyr czerci zakryczały,
Szczeż nikoły my takoho ditka nie|wydały,
Pouiauszy w tyranski ruki po moskousku drały
Tysiąc pałok piatsot pletuicy w każdy deń wsypały.

Stakan wody, kusok chliba raz na deń dawały
Do roboty jak skotynu tay bez putia hnały,
Try misiacy bez oddochu nasz czudak muczyusia,
Zbyusia z syły i z zdorowia bołezno skorczyusia.

Uże joho smertelnyie sprutcy za zywot styskały,
Sered noczy jak manachy wsi pozasypały,
Ne spyt nasz brodjaha hołodny i na wnywecz zbyty,
Stanuu starec jasnym switłam w około ukryty.

A szczo recze uże ne budesz chudoho dijaty,
Ny sam ny sweje supruhy na złeje słuchaty,
Wże ne budesz czużych deneh w noczy odberaty,
Wże ne budesz czużoho szczastia okom pożeraty.

Wże ne budesz z ludey derty, bidnych utyskaty,
Ta budisz zakonyu bożych peresterehaty.

[1] Пропуск у рукапісе.
[2] Відавочна, Загайчынцы – вёска на Валыні.
[3] Праваслаўны архірэй не адпускае свайго папа пад апеку прадстаўнікоў іншае канфесіі.

Stan strymysia pokin szkuru połno pokajania
Lażesz spaty, spoczniesz sobi do utra zaranie.

Po utru w ranci jak wstaniesz umysia
Piidesz da Archimandryta iemu oznaymysia,
A win jak tebe pobaczyt', wżesz tobi proszczaje
Prosyś nechaj do Parafii tebe odpuszczaje.

Pip schopyusia, strepenyusia i skury pozbyusia
Lechki, zdrowy jakby na swit narodyusia.
J monachamy choroszenko wsimy poproszyzawsia,
J do swoje parafii szczasływo dostausia.

# *Ігнат Слінка: Фантазія*

У 1971 г. у хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* быў упершыню апублікаваны фрагмент (48 вершаваных радкоў плюс рэмаркі) з “віншавальнага” твора XIX ст., які называўся *Імяніннае віншаванне Ігната Сліўкі*. Аўтарам В. Рагойша лічыў нейкага Ігната Мігановіча, пра якога “ніякіх звестак <…> не захавалася. Адзінае, што вядома, – гэта яго псеўданім: Ігнат Сліўка”[1]. Публікатар, апрача таго, паведамляе, што тэкст пад назваю “*Ігнат Сліўка: Фантазія І. Мігановіча, для п. Марціна Пёра*[2] *ў дзень яго імянін прызначаная*, змешчаны ў рукапіснай кніжцы Дзісненскага шляхціца С. Нясцюшкі-Буйніцкага побач з вершамі В. Дуніна-Марцінкевіча, *Нячысцікам* А. Рыпінскага, вершам *Вот свабоду дадуць скора*. Рукапіс датаваны 16 снежня 1882 г., мае 132 радкі. Захоўваецца ў Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР”[3].

Другое выданне *Хрэстаматыі* фактычна паўтарае каментар з папярэдняга (адно што дадае: С. Нясцюшка-Буйніцкі быў удзельнікам нелегальнай арганізацыі “Гоман” ды “ўдакладняе” месца захавання рукапісу: “Захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі АН ЛітССР (Вільнюс)”[4]. У абодвух выданнях “віншаванне” змешчана ў раздзеле “Літаратура парэформеннага саракагоддзя”, г. зн. твор складальнікі датуюць 1861–1880-мі гг.

Публікацыя В. Скалабанам рукапісаў А. Рыпінскага ўнесла пэўныя карэктывы: па-першае, аўтарам называўся T. Mihanowicz[5], а па-другое, – твор (*Fantazija*, а ў іншым месцы – *Оповястка*) меў тытул *Ігнат Сьлінка*.

Яшчэ больш заблытаў справу У. Казбярук, сцвярджаючы, што адзін варыянт твора збярогся ў *Рукапісах Рыпінскага*, а другі – у архіве Луцкевічаў, адкуль трапіў “у рукапісны аддзел бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук”[6]. Ніжэй ён ужо сцвярджае, што абодва варыянты захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. І сам дзеля публікацыі выкарыстоўвае рукапіс з “архіва Луцкевічаў”: падае як тэкст верша, так і прадмову да яго.

---

[1] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1971, с. 256–257, 362.

[2] Прозвішча пісалася па-рознаму: у расейскіх дакументах – Піоро; у польскіх – Pióro; у спісах С. Нясцюшкі-Буйніцкага і А. Луцкевіча – Pioro.

[3] *Ibidem*, с. 362.

[4] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., Мінск 1988, с. 468.

[5] Што датычыць імя Mihanowicza, то тут мог памыліцца ці А. Рыпінскі, ці М. Піятуховіч, прыняўшы літару ***J*** за ***T***.

[6] *Занялад і адраджэнне...*, с. 109.

Насамрэч існуе тры спісы верша J. Mihanowicza *Ihnat Slinka*.

1. *Ihnat Slinka: Fantazija T. Mihanowicza* – спіс А. Рыпінскага, датаваны "Witebsk, 1862"[1]. Апублікаваны В. Скалабанам у зборніку *Шляхам гадоў* (1990).

2. *Ihnat Slinka: Fantazija J. Mihanowicza dla P. Marcina Pioro w dzień jego imieniu przeznaczona* – спіс Станіслава Нясцюшкі-Буйніцкага (рукапісны зборнік-хрэстаматыя запачаткаваны 16 снежня 1882 г.). Захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх і ўведзены ў навуковы ўжытак У. Абрамавічусам[2] і І. Лушчыцкім[3].

3. *Ihnat Sliйka: Fantazja J. Mihanowicza dla P. Marcina Pioro w dzień jego imieniu przeznaczona* – спіс Антона Луцкевіча, зроблены ім паводле спісу С. Нясцюшкі-Буйніцкага[4]. Паводле дадзенага спісу друкаваліся фрагменты верша ў хрэстаматыях *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* (1971 і 1988), а таксама цалкам (прадмову У. Казбярук уключыў у свой каментар, не пазначаючы, што яна належыць пяру А. Луцкевіча[5]) у кнізе У. Казберука *Заняпад і адраджэнне* (2001).

Цяпер няцяжка адказаць на пытанне: адкуль узяўся *Ігнат Сліўка*? А. Луцкевіч няправільна расчытаў рукапіс С. Нясцюшкі-Буйніцкага. Аднак заўважым, што С. Нясцюшка-Буйніцкі непаслядоўна перадаваў прозвішча галоўнага героя твора – Slinka, Ślinka, Slińka, "справакаваўшы" памылку А. Луцкевіча.

Пра J. Mihanowicza, аўтара дадзенага верша, мы амаль нічога не ведаем. А. Сідарэвіч, укладальнік твораў А. Луцкевіча, звярнуў увагу на тое, што ініцыял "***J.***" аўтара верша дазваляе меркаваць: імя паэта было не Ігнат, а магчыма, Якуб, Ян, Юзаф ці якое іншае на ***J***.[6] У друкаваных крыніцах, аднак, намі "выяўлены" "Игнатий Оттонович Заневский-Миганович, губернский секретарь, помощник столоначальника Дворянского депутатского собрания Витебской губернии"[7]. Ведаем мы таксама, што род Мігановічаў-Занеўскіх у 1851 г. быў занесены ў першую частку шляхецкае радаслоўнае кнігі

[1] Гл.: М. Піятуховіч, *Рукапісы А. Рыпінскага* [у:] *Шляхам гадоў...*, с. 223.

[2] В. Абрамавичюс, *op. cit.*, с. 92. Літоўскі даследчык палічыў, што прозвішча аўтара – Ігнат Сьлінка: "414. СЬЛІНКА, ІГНАТ. *Фантазыя І. Мігановіча для п. Марціна Пюро у дзень его імені*н. Рукописное произведение в сценической форме шуточно-бытового характера. Текст находится в рукоп. сборнике с канца XIX века. ВБФ – 132, с. 79–82 (латиница)".

[3] І. Лушчыцкі, *Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX в.*, Мінск 1958, с. 70–79.

[4] Сёння захоўваецца Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў калекцыі дакументаў аддзела рукапісаў Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні (паперы Беларускага навуковага таварыства ў Вільні). Гл.: БДАМЛіМ, ф. 3, вып. 1, адз. зах. 275, с. 9–13.

[5] Навуковая публікацыя прадмовы А. Луцкевіча здзейснена Анатолем Сідарэвічам. Гл.: А. Луцкевіч, *Нязнаны верш Мігановіча* [у:] А. Луцкевіч, *Выбраныя творы: Праблемы культуры, літаратуры і мастацтва*, Мінск 2006, с. , 317, 434–435.

[6] А. Луцкевіч, *Нязнаны верш Мігановіча* [у:] А. Луцкевіч, *op. cit.*, с. 435.

[7] *Памятная книжка Витебской губерніи на 1861 годъ*, Витебскъ 1861, с. 35.

Віцебскае губерні. Цікава і тое, што адначасна з Ігнатам Занеўскім-Мігановічам у Віцебскай шляхецкай зборні служыў паэт Г. Марцінкевіч, які хоць і меў тытул губернскага сакратара, аднак пасаду займаў больш нізкую – адно канцылярскага чыноўніка[1]. У гэтай жа ўстанове пісарам служыў і Марцін Дэмбінскі-Пюра, у гонар якога – трэба меркаваць – і быў напісаны дадзены верш.

Пра “імянінніка” мы пісалі раней: следчая справа *О Погостицкой шайке мятежников. О разбитом в бою под Погостищем и взятом в плен отряде восставшцев* данесла да нас звесткі, што Марцін Пюро (прыкладна 1841 г. н.), пісар Віцебскае шляхецкае зборні, “поступил в шайку по убеждению <…> имел книги и рукописи возмутительного содержания”[2]. Ён быў асуджаны на катаржную работу ў крэпасцях на 8 гадоў.

Самае галоўнае: ёсць падставы лічыць, што верш *Ігнат Слінка* ўзнік у віцебскім літаратурным асяродзі 1850-х – пачатку 1860-х гг., на чале якога стаяў А. Вярыга-Дарэўскі, а ўдзельнікамі – апрача вышэйназванага Г. Марцінкевіча – Ялегі Пранціш Вуль (Элегій Францішак Карафа-Корбут) ды – калі гісторыкам літаратуры ўдасца пацвердзіць дадзеную гіпотэзу – Ігнат Мігановіч.

Спісы А. Рыпінскага (захаваўся ў копіі М. Піятуховіча) і С. Нясцюшкі-Буйніцкага (захаваўся ў рукапісным зборніку разам з іншымі беларускамоўнымі тэкстамі: В. Дуніна-Марцінкевіча – *Hapon*, *Powinszowanie Wojta Nauma w dzień imienin panny N…*, *Pan Tadeusz*, Szczerouskie Dażynki, *Wiersz Nauma Pryhaworki: Na uczczenie przybycia do miasta Mińska Apolinarego Kątskiego, Władysława Syrokomli i Stanisława Moniuszki*, А. Рыпінскага – *Niaczyścik* і ананімнага верша *Wot swabodu daduć skora*), маючы аднолькавую колькасць радкоў (136[3]), розняцца адно толькі асобнымі выразамі. Але ні адзін, ні другі спіс не з’яўляюцца дакладнай копіяй аўтарскага тэксту. С. Нясцюшка-Буйніцкі, магчыма, з прычыны ашчаджання старонак у кніжцы ці паўтараючы форму запісу рукапісу, якім карыстаўся, занатоўваў два радкі верша ў адзін.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–132, k. 41–42v.

---

[1] У *Памятной книжке Витебской губерніи на 1861 годъ* знаходзім інфармацыю, што Г. Марцінкевіч быў узнагароджаны медалём “В память войны 1853–1856”: відаць, не за ўдзел у вайне, а за шматгадовую дзяржаўную службу.

[2] Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стст.*, том першы, Варшава 2014, с. 264–267.

[3] А. Луцкевіч, відавочна, прапусціў чатыры радкі.

## *Ihnat Slinka*

## Fantazija J. Mihanowicza dla P. Marcina Pioro w dzień jego imieniu przeznaczona

Ihnat Ślinka (*lezić u chatu u pakornej postawie*).

Czałom[1] paniczki pryhoży[2],
Czałom jasnyje Pany!
Nia dziwicca z majej roży[3],
Smirna staju li sciany.
Adno słowo skazać maju!
Kali szto nia tak brachnu
Wy prascicio, dobra znaju,
Kark pad pałku ni sahnu.
Li Dzwiny ja cilipausia,
Kabyłku swaju paiŭ.
Aż razam homan uzniaŭsia,
Ja hetu chatu saczyŭ
U woknach zijaieć dy bliszczyć,
A ludzi tak i kiszać,
Skrypka to hudzić, to piszczyć,
Wot i paszoŭ by skakać!
Aż tut czuju… Haspodź z nami,
Wot pa wietru i niasieć,
Wot, wot i pachnić husiami!
Byccam chto ich tut piaczeć.
Nu! użo|sz mianie i zabrało;
Chłop! kabyłku pawadom
Znać trasca niauże hukała,
I chochlik panios ŭ dom.
Pich kabyłku u stadołu,
A sam turnuŭ kolki sił
I biaz liszniaho mozołu,
Ja pred jak tut byŭ,
Prypior siudy i usio baczyŭ:
Sztob prasławić Białaruś[4]
Marcin mianiny naznaczyŭ,

---

[1] “ЧАЛОМЪ, межд. Здравствуй! *Чаломъ татусь*! – *Чаломъ, чаломъ, Ивановичъ*!” Гл.: Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...,* с. 695.

[2] Зверху дапісана: hordy.

[3] Зверху дапісана: mordy.

[4] А. Луцкевіч звярнуў увагу на гэтыя радкі верша: “выражэньне, што імяніньнік справіў гучныя імяніны «каб уславіць Беларусь», паказуе на выразнае пачуцьцё яе [шляхты. – *М. Х.*] прыналежнасьці да беларускае нацыянальнасьці”. Гэта яшчэ адно сведчанне, што твор узнік у асяроддзі А. Вярыгі-Дарэўскага.

I dla haściej spiok jon huś,
A choć ja durakawatyj,
Mużyk, chamut, pachłapień[1]
Usioż mahu być pryniatyj,
Mież wami u hetyj dzień,
By znaju pańsku naturu,
Jak zachoczuć paskakać,
Ci z niaczywili[2], czy z duru
Nacznuć siabie winszawać.
I ja ciabie winszuju,
Jak sumieju i jak mocz
Dobraho tabie sulu ja,
A usiu pakość szwyrnu procz.
Budź ty zdaroŭ jak kabyła,
Sztob ty radość tolki znaŭ,
Kab ciabie żonka nia biła,
Sztob ty lepsze jaje praŭ[3],
Kab za ciabie panienki,
Nie żaleli wałasoŭ,
Krasnieli sia jak waŭnienki[4],
I drali skuru z nosoŭ,
I usi sztob Ciabie lubili;
Jak huś szto ty sionnia spiok,
Kab Ciabie usi chacieli,
Nie jak z harszka czarapok,
Sztob ciabie nie zwali szelma,
Budź zyść twaja krasnyj dzień
Żyj ty doŭha, doŭha wielmi,
Tak doŭha jak bieraścień!..[5]
Nu użo dosyć winszawać,
Usiaho wić nasuliŭ
Treba kazaczku skazać,
Kab panicz nasz wiesieł byŭ,
A pakul kazka zaczniecca,
Ja pa marozu chadziŭ

---

[1] "ПОХЛОПЕНЬ, -пня, с. м. Лапоть, большею частію подшиваемый веревочнымъ плетешкомъ. *Набуй новые похлопни*". Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...*, с. 487.

[2] "НЕЧИВИЛЬ, -и, с. ж. (Не чья воля). Нечаянная беда. *Нейкая нечивиль случилася. Всходзилися, якъ передъ нечивиллю. Нечивиль цебе возьми. Зъ нечивили и въ огонь кинешся*. Посл." Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...*, с. 338.

[3] "ПРАЦЬ, -перу. сов. <…> 2. однокр. Перенуць. Нещадно биць, колотить палкою или подобнымъ. *Пери его, перени его по спинѣ коромисломъ, коликомъ*". Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...*, с. 493.

[4] Ваўня́нка – грыб з сямейства сыраежкавых.

[5] Берасцень – вялікі гаршчок, аплецены бярозаваю карою, бяростаю.

Troch treba i pahrecca,
Wun! ja tam chlaszku saczyu.

(*dajuć jamu czarku harełki*)
(*pieć*)

Aj! harełka-akawitka![1]
I nia czuŭ jak prahłynuŭ
A byccam cukier[2] sałodka,
Uwieś choład zachlibnuŭ.
Nu, panki maji ziaziulki,
Hetu wodku tolki pić.
A ci nima u was lulki?
Trochub chacieŭ pakuryć?...

(*Dajuć papirosinu*)

Chi! kamedja, wot syhara!
U saroczce ciciuniec?
Adna tolki u niej prywara,
Jakij ciaplić tut kaniec?..

(*pakazywajuć*)

Dudku treba kłaść u ryła!
Nia smiajeszsia mój panok?
Raz łaska pańska zrabiła,
Sztob ja sabie jazyk spiok.
Wot kiel słuchaj, budzić kazka,
Doŭha was nie zadziarżyć,
Pasłuchajcie kali łaska,
Może trochu nasmiaszyć:
Raz mianie mój pan jadynyj,
Pasłaŭ k'susiedu ś piśmom,
Musić za ważnaj pryczynaj,
Tolki ni znaju ab czom.
Ja pryszoŭ atdaŭ pisannia,
A sam li parohu staŭ:
A heto było zarannia,
Kali pan czaj chlibaŭ...
Pan uziaŭ pismo czytać,
A łakiejczyku wialeŭ
Czaju dla mianie padać,
Kab ja kostaczki pahreŭ.
Łakiejczyk, sztuka nia bita,
U mich padnosić mnie czaj.
„Wot, każyć – poŭna nalita,

[1] Зверху радка дапісана: *nu dy wodka*.
[2] Спачатку было напісана: sach-.

Piejże skarej nie ziwaj”.
Jak siorbnuŭ ja z całaj moczy,
Szto czaj żarkij ja ni znaŭ
Ażno na łob wyszli woczy,
Tak łoŭka siabie daniaŭ!
Nia plunuŭ jak psij dziacina,
Czerez uwahu da panoŭ,
A choć zdurnieŭ jak skacina,
Moŭcza paszoŭ ja damoŭ.
Chacieŭ żonku paruhać,
Dy jazyk nie pawiarnuć,
Chacieŭ kaszy paspytać,
Dy i to niejak prahłynuć. –
Try niadzieli tak prabiusia,
Dyj czuć jazyk zalaczyŭ,
A choć użo hod skańczyŭsia,
Sztuki s’ czajem ni zabyŭ.
Ni zabyŭ, usiakij znajeć,
I ciapier na czaj nia msciuk,
A choć druhij i ruhaić,
Czaju ni waźmu da ruk!...
Licha z czajem! Wić mianiny,
Wun padnialisia hulać
A my|ż wić ni abraziny,
Szto budzim tolki ziwać,
Nu ty skrypka! Nu ty dudka!
Zahudzicia ka dla nas,
Nutka panki, nutka, nutka!
Naczniom taniec u dobryj czas,
Puść pahańska znaić siła,
Na jakij my skaczym ład,
Wić heta pa nas chadziła,
Wić że ja Slińka Ihnat!...

# *Дзед і баба*

Гутарка ўзнікла, відавочна, у эпоху прыгонніцтва. Першая датаваная згадка пра яе – гэта выкарыстанне В. Дуніным-Марцінкевічам (яшчэ да 1870 г.) ейных матываў у фарс-вадэвілі *Залёты*[1]. Вядома таксама, што ў 1860–1870-я гг. А. Рыпінскі занатаваў яе ў сваю *Хрэстаматыю*[2]. Звярталіся да яе і пазней (напр., А. Пшчолка ў віленскім штотыднёвіку С. Кавалюка "Крѣстьянинъ" [1908, № 8, с. 178–179] надрукаваў яе пад тытулам *Съ кирмашу*.

У XX ст. фалькларысты няраз запісвалі і публікавалі дадзены твор[3]. Шэсць варыянтаў, запісаныя ў 1940-я і 1960-я гг. Сяргеем Сахаравым, Галінаю Барташэвіч і інш. (пад рознымі тытуламі: *Баба Ева, дзед Тамаш*, *Кацярына і Тумаш*, *Бабка Еўка, дзед Тамаш*), былі надрукаваны ў томе *Жартоўныя песні* (Мінск 1974, с. 434–439).

У літаратуразнаўчых працах толькі Я. Карскі даў ёй кароткую характарыстыку[4].

## Першы спіс

Двойчы гутрака публікавалася і ў славутай працы М. Федароўскага: спачатку ён сам уключыў яе ў трэці том *Ludu Białoruskirgo na Rusi Litewskiej*[5], а пасля іншы спіс трапіў у шосты том выдання[6]. Але – як заўсёды – пры падрыхтоўцы запісанага тэксту да друку фалькларыст унёс у яго шматлікія праўкі. Захаваўся, аднак, рукапіс,"пашпартызаваны" наступным чынам: паходзіць ён з маёнтка Лубянка Ваўкавыскага павету (ля Лыскава)[7]; тэкст занатоўваў Фелікс Дзежка ад фурмана Яна (у выданні ён стаў Jankó Chfurmán). Гутарцы М. Федароўскі даў парадкавы нумар (167) і тытул *Dziad*. Пасля радка "Rozpredali usie towary" рукою фалькларыста пастаўлены знак X і напісаны лічбы: 1.I.94, што можа азначаць час запісу – 1 студзеня 1894 г.

---

[1] Гл.: В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у двух тамах*, т. 1, Мінск 2007, с. 315–316.

[2] Гл.: *Дзед і Баба: Оповесьць* [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1990, с. 235–236.

[3] Э. Ледаховіч, *Беларускія народныя песні Гродзеншчыны*, Мінск 1960, с. 98; *Песні сямі вёсак: Традыцыйная народная лірыка Міншчыны*, Мінск 1973, с. 300.

[4] Гл.: Е. Карский, *Белорусы...*, с. 340–341.

[5] M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej: Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1894*, t. 3…, s. 81–82.

[6] M. Federowski, *Lud białoruski: Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1905,* t. VI*: Pieśni,* Warszawa 1960, s.117.

[7] Маёнтак (670 дзесяцін) належаў Гундусам. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XV, cz. 2, Warszawa 1902, s. 277.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу Кабіненту рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта: Rkps BUW 437, cz. I, vol. 12, nr 167.

## *Posmiewisko z dziada*

(Pahaworka)

Pytajecie pan u akanoma
Czy nima dzieda u doma
Nie każa nimasz
Pojechau na kiermasz[1]
A czaho jon pajechau
powios usie towary[2]
pojduć wypić siwaj hary. –
A szto jeny powiezli[3]
Baba powiezła puk jałaucu[4]
A dzied oposzniu oucu[5]
I baba powiezła wosku pum[6]
A dzied Hrybou bunt
Rozpredali usie towary
Poszli wypić siwaj hary
Jok napilisie dowoli[7]
Zabyli sobie kupić soli
Dziet ~~upau~~[8] na parohu
I wykry…[9] sobie[10] nohu
Ujej ujej[11] na|sz[12] tabie babo lejcy i puhu
A ja lahu spac nie duh[13]
Pakuł baba ni spała
To kabyłku pahaniała
Jak spluszczyła baba oczy

---

[1] Гэты радок спачатку напісаны як працяг папярэдняга радка, але пасля закрэслены і паўтораны ніжэй.
[2] Папраўлена на *tawary*.
[3] Папраўлена на *pawiezli.*
[4] Папраўлена на *jadłaucu*
[5] М. Федароўскі паправіў на *айси*.
[6] Слова *рит* (відаць, апошняя літара грамадзянскага шрыфту – *т*, гэта значыць, трэба чытаць: *пут*) папраўлена на *punt*.
[7] Папраўлена на dawoli.
[8] Зверху напісана: upa*й*.
[9] Апошнія літары слова напісаны невыразна. М. Федароўскі дапісаў зверху *–усій.*
[10] Папраўлена на *sabie*.
[11] Папраўлена на *Ojej, ojej*, але ў кніжным варыянце прапушчаны.
[12] Папраўлена на *na ż*.
[13] Спачатку напісана слова *duга* (відавочна, *г* грамадзянскага шрыфту), пасля перапраўлена на *duh*. М. Федароўскі дапісаў да слова літару *–u*, затым зверху напісаў *duhu*.

Stała kabyłka u bałóci
Iszou moskal[1] po dorozi
Znaszou kabyłku u wozi
Zabrau kabyłku s chamutom
Pakinu[2] babu z knutom
Baba nie weryć[3] jeszcze
Po hałobli[4] pleszcze
No kabyłka no hniedzięka
No do domu poskoręka[5]
Och dziedu dziedu
Czym ja na jarmałek pojedu[6]
A bodaj ty babo zhoreła[7]
hdzie[8] ty kabyłku padzieła
Ciepier hto[9] kobyłki ni maja
Piechtom do domu dybaja[10].

## **Другі спіс**

Я. Карскі, характарызуючы гутарку *Дзед і Баба*, адзначаў, што народныя анекдоты пра дзеда і бабу выступалі таксама і ў “стихотворной форме”. Ён лічыў іх “полународными пѣснями”. У працы *Матѣріалы для изученія бѣлорусскихъ говоровъ* ён падае записаны ў Віцебскім павеце Ефрасінняю Сярэбранікавай для Мікалая Нікіфароўскага (1845–1910) тэкст гутаркі. Трэба думаць, што Я. Карскі не рэдагаваў дасланыя матэрыялы: зрусіфікаваная форма твора паходзіць ці то ад Е. Сярэбранікавай, ці то ад М. Нікіфароўскага.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку паводле: Е. Карскій, *Матѣріалы для изученія бѣлорусскихъ говоровъ*, выпускъ VI [у:] *Сборникъ Отдѣленія русскаго языка и словесности Императорской Академіи Наукъ*, т. 88, Санктпетербургъ 1910, № 1, с. 7–8.

---

[1] Папраўлена на *maskal*.
[2] Дапісана літара -ŭ.
[3] Папраўлена на *wieryć*.
[4] Пасля гэтага слова зверху напісана: *puhaj*.
[5] Папраўлена на *da … poskorenka*.
[6] Папраўлена на *pajedu*.
[7] Папраўлена на *badaj … zhareła*.
[8] Папраўлена на *dzie*.
[9] Папраўлена на *chto*.
[10] Пасля тэксту па цэнтру – *Koniec*, а ў наступным радку – *Feliks Dzieżko*.

## [Полународная пѣсня]

Поѣхыли ны кирмашъ
Баба Ксюта, дѣдъ Тымашъ, –
Якъ поѣхыли учёра –
И сягонни ихъ нима-жъ.
    Баба ўзила яловцу,
    Дѣдъ – послѣднню овцу, –
    И суницъ, и чарницъ,
    Воску хунтъ, грибовъ бунтъ.
Рыспрыдаўшы ўси товары,
Зайшли выпить сивый гари...
Зычапиўшися ў порогу,
Пьяный дѣдъ выломаў ногу.
    Оддавъ баби вожки, пугу,
    А самъ легъ заснуть зъ нядугу:
    “Ну-тка, бабка, ну-тка, Ксютка,
    Пыгыняй-ка, тольки хутко!”
Покулъ баба йше глядѣла –
Йшла кобыла, якъ хотѣла;
Якъ сплющи́ла баба вочи –
Стала кобыла́ ў болоти.
    Ишеў зло́дій пы дорози –
    Спыдыбаў кобылу ў вози:
    Узяў кобылу зъ хымутомъ –
    Кинуў бабу зъ бытагомъ...
Авось баба обчхну́лась –
Туды-сюды оглянулась...
Своимъ вочамъ ни ўвиряить –
Пы оглобляхъ пыгыняить...
    Пощупала – нѣтъ кобылы;
    Кричить дѣду, што ёсь силы:
    “Ахъ ты, дѣду, ты мой дѣду!
    Нашій-жа кобылы нѣту...”
– Ти ты, баба, ошалѣла?!
Куды-жъ ты кобылу дѣла?
Ты-жъ на пе́риду сидѣла –
Куды-жъ ты кобылу дѣла? –
    “А скажи-жъ ты мнѣ, мой дѣду,
    Якъ я домоўки доѣду?!”
    – Хто кобылычки ни маить –
    Пихтурой домовъ мыхаить...

# *Жыдоўская вайна*

З XVI стагоддзя пашыраюцца на славянскіх землях гумарыстычныя вершы-гутаркі пра жыдоўскую выправу на вайну (напр.: *Wyprawa żydowska na woyne*, Kraków 1606). У навуковы ўжытак дадзеныя тэксты ўвеў Вацлаў Мацеёўскі (1792–1883) у працы *Polska aż do pierwszej połowy XVII w. pod względem obyczajów i zwyczajów*[1]. А напрыканцы XIX ст. Іван Франко ў часопісе “Wisła” пазнаёміў чытача з варыянтамі гэтага твора, якія пашыраліся на землях былое Рэчы Паспалітае[2]. М. Федароўскі і ягоныя карэспандэнты запісалі на Сакольшчыне (Жухава, Дрыга) і Ваўкавышчыне (Лыскава) збеларушаныя пераказы вядомых тэкстаў. У працы *Lud Białoruski na Rusi Litewskiej* фалькларыст надрукаваў *Жыдоўскую вайну*, занатаваную Антонім Дзежкаю (тэкст нумар 449) і Феліксам Дзежкаю (тэкст нумар 450)[3], а з уласнага запісу падаў толькі некалькі радкоў у прыпісе.

### **Першы спіс**

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу Кабінента рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта: Rkps BUW 437, cz. II, vol. 26, nr 449.

## *Żydoŭska wajna*

Oj nu
jak wyjechali żyde na wajnū
jak jeny jechali strasznym abozam
~~Kiedy~~[4] ciongneli jednym koniem dwa wozy.
Jechali bardzo długo aż do południa
Staneli ~~na pałudzien~~[5]
I mieli pare śliwek i śledzie
I dwie skórki miedźwiedzie.

---

[1] W. Maciejowski, *Polska i Ruś aż do pierwszej połowy XVII w.*, t. II, Petersburg-Warszawa 1842, s. 139–155.

[2] I. Franko, *Wojna żydowska: Przyczynek do studiów parównawczych nad literaturą ludową*, “Wisła” 1892, t. VI, cz. 2, s. 263–278.

[3] M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej: Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1894*, t. 3…, s. 224–226.

[4] Зверху напісана: *I*.

[5] Зверху напісана: *tam dzie wielka studnia*.

Byŭ[1] u ich dowodca Uryn
I kazaŭ pierejechać wodu
Na adnu wielku[2] kałodu.
Jak żydkie na kałodu panasiedali
tak ŭsie u wodu papadali.
Uryn[3] kryknuŭ: stōj! stōj!
Budzie[4] jechaŭ ~~teraz~~ czaławiek mőj.
Uryn[5] jeszcze ad bregu nie ruszyu
A już pantofli pasuszyŭ. [6]

Tak jeny wiernulisie nazad
Szli, szli ŭ wielki ciomny les ŭwaszli
Dzie było dwie bierozy adzin dub.
Tam troche pastajali i pierenacziewałi.
Iszli dalej pa kraj wielku, strasznu wodu
Jak wyskaczyła młynarowa suczka
jak kryknuła uch!
tak naszy nibaraczki żydki
wszystkie do wody buch!
Niekatory pataneli a niekatory wypłyneli.
Iszli dalej abaczyli jeszcze bolszu wodu
Stali kryczāć i płākāć.
Pryzwali rabina: rabinie, rabinie paradź nam radu
Jak pierepluwać hetu wodu.
Pryszoŭ ~~radu~~ rabin ahledzieŭ ~~ni~~ lepiej
nie była to woda była to hryka na polū.
Hej wy naszi durnyje żydki tu samego chleba
tu plywać nie potrzeba.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Przyszed do ich Karabel z rurkiem
Już będzie wajna i z Turkiem.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Oj hojna, hojna
Na żidowska wojna
Usie ~~dzieŭki~~[7] jaławicy
Adna tolki dojna

[1] Перад словам дапісана літара *A*.
[2] Слова дапісана зверху.
[3] Перад словам дапісана: *Tak*.
[4] Перад словам дапісана: *Tera*.
[5] Перад словам дапісана літара *I*.
[6] Наступныя некалькі лінеек незапісаныя.
[7] Зверху напісана: *żydouki*.

## Другі спіс

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу Кабінента рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта: Rkps BUW 437, cz. II, vol. 26, nr 500/449.

*          *          *

U naszaho rabina każuch wyszywany
Hnidami wyzłacany
Naszy żydki nibaraczki
Jeden pierści druhi raczki
Jak iszli praz taki wielki lies
Uch! nieba nie widno
Dwa bierozy adzin dub
Jak zyszli na mielnikawu hrabielku
Jak skazała mielnikawa suczka uch!
Naszy usieńki żydki da wody buch!
Katory Boha ni bajau sie
Za hrebielku dzierżau sie
A katory nie ruszyu
To pańczoszki suszyu.
Zakamandawau Srul kapitan:
Z końmi na wodu
Budziem kałacić mielniku wodu
Kab była muka czorna.

# *Лямант немца*

Гумарыстычны верш запісаў на Сакольшчыне карэспандэнт М. Федароўскага Ян Дзежка.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу Кабінента рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта: Rkps BUW 437, cz. II, vol. 22, nr 399.

## *Jak Niemiec lamientawau pa kabyli*

Jednamu niemcu zdochła jeho ulubiona kabyła, tak staŭ nad jeju i dawaj lamientawać[1]:

„Ustań kabyla maja mila
Jak ty uczora zdrowa byla
Przytym uczora brykawala
Na swe nożki skakiwala.
Ustań kabyla maja mila
Dam ci owsa dam golego
Dam ci Sianka zielonego
Z pięknym ziółkiem pachnącego.
Ō nie skorbut, nie suchoty
Nie zerwanie[2] od roboty
Tylko same jej choroby
Co spalili jej wantroby
Ustań kabyla maja mila.
Jak ty zemby wyszczeryla
Uśmiechasz sie ma kobyla
Pódź Frauciszku pódź mój mily
Przytul ucho do kobyly
Uder mucno u bok kułakiem
Czy nie wyda z jakiem znakiem?
Pódź Franciszku do mej żony
Niech zadzwonia na ŭsie zwony:
Fār-fāl majne klacz!”

---

[1] Спачатку было напісана: ~~Jednemu Niemcu zachworała jeho ulubiona klacz tak stanął więc nad nią i nuż lamiętować:~~

[2] Папраўлена чарнілам: zer*f*wanie.

# *Францу Пчыцкаму*

Паэта Франца Пчыцкага ўвёў у кантэкст гісторыі беларускае літаратуры Я. Карскі. Думаецца, гэта менавіта ён расшыфраваў крыптанім з брашуры, якая напачатку XX ст. захоўвалася ў Славянскім аддзеле Бібліятэкі Расейскае Акадэміі Навук. На тытульным лісце брашуры пазначана: *Kryŭda i Praŭda. Hutarka Biłaruskaja. F. P. Petersburg 1863*[1]. Як вучоны-мовазанаўца "трансфармаваў" F. P. у F. Pczycki, – невядома. Магчыма, была нейкая анатацыя ў бібліятэчным каталозе ці на асобніку выдання, але можна дапусціць, што Я. Карскаму дапамагла *Bibliografia polska XIX stólecia* Караля Эстрайхера: у адным з тамоў можна знайсці такую інфармацыю: "Pczycki Franciszek, *W dzień imienin Ludw. Korzeniowskiego*, (wiersz, po polsk. i po rossyj.) Kiew 1870, w 8ce, str. 15. – Ob. P. Fr."[2]. Адсылка скіроўвала да яшчэ аднаго выдання, занатаванага ў тым жа томе: "P…..ki F(ranciszek), *Ojczyzna, czyli ziemia, niebo i piekło*. Przez F. P. Paryż, druk L. Martineta, 1861, w 8ce, str. 32"[3]. Трэба думаць, К. Эстрайхер са сваіх крыніцаў ведаў, хто – схаваўшыся пад крыптанімам F. P. – надрукаваў у Парыжы вершаваны твор[4].

Беларускія літаратуразнаўцы, ведаючы пра паўстанцкую беларускую гутарку, не ўводзілі яе па вядомых прычынах у навуковы ўжытак, але дзеля атрыбуцыі ананімных твораў не выпускалі з віду і гэтага таямнічага Ф. Пчыцкага.

У 1968 г. Сцяпан Александровіч, пазнаёміўшыся ў Бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Врублеўскіх з паперамі сям'і Нясцюшкі-Буйніцкіх, звярнуў ўвагу на расейскамоўны верш *Францу Пчыцкаму*, напісаны Яўграфам фон Краўзэ, і за-

---

[1] Гутарка захавалася, здаецца, толькі ў двух асобніках. Але, мы лічым, у свой час пра яе ведалі ў грамадстве. Напэўна трапіла яна і да ідэалагічных праціўнікаў паўстанцаў ды прыхільнікаў аднаўлення Рэчы Паспалітае. Пра гэта сведчыць той факт, што публіцыст і выдавец Міхаіл Каткоў (1818–1887) перайначыў тытул шавіністычнае антыпольскае брашуры Паўла Мельнікава-Пячэрскага *Письмо к православным христианам* на *О русской правде и польской кривде*, якая была выдадзена ў друкарні Маскоўскага ўніверсітэта ў ліпені 1863 г. Гл.: *О Русской правде и Польской кривде: Писано ко всем Православным Христианам, из царствующего града Москвы, в лето от создания мира 7371, от рождества же Бога Слова 1863, Июля в 15 день, на память святого, равноапостольного кн. Владимира, во святом граде Киеве народ Русский святым крещением просветившего*, Москва 1863. Зрэшты, тут можа быць і адваротнае: Ф. Пчыцкі, ведаючы, што антыпольская брашура распаўсюджваецца ў Расеі, а таксама і на беларускіх землях, падрыхтаваў сваю версію *Крыўды і Праўды*.

[2] K. Estreicher, *Bibliografia polska XIX stulecia*, t. III, Kraków 1876, s. 366.

[3] *Ibidem*, s. 337.

[4] Дарэчы, брашура *Ojczyzna, czyli ziemia, niebo i piekło* запісана ў бібліяграфіі яшчэ раз. На гэты раз так: Pczycki F. *Ojczyzna, czyli ziemia, niebo i piekło*. Paryż 1861, 8, str. 30. Гл.: *Ibidem*, s. 356.

даўся пытаннем: “што за таямніцу таіў ад навакольных Пчыцкі, можа, аўтарства *Тараса на Парнасе*?”[1] Гіпотэзу правяраў Г. Кісялёў: “Аўтарам *Тараса на Парнасе* Пчыцкі наўрад ці мог быць, таму што ён прытрымліваўся польскай культурна-палітычнай арыентацыі і мастацкі ўзровень яго гутаркі куды ніжэйшы за *Тараса*. Я. Крузэ [sic!] у згаданым вершы называе яго “певцом сарматов”, г. зн. Польшчы. Уважлівае прачытанне верша *Францу Пчыцкаму*, перададзенага мне С. Александровічам, пераконвае, што перад намі хутчэй за ўсё звычайны альбомны верш са сваімі прынятымі гіпербаламі і іншасказаннямі. Ды ў рэшце рэшт у нас няма цвёрдай упэўненасці, што адрасат верша Я. Крузэ і аўтар гутаркі *Крыўда і праўда* адна і тая ж асоба. Ёсць усе падставы думаць, што верш *Францу Пчыцкаму* адносіцца да больш позняга часу”[2].

Сваіх аргументаў, чаму верш *Францу Пчыцкаму* адносіцца да больш позняга часу, даследчык не раскрывае. Верш не датаваны, г. зн. няма ні даты напісання, ні даты, калі верш быў перапісаны. Увогуле сшытак у цвёрдай вокладцы належаў Яну Нясцюшка-Буйніцкаму, бацьку рэвалюцыянера-народніка і сябра беларускай групы Народнай Волі ў 1880-я гг. Станіслава. Такім чынам, можна думаць, што менавіта ён занатаваў вершы ў сшытак[3]. А гэта якраз дае падставы думаць, што верш мог быць напісаны 1850-я гг. у Пецярбурзе.

Дакладных звестак пра аўтара верша выявіць не ўдалося. Але як гіпотэзу можам прапанаваць наступнае. Сярод жыхароў Пецярбурга, якія мелі прозвішча Краўзэ, у адраснай кнізе “паўночнай сталіцы” зафіксаваны толькі адзін Яўграф: “Краузе Ефграфъ Густав., СС. По Фонт. д. 40, кв. 34. Докторъ Мин. Внутр. Дѣлъ”[4]. Гэта трэба разумець так: Краўзэ Яўграф Густавіч; стацкі саветнік; жыве па адрасе: вуліца Фантанка (улица Набережная реки Фонтанки), д. 40, кв. 34; доктар Міністэрства Унутраных Спраў. Высокі чын V класа ён мог атрымаць у сярэдзіне 1860-х гг., ды – уласна – гэта не магло перашкодзіць скласці ў гонар сябра вершаваныя радкі алегарычнага характару. Бясспрэчна тое, што Я. Краўзэ добра ведае якой гэта “дивной одной” прысвячае “пѣвецъ Сарматовъ несравненный” свае творы. Яна – гэта тая, у імя каго была напісана і беларускамоўная гутарка *Крыўда і Праўда*, – Рэч Паспалітая.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–52, k. 1v–2. Тэкст зверыў з арыгіналам Вячаслаў Мартысюк.

---

[1] Г. Кісялёў, *Пошукі імя: Манаграфія*, Мінск 1978, с. 201.

[2] *Ibidem*.

[3] Ён валодаў маёнткам Караміды ў Віцебскім павеце. Пра Станіслава Нясцюшку-Буйніцкага пісаў Станіслаў Мацкевіч-Цат (1896–1966): “Bujnicki nazywał się Nieściuszko-Bujnicki i był prawnukiem starego miłego grafomana, który tak rzewnie opisywał północną Białoruś”. Гл.: S. Mackiewicz (Cat), *Lata nadziei*, Londyn 1946, s. 145. “Стары мілы графаман” – гэта літаратар XIX стагоддзя Казімір Буйніцкі (1788–1878).

[4] *Всеобщая адресная книга С.-Петербурга, съ Васильевскимъ островомъ, Петербургскою и Выборгскою сторонами и Охотою*, С.-Петербургъ 1867–68, с. 252.

## *Францу Пчицкому*

Любимый музами поэтъ
Пѣвецъ Сарматовъ несравненный,
Скажи, когда узнаетъ свѣтъ
Твой даръ великій, драгоцѣнный?

Когда откроешь ты тайникъ
Своихъ прекрасныхъ вдохновеній
Богатствъ поэзіи рудникъ
И все что могъ создать твой геній?

Зачѣмъ же даръ ты свой таишъ,
Алмазъ безцѣнный зариваешъ?
Одной лишь только все даришъ,
Другихъ безжалостно лишаешъ?

И кто жъ та дивная одна?
Скажи мнѣ, мой поэтъ чудесный,
Не ужъ то смертная она,
Иль геній красотой небесной!

Ахъ, какъ бы, какъ бы я желалъ
Открыть души твоей тайницу
И въ ней узнать твой идеалъ
Роскошныхъ думъ твоихъ царицу,

Достойную любви пѣвца,
Который такъ прелестно пишетъ,
Пленяетъ, мучаетъ сердца
Душой и чувствами колышетъ,

Который столько посвятилъ
Ей въ даръ прекраснѣйших творений,
Предъ нею чудный міръ открылъ,
Гдѣ царствуетъ безсмертный геній.

Завидна участь дѣвы той,
Скажу тебѣ поэтъ мой милый!
Любимой вѣчно быть тобой
Есть жребій для нее счастливый.

И какъ должна она любить
Тебя о бардъ мой вдохновенный,
Тобой гордиться, дрожить, –
И даръ цѣнить твой несравненный.

– Но, мой поэтъ, не все же ей
И дружбѣ удѣли частицу,

Отъ пѣсней музы мнѣ твоей
Ты подари хотя страницу.

Пусть дружба сладкая твоя
Въ душе твоей ко мнѣ продлится,
Ей вѣренъ вѣчно буду я
И буду ею вѣкъ гордится.

Евграфъ фонъ Краузе

# *Суседчык Гавейскі*

Янка Саламевіч у чэрвені 1966 г. у архіве М. Федароўскага выявіў вершаваныя тэксты (266 радкоў) невядомага раней паэта Вільгельма Пратасэвіча[1]. Вялікай мастацкай каштоўнасці для тагачаснай навукі яны, відаць, не ўяўлялі, а таму апублікавана было адно 80 радкоў[2] у газеце "ЛіМ" за 28 кастрычніка 1969 г. Пра аўтара Я. Саламевіч падаў толькі тую інфармацыю, што была ў рукапісе: паэт паходзіў з вёскі Барышын на Наваградчыне, памёр у 1880 г. А таксама тое, што гутарка *Суседчык Гавейскі*[3] напісана "каля 1875 года".

Наколькі нам вядома, літаратуразнаўцы не зацікавіліся творчай спадчынай вясковага паэта. Не згадваецца В. Пратасэвіч ні ў беларускіх энцыклапедыях[4], ні ў акадэмічнай *Гісторыі беларускай літаратуры*[5], ні ў адмысловых даследаваннях гумарыстычнай і сатырычнай літаратуры XIX стагоддзя[6]. Фактычна, кароткая характарыстыка гутаркі, дадзеная Я. Саламевічам, – гэта ці не адзінае, што можна прачытаць пра яе: "Напісана жыва і займальна, з іранічнай і саркастычнай усмешкай па адрасе паноў, даволі сакавітай народнай мовай, хоць і з дыялектнымі формамі і пэўным дамешкам паланізмаў. У ёй даволі ярка перадаюцца падзеі, пра якія расказвае аўтар. Як сведчаць апошнія радкі *Суседчыка Гавейскага*, аўтар не пазбянаў і сацыяльных матываў"[7]. Апрача гутаркі, Я. Саламевіч прысвяціў колькі радкоў і вершу *Хоць нам вяляць ксяндзы водачкі не піць*: "Аўтар, ідэалізуючы ў некаторай ступені «добрага пана», выступае супраць п'янства і дамастроеўскіх парадкаў у сямейным побыце"[8].

У публікацыі Я. Саламевіча адсутнічае дакладны архіўны адрас твораў В. Пратасэвіча, а таму доўгі час не ўдавалася паўторна выявіць іх. Такія спробы

---

[1] Прозвішча паэта Я. Саламевіч падаў як Пратасевіч, хоць у рукапісе паслядоўна захоўваецца напісанне PROTASEWICZ.

[2] У хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* (Мінск 1971, с. 242–244) дададзена яшчэ 12 радкоў.

[3] Я. Саламевіч – невядома чаму – тытул першага тэксту палічыў за агульны для ўсіх трох. Аднак і нумарацыя тэкстаў М. Федароўскім, і графічны іх падзел паказваюць, што тут тры асобныя творы, аб'яднаныя, праўда, агульнасцю паляўнічай тэматыкі.

[4] Нават шасцітомнае выданне *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік* (Мінск 1992–1995) не ведае такога літаратара як В. Пратасэвіч.

[5] Напрыклад: *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007.

[6] Гл.: Л. Кісялёва, *Маргіналіі: Беларуская гумарыстычная літаратура XIX – пачатку XX ст. у святле сучасных літаратуразнаўчых канцэпцый*, Мінск 2007; А. Плешкунова, *Камічнае ў беларускай паэзіі XIX стагоддзя: спецыфіка мастацкай мовы*: Дысертацыя на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук, Мінск 2014 (машынапіс).

[7] Я. Саламевіч, *Паэт-селянін Вільгельм Пратасевіч*, "ЛіМ" 1969, 28 кастр.

[8] *Тамсама*.

рабіліся супрацоўнікамі Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

Нам давялося прагледзець ледзь не ўвесь архіў М. Федароўскага, перш чым сцвердзіць: тэксты В. Пратасэвіча знаходзяцца ў фондзе 438 Кабінета рукапісаў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта. Больш дакладна: **Rkps BUW 438:** Materiały do baśni, podań, przypowieści, anegdot i opowiadań do tomów I, II i III *Ludu Białoruskiego*. Bruliony i czystopisy z warsztatu Michała Federowskiego. Pol., białorus. Koniec XIX w. K. różnych wymiarów ok. 330. Luźne. Ze spuścizny M. Federowskiego.

У фаліянце І фонда маюцца падрыхтаваныя супрацоўнікамі М. Федароўскага да друку шэраг народных і літаратурных тэкстаў[1]. Сярод іх – творы В. Пратасэвіча. Усе гэтыя тэксты захаваліся таксама і ў чарнавой форме (фаліянт IV). Нам падаецца, што для крыніцазнаўства менавіта яны ўяўляюць значна большую цікавасць, чым пераіначаныя і мадэрнізаваныя тэксты, што былі падрыхтаваныя для друку.

Творы В. Пратасэвіча размешчаны ў фаліянце IV пад нумарамі 22–25. Бо апрача гутаркі *Суседчык Гавейскі* і верша *Хоць нам вяляць ксяндзы водачкі не піць* тут ёсць яшчэ дзве “паляўнічыя” гутаркі: *Першы дзень палявання...* і *Серада*. Як вынікае з прыпісак, творы вясковага паэта былі занатаваны 15 студзеня 1900 года ў вёсцы Барышын. Зрабіў гэта нехта са знаёмых-прыяцеляў М. Федароўскага (магчыма, нехта з сям’і Дзежкаў) на паперы – хутчэй за ўсё – самога фальклярыста (такую паперу з гарызантальнымі і вертыкальнымі лініямі чырвонага і сіняга колераў ён спарадычна выкарыстоўваў напрыканцы XIX стагоддзя).

Складваецца ўражанне, што творы В. Пратасэвіча (як, дарэчы, і *Віншаванне бондара Савасцея*) перапісаў малапісьменны чалавек. Зрэшты, можа быць, у вёсцы Барышын спадкаемцы В. Пратасэвіча дазволілі перапісчыку пакарыстацца рукапісамі паэта і ён скапіраваў іх дакладна літара ў літару. Пісоўня (вось толькі каго: аўтара ці перпісчыка?) не вызначаецца ўнармаванасцю: у яе аснове – так назавём – беларуская лацінка з асобнымі польскім літарамі (***ł***, ***ż***, ***ś***, ***ć***, ***ę***), але часам сустракаюцца літары грамадзянскага шрыфта (***г***, ***ю***, ***у***); беларускі гук [ў] перадаецца звычайна літараю ***u***; знак абазначэння кароткасці пастаўлены М. Федароўскім, а таксама яшчэ нейкім, мажліва перапісчыкам (бо, магчыма, так было ў рукапісе паэта); высветліць кім растаўлены знакі прыпынку – не ўяўляецца магчымым: так магло быць у аўтара, але яны маглі паходзіць і ад перапісчыка, і нават ад М. Федароўскага; звяртае на сябе ўвагу і правапіс вялікае літары: перапісчык (следам за аўтарам?) выкарыстоўвае яе адвольна – прозвішчы і назвы мясцовасцяў пішуцца то з вялікае, то з малое літары; адвольна расстаўляюцца і дыякрытычныя знакі.

Асобнае пытанне: хто правіў тэкст? Праўкі М. Федароўскага – а яны пазнаюцца па характэрным почырку фальклярыста – не ахопліваюць усіх правак у тэксце.

На першай старонцы рукапісу ўгары перапісчык алоўкам па-польску запісаў: “Gawęda Protasewicza Wilhelma, umarł przed laty 20”. Побач М. Федароўскі

[1] Праўда, анічога з гэтага фаліянту не было ўключана ў тамы *Ludu Białoruskiego*.

пашпартызаваў дакумент: "Nowogródzkie, w. Boryszyn". Ніжэй змешчаны тытул *Susiedczyk Gawiejski*. У якасці "падтытулу" рукою трэцяе асобы (не перапісчыка і не М. Федароўскага) пададзена наступная інфармацыя: "Napisał ~~przed laty~~ około 1875 r. Wilhelm Protasewicz". І яшчэ двойчы – пасля першае гутаркі, а таксама верша – тая самая асоба "пацвердзіла" аўтарства: у дужках пазначыла імя і прозвішча паэта – (Wilhelm Protasewicz). Можна дапусціць, што і пэўная частка правак належыць гэтай жа самай асобе.

У мастацкіх адносінах тэксты В. Пратасэвіча аніяк нельга назваць "высокім пісьменствам"; у той жа час нельга іх залічыць і да фальклору. Ягоныя творы належаць да гэтак званае "трэцяе літаратуры", ці "трэціх абшараў літаратуры". Лія Кісялёва прапанавала дадзены феномен называць інсітнаю літаратураю і вылучыла яе асноўныя рысы: "1. Ненаўмыснае парушэнне прапорцый. Інсітнік падсвядома адчувае, што засяродзіць увагу на тым прадмеце, які здаецца яму значным, можна вельмі лёгкім спосабам − трэба проста павялічыць яго памеры. <…> 2. Мудрагелістая дэталізацыя. Інсітнік скрупулёзна прапісвае дробныя нязначныя дэталі − не ўсе, а толькі некаторыя... <…> 3. Сакавітыя лакальныя колеры, адсутнасць паўтонаў"[1]. І самае каштоўнае ў інсітнай літаратуры, на думку даследчыцы, – "гэта яе шчырая недасканаласць"[2].

В. Пратасэвіч якраз можа змясціцца ў шэрагу такіх інсітных аўтараў, як Пілiп Смуры (пер. пал. XIX ст), Мікалай Марозік (каля 1852 – пасля 1913), Восіп Арлоўскі (др. пал. XIX – пач. XX ст) і інш., а таксама такіх ананімных тэкстаў, як *Маладзікова гутарка*, *Як былі пад панам* і інш. "Большасць гэтых тэкстаў палітычна стэрыльныя: і перапісваць-распаўсюджваць было не страшна, і публікаваць – не праблематычна"[3].

Гутаркі В. Пратасэвіча можна было б яшчэ назваць "дробнамаёнткаваю прыдворнаю літаратураю": паэт-селянін (лепш: davershaskladalnik), рупліва служачы свайму пану і пані, шчыра ўслаўляе іх, апявае сваю любоў і прыхільнасць да "бацькі" і "маткі".

У сувязі з гэтым варта засумнявацца ў пададзенай М. Федароўскім і ягонымі памочнікамі атрыбуцыі гутарак В. Пратасэвіча: ці не былі ўсё ж напісаны яны раней? Вядома, можна дапусціць, што памяць селяніна пра паншчыну і ў 1875 г. была ўсё яшчэ вельмі моцнай. Аднак памятайма, што гутаркі гэтага аўтара пісаліся "па свежых слядах", адразу пасля здарэння – наладжанага ў ваколіцах вёскі Барышын[4] вялікага "панскага" палявання, на якое было запрошана

[1] Гл.: Л. Кісялёва, *Тэма кахання ў інсітнай літаратуры XIX ст.: Сцяпан і Таццяна М. Марозіка* [у:] *Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта*, вып. сёмы, Мінск 2006, с. 85.

[2] *Тамсама*, с. 86.

[3] Л. Кісялёва, *На "трэціх абшарах" беларускае літаратуры: Пілiп Смуры і іншыя*, "Acta Albaruthenica" 2012, t. 12, s. 58.

[4] Прозвішча "нашых паноў" аўтар не называе. Аднак вядома, што фальваркам Барышын на Наваградчыне ў другой палове XIX ст. валодалі Вайніловічы. "Барышын, вёска і фальварак ля рэчкі Моўчадка, пав. Наваградскі, гміна Кошалева, 14 вёрст ад Наваградка. Вёска мае 12 гаспадарак, фальварак каля 23 валок зямлі". Гл.: *Słownik geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XV, cz. 1, Warszawa 1900, s. 221.

некалькі дзясяткаў шляхціцаў-землеўладальнікаў з Наваградчыны, а нават і з іншых мясцін (згадваецца Брамоўскі з-пад Ашмянаў). Больш раннім часам напісання твораў В. Пратасэвіча можна растлумачыць і той факт, што ягоныя гутаркі не друкаваліся, бо – у адрозненне ад тэкстаў М. Марозіка – яны былі напісаны ў іншую эпоху, калі і размовы не магло быць пра друкаванне “сялянскае літаратуры”. Калі дакладная інфармацыя, што В. Пратасэвіч памёр у 1880-м г., дык лагічна будзе меркаваць, што ягоныя гутаркі напісаны не пазней, чым у 1850-я гг.

Па форме тэксты В. Пратасэвіча цалкам адпавядаюць жанру гутаркі: наратар-апавядальнік ва ўсіх чатырох тэкстах звяртаецца да кума, якога часам называе Майсеем. Апавядальнасць нязменна дапаўняецца павучальнасцю. Прысутнічае таксама – як у г. зв. іменінных вершах – віншавальна-падзячны аспект: аўтар звяртаецца ў першую чаргу сваіх паноў, а таксама, відаць, да аканома – “лысага Пратасэвіча”, які часам і “чубіць” мужыкоў, але жыве з імі добра і дружна, “разам з намі спявае”. Стаўленне наратара да “чужых” паноў – прыязнае, хоць часам і з’яўляюцца сярод гумарыстычнага апісання і іранічныя ноткі.

Верш сілабічны, нерэгулярны. Варта звярнуць увагу на той факт, што з 133 вершаваных пар 32 маюць перакрыжаваную рыфму, астатнія – сумежную.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу: Rkps BUW 438, vol. VI, nr 22–25.

## *Susiedczyk Gawiejski*

Para panoczki, para ustawać![1]
Z pszennej bułoczkoŭ[2] wypici czajok
Ustyd[3] wam panoczki aż da dnia leżać
Zbirajciesie drużno jedzcie u[4] lesok
Uszak|że sabralisie kaby palawać[5]
To palujce|z s Bогом[6] pany małajcy
Ni użo|sz dzień z noczju usio u[7] karty hrać
Treba duszyć lise da sczuwaci zajcy
I wy najeżdsaczy[8] żywo paskarej
Dajcie ausa koniam udzieńcie[9] kulbaki
Da nastaucie[10] wady prendzieńko żywiej
Bo treba pakormić panskija sabaki

[1] Папраўлена чарнілам: *ŭ*stawać.
[2] Папраўлена чарнілам: pszenn*a*j buł*a*czko*j*.
[3] Папраўлена чарнілам: *Ŭ*styd.
[4] Папраўлена чарнілам: *ŭ*.
[5] Папраўлена чарнілам і алоўкам: *Ŭ*szakża ... pal*e*wać.
[6] Папраўлена чарнілам: paluj*cież z* Bo*ham*.
[7] Папраўлена алоўкам і чарнілам: użo*ż* ... *ŭ*sio *ŭ*.
[8] Папраўлена чарнілам: najeżdżaczy.
[9] Папраўлена алоўкам і чарнілам: a*ŭ*sa ... *ŭ*dzieńcie.
[10] Папраўлена алоўкам: nasta*ŭ*cie.

I strelczyki miły żywo ustawajcie[1]
Da paczysccie strelby dalej da achwoty
Adny nowienkije łapci nadziewajce[2]
Kładziecie sukonki paszmarujcie boty
Pany to u[3] bryczkach to jeduć wierchom
A wy paspieszajcie, kab barżdżej padjeść
Wam treba bratoczki drypaci pieszkom
A da lesu budzie bolej wierstou[4] sześć
A wam pan Marszałak miłaściwy Pan[5]
Kazau waryć strawu zacierki ci kaszy
Daść harełki garczyk, daść i piwa zban
Bo jon dobro znaja usie[6] patreby waszy
My pad im szczasliwy bo jon dobry pan
Dajże jemu Boże prażyć douhi[7] wiek
Niechaj sto let żywie i pan kapitan
Bo pry ich szczasliwy kożen[8] czaławiek
A naszaja pani, to, czujecie dzieci –
Takoj druhojm, peunie, da nima na świeci[9]
Jena[10] nad słuhami i całoj czeladkoj
Jena nad usimi biednienkimi matkoj[11]
Jena u zdarowi jena u[12] chwarobi
Ci katory biedny da choc pry spasobi
Jena nas jak matke dzietenki miłyje[13]
Uczyć naszy dzietki, jena ich sałuje[14]
Kali ja tut kumie choć kryszku sałhau[15]
Kab ja marnie shinuu, kab marnie prapau[16]
Boze[17] mnie pamoz, szto to szczyra mowa
Szto tut nima chfalszu ni adnaro[18] słow[19].

[1] Папраўлена чарнілам: *ŭ*stawajcie.
[2] Папраўлена алоўкам: nadziewajc*i*e.
[3] Папраўлена чарнілам: *ŭ*.
[4] Папраўлена чарнілам: wiersto*ŭ*.
[5] У словах *m*arszałak і *p*an вялікая літара папраўлена на малую.
[6] Папраўлена чарнілам: *ŭ*sie.
[7] Папраўлена алоўкам і чарнілам: Boż*a* ... do*ŭ*hi.
[8] Папраўлена чарнілам: koż*a*n.
[9] Папраўлена алоўкам: pe*ŭ*nie ... świeci*e*.
[10] Папраўлена чарнілам: J*a*na. Таксама і ў наступных радках.
[11] Папраўлена чарнілам: *ŭ*simi … matk*a*j.
[12] Папраўлена чарнілам: *ŭ* (двойчы ў радку).
[13] Папраўлена чарнілам і алоўкам: matk*a* dziet*ań*ki miłuje.
[14] Папраўлена чарнілам: *ż*ałuje.
[15] Папраўлена чарнілам: sałha*ŭ*.
[16] Папраўлена чарнілам: shinu*ŭ* … prapa*ŭ*.
[17] Папраўлена чарнілам: Bo*ża*.
[18] Папраўлена алоўкам: adna*h*o.
[19] Унізе пад вершам: (Wilhelm Protasewicz).

## *Pierwszy dzień polowania*[1]

## *W kniei dębinie*[2]

Pan Jezys pochwalony! kumie, hałubok
Wiedajasz jak uczarajszy praszou[3] nam dzieniok
No pastoj|ze[4] krychu da pasłuchaj miło
Ja razkażu szczyro usio[5] tak jak i było
My nieboze[6] wyszli pa wosmoj hadzinie
I ciszkom pastali u kniej u[7] dubinie
A na wakoł stali na konikach szczwaczy
Z pad zalejok[8] honczy, wiali zajeżdżaczy
Jak dau[9] Jakub kryku, sabaki puścili
I biednaro byczko czuć niezaduszyli[10]
No prylecieu żywo Eljasz Wereszkouski[11]
Da prybieżau skoro Janko Dakudouski[12]
I druhije strelcy chutko prybieżali
Drużno taho byczka baranici stali
A jak dau[13] z harapa Swed iz Czernichowa
To zbaraniu byczko ad adnoro[14] słowa
Jak zaczali potum z harapau plaskać[15]
To stali sabaki zaraz zajca hnać[16]
A choć Jakub żywo charty i zamknuu
Ale zajac chitry za horku szwerknuu[17]
Da pryszou pad nohi z Siennoj paniczo[18]
Toj jak tolko charty puściu[19] iz smycza

---

[1] Папраўлена чарнілам: Pierszy dzień p*a*l*e*wania.
[2] Папраўлена чарнілам: *Ŭ* kniei ~~dębinie~~.
[3] Папраўлена чарнілам: *ŭ*czarajszy praszo*ŭ*.
[4] Папраўлена чарнілам: pastoj*ża*.
[5] Папраўлена чарнілам: *ŭ*sio.
[6] Папраўлена чарнілам: niebo*ża*.
[7] Папраўлена чарнілам: *ŭ* kniei*i, ŭ*.
[8] Папраўлена чарнілам: *Ż*alej*a*k.
[9] Папраўлена чарнілам: da*ŭ*.
[10] Папраўлена чарнілам: biedna*h*o byczk*a* … ni zaduszyli.
[11] Папраўлена алоўкам і чарнілам: *Ha*ljasz Wereszko*ŭ*ski.
[12] Папраўлена чарнілам: prybie*h* … Dakudo*ŭ*ski.
[13] Папраўлена чарнілам: da*ŭ*.
[14] Папраўлена чарнілам: zbarani*ŭ* byczk*a* ad adna*h*o.
[15] Папраўлена алоўкам: harapa*ŭ* plaskać*i*.
[16] Папраўлена алоўкам: hnać*i*.
[17] Слова szwerknu*ŭ* напісана замест слова *zamknuu*.
[18] Папраўлена чарнілам: pryszo*ŭ* … Sienn*a*j panicz*a*.
[19] Папраўлена чарнілам: puści*ŭ*.

Tutku zaraz zajco[1] stali waroczać
I zaraz pajmali nieczaro skasać[2]
No tam blisko chartou adzin panok stau[3]
I pakol paniczok wierchom pryskakau[4]
Panoczku patreba da zajca prypaść
Da ci czujesz, kumie, chacieu zajco[5] ukrasć!
A patom da lisa chibiŭ pałkounik[6]
A Białopotrowicz zaraz zrabiu[7] pstryk
A choć z druhoj rurki mocno wystreliu[8]
Ale kryszku krywo zajca ni zabiu[9]
A jeszcze nieboze hawaryu[10] tam chtoś
Spudławau da lisa brachocki[11] Antoś
Tud wyrwausie zajac a kab jero[12] czerci
Z Ancutawaj ruki daczekausie[13] śmierci
Stanisłau Kiersnouski jak na woko uziau[14]
I jak tolko palnuu to i lis upau[15]
A Karol Dubouski[16] czujesz daliboh
I lisicu zabiu da i zajcau[17] dwoch
A treci lisoczek jak nos pakazau[18]
To zaraz Antoni charty paspuskau[19]
A lisica u[20] knieju, kab jeje czorty,
Bo jak tam prypała to ni naszli chorty
No jak pryszli honczy stali skawytać
To lis kała stora ……[21] na sianażać
Aszno lud Bramouski każuć s pad[22] Aszmiany

---

[1] Папраўлена чарнілам: zajc*a*.
[2] Папраўлена алоўкам: niecza*h*o ska*z*ać.
[3] Папраўлена чарнілам: bli*z*ko charto*ŭ* … sta*ŭ*.
[4] Папраўлена чарнілам: pak*u*l … pryskaka*ŭ*.
[5] Папраўлена чарнілам: chacie*ŭ* zajc*a*.
[6] Папраўлена чарнілам: chibi*ŭ* … pałko*ŭ*nik. Зверху спачатку было напісана: *nasz*, пасля замест яго *pan*.
[7] Папраўлена чарнілам: Białop*io*trowicz … zrabi*ŭ*.
[8] Папраўлена чарнілам: wystreli*ŭ*.
[9] Папраўлена чарнілам: zabi*ŭ*.
[10] Папраўлена чарнілам: niebоz*a* hawary*ŭ*.
[11] Папраўлена чарнілам: Spudława*ŭ* … *B*rachocki.
[12] Папраўлена чарнілам: Tu*t* wyrwa*ŭ*sie … je*h*o.
[13] Папраўлена чарнілам: dacz*a*ka*ŭ*sie.
[14] Папраўлена чарнілам: Stanisła*ŭ* Kiersno*ŭ*ski … *ŭ*zia*ŭ*.
[15] Папраўлена алоўкам: palnu*ŭ* to i lis upa*ŭ*.
[16] Папраўлена алоўкам: Dubo*ŭ*ski.
[17] Папраўлена алоўкам: zabi*ŭ* … zajca*ŭ*.
[18] Папраўлена алоўкам: lisocz*a*k jak nos pakaza*ŭ*.
[19] Папраўлена алоўкам: paspuska*ŭ*.
[20] Папраўлена чарнілам: *ŭ*.
[21] Папраўлена чарнілам: sto*h*a. Наступнае слова неразборліва, магчыма, *dzygnuu*.
[22] Папраўлена чарнілам: A*ż*no *t*u*t* Bramo*ŭ*ski … *z* pad.

подъ игомъ помѣщиковъ и о крѣпостническихъ отношеніяхъ послѣднихъ къ первымъ” такіх песняў было шмат, бо гэтыя адносіны “въ большинствѣ случаевъ, были таковы, что едва ли могли изгладиться изъ памяти народа въ теченіе лишь одной четверти вѣка. Да и возможно ли представить себѣ, что трезвая, всеобъемлющая поэзія нашего народа, особливо его пѣсня, которая всегда громко и ясно откликалась на все то, что тревожило и задѣвало за живое какъ внутреннюю бытовую, такъ и внѣшнюю его жизнь, могло пройти огульным молчаніемъ, именно тѣ печальныя явленія крѣпостнаго періода этой жизни, которыми переполнены скорбные листы исторіи крестьянства на Руси. А вѣдь этотъ періодъ далъ себя знать народу не менѣе чувствительно, чѣмъ татарщина, опричнина и разные войны стараго и новаго времени”[1].

Беларускія тэксты П. Шэйн, па яго словах, “выделилъ” з “*Матеріаловъ для изученія быта и языка русскаго населенія въ Сѣверо-Западномъ краѣ*”, першы том якіх быў надрукаваны ў 1887 г. Характэрна, што змешчаныя ў часопісе, яны ўжо не з’явіліся ў кніжным выданні.

Менавіта тут апублікавана гутарка *Разгаворъ Данилы и Сьцепана (про волю)*. Напачатку падкрэсліваецца, што гэты тэкст не зусім адпавядае найменню “народная песня”: “Послѣднее стихотвореніе одно изъ немалочисленныхъ произведеній новѣйшей народной или полународной бѣлорусской музы. Стихотвореніе это распространено во многихъ спискахъ, особенно в Минской губерніи; замѣчательно, что лучшій списокъ написанъ польскими литерами доказательство, что стихи распространены между крестьянъ римско-католического вѣроисповѣданія”[2]. Істотна, па-першае, што П. Шэйн ведае “немалочисленные” беларускія творы, па-другое, што ён кажа пра “многіе списки” гутаркі *Разгаворъ Данилы и Сьцепана (про волю)*, па-трэцяе, што аўтара ён “прапануе” шукаць сярод рымска-каталіцкіх вернікаў. Апошняе цікава яшчэ тым, што другі беларускі літаратурны тэкст, яўна антыпольскага зместу, нарадзіўся ў праваслаўным асяроддзі[3].

Як вядома, у сваіх “беларускіх” зборніках П. Шэйн амаль не друкаваў тэкстаў літаратурнага паходжання[4]. У той жа час ён іх ведае і, верагодна, мае ў сваім рукапісным архіве (карэспандэнты П. Шэйна, у тым ліку такія вядомыя асобы як А. Багдановіч, Я. Карскі, Ю. Крачкоўскі, М. Нікіфароўскі, Я. Лучына, З. Радчанка і інш., запісалі і даслалі яму аграмадную колькасць матэрыялаў).

Сёння, не ведаючы акалічнасцяў падрыхтоўкі артыкула *Крѣпостное право въ народныхъ пѣсняхъ* да друку, мы не можам сказаць, якімі рэдактарскім прынцыпамі кіраваўся П. Шэйн, прапануючы часопісу “Русская старина” гутарку

---

[1] П.В. Шейн, *Крѣпостное право въ народныхъ пѣсняхъ*, “Русская старина” 1886, февраль, с. 483.

[2] П.В. Шейн, *Крѣпостное право въ народных песняхъ*, “Русская старина” 1886, мартъ, с. 678.

[3] Гаворка пра верш *Була Пыльща, була Пыльща*, які для П. Шейна запісаў слухач Віленскага настаўніцкага інстытута М. Серада.

[4] У *Матеріалах для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западнаго края* (1887) маецца верш-песня Я. Баршчэўскага *Гарэліца*, з-за працяглага вуснага бытавання значна фальклярызаваная.

*Разгаворъ Данилы и Сьцепана (про волю)*. Ці гэта быў абраны "лепшы спіс" з усіх магчымых, ці фальклярыст "складаў" тэкст з розных рукапісаў? Адно відавочна: у адрозненне ад іншых песняў тут вучоны не пазначае кім і дзе была запісана дадзеная гутарка. Тым не менш, мы заўважаем яго імкненне захаваць асаблівасці беларускае мовы, амаль не "падганяць" яе да правапісных нормаў расейскае літаратурнае мовы.

Праўда, 180 радкоў твора ўведзены ў навуковы ўжытак зусім нядаўна[1]: звычайна літаратуразнаўцы карысталіся тэкстам, апублікаваным М. Федароўскім. Том, у якім змешчана *Hutarka Daniły z Ściepanam*, выйшаў у 1903 г.[2]. М. Федароўскі падае яе ў раздзеле *Скасаванне паншчыны* (разам з вершам *Rozmowa pana z chłopem po uwłaszczeniu*[3]). З тлумачэнняў збіральніка можна даведацца, што гутарка запісана ад лесніка (gajowego) з фальварку Навасады Наваградскага павету. Фальварак знаходзіўся недалёка ад мястэчка Вастраў (Крывошынскай, а пазней Навамышскай гміны) ля ракі Мышанка. Па невядомай прычыне прозвішча лесніка М. Федароўскі не называе.

На пачатку XX стагоддзя *Гутарку Данілы са Сцяпанам* увёў у кантэкст беларускае літаратуры Я. Карскі, які да таго ж, спасылаючыся на Рамуальда Зямкевіча, сцвярджаў, што гэты твор напісаў П. Багрым: "Очень живо изображено тяжелое положение белоруса-крестьянина накануне освобождения от крепостной зависимости в стихотворении, озаглавленном *Гуторка Данилы з Сцепанам*, появившемся еще в крепостное время, но уже тогда, когда слухи о вольности приближались к осуществлению. Некоторые, как мы говорили, соединяют его с именем Бахрыма. В стихотворении – явно враждебный тон по отношению к панам-притеснителям и заметно благожелательное отношение к русскому народу и преданность царю-освободителю[4]. *Гутарка* составлена лицом, принадлежащим к самому народу, хорошо знающим все особенности крепостничества. Стихотворение написано чистым белорусским языком, почти без полонизмов. Издано оно впервые латиницей у Федеровского"[5].

Паўтарыў высновы Я. Карскага М. Гарэцкі: "Кажуць ён (Бахрым) злажыў *Гутарку Данілы са Сьцяпанам* і *Размову пана з мужыком*, каторы запісаны ад народа этнографамі <...> *Гутарка Данілы з Сьцяпанам* па складу верша не падобна да разгледжанай песьні, але ўвесь яе тон і думкі лёгка нагадуюць бахрымаўскую творчасць. *Гутарка* была дужа пашырана, як рукапісны твор невядомага аўторства. Магчыма, што Бахрым схаваў імя і не падпісаўся навет псэўданімам, баяўшыся паноў. Твор напісан перад вольніцай. Даніла з Сьцяпанам талкуюць аб тым, што паны ня хочуць, каб цар даваў вольніцу. Чуецца, што

[1] Гл.: М. Хаўстовіч, *Гутарка Данілы са Сцяпанам*..., , s. 15–37.

[2] M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej: Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1894*, t. 3…, s. 14–18.

[3] Друкавалася ў хрэстаматыях пад тытулам *Гутарка пана з селянінам*. Гл.: *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1971, с. 42.

[4] Заўважым, што "благожелательные" адносіны аўтара да рускага народа ў *Гутарцы* аніяк не выяўляецца, гэтаксама як і "преданность" цару, які напрыканцы 1850-х гг. яшчэ да таго ж і не быў "освободителем".

[5] Е. Карский, *Белорусы...*, с. 323

аўтар *Гутаркі* сам мужык; ён глыбока адчувае мужыцкую няволю, ненавідзіць паноў і вельмі жадаець скасаваньня прыгону. Але сьветаглад яго не расшыраны кніжнай адукацыяй, думкі прастадушныя, патрэбнай для дзейнага адраджэньня нацыянальнай і соцыяльнай сьвядомасці няма"[1].

Пазней М. Гарэцкі ўнёс істотную праўку ў атрыбуцыю твора, даўшы да сказу "Некаторы гісторыкі літаратуры прыпісваюць Бахрыму *Гутарку Данілы са Сьцяпанам* і яшчэ некаторыя творы, запісаныя этнографамі з вуснаў народу" спасылку: "У альбоме поэты А. Паўловіча гэтая *Гутарка* ўласнаручна напісана ў 1900 г. Я.А. Васільевым (менскім беларусам), як твор В. Дуніна-Марцінкевіча. Навуковага доследу ў гэтай справе яшчэ не было"[2].

Літаратуразнаўцы 1950-х гг., адзначаючы, што аўтар (найбольш верагодна, П. Багрым) праўдзіва малюе карціны сялянскага гора, перадае думы і настроі заняволеных сялянскіх мас, лічылі патрэбным падкрэсліць, што ён "не здолеў асэнсаваць сваіх уласных вобразаў і зрабіць з іх радыкальныя вывады"[3]. "Віною" гэтаму была абмежаванасць светапогляду аўтара, а таксама "слабыя бакі сялянскага руху канца 50-х – пачатку 60-х гадоў"[4].

У 1980-я гг. гутарка атрымала зусім іншую характарыстыку: "у маст.-публіцыст. форме рэалістычна паказвала бяспраўнае жыццё сялянства, няшчадную эксплуатацыю яго памешчыкамі. У творы яскрава выявіліся бунтарскія настроі сялянскіх мас, іх нянавісць да прыгоннікаў. Сваё вызваленне сяляне спадзяюцца атрымаць з рук «цара-бацюхны», але ўсё ж разумеюць, што цар заадно з панамі. Глыбокі дэмакратызм, праўдзівасць, прастата і даходлівасць, жывая вобразная мова робяць твор яркім узорам той л–ры, што ўзнікла ў нар. асяроддзі і была голасам народа ў яго змаганні за лепшае жыццё"[5].

У корпусе тэкстаў беларускай літаратуры *Гутарка Данілы са Сьцяпанам* упершыню з'явілася ў *Хрыстаматыі* М. Гарэцкага. У аснову публікацыі пакладзены тэкст з *Ludu białoruskiego* М. Федароўскага[6]. Гісторык літаратуры палічыў патрэбным паправіць тэкст: змяніў шмат якія дыялектныя формы на літаратурныя (напр., "будзя" на "будзе" і інш.), ажыццявіў перастаноўку слоў у асобных радках дзеля захавання рытму і інш. Разам з тым незразумела, чаму замест радка "Гладышы каб памыла, цабры і дайніцы" пастаўлены кропкі? Яшчэ ў двух месцах М. Гарэцкі, відавочна, адчуўшы, што ў запісе М. Федароўскага па сэнсу павінны быць дадатковы тэкст, кропкамі пазначыў, што павінны быць два радкі пасля радка "Грыбэ, яйцы, куры толькі абіраюць" і тры радкі пасля радка "Днём стравы ніколі цёплай не скаштуеш". У апошнім выпадку можна цалкам згадзіцца з публікатарам: названы радок не меў рыфмаванае пары. Не выклікае сум-

[1] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*, Вільня 1920, с. 60, 61.
[2] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*, Масква–Ленінград 1924, с. 176.
[3] С. Майхровіч, *Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, выд. другое, Мінск 1959, с. 19.
[4] В. Барысенка, *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957, с. 53.
[5] М. Лазарук, *Гутарка Данілы са Сцяпанам* [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі ў 5 тамах*, том 2, Мінск 1985, с. 241.
[6] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры...*, с. 87–91.

ненняў, што М. Гарэцкі старанна рыхтаваў тэкст да публікацыі: заўважыўшы, што радок “Дзе твой мех, рэшата і сечка?” мае толькі 9, а не 12 – як іншыя – складоў, абазначыў кропкамі ў сярэдзіне радка яўны пропуск.

Па выданні М. Федароўскага[1] друкавалася *Гутарка* і ў зборніку тэкстаў *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* (1950), выдадзеным пад рэдакцыяй Ю. Пшыркова. Складальнікі (В. Барысенка, М. Ларчанка, Л. Фіглоўская) унеслі ў тэкст твора шэраг характэрных змен. У шостым радку “Ад ксяндзоў, ад жыдоў усе людзі чуюць” слова “жыдоў” папраўлена на “рабінаў”, а ў наступным – выпадае слова “цар” – становіцца не зразумела: хто ж дасць сялянам вольнасць. Дваццаць восьмы радок “З хама ніц не будзя, як пана не мая” рэдактары далікатна апусцілі, не зважаючы, што папярэдні радок застаецца без рыфмаванае пары. Апушчана таксама страфа, якая пачынаецца радком “Нехай дасьць Бог цару нашаму здароўя”, бо, вядома, селянін не мусіў мець аж такі “рэакцыйны” светапогляд.

Шматлікія іншыя рэдактарскія праўкі, хоць і змяняюць часам сэнс паэтычнага выказвання, але ўсё ж больш дробнага кшталту. Напрыклад, у трыццатым радку “Перад царам *ў вочы* на нас плесьці сьмеюць” замест “ў вочы” чамусьці з’явілася “ў вёсцы”; у восемдзесят другім – “Таму *сянаваці*, кусты церабіці” замест “сянаваці” – “сенажаці”; у сто трыццаць восьмым радку “Усё *ляжа* адлогам, лазы будзя воўку” замест слова “ляжа” з’яўляецца “лаза” і інш. Не кажам ужо пра нематываваную замену дзеясловаў 3-е асобы дзеясловамі 2-е асобы і наадварот.

Выданне, прызначанае для настаўнікаў і студэнтаў, мусіла мець тлумачэнні гістарызмаў і архаізмаў. Да *Гутаркі* такія тлумачэнні ёсць. Праўда, іх мала і часам яны недакладныя. Напрыклад, “дзякла” (падатак хлебам) падаецца як “дарожная павіннасць, паншчына”.

Усе хібы хрэстаматыі 1950 года паўтараюцца амаль ва ўсіх пазнейшых выданнях аналагічнага тыпу[2]. Укладальнікі звычайна не бралі на сябе клопату зверыць тэкст гутаркі з выданнем М. Федароўскага; не звярталіся таксама і да першай яе публікацыі П. Шэйнам. Не вырашыла справу і наша публікацыя з ашчадным захаваннем асноўных асаблівасцяў першапублікацый *Гутаркі*[3]: і П. Шэйн, і М. Федароўскі, атрымаўшы ад сваіх карэспандэнтаў запісы твора, рыхтавалі яго ў адпаведнасці са сваім разуменнем публікацыі фальклорных і напаўфальклорных матэрыялаў. Не выклікае сумнення, аднак, што абодва публікатары папраўлялі *Гутарку*... Што да запісаў, якімі карыстаўся П. Шэйн, то – па інфармацыі Вячаслава Мартысюка – у нататніках Лукаша Бэндэ нібыта ёсць згадкі пра захаваныя ў Шэйнавым фондзе спісы *Гутаркі*... Магчыма, некалі гэтыя спісы будуць уведзены ў навуковы ўжытак.

---

[1] Гэта пазначана ў “Заўвагах” (с. 335).

[2] Гл.: *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*, Мінск 1971, с. 37–41, 339 (178 радкоў); *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*, Мінск 1988, с. 27–31, 448 (178 радкоў); *Заняпад і адраджэнне...,* с. 124–128 (178 радкоў); *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 3..., с. 1047–1051, 1080 (180 радкоў; паводле публікацыі П. Шэйна); *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: Анталогія...*, с. 611–615 (178 радкоў).

[3] М. Хаўстовіч, *Гутарка Данілы са Сцяпанам*..., s. 15–37.

## Першы спіс

Што датычыць запісаў, якімі карыстаўся М. Федароўскі, то ў бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэта выяўлены толькі адзін рукапіс. Ён складаецца з двух аркушаў паперы перагнутых папалам і сшытых: атрымаўся сшытак з васьмі старонак[1]. Тэкст размешчаны на ўсіх старонках (апошняя запісана няцалкам). На першай старонцы рукою М. Федароўскага (алоўкам і чарнілам) напісана некалькі слоў: *Hutarka*; *Pańszczyzna*; *Nowogrózdkie*. *Od Ostrowia*, *Nowosady*. На рукапісе маюцца праўкі розных (двух?) асобаў (некаторыя, магчыма, – аўтара рукапісу ці, больш верагодна, перапісчыка, іншыя – відавочна, М. Федароўскага). Паводле дадзенага рукапісу была падрыхтавана копія (перапісчык пакінуў на рукапісе характэрныя пазнакі, якія могуць сведчыць пра колькасць радкоў на старонках копіі), паводле якое *Гутарка...* друкавалася ў *Ludzie Białoruskim*. Заўважым, што шэраг правак не было выкарыстана; у той жа час, відавочна, М. Федароўскі правіў і копію: у друкаваным тэксце напісанне некаторых слоў адрозніваецца ад іхняга напісання ў рукапісе[2].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу Кабінента рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта: Rkps BUW 437, cz I, vol. 2.

Спецыяльна не агаворваецца тое, што літара ***ż*** перадаецца звычайна як ***ź*** (М. Федароўскі часта, але не заўсёды папраўляў гэтую асаблівасць пісоўні, закрэсліваючы акут і ставячы кропку). Перапісчык таксама не заўсёды карыстаўся дыякрытычным знакам ´ (акут) дзеля абазначэння мяккасці зычных; шмат разоў ён выкарыстоўвае літару ***ó***, але не дзеля абазначэння польскага гуку [***u***], а каб пазначыць націск. Дарэчы, толькі аднойчы ў рукапісе выкарыстаная літара ***ę*** (*winię*): прымаем гэта за звычайную апіску.

[1] Папера гэтага "сшытка" значна адрозніваецца ад паперы, якою карыстаўся напрыканцы XIX – пачатку XX стагоддзяў М. Федароўскі. Можна дапусціць, што "сшытак" паходзіць з 1850–1860 гг. Аднак, думаецца, гэта не аўтарскі "асобнік".

[2] У сшытку гутарка мае 184 радкі (у П. Шэйна – 180); пры перапісванні (падрыхтоўцы рукапісу да друку) "згубіўся" адзін радок: "*Suchim Chlebam adzin druhoho czastujesz*". Але з гэтых 183 радкоў у беларускіх хрэстаматыях – у лепшым выпадку – заставалася 178.

## *Rozmowa Daniły z Sciepanem*[1]

Zyiszowszyś[2] Daniło Swiatym dniom z Sciepanem[3]
Charoszoju pahodoju Sieli pad parkanem[4]
Day nuż tałkawaci, day nuż hawaryci
Szto dalay z nas Budzie, jak my budziem[5] Życi
Haworać na swiecie[6] u hołas tałkujuć
Ad Ksiandzow ad Żydow usie Ludcy[7] czujuć
Szto wólnaść nam biednym daść car biez adkładu
Tolko szto z Panami nie daydziemo ładu
Czaho adny choczuć, to druhim niemiła
Jak czort, piered djabłem[8] prażetca[9] ich siła
Car jm paturaja, a jany Chitrujuć
Zmowiwszyś[10] z saboju Caru tak tałkujuć
Panie Nayjasniejszy szto z hetaho budi[11]
Dauszy usim wólnaść każen toje zhudzie[12]
Szto mużyk biez pana być nijak nie może[13]
Pabjutca[14] pakolucca ścieraży ty Boże[15]
Nad jm treba sztodzień z knutom stać nad karkam
Rózgi kab leżali wozam za chwalwarkam
Hrazy jak nie|budzie ad dwara nad chamem[16]
Zabjutsa pakolucca z saboju nawiek wiekou Amen[17]
Mużyk biez harełki pierabyć nie|może[18]
Pijany nie ustupić ścieraży ty Boże[19]

---

[1] Літара *e* закрэслена, а ўгары напісана літара *o*: *Sciepanom*.
[2] Літара *i* закрэслена, а над літарай *w* пастаўлены знак (~), які М. Федароўскі ўжываў дзеля пазначэння кароткасці гуку, абазначанага літарай *u* ці *w*.
[3] Літара *e* папраўлена на *a*: *Sciepanam*.
[4] У трох словах радка літары *o* і *e* папраўлена на *a*: *Charoszaju, pahodaju, parkanam*.
[5] Літара *e* папраўлена на *a*: *budziam*.
[6] Літара *e* папраўлена на *a*.
[7] Літары *cy* закрэслены, а ўгары напісаны літары *zi*: *ludzi*.
[8] У двух словах літара *e* папраўлена на *a*: *pierad*, *djabłam*.
[9] Літара *t* закрэслена. “Пре́жчьца, -гу́ся, -же́шся, гл. возвр. 1. Жариться на огнѣ. *Ковбасы прегуцца для госцей*. 2. Мучиться. *Прежись ты отъ моей головы*. 3. Рваться, тосковать. *Досиць тобѣ пржечьца по ём*. 4. Просить съ плачемъ. *Дзѣци прегуцца, ѣсци хочуць*”. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...*, с. 494.
[10] Над літарай *w* пастаўлены знак (~): *Zmowiŵszyś*.
[11] Літара *a* дапісана пазней: *budia*.
[12] У двух словах літара *e* папраўлена на *a*: *każan*, *zhudzia*.
[13] Літара *e* папраўлена на *a*: *nie moża*.
[14] Літара *t* закрэслена, а ўгары напісана літара *c*: *Pabjucca*.
[15] Літара *e* папраўлена на *a*: *Boża*.
[16] У двух словах літара *e* папраўлена на *a*: *nie budzia*, nad *chamam*.
[17] Літара *e* папраўлена на *a*: *Aman*.
[18] Літара *e* папраўлена на *a*: *nie moża*.
[19] Літара *e* папраўлена на *a*: *Boża*.

A jak stanie bićsia[1] Kała jemu treba
Choć dzieciam u Chacie[2] niemasz Kuska Chleba
A jak Pana maja, to mużyk baićsia[3]
Choć kary nia wozmie to choć nadryżyćsia[4]
Bo znaja szto jaho za usio pan skaraja
Z chama nić nia|budzia jak Pana nia|maja
Wod[5] bracia jak jany padłyhać umiejuć
Pierad Carom[6] u woczy na nas pleści smiejuć
Jm heta nie smaczna[7] kostka w horle stanie[8]
Jak mużyk ad Pana[9] wólnaść dastanie[10]
Szto Choczuć to bajuć łhuć jak sami znajuć
Wieryć im Car smieło jany Łasku majuć
A my biedny bracia cierpim skróś niedolu[11]
Praklinajam Życio i[12] swaju hórku dolu
Prauda szto nia czuli dziady ni Aycowie
Kab nad mużykami nia byli Panowie
No ciepier na Swiecie[13] usio inaczey strojać
Użo nie siermiahi, da surduty krojać
Tresnuć jany łopnuć, a na jch[14] Nia|budzie[15],
Bo użo reczy stali U Cara i U ludzia[16]
Kab byu mużyk wólen Car byci jaho Panem[17]
J nie smieu nikoli zwać pan jaho Chamem[18]
Budzia toje bracia dażdżóm moy Sciepanie[19]
Szto pan na nas zkaże Móy kachany panie[20]
My na jch nia hlaniem i szapki nia znimiem
Choć blisko nas buduć nia kłaniauszyś miniem

---

[1] Літара *s* закрэслена, а ўгары напісана літара *c*: *biććia*.
[2] Літара *e* закрэслена.
[3] Літара *s* закрэслена, а ўгары напісана літара *c*: *baiććia*.
[4] Літара *s* закрэслена, а ўгары напісана літара *c*: *nadryżyććia*.
[5] Літара *d* папраўлена на *t*: *Wot*.
[6] Літара *o* папраўлена на *a*: *caram*.
[7] Літара *c* папраўлена на *s*: *smaszna*.
[8] Літара *e* папраўлена на *a*: *stania*.
[9] У выданні – *biez pana*.
[10] Літара *e* папраўлена на *a*: *dastania*.
[11] У дужках дапісана слова: (*niewolu*).
[12] Літара *i* закрэслена.
[13] Літара *e* на канцы слова закрэслена: *swieci*.
[14] У выданні – *użo ich*.
[15] Літара *e* папраўлена на *a*: *Nia|bizia*.
[16] У публікацыі П. Шэйна – *у Цара и судзе*.
[17] У двух словах літара *e* папраўлена на *a*: *wólan, Panam*.
[18] У двух словах літара *e* папраўлена на *a*: *nia, chamam*.
[19] Літара *e* папраўлена на *a*: *Sciepania*.
[20] Літара *e* папраўлена на *a*: *Pania*.

Hodzia[1], uradnik[2] chwanaberyi[3] strojć
Kaubasy piaczeni[4] na tarełcy Kroić
Pierastania Klikać Storaża Starożki
Kap[5] dawali suchich drewek[6] pad trynóżki
Wady Kab pryniesła[7] swieżaje iz Krynicy
Hładyszy kab pamyła Cebry[8] i daynicy
Kab miski i łyżki[9] padała bialenki
Sagany i Rondli jak lustro jasnienki
Wyczwarać nia budzia za prażu i nici
Pierastanie[10] tauczy papichać i bici
Nia budzie Haniaci, Wayty ad pównaczy[11]
Na pryhon zaliuszy Harełkaju oczy
Pakinie nas łająć za Kaśbu Haranie[12]
Za żniwo hrablinie[13] i stahou składanie[14]
Szto czasam spazniusia staci da raboty
Szto robisz[15] jak by biez achwoty.
A jak czasam prydziesz czaho paprasici
Niemasz czym Haraci, niemasz czym Kasici
Budz łaskaw Panoczku paratuy u pryhodzie[16]
Aż jón Kryczyć łaja niemasz Kanca hodzie[17]
A, Kania czy[18] Chleba dastać wielmi trudna
Pan sam niezdarowy, pani nieszta nudna
Pryidzi[19] druhim razam, a|tym czasam u|poli
Nie zrobisz uporu raboty nikoli

---

[1] Літара *a* закрэслена, а пасля слова зверху дапісана літара *i*.

[2] Тут ідзе гаворка не пра паліцэйскага ўрадніка, інстытут якіх быў уведзены ў Расейскай імперыі ў 1879 г. Урднікам у даўняй беларускай традыцыі называлі звычайна г. зв. oficjalista – прызначанага панам-памешчыкам кіраўніка маёнтку, інакш – аканом. Выкарыстанне гэтага слова ў творы сведчыць пра тое, што яго аўтарам быў чалавек сталага веку.

[3] "ХВАНАБЕ́РІЯ, и, с. ж. Спесь, чванство. *Збили ему троху хванаберію дурную*". Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...,* с. 676.

[4] "ПЕЧЕНЯ, и, с. ж. Жаркое. *Подай госцямъ печеню. Не бойцеся, курки, не много васъ треба, // Семъ на вечеру, а восьмая на печеню.* Из свадебн. песни". Гл. І. Насовіч, *Слоўнік...*, 413.

[5] Літара *p* закрэслена, а ўгары напісана літара *b*: *Kab*.

[6] Літара *e* папраўлена на *a*: *drewak*.

[7] Літара *e* папраўлена на *a*: *pryniasła*.

[8] Літара *e* папраўлена на *a*: *cabry*.

[9] Літара *y* закрэслена, а ўгары напісана літара *o*: *łożki*.

[10] Літара *e* папраўлена на *a*: *Pierastania*.

[11] Над літарай *w* пастаўлены знак (~).

[12] Літара *e* папраўлена на *a*: *harania*.

[13] Слова папраўлена на *hrabienio*.

[14] Літара *e* папраўлена на *a*: *składania*.

[15] Зверху дапісана слова *pamału*.

[16] Літара *e* закрэслена: *przyhodzi*.

[17] Літара *e* спачатку папраўлена на *a*, а пасля закрэслена: *hodzi*.

[18] У выданні – *ci*.

[19] Першая літара *i* закрэслена: *Prydzi*.

Bo i na pryhonie[1] niemasz czym rabici
J udoma na poli ni za paroh wyci
Idzi choć ty treśni, nie paspahadając
Nijakaie u wahi nad nami nie majuć
Daždžom rabi doma, pahoda jak błysnie[2]
Ani adna dusza u chacie nia piśnie[3]
Na|pryhon bez szczotu, z Sierpom i z Kasoju
Wały da Harania, Koni z Baranoju
Ty palić u holje toy rybu ławici
Tamu sianawaci Kusty Cierabici[4]
Toy pawiezie wodku, a toy muku zbóże[5]
Rabót zahadając scieraży ty Boże[6]
Tamu siena Hrabci, tamu stoh składaci
Tamu tarpy[7] Kłaści, tamu padawaci
Zhiń prapadzi licho! da Czorta raboty
Dziwa[8] szto nie stanie czasami achwoty
Pryidzie[9] osień, zaraz day dziakła[10] haniając
Hryby Jayca Kury, Talki[11] adbierająć[12]
Magazyn adsyp, ad day da Ziarniaci
Biez Kuska chleba astawaysie u chaci
J czynsz i padatki, adday biez adkładu
Na Rekruta, Pana niemasz składkam ładu
Na stóyki[13], darohi haniając szto Niedzieli
Kab jany u życiu paciechi nie mieli
Czamu na starożu pryści apazniusia[14]
Czamu ty Sakiery, rydla uziaci[15] zabyusia
Hdzie[16] twóy miech, reszato, i sieczka
Zaszto tam takoje z Wóytam była spreczka

---

[1] Літара *e* закрэслена: *na pryhoni*.
[2] Літара *e* папраўлена на *a*: *błysnia*.
[3] Літара *e* папраўлена на *a*: *piśnia*.
[4] Літара *e* папраўлена на *a*: *ciarabici*.
[5] Літара *e* папраўлена на *a*: *zbóża*.
[6] Літара *e* папраўлена на *a*: *Boża*.
[7] Тарпа – вялікая сціpта снапоў ці саломы, складзеная дзеля захавання пад адкрытым небам.
[8] У слове *Dziwa* літара *a* не перакрэслена, але зверху напісана літара *o*.
[9] Першая літара *i* выкрэслена: *Prydzie*.
[10] Дзякла – падатак хлебам.
[11] Талька – вельмі тонкая пража; маток пражы ці нітак.
[12] Літара *e* выкрэслена: *adbirajuć*.
[13] "СТОЙКА, и, с. ж. 1. Поставка лошадей для разъѣздовъ членовъ суда. *Выгнаць коней на стойку къ справнику, въ судъ*. 2. Чередное назначеніе десятскаго для посылокъ въ земском судѣ. *Пошовъ на стойку. Съ стойки переменили*". Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...*, с. 615.
[14] Над літарай *u* пастаўлены знак (~).
[15] Над літарай *u* пастаўлены знак (~).
[16] Літара *H* выкрэслена: *dzie*.

Brawarniaju[1] starożu adbyway[2] biz szczotu
Tam u dzien i unóczy nie|skonczysz rabotu
A u wałówni[3] jak czort u piekle, Tauczysie[4]
Niemasz tam spohadzi czy płacz czy malisia
Czy dożdż, czy zawieja, czy maróz naybószy[5]
Czym horszaja padwórja to tym prykaz horszy
Ustaway da raboty paroju biez spreczki
Wyciahnuć zpad ławy zsciahnuć ciebie z|pieczki
Ty idzi małacici ty u mły[6] maloci
Kartoplu sadzici, ty idzi pałoci
Tamu Bydła paswici a tamu Awieczki[7]
Ty da Kop na wartu ty idzi da Hreczki
Ty stupay da Koniey, a ty za swiniami
Małaja da Kaczok[8] Bólszaja Za Husiami
Jak Czorta pchajuć, usiudy słuchajesz jak treba
Czasto nie masz kali zjesci Kuska chleba
Dniom Strawy nikoli Ciopłaje nie skasztujesz
Suchim Chlebam adzin druhoho czastujesz[9]
Pałudzien Karótki sapnuć niema czasu
Ad Ciuna[10] Woyta dawólno Kryku hałasu
A Uradnik, jak czort siardzity i złosny
Pahlad bystry strohi i hołas danósny
Jak stanie[11] pa-swajemu łajać i kryczaci
To dusza iz Ciełam musić rastawaci
A na złość jak trapisz to paczyścić zuby
Śchopisz apleucha[12], aż krou pójdzie[13] z|huby
Czupryna nia pieuna bo padskubie Kusa
Paprawić boradu i padskubie[14] usa
A szto strachu nadaść, a szto nadryzyszsia
Czy płacz czy skacz piered[15] nim czy jak choć malisia

[1] Літара *a* папраўлена на *u* (магчыма, наадварот): Brawarni*u*ju
[2] Другое слова ~~*starożu*~~ выкрэслена.
[3] Над літарай *w* пастаўлены знак (~). Валоўня – памяшканне, абора для валоў.
[4] Літара *e* папраўлена на *a*: *tauczysia*.
[5] Устаўлена літара *l*: *naybólszy*.
[6] Дапісана літара *n*: *młyn*.
[7] Папраўлена на *hawiecyki*.
[8] Літара *o* папраўлена на *a*: *kaczak*.
[9] У выданні гэты радок прапушчаны.
[10] Папраўлена на *Ciwuna*.
[11] Літара *e* папраўлена на *a*: *stania*.
[12] Папраўлена на *aplauchu*.
[13] Літара *e* папраўлена на *a*: *póydzia*.
[14] У публікацыі П. Шэйна – *падкруціць*.
[15] Літара *e* папраўлена на *a*: *pierad*.

Niczoho to nie pamoże czekać[1] Kańca[2] musisz
Choć prawda adnakże jazyka prykusisz
Zaraz Karki skruciać heta urwiecca[3]
Chwanaberstwo zhinie panstwa jch miniecca
Niechay daść Boh tolko wolnaści pryżdaci
Budуć Pany samy[4] slozki pałykaci
Na poli hdzie[5] Koliś sóch było jak maku
Nie|znayduć zahona, i rali ni znaku
Usio laża adłoham łazy budzie wouku
Zwiażuć Pany skora bez[6] ludziey Hałouku
A|pa sianażaciach nia poydziesz za lesam
Bo chto sz budzie Kosići chiba[7] Sam z|biesam
Pryhon jak urwiecca, i tałaki nie|stanie[8]
Skonczycca adrazu jch panawanie[9]
Tahdy jany chiba, szto biada paznajuć
Bo Ciapier nikoli nam nia spahadajuć
Idzi tolko Chamie, wot usia haworka
Z|naszaje pracy hroszy, składajuć da worka
Day nam tolko Boże[10] skorenko pryżdaci
Kab mahli spakóynie[11] pasiadzieci u chaci
Pana nie bajacca i wóyta zahadu
Było|b u|nas boley dabra i ładu
Nie|adzin zkazau|by, móy panie Sciepanie
Buć łaskaw siahodnia, pryidzi na haranie
Zapłaczu szto choczasz, wódkaju paczastuju
A dla twaich dzietak Haściniec[12] daruiu
Kali Łaska zautra padbieży s|kasoju
Żónka, doczki, ź sierpom a syn z Baranoju
Na upierad hroszy, bo mnie raz płacici
Bo ja ciebie znaju, nie Umieiesz Krucici
A|woś kali licho jak uża[13] prycisnie
Nie adzin zastohnie, i nie adzin pisnie

---

[1] У двух словах літара *e* папраўлена на *a*: *nie pamoża, czakać*.
[2] Скрэслены знак мяккасці: *kanca*.
[3] Слова *urwiecca* напісана пасля закрэсленага слова *~~miniecca~~*.
[4] Літара *y* закрэслена, а зверху напісана *i*: *sami*.
[5] Літара *h* закрэслена: *dzie*.
[6] Магчыма, трэба чытаць – *biz*.
[7] Пасля гэтага слова зверху дапісана: *jon*.
[8] Літара *e* папраўлена на *a*: *nie stania*.
[9] Літара *e* папраўлена на *a*: *panawania*.
[10] Літара *e* папраўлена на *a*: *Boża*.
[11] Літара *e* папраўлена на *a*: *spakóynia*.
[12] Папраўлена на *haścinca*.
[13] Літара *a* закрэслена, а зверху напісана *o*: *użo*. У публікацыі П. Шэйна – *вужа*.

Bo hodzia[1] nad nami zdziekawacca sroha
Pryidzie i na|panóu Karanie ad Boha
Jany nas Hłumili, i płakać nie|dawali
Winien czy nie winię[2] biez Kanca Karali
A ciepier i jm Samym toje dastaniecce[3]
Szto nam dasiul było to najch szczaupiecse[4]
Niechay daść Bóh Caru naszemu[5] Zdarówie[6]
Niechay naszay doli skasztujuć panowie
Niechay jeho radni Bóh szczaście hatuje
Szto jón naszych, Bratóu wolnaściu daruje
A|tym naszym Panóm szto nas wielmi drali
Dau|by Boh kab jany na sabie daznali
Hałudnamu[7] syty spahadać nia music
Pakul czużoy biady sam u hubu[8] nie ukusić
A|woś tahdy paznajuć paczamu funt licha
Jak Wouk pad ławaju nie uleżyć cicha
Paskrabuć czuprynu jak nie stanie chleba
Tak Boh, i Car chocza musić tak i treba
Moża|b boley bzdyryu[9] by Sciepanu Daniło
Ale na pahibiel Woyta nakruciło
Jak stau zahad strojć jak paczau Kryczaci
Musiali hutarku swaju pierastaci.

## Другі спіс

Як ужо адзначалася, апрача публікацый П. Шэйна і М. Федароўскага, рукапісу 1850–1860 х гг. з архіва М. Федароўскага, а таксама, верагодна, рукапісу (рукапісаў?) з архіва П. Шэйна нейкія іншыя запісы XIX ст. *Гутаркі Данілы са Сцяпанам*, здаецца, не захаваліся. Праўда, маецца сведчанне Альберта Паўловіча (1875–1951), што дадзены твор карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод адукаваных людзей напрыканцы XIX стагоддзя. Як пацвярджэнне дадзеных слоў трэба лічыць тое, што Якаў Васільеў, сын прыяцеля В. Дуніна-Марцінкевіча Авяр'яна Васільева, уласнаю рукою запісаў гутарку ў сшытак-альбом А. Паўловіча. Больш за тое, беларускі пісьменнік-гумарыст следам за сваім сябрам і саслужыўцам (каля 20 гадоў працавалі разам на чыгунцы) даводзіў (не пярэчачы катэгарычна супраць аўтарства П. Багрыма), што твор належыць пяру В. Дуніна-

[1] Літара *a* выкрэслена: *hodzi*.
[2] Папраўлена на *winien*.
[3] Папраўлена на *dastaniecca* (апошнія тры літары выкраслены, а зверху напісана *cca*).
[4] Літара *e* папраўлена на *a*: *szczaupiecsa*.
[5] Літара *e* папраўлена на *a*: *naszamu*.
[6] Над літарай *w* пастаўлены знак (~).
[7] Першая літара *u* закрэслена, а зверху напісана *o*: *hałodnamu*.
[8] Другая літара *u* закрэслена, а зверху напісана *i*: *hubi*.
[9] Бздурыць – ад польск. bzdurzyć – плесці бязглуздзіцу, недарэчнасці, лухту, глупствы.

Марцінкевіча. Гэта, дарэчы, адзін з ліку шматлікіх тэкстаў, які прыпісваецца Беларускаму Дудару (згадайма пра *Тараса на Парнасе*, пра верш *Вясна, голад, перапала*, пра *Гутарку старога дзеда*, пра верш-малітву *Божа, што Польшчы...* і інш.). А. Паўловіч лічыў, што "тожсамасьць запісаў, за невялічкімі папраўкамі, можа сьведчыць нам аб тым, што тэкст гэтага вершу трапіў да нас у поўнай, сьцíслай захаванасьці і ў тым выглядзе, якім вышаў ён з-пад пяра песьняра Дунін-Марцінкевіча"[1]. А таму ён "з аховай ортографіі, у якой ён быў запісаны Я. Васільевым у мой сшытак" (за выключэньнем **ѣ** і **ъ**, якіх не мела беларуская савецкая друкарня) надрукаваў яго ў 1925 г. у часопісе "Полымя".

Цікавай падаецца і заўвага, далучаная А. Паўловічам да публікацыі: "Перапісваючы верш, Я. Васільеў стараўся патрапляць перадаць асаблівасьць фонэтычную, але з прычыны адсутнасьці ў той час (1898 г.) якой-колечы ортографіі беларускае пісаніны, вялікі ўплыў рабіла расейская ортографія, дзеля чаго ён піша "воды", "охоты", "одзін", разумеючы, што будзе чытацца: "вады", "ахоты", "адзін" і г. д.; у некаторых выпадках на'т патрапляў дадумацца як пісаць "ксяндзоў", "змовіўшыся", "счаўпецца", уводзячы літару "ў", якой літары тады ня было ў друку; "цёнгле", "ён" – ухітрыўся перадаць па практыцы польскага пісаньня "ціонгле", "іон". Відаць, як яшчэ спачатку трымаўся расейскага "что", "да", а пасьля, асьмеліўшыся нібы, перашоў на "што", "дык" і г. д. Трэба адзначыць, што вымова яго была вельмі чыстая і выразная"[2].

Сапраўды, тэкст Я. Васільева–А. Паўловіча даволі спраўны. Прычым, паходзіць з невядомае крыніцы: адрозніваецца ад публікацыый П. Шэйна і М. Федароўскага. Аднак відавочна і тое, што перапісчык не карыстаўся аўтарскім рукапісам. Асобнае пытанне – паходжанне апошніх сямі радкоў тэксту: напісаны яны аўтарам ці ўзніклі падчас распаўсюджвання твора ў другой палове XIX стагоддзя?

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асадлівасцяў першадруку паводле: А. Паўловіч, *Забытае*, "Полымя" 1925, № 6, с. 171–175.

## ***Гутарка***

Сыйшоўшыся святым днем Данила с Сцепаном
Хорошей погодай сели пад парканам
Да и ну толковаць, да и ну гаварыци:
„Што з нас далей будзе, як мы будзем жыци?
Гаворуць на свете у голос толкуюць
Ад ксяндзоў и жыдоў усе людзи чуюць,
Што вольносьць нам бедным царь дасць без откладу
Да тольки з панами нияк не дойдзе ладу
Чаго адны хочуць, то другим не мило,
Як чорт перед дьяблом пражецца их сила.
Цар им патурае, а яны хитруюць

[1] А. Паўловіч, *Забытае*, "Полымя" 1925, № 6, с. 170
[2] *Ibidem*, s. 175.

Ды змовиўшися з сабой цару так талкуюць:
Пане найяснейшій што з гетого будзе
Даси хамам вольносьць дык што з таго будзе
Вшак мужык без пана быць ніяк не може
Пабьетца поколоцицца сциражи ты боже
Над им што дзень треба з кнутом стаяць над каркам
Розги каб лежали возом за хвальваркам.
Гразы-ж як ня будзе ад двора над хамом
Запьетца горелкой на век векаў амен.
Мужик без гарелки пирабыць ня може
Пьяный не уступиць сциражы ты боже
Кали стане битца кола яму треба
А дзецям у хаце нима й куска хлеба
А як пана мае, то мужик боитца
Хоць кары ня возме, то хоць надрыжитца
Бо знае, что яго за усё карае
З хама ниц ня будзе як пана ни мае.
Во, браце, што яны падлы лгаць умеюць
Пред царом у вочи на нас плесци смеюць
Гэта им ня мило, косткой у горле стане
Як мужык ад цара вольносци достане
Што хочуць толкуюць, лгуць як сами знаюць
А им цар и вериць яны и ласку маюць,
Мы ж бедные браце церпим скрозь няволю,
Проклинаем жыцё свою горкую долю.
Праўда што ня чули ни дзяды ни ойцове
Каб над мужиками ня были панове
Да цяпер на свеце усё иначей строюць
Ужо не сермяги, а сурдуты кроюць
Треснуць яны лопнуць, а на их ня будзе,
Бо ужо речи стали у цара на судзе:
Каб быў мужык волен, каб цар быў тольки паном
Каб не смеў николи пан нас зваци хамом
Да и будзе тое, браце дажджомся, Сцепане,
Што и пан на нас скаже мой коханы пане
Да мы на их не|ўзглянем и шапки ня скинем, –
Хоць будзе исьци близко ни|склониушись минем.
Годзе акономом хванаберу строиць:
Килбасу пячи да на талерце кроиць,
Пирастануць кликаць сторожа й сторожки,
Каб давали сухих древок под триножки.
Воды каб прынесли свежай из крыницы.
Гладыши каб помыли, цебры и дойницы,
Каб миски и лыжки подали беленьки

Саганы и рондли як люстра ясненьки
Вычварацьня будуць за пряжу и за ници
Пирастануць тоучи, попихаци, бици
Ня будуць и войты гнаци ад поуночы
На пригон залиуши горелкою вочи
Пирастануць лаиць за косьбу и оранне
За жниво, кошенне и стогоу складанне.
Што часом спознишся придци до роботы
Што робиш помалу як бы без охоты
А як часом придзеш чаго попросици
Нимаш чим араци нимаш чым косици
Будзь ласкау паночку ратуй у пригодзе
Дык ён кричиць табе нимаш конца и годзе
А коня ци вола вельми достаць трудно
Пан нешто ни здороу, пани нешто нудно
Прійдзи другим разом. Тым часом у поли
У пору работы ни зробиш николи
Бо и на пригоне нимаш чым рабици
И з дому на поле ни за порог выйсци
А идзи хоць ты тресни ни поспогадаюць
Бьюць, таукуць, гонюць, у карк попихаюць
Дажджом раби у дому, погода|ж як блисне
То ни одна душа у хаце не писне.
На пригон без счету з серпами, з косами,
Волы до орання, кони з боронами
Той палиць уголля, той рыбу ловици
Тому у сенажаци кусты цирабици
Той повязе ваду, а той муку, збоже,
Работ загадаюць сциражи ты боже
Тому сено грабци тому стог складаци
Тому торфы класьци, тому подаваци
Згинь пропадзи лихо, до чорта роботы
Да дзиво што часом не стане и охоты
Придзе восень зараз дань гвалту гоняюць
Грибы, яйца, куры тольки отбираюць
И магазын отсып отдай до зерняци
Без ковалка хлеба останься у хаци.
Чинши и податки отдай без откладу
Як рекруты пойдуць – складкам немаш ладу
На стойки, дароги гонюць што нядзели
Каб яны у жыцю поцехи ня мели
Чорт их душу знае, што яны з нами
Ни поспогадаюць а ціонгле гаворуць
Хаме! На старожу прійци опозніуся

Хаме! Ты сякеры рыдля узяць забыўся
Гдзе твой мех, грабли, вяроука да сечка
Да за што там у вас была з войтам спречка
Броварну сторожу отбывай без счету
Там дзень и ночь николи ня окончишь роботу
На волоўни як чорт у пекле таучися
Нимаш там спогадзи чи плач чи молися
Чи дождж чи нягода чи мороз найгоршій
Чим горшее надворье, то тым пригон горшій
А уставай до роботы парою без спречки
Выцягнуць з под|лавы, сцягнуць цябе з печки
Ты идзи молоцици, ты идзи молоци
Ты картофлю садзиць, а ты идзи полоци,
Табе кони поиць, а ты за свиннями
Малая до качек, больши за гусями.
Усюды цябе гонюць и слухаешь як треба
Нима кали з'есьци и ковалка хлеба
Аж губы посмягнуць як проголодаешь
Каб и меу што з'есьци дык часу не маешь
Днём цёплай стравы ніколі не скоштуешь
Тольки сухим хлебом друг дружку частуешь
Полудник короткій з'есци нима часу
Ад цивуна и войта досць крику галасу
А урадник як чорт сярдзитый и злостный
Погляд быстрый-срогій и голос доносный
Як стане по свойму лаиць ды крычаци
То душа от цела мусиць адставаци
А на час як трапишь дык почисциць зубы
Схопишь аплеуху аж кроу пойдзе з губы
Чуприна ня пеўна бо поскубе кусо
Подправіць бороду и подкруце уса
А што страху нада́сць а што надрижишся
Чи скачи, чи плач чи пред им молися
Ничога не поможе чекаць конца мусиш
Хоць праудa аднолька|ж языка прыкусиш
Зараз карки скруцюць гето им минецца
Хванаберство згине и панство урветца
Дай тольки нам боже Вольносци дождаци
Будуць паны и сами слёзки полыкаци
На поли гдзе кали сох было як маку
Не знойдзеш загона ни ралли ни знаку
Усё ляже облогом лозы будзе воуку
Скруцюць паны скоро без хамоў голоўку.
А по саножаци ня пройдзеш за лесом

Бо хто|ж будзе косиць хиба пан з бесом
Прыгон як урветца толоки не стане
Скончитца адразу ихне панoване
Тагды яны хибо что беду познаюць
Бо цепер николи нам не спогадаюць
Идзи тольки хаме вот уся и гаворка
А з нашай працы грошы складаюць до ворка
Дай только нам боже скоринько дождаци
Каб могли спокойно посядзець у хаци
Пана не боятца и войта загаду
Было-б у нас болей и добра и ладу
Ни адзин-бы сказау мой пане Сцепане
Будзь ласкаў сягодня прыдзи на оранне
Заплачу што хочешь водкой почастую
А для твоих дзеток госцинца дарую
Кали ласка заутра подбежи з косою
Жонка и дочки з серпами а сын з бороною
Наперед дам гроши бо мне раз плацици
А цябе я знаю ня умеешь круцици.
Вот тагды лихо ужо прыцисне
Дык ни одзин застогне ни одзин и письне
Бо годзе над нами здековаться срога
Прійдзе и на паноў каранне от бога.
Яны нас глумили плакаць не давали
Винен ци невинен без конца карали
А тагды им самим тое дастанецца
Что дасель нам было дык на них счаўпетца
Дай боже цару нашему здароўя
Нехай нашей доли скоштуюць панове
Нехай яго родзину бог у шчасци годуе
Што іон нашым брацям вольносць падаруе
А тым нашым панам што з нас скуру драли
Дай боже што|б яны на сабе того дазнали.
Голодному сытый спогадаць ня мусіць
Покуль чужой беды у губе ня укусиць
Поскрабе чуприну як не стане хлеба
Як бог и цар хоча мусиць так и треба
Може бы и болей говорили Сцепан и Данило
Да на их несчасце войта накруцило
Як стау загад строиць, як пачау крычаць
То мусили яны гутарку перестань
Сказаўшы: дай боже каб так и сбылося
Може-б хоць на старосць нам лепей жылося
Ну цяпер Сцепане пойдзем у корчму ды выпьем па стакане

За здароуе цара[I] на погибель пана
Може и мы будзем носици жупана
Будзь здароу Сцепане, пій здароў Данило
А о чом говорили каб меж нами было”.

***Заўвага А. Паўловіча***: У часы прыгону цёмнае сялянства верыла, што паны зьдзекуюцца над імі бяз ведама цара, што цар адно, а пан – другое, што цар, каб пачуў мукі сялян, то выратаваў-бы ад паноў. Далей сялянства праканалася, што цар – гэта панская галава і, дзякуючы царызму, мог трымацца гэткі цяжкі прыгон і ўціск.

# *Гутарка старога дзеда на Беларусі*

Расейскія ўлады з самых першых дзён свае прысутнасці на беларускіх землях імкнуліся да поўнага падпарадкавання краю, да поўнага “обрусения” тутэйшага насельніцтва. Асіміляцыі ў першую чаргу падпадала сялянства – самая шматлікая частка насельніцтва. Лічылася, што гэта дастаткова падатлівая глеба, што тут не патрабуецца шмат намаганняў, каб з народнае масы зрабіць законапаслухмяных грамадзянаў імперыі, сапраўдных расіянаў. Варта толькі заяўляць пра свой “клопат” пра народ, праводзіць інвентарызацыі, каб, маўляў, перашкодзіць панам павялічваць павіннасці і г. д. А самае галоўнае – прывесці іх у лона свае царквы, каб папы-ідэолагі нязменна маглі ўплываць на грамадскую думку цёмнага люду. Скасаваўшы ў 1839 годзе Унію, царызм паспяхова выконваў праграму “обрусения”.

Больш складанымі выглядалі справы з вышэйшым класам беларуска-ліцвінскага грамадства: шляхта нязменна ўяўляла пагрозу расейскай прысутнасці на беларускай зямлі. Гэта быў клас, які немажліва было “перавыхаваць”. Гістарычная памяць гэтага класа не вынішчалася, нягледзячы на ўсе намаганні царызму, нават за дзесяткі гадоў. Гэты клас можна было адно што знішчыць рэпрэсіямі – палітычнымі, эканамічнымі, фізічнымі. Але нават генацыд расейскіх уладаў супраць шляхты да 1860-х гадоў не даваў значных вынікаў. Хоць кантынгент дадзенага класа значна скараціўся, але не змянялася ейная грамадска-палітычная чыннасць.

Паступова здаровыя сілы гэтага класа звярнулі свой позірк на “братоў у сярмязе”, на сялянства, бо стала зразумела, што толькі разам можна супрацьдзейнічаць наступу царызму, толькі разам можна здабыць волю й незалежнасць. Узнікла патрэба ісці на дыялог з сялянствам, абуджаць ягоную гістарычную памяць і нацыянальную самасвядомасць. Прыйшло разуменне, што недастаткова асветніцкае працы ў духу В. Дуніна-Марцінкевіча: падцэнзурная “агітацыя” не вытрымлівала канкурэнцыі з захадамі расейскіх уладаў у дачыненні да сялянства. “Мудрагелікі маскаля” належала выкрываць, а таксама належала паказаць рэальны шлях да лепшае долі. Магчымасць зрабіць гэта з’явілася ў часе правядзення царызмам адмены ў 1861 годзе прыгоннага права. Менавіта з гэтай падзеяй звязана развіццё беларускамоўнае ананімнае літаратуры ў сярэдзіне XIX ст.

Доўгі час антырасейскія ананімныя творы – па зразумелых прычынах – не маглі быць уключаны ў літаратуразнаўчыя даследаванні, хоць, будучы ў шчыльным звязе з дзейнасцю й творчасцю К. Каліноўскага, з’яўляючыся значнаю

часткаю паўстанцкае агітацыйнае літаратуры, яны знайшлі сваіх даследнікаў у асяроддзі гісторыкаў – польскіх, беларускіх і расейскіх.

Напачатку 1960-х гадоў Г. Кісялёў у кнізе *Сейбіты вечнага* зрабіў спробу далучыць асобныя тэксты паўстанцкае агітацыйнае літаратуры да беларускага прыгожага пісьменства. Перадусім, *Гутарку старога дзеда*. Як-ніяк цэлы шэраг фактаў сведчыў, што нарадзілася яна ў асяроддзі вядомых беларускіх літаратараў сярэдзіны XIX ст. Бо яшчэ Я. Карскі называў Вінцэся Каратынскага аўтарам гэтага твора[1]. Выяўлены Г. Кісялёвым у матэрыялах архіва III аддзялення данос агента Юзафа Бярнацкага сведчыў, што сучаснікі прыпісвалі аўтарства *Гутаркі* В. Дуніну-Марцінкевічу: "Нядаўна гэты самы Марцінкевіч напісаў твор на народнай мове пад загалоўкам *Гутарка старога дзеда*, дзе паказвае лёс Літвы ў вершах ад 1796 года да цяперашняга часу, выказваючы ўсе прыцясненні, якія толькі маглі быць на сялян, і прыпісваючы ўсе гэтыя прыцясненні ўраду. Гэты твор ужо даволі распаўсюджаны і так пераканальна дзейнічае на сялян, што дзе толькі ён паявіўся, то сяляне пакінулі быць прывязанымі да гасудара, якога раней бласлаўлялі, і пачалі шукаць заступніцтва памешчыкаў. Цяпер яшчэ Марцінкевіч пераклаў на народную мову гімн *Божа, што Польшчы*..."[2]

Сведчанне дастаткова абазнанага агента падмацоўвалася аналізам паэтыкі твораў В. Дуніна-Марцінкевіча. Уражвала падабенства творчае манеры, паказвала на руку аднаго творцы. Відаць, усё гэта садзейнічала актывізацыі пошукавай працы ў дадзеным напрамку. У выніку было выяўлена, што *Гутарка* была выдадзена двойчы асобнымі брашуркамі (1. *Hutarka staroha dzieda*, nakładem A. Kurnatowskiego z Imberowa pad Obornikami, czcionkami N. Kamieńskiego i spółki w Poznaniu, 1861, 12 s. і 2. *Hutarka staroho dzieda*, Paryż 1862, Lutego 27 (15) dnia, 24 s.[3]). У 1861 г. *Гутарка* была надрукавана ў львоўскай газеце "Dziennik Literacki" (nr 89); апрача таго яна распаўсюджвалася ў рукапісах; даследчыкам вядома таксама і літаграфаванае выданне.

Перапісчыкі ўносілі даволі істотныя змены ў тэкст *Гутаркі*. Варыянты захавалі выразныя "сляды" працы над тэкстам некалькіх рэдактараў рознай палітычнае ды нацыянальнае арыентацыі.

Вось, напрыклад:

Za szto ż i my wajawali
(Выданне 1861 г.)
Za szto ż jany wajawali
(Выданне 1862 г.)

Або:

Bo jak staniem Palakami
(Выданне 1861 г.)

---

[1] Е. Карский, *Белорусы...*, с. 300, 313.

[2] Г. Кісялёў, *Сейбіты вечнага: Артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года*, Мінск 1963, с. 136.

[3] Насамрэч першае выданне друкавалася ў "сапраўднай" тыпаграфіі: пра гэта сведчыць якасць друку. У другое выданне (пра яго – гл. ніжэй), апрача *Гутаркі*, быў уключаны верш У. Сыракомлі *Добрыя весці* (ананімна).

Kali staniem z Palakami

(Выданне 1862 г.)

Ужо ў пададзеных радках адчуваецца, што ў першым варыянце выяўляецца матыў поўнае салідарызацыі з Варшаваю, заклік "стаць палякамі", а ў другім назіраецца – так скажам – незалежніцкі, беларуска-ліцвінскі погляд аўтара ці рэдактара, ягонае імкненне не атаясамліваць сябе з палякамі.

Першы варыянт друкаваўся двойчы: асобным выданнем і ў газеце "Dziennik Literacki". На нашу думку, гэта выдаўцы пастараліся ўнесці пэўныя карэктывы ў тэкст *Гутаркі старога дзеда*. Відаць, з-за гэтае прычыны аўтар (ці аўтары) падрыхтавалі другое выданне твора. Што менавіта другое выданне (пазначанае як "парыжкае 1862 г.) рыхтавалася аўтарам сведчыць і больш правільная беларуская мова, і меншая колькасць арфаграфічных памылак ды інш. Гэтае выданне ўбачыла свет у падпольнай друкарні ў доме беластоцкага парафіяльнага святара, а падрыхтавалі яго сябры беластоцкае паўстанцкае арганізацыі Браніслаў Шварцэ (1834–1904), нехта Грынявіцкі ды Адольф Белакоз (каля 1826 – 1895 ці 1865). Не пакінем без значэнне і той факт, што толькі ў гэтым выданні *Гутаркі* выкарыстоўваецца адмысловая літара дзеля перадачы беларускага гуку [ў]. А гэта дае магчымасць абмежаваць кола асобаў, датычных да "парыжскага" выдання твора. Відаць, не памылімся, калі скажам, што толькі літаратары, якія пісалі па-беларуску, – В. Дунін-Марцінкевіч, В. Каратынскі, У. Сыракомля, А. Вярыга-Дарэўскі, Ялегі Пранціш Вуль – маглі мець дачыненне як да гэтага канкрэтнага выдання, так і да напісання *Гутаркі*.

Вельмі складанае пытанне – атрыбуцыя твора.

Г. Кісялёў (не выключаючы таго, што *Гутарка старога дзеда* – калектыўны твор) доўгі час лічыў В. Дуніна-Марцінкевіча найбольш рэальным прэдэнтэнтам на аўтарства гэтага вершаванага тэксту. А вось А. Мальдзіс[1] і В. Рагойша (грунтуючыся на ўспамінах Бруна Каратынскага)[2] называюць аўтарам *Гутаркі старога дзеда* Вінцэся Каратынскага. Тае ж думкі й У. Мархель, які змясціў фрагменты з гутаркі ў двух выданнях *Твораў* паэта (праўда, у раздзеле *Творы, якія прыпісваюцца* ....)[3].

І сапраўды, чаму гэта "гутарка" старога дзеда? Тэкст не дае аніякіх падставаў дзеля такіх высноў. (Па сведчанні З. Тальвірскае летувіская *Pasaka senelio* (*Гутарка старога*) пабудавана як адказы старога абазнанага чалавека на пытанні пэўнага недасведчанага маладзёна[4].) У беларускамоўнай *Гутарцы* толькі ў трох першых строфах можна бачыць "сляды" дыялогу. Увесь астатні тэкст – маналог ці то аўтара-наратара, ці то лірычнага героя.

---

[1] А. Лапінскене, А. Мальдзіс, *Перазовы сяброўскіх галасоў*, Мінск 1988, с. 53.

[2] В. Рагойша, *Каментарыі* [у:] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1971, с. 353.

[3] В. Каратынскі, *Творы*, Мінск 1994, с. 346–348, 398.

[4] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [у:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в*., Москва 1967, с. 5–77.

Адно відавочна: узнікненне *Гутаркі старога дзеда* абумоўлена тагачасным грамадска-палітычным становішчам. Ідэя твора нарадзілася ў асяроддзі віленскай інтэлігенцыі. Менавіта тут вырашылі стварыць цыкл вершаваных агітацыйных тэкстаў на народных, г. зн. беларускай і летувіскай мовах. Передусім, па два творы былі напісаны. Так, на летувіскай мове існуюць гутаркі, па-першае, пра гісторыю краю апошніх дзесяцігоддзяў, а па-другое, пра варшаўскую разню 8 красавіка 1861 года. На падобныя тэмы мы маем і дзве беларускамоўныя гутаркі. Гэта паказвае, што існавала ідэя распавесці на "простанародных мовах" пра адны й тыя ж падзеі, данесці сялянству пэўныя думкі, сфармаваць пэўны светапогляд. І калі дзеля ўвасаблення ідэі па-летувіску ўся праца лягла на плечы М. Акялевіча-Акялайціса, дык беларускія паэты маглі падзяліць гэтую працу на часткі. Напрыклад, асноўную працу над паэмаю *Плынуць ветры...* пра варшаўскія падзеі 8 красавіка 1861 года выканалі В. Дунін-Марцінкевіч і, мажліва, У. Сыракомля.

Бясспрэчна тое, што *Гутарка* ўзнікла ў асяроддзі, звязаным з В. Дуніным-Марцінкевічам, В. Каратынскім, У. Сыракомлем. Зусім верагодна, што аўтара *Гутаркі старога дзеда* мы павінны шукаць сярод маладзейшых калегаў вышэйзгаданых паэтаў, мажліва, сярод ліцвінаў, што запісаліся ў *Альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага. Передусім, метрыка і рытміка *Гутаркі*, на нашу думку, склаліся пад уплывам не толькі польскамоўнага сілабічнага вершаскладання ды беларускага народнага верша, але і расейскае паэзіі, якую ведалі вучні гімназій у Беларусі, а г. зн. і беларускія паэты, што наведвалі гэтыя гімназіі пасля 1838 года, з якога пачалося шырокае выкладанне расейскае "славеснасці" ў нашым краі.

З-за свайго антыцарскага і антырасейскага пафасу *Гутарка старога дзеда* доўгі час не друкавалася альбо друкавалася часткова[1]. Толькі ў 1971 г. фрагменты – 60 радкоў (з 220) – тэксту апублікаваны ў хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* як твор В. Каратынскага[2]. Зноў жа адно фрагменты – 72 радкі – ўключыў У. Мархель у выданне твораў Вінцэся Каратынскага.

Цалкам твор упершыню быў надрукаваны ў зборніку *XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах* у 1999 г. паводле "парыжскага" выдання 1862 года з далучэннем варыянтаў львоўскай газеты "Dziennik Literacki" (1861) і рукапісу з бібліятэкі Ягелонскага ўніверсітэта[3]. У XXI стагоддзі Я. Янушкевіч (без пазначэння, якое выданне ці рукапіс выкарыстаны, але без цяжкасці "пазнаецца" "парыжскае" 1862 г.) уключыў у раздзел *Dubia* двухтомнага выдання твораў

---

[1] Адну з першых публікацый *Гутаркі старога дзеда* і іншых, звязаных з ёю тэкстаў ажыццявіў літоўскі гісторык Аўгусцінас Янулаціс (1878–1950). У зборніку *Karo archyvas* (Kaunas 1925, t. I) ён надрукаваў: 1. верш *Малітва дзісейшая* (с. 211–212), 2. празаічную прадмову *Ад старога дзеда* (с. 216), 3. *Гутарку старога дзеда на Беларусі* (с. 216–218), 4. верш *Ці знаеце вы, дзеці* (с. 218–219). Тэксты беларускамоўных твораў А. Янулайціс атрымаў ад Т. Урублеўскага. Пра гэта сведчыць пазнака: "Gavau is p. T. Vrublevskis".

[2] *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*, Мінск 1971, с. 119–120, 353. Другое выданне паўтарае папярэдняе. Гл.: *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*, 2-е выд., Мінск 1988, с. 114, 462.

[3] *Гутарка старога дзеда* [у:] *XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах*, кн. першая, Мінск 1999, с. 32–39.

В. Дуніна-Марцінкевіча[1], а вось Л. Кісялёва і Н. Сянкевіч, карыстаючыся выданнем Я. Янушкевіча, – у раздзел *Ананімныя творы* чацвёртага тому *Залатой калекцыі беларускай літаратуры*[2].

Друкаваныя і рукапісныя варыянты *Гутаркі старога дзеда*, як ужо адзначалася, маюць пэўныя адрозненні. Па-рознаму яны і называліся. Апрача "звычайнага", хоць і з рознай пісоўняй тытулу сустракаюцца рукапісы з адметнымі назвамі. Напрыклад, у Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве Г. Кісялёў выявіў *Гутарку старога дзеда 1861 року з Кобрыня*[3].

Нашу ўвагу прыцягнулі тэксты *Гутаркі старога дзеда*, якi захоўваюцца ў Бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх (Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka). Пададзім апісанне гэтых спісаў паводле машынапісу У. Абрамавічуса: "1. Рукописная копия с 1861 г.: *Гуторка старога дзеда на Беларусі* (с приложением стиха – *Малітва дзісейшая*) в секретном деле Канцелярии Виленскаго Военнаго Губернатора от 4.III.1862 г., Бх – 89, с. 11–26, латиница; 2. Рукописная копия с конца XIX в. в сборнике ВВФ – 927, с. 84–102, латиница и 3. Копия совремённая на пишущей машинцы с корректурными поправками рукою Тадеуша Врублевского, ВФ – 146, с. 1–12, латиница"[4].

На жаль, з-за змены нумарацыі фондаў нам не ўдалося ў бібліятэцы Акадэміі Навук імя Урублеўскіх выявіць рукапіс, які У. Абрамавічус падаў як Бх – 89 (да таго ж, у іншым месцы гэты рукапіс анатуецца як Бх – 29[5]). Аднак, думаецца, асобнік *Гутаркі*, які апісаў літоўскі бібліёграф, што захоўваўся (перадусім, 1940-я гг.) у Бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх, – гэта не тая самая брашура з Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы. Г. Кісялёў у кнізе *Сейбіты вечнага* падае ягоны архіўны адрас: Фонд 1248, воп. 1, спр. 22[6]. Томаш Настульчык, супрацоўнік Навукова-даследчага цэнтра польскай бібліяграфіі Эстрайхераў Ягелонскага ўніверсітэта, у выступленні на Міжнародным кангрэсе беларусістаў (май 2015 г.) сцвердзіў, што карыстаючыся сігнатураю Г. Кісялёва, ён уважліва даследаваў дадзены спіс і прыйшоў да высновы, што гэта не рукапіс, а з літаграфаваная брашура, выдадзеная без паказання месца і году друку[7].

---

[1] В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у двух тамах*, т. 2: *Вершаваныя аповесці і апавяданні, вершы, публіцыстыка, лісты і пасланні, пераклады, Dubia*, Мінск 2008, с. 500–512.

[2] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4: *Літаратура другой паловы XIX ст. у 2 ч.*, ч. 1, Мінск 2013, с. 562–569, 838–839.

[3] Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 378–106, k. 12–13. Даўней: ЦДГА Літ. ССР, фонд 378, паліт. аддз. 1864, спр. 106, арк. 12–13. Гл.: Г. Кісялёў, *Сейбіты вечнага: Артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года; Скарынаўская сімволіка: вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі*, Мінск 2009, с. 143.

[4] В. Абрамавичюс, *op. cit.*, с. 80.

[5] *Ibidem*, s. 84–85.

[6] Сёння – F. 1248–1–22.

[7] Паводле інфармацыі тайнага агента Вінцэнта Гацэвіча брашура распаўсюджвалася ўжо ў снежні 1861 г.

Літаграфаванае выданне згадвае ў сваёй працы і расейская даследчыца З. Тальвірская[1].

Як і большасць іншых спісаў *Гутаркі*, літаграфаванае выданне захавалася ў матэрыялах следства, што праводзіла ўлада. Пра гэта сведчыць і апісанне У. Абрамавічуса (звернем увагу, што "рукописная копия с 1861 г." паходзіла з сакрэтнае справы канцылярыі Віленскага вайсковага губернатара ад 4 сакавіка 1862 г.), і асобнік з Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы, дзе ў фондзе 1248 сабраны справы Часовага палявога аўдытарыяту Віленскае вайсковае акругі.

Хто, дзе і калі падрыхтаваў і выдаў гэтую літаграфію – застаецца нявысветленым пытаннем. Але, відавочна, за гэтую справу ўзяліся асобы, якія – хутчэй за ўсё – не мелі дачынення да друку *Гутаркі* і ў "Пазнані", і ў Львове, і ў "Парыжы".

Літаграфаванае выданне *Гутаркі старога дзеда на Беларусі* – гэта адметны шаснаццацістаронкавы зборнік, які быў складзены і адбіты не пазней, чым у снежні 1861 г. У яго склад уваходзілі: празаічная прадмова *Ад старога дзеда*, уласна *Гутарка старога дзеда*, верш *Ці знаеце вы, дзеці*?, а таксама *Малітва дзісейшая*. Празаічная прадмова і верш *Ці знаеце вы, дзеці*?, апрача гэтае брашуры, больш нідзе, здаецца, не сустракаецца ў матэрыялах часоў паўстання. Іх наяўнасць можа быць сведчаннем блізкасці выдаўцоў да аўтара (аўтараў) агітацыйных літаратурных тэкстаў. Заўважым таксама, што гэта першы вядомы нам зборнік з беларускамоўнымі літаратурнымі тэкстамі.

Напрыканцы XIX ст. літаграфаванае выданне *Гутаркі старога дзеда на Беларусі* было перапісана ад рукі невядомы аматарам літаратуры і беларушчыны, а ў 1920-я гг. – на друкарскай машынцы Тадэвушам Урублеўскім. Сёння яны захоўваюцца ў Бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх: фонд F. 21–927[2] – копія канца XIX ст. і фонд F. 9–146 – машынапісная копія з праўкамі Т. Урублеўскага. Нягледзячы на тое, што пісоўня названых спісаў крыху адрозніваецца, з упэўненасцю можна сказаць: гэтыя копіі маюць адзін пратограф. Прычым, машынапіс Т. Урублеўскага, падрыхтаваны для выдання ў навуковым часопісе, вызначаецца дакладнасцю, а вось копія з фонду F. 21–927 адлюстроўвае моўны густ перапісчыка: ён ужывае літары ***j*** і ***й*** замест ***у*** і ***и***, піша ***сі*** замест ***czy***, амаль паслядоўна перадае аканне і яканне.

[1] Гл.: З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [у:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в*., Москва 1967, с. 5–77.

[2] *Малітва дзісейшая* адсутнічае ў рукапісе F. 21–927.

# *Ад старога дзеда*

## Першы спіс

Прадмова да *Гутаркі старога дзеда* маецца толькі ў літаграфаваным выданні. Вядомы таксама дзве копіі, зробленыя паводле яго. Адна з іх – машынапіс Т. Урублеўскага, што мае тытульную старонку, на якой у тры радкі напісана: *Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi*. На наступнай старонцы – уласна прадмова. Адна копія машынапісу перададзена А. Янулайцісу дзеля публікацыі твора ў зборніку *Karo archyvas* (Kaunas 1925, t. I), другая засталася ў фондах бібліятэкі.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 9–146, k. 1.

# *Od staraho dzieda*

„Chadziu baj pa ścianie…
Czy baiu, czy nie?...”

Wot tak zaczynali naszy dziedy swai hutorki, taki wot takaja była ich prykazka. Ciapier dziady naszy użo śpiac sabie u mahiłach, taj mauczać i nie każuć nam kazok, nie|śpiewajuć piesionok. Zamauczali tatulki naszy, nie|palubiłasia im szto Maskal słuchajeć ich, taj chachoczyć naruhajuczysia i z nich i z nas. Zamauczali jany, lahli u mahiły i spiać sabie krepka i cicha; a piesieńki i hutorki ich chodziuć pa świetu, szukajuć dobrych ludziej, da i ziukajuć z nimi ab tom szto bywała niekali na swiecie, i ab tom szto rabić patreba. Maskalom hety hutorku nie|panutry; jany ich łowiuć usiudy i na miesta Ojczyzna nakawierzywajuć pańszczyzna. Ach jany bezmozhłyje takije! Da szto|ż jany dumajuć, szto my wot taki i nie|ściamlim chto usiu krutniu hetu robić, i szto my nie|spaznaim – szto zdarowa, a szto atruta? Wisz jak zamudryli: niechaj pany z mużykami zadzierucca; a my i hetym i hetym pietlu na szeju!

Zdarowa żywiocie, panowie Maskali? Jak waszeci maiciesia? Czy nie hłatnuli wy czasam u broware, dy czy nie abjeliś wy blokotu, szto takuju pryjawu zachaciełaś rabić wam na swiecie? Ali jak baby zaciorli na maładoja, dy kinuliś na to szto i Boh i ludzi nie|pachwaluć?

Niechaj sabie Maskal piszyć swai paskudnyje aszukaństwa; a my budzim pieredawać wam tolka toja, szto nam dastałoś at naszych dziedou. Wot wam, bratcy, takii hutorki: praczytajcia ich, padumajcie, paziukajcie – taj kali hedak, tak hedak! Pamyliuszysia Bohu jak tutyćka napisana, dy i za rabotu; a daliboh budzić ładna!

## Другі спіс

Другая копія паходзіць са зборніка невядомага аматара прыгожай пісьменнасці і беларушчыны. Зборнік належаў колісь да калекцыі Івана Луцкевіча, а пасля стаў уласнасцю Віленскага беларускага музею імя Івана Луцкевіча.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, k. 84–86.

# *Od staryha dzieda*

Chadziŭ baj po ścianie…
Ci baic, ci nie?...

Wot tak zaczynali naszy dziady swai hutorki, taki wot takaja była ich prykazka. Ciapier dziady naszy užo śpiać sabie ŭ mahiłach, taj maŭczać i nie kazuć nam kazok, nie piajuć piesianok. Zamaŭczali tatuliczki naszy, nie|palubiłasia im, szto Maskal słuchaić ich, taj chachoczyć naruhajuczysia: i z nich i z nas. Zamaŭczali jany – lahli ŭ mahiły i spiać sabie krepka i cicha: Piesinki i hutorki ich chodziuć pa świetu, szukajuć dobrych ludziej, da i szukajuć z nimi ab tom, i ab tom szto rabić patreba.

Maskalom hety hutorki nie panutry: jany ich łowiuć ŭsiudu – i na miesta Ojczyzna nakawierkywajuć pańszczyzna.

Ach jany biazmozhłyja takija! Da szto-ż jany dumajuć, szto my wot taki i nie|ściamlim – chto ŭsiu[1] krutniu hetu robić, i szto my nie spaznaim – szto zdarowa, a szto atruta?! Wisz jany zamudryli, – niechaj pany z mużykami zadziarucca, a my, – i hetym, i hetym piatlu na szyju!

Zdarowa żywiocia, panowia Maskali? Jak waszeci maiciesia? Ci[2] nia hłatnuli wy czasami ŭ browarе, dy ci nia abjeliś wy blukotu? szto takuju prijawu zachaciełoś rabić wam na swiecie? Ali jak baby zaciorli na maładoja, dy kinuliś na to, szto Boh i ludzi nie pachwaluć?

Niechaj sabie Maskal piszyć swai paskudnyja aszukaństwa: a my budzim pieredawać wam tolka toja, szto nam dostałoś at naszych dziadoŭ.

Wot wam bratcy, takii hutorki: praczytajcia ich, padumajcia, paziukajcia – taj kali hetak, tak hetak! Pamalasia Bohu jak tuta napisana, dyj i za rabotu, a daliboh budzić ładna! –

---

[1] Далей было напісана слова ***kryŭdu***, якое пазней перапісчык выкрэсліў і ўзяў у круглыя дужкі.

[2] Папраўлена з ***czy***.

# *Гутарка старога дзеда на Беларусі*

## Першы спіс

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 9–146, k. 1–9.

## *Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi*

Ey skażycie dobry ludzie
Szto heto na świecie budzie
Czyto Boh tak sudziu z nami
Prapaść na wiek z Maskalami.

Oj nie, bratki, nie tużycie
Da na toj czas spamianicie
Jak to daunymi hadami
Biusia Palak z maskalami.

J my|ż razem wajawali
Stolki krowi razliwali
Oj za toja, szto narodu
Chacieu Palak dać swabodu.

Jak Maskal taho daczuusia
To na Polszczu nawiernuusia,
J Niemiec stau pamahaci
Sztob Palakou zwajewaći –

J bilisi|ż, wajawali,
Pakul Palakou prahnali
Oj, i panios swajo hore
Biedny Palak aż za more

Da słaunaho, da narodu,
Szto sam wyjszou na swabodu –
Szto ceły świet jaho znajeć
J Prancuzom nazywajeć.

Prancuz pryniau ich jak braci
Ale nie moh ratawaci,
Bo sam ciażka z Niemcom biusia
At niewoli baraniusia

A Maskal u Polszczy razsieusia
Da zaraz u kości ujeusia –

Stau padatki wydzieraci
U niekruta zabieraci –

Kazau ssypać mahazyny,
Bucim dla takoj pryczyny,
Szto jak zdarycca patreba –
Mużyk moh tam dastać chleba;

A jak sam stau wajawaci
Kazau mahazyn zabraci –
U aboz wazić usio zboże,
A narod choć hiń nieboże

J atdauszy usio z chaty
Jeszcze sam idzi u sałdaty –
Kidaj żonku, dzietki u domu
Jedż u kałodce da pryjomu –

A jak wojska nie patreba,
To sałdat sam szukaj chleba –
Szle usich damou – choć nie znaje
Czy katory dom swoj maje.

Tolki wielać nie szatacca
Na prykaz zaraz jaulacca –
Nasić boty, strycca, bryci –
Choć nie majesz czym prażyci.

Dawniej ludzie dobra żyli,
J druhich dabra uczyli,
A Maskal sam nic nie znaje
Taj lichota nauczaje –

Stau Kaścioły abdziraci,
Usiudy Ksiendzou razhaniaci –
Albo wieleu być papami
Chadzić u rasach z baradami –

Bić pakłony i uczycca
Tak po maskouski malicca –
Choć paciery takije maje
Szto ich i czort nie spaznaje.

Niechaj|że chto słowo skaże
Zaraz jaho Maskal żwiaże –
J zdarouje adbiraje
J na Sybir wysyłaje –

A hdzie żandar zwankom żwiaknie
To naylepszych u turmu ciahnie –

Czy ubohi, czy bahaty,
Wałacze at siemi – chaty.

Czynouniki jaho zbytkujuć
Abdzierajuć i katujuć –
Hłumiać, kraduć, razbiwajuć –
J płakać nie|pazwalajuć.

Za Palakom to bywało
J padatkou płacić mało –
A chto mieu pana lichoha
Paszou sabie da druhoha –

A jak Maskali nastali –
To usiech w skazki papisali
J szjachcicou z mużykami
Hłumiać tak, jak choczuć sami –

Z duszy niekrut i padatki
Choć ty hiń, a daj astatki
A da reszty usiech zhubili
Akcyzju pastanawili.

Palak usio heta znaje
Horki slozy praliwaje –
Tolki pomochczy nie może
Sam u czużoj ziemle nie boże

Ale, bratki, nie tużycie
Lepsz w Boha prasicie
Zmiłowania kab jon skora
Pieremieniu nasze hora –

Bo każuć – szto czas nastaje
Jak Maskal moc pacieraje –
A jak heta toje budzie
To biarycie na um ludzie.

Jak Palakou zwajawali
J do Prancuzou prahnali –
To jany chacieli sami
Jdżci nazad z Palakami –

J paszli i Maskwu uziali
Palakom Polszczu atdali –
No Maskal tut spachwyciusia
Dy z Niemcami zhawaryusia –

J siudy, tudy krucili,
Wajawali da płacili

Pakul Prancuz nie żdausia
Znou u niewolu nie dastausia.

Jak Prancuz paszou u niewolu
Tady Maskal znou uziau wolu –
Znou paszou narod hłumici
Polszczu da reszty hubici.

Prancuz tym czasem pawoli
Stau wybiracca z niewoli –
Prahnau Karala lichoha
Da wybrau sabie druhoha –

A jak tolka zmacawausia,
To z Maskalom i zadrausia –
Zaczau bici – wajawaci
Swaju kryudu spahaniaci.

Oj biu dakul sałdat stało
J zabrau ziamli nie mało
Aż Maskal musieu prasicca
Sztob z Prancuzom pahadzicca

J Prancuz jak rabiu zhodu –
To zaścieroh sztob narodu
Uśiakomu wolność daci.
Nikoha nie prymuszaci.

Maskali choć abiecali
Da taho nie datrymali –
Bo Prancuz nie mieu spakoju
Paszou na Niemca wajnoju.

Bo Niemiec w chytrość uszyusia
Za Maskala nie zastupiusia –
Da stau inszych zabieraci
Na swoj zakon prymuszaci

Prancuzy heta daznali
Dy na Niemcou i napali
Znou bilisia sztob narodu
Każnomu zdabyć swabodu.

Tay i Niemcou zwajawali
J z czużoj ziemli prahnali
J na wiek, wiekou wieleli
Kap tam szołdry nie siedzieli.

A sztob bolsz wojn nie rabili
Da narodu nie hłumili –

Kap cary nie mieli woli
Brać nikoha da niewoli –

Pa usiom świecie razpisali
Sztob usie ludzie skazali:
Jak katory chocze byci
Pod jakim zakonom życi.

Czuć i nas buduć pytacca
Jak my choczem zastawacca –
Czy być użo z Maskalami,
Czy znowu żyć z Palakami?

Pamiętajcie|ż w tuju poru
Jak prydzie da prahaworu –
Kap czasami nie akpicca
Na wiek, wiekou nie zhubicca.

Pakińcie|ż harełku pici
Sztob rozumu nie zduryci
Jak heta słowa skazaci
Dolu sabie wybiraci,

Bo choć papy durać-muciać
Prostyj narod bałamuciać
Szto to Maskal maje wolu
Palahczyć naszuju dolu –

Oj! nie wiercie tamu ludzie
Niczoho z toho nie budzie.
Kap jon chacieu tak rabici
Dauno|b to musiało byci.

Wszak jon wo usiom wolu maje
Jak chocze – tak upraulaje,
A jak tolki szto nakaże
Każin zrobić szto prykaże.

Choć prastaki wymyślajuć
Szto pany pieraszkadżajuć
Szto płacili i krucili,
J Maskala padkupili –

Na szto|ż jamu podkup braci
Kali i tak każyć daci –
J każen płacić nieboże,
J krucielstwo nie|pamoże.

Czy|ż pany pierakupili
Jak ich u Sybir wałaczyli

Jak usiu szlachtu kasawali
J majątki adbirali.

Tak samo i z mużykami –
Oy Maskali choczuć sami
Kab nas pany pilnawali –
Szatacca nie pazwalali –

Sztob każnaho najci u poru
Dla niekruckaho naboru,
Kab było kamu ławici
J da pryjomu wazici.

A jak pryducca padatki
Dziaruć z pana choć astatki –
Niechaj sabie pany prawiuć
U dwor im akzekucyiu stawiuć.

Oj tak, moi wy ludzie
Z Maskalami dobra nie budzie
Tak pomnicież szto kazaci
Jak to was buduć pytaci –

J|z za rubieża jak hranieć
Mierosłauskij z żaunierami –
J jak Polszcza usia paustanieć
Pojdziem i my z Palakami.

Krykniem usie u odno słowa:
Niechaj Polszcza budzie znowa,
Bo jak staniem Palakami
Budziem wolnymi panami!

### Другі спіс

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, k. 86–98.

## *Hutorka staroha dziada na Białorusi*

Ej skażycie dobry ludzie,
Szto heta na świeci budzie,
Ci to Boh tak sudziŭ z nami
Prapaść na wiek z Maskalami?
Oj, nie, bratki, nie tużycia,
Dy na tej czas spamianicia,
Jak to dawnymi hadami

Biŭsia Palak z Maskalami;
I my-ż razym wajewali,
Stolki krowi razliwali,
Oj, za toja, szto narodu,
Chacieŭ Palak dać swabodu.
Jak Maskal taho daczuŭsia,
To na Polszczu nawiarnuŭsia
I Niemiec staŭ pamahaci; –
Sztob palakoŭ zwajawaći; –
I bilisia-ż – wajewali,
Pakul palakoŭ prahnali,
Oj, i panios swajo hore
Biedny palak, aż za more!
Da sławnaho, da narodu,
Szto sam wyjszaŭ na swabodu,
Szto cały świet jaho znajć
I Prancuzem nazywaić.
Prancuz priniaŭ ich, jak braci,
Ale nia moh pamahaci,
Bo sam ciażka z Niemcom biŭsia,
At niewoli baraniŭsia.
A Maskal u Polszczy razsieŭsia,
Dy zaraz ŭ kosci ŭjeŭsia:
Staŭ padatki wydziraci,
U niekruty zabiraci. –
Kazaŭ sypać magazyny,
Bytcym dla takoj pryczyny,
Szto jak zdarycca patreba –
Mużyk moh dastać chleba;
A jak sam staŭ wajawaci,
Kazaŭ magazyn zabraci –
U aboz wazić ŭsio zboże,
A narod – choć hiń niaboże.
I atdaŭszy ŭsio z chaty,
Jaszcze sam idzi ŭ sałdaty,
Kidaj żonku, dzietki ŭ domu
Jedź ŭ kałodce da prijomu;
A jak wojska nie patreba,
To sałdat sam szukaj chleba,
Szle ŭsich damoj – choć nie znaje,
Ci katoryj dom swoj maje.
Tolki wielać nie szatacca
Na prykaz zaraz jaŭlacca,
Nasić boty, strycca, bryci,

Choć nie majesz czym prażyci.
Daŭniej ludzi dobra żyli
I druhich dabra uczyli,
A Maskal – sam nie znaje,
Taj licha nauczaje. –
Staŭ kascioły abdziraci,
Usiudu ksiandzoŭ razhaniaci,
Albo wialeŭ być papami
Chadzić ŭ rasach z baradami.
Bić pakłony i uczycca,
Tak, po maskoŭski malicca,
Choć paciery takija maje,
Szto ich i czort nie spaznaje.
Niechaj|że – chto słowo skaże,
Zaraz jaho Maskal zwiaże,
I zdaroŭja atbiraje,
I na Sybir wysyłaje. –
A gdzie żandar zwankom zwiahnie,
To najlepszych ŭ turmu ciahnie:
Ci ubohi, ci bahaty,
Wałacze at siami chaty.
Czynoŭniki jaho zbytkujuć,
Abdzirajuć i katujuć –
Hłumiać, kraduć, razbiwajuć
I płakać nie pazwalajuć.
Za Palakom to bywało,
I padatkoŭ płacić mało,
A chto mieŭ pana lichoha,
Paszoŭ sabie da druhoha.
A jak Maskali nastali,
To ŭsiech ŭ skazki papisali,
I szlachcicoŭ z mużykami
Hłumiać tak, jak choczuć sami. –
Z duszy niekrut i padatki,
Choć ty hiń, a daj ostatki,
A doreszty ŭsiech zhubili,
Akcyzu pastanawili.
Palak ŭsio heta znaje,
Horki ślozy praliwaje –
Tolki pamahczy nia może,
Sam ŭ czużoj ziemle nieboże.
Ale, bratki, nie tużycia,
Lepsz u Boha poprasicia
Zmiłowania, kab jon skora

Pieremianiŭ nasze hore.
Bo kažuć – szto czas nastaje,
Jak maskal moc pacieraje,
A jak heta, toje budzie,
To biarycia|ż na um ludzie!
Jak Palakoŭ zwajowali
I da Prancuzoŭ prahnali –
To jany chacieli sami
Idźci nazad z palakami.
I paszli i Maskwu uziali,
Palakom polszczu atdali,
No, Maskal tut spachwyciŭsia,
Dy z Niemcom zhawaryŭsia,
I siudy, tudy krucili
Wajewali, daj płacili,
Pakul Prancuz nie żdaŭsia
Znoŭ ŭ niawolu dostaŭsia.
Jak Prancuz paszoŭ ŭ niawolu,
Tady Maskal znoŭ ŭziaŭ wolu –
Znoŭ paszoŭ narod hłumici,
Polszczu do reszty hubici.
Prancuz tym czasem pawoli
Staŭ wybiracca z niawoli,
Prahnaŭ korola lichoha,
Dy wybraŭ sabie druhoha;
A jak tolka zmacawaŭsia,
To z Maskalom i zadraŭsia,
Zaczaŭ bici – wajawaci,
Swoju kryŭdu spahaniaci
Oj biŭ, dakul sałdat stała
I zabraŭ ziamli nie mała,
Aż Maskal musiŭ prasicca,
Sztob z Prancuzom pahadzicca,
I Prancuz jak rabiŭ zhodu –
To zaścieroh, sztob narodu
Usiakomu wolność daci
Nikoha nie pryhaniaci.
Maskali, choć abicali,
Dy taho nie datrymali,
Bo prancuz nia mieŭ spakoju
Paszoŭ na Niemca wajnoju.
Bo Niemiec ŭ chytrosci uszyŭsia,
Za Maskala nie zastupiŭsia
Dy staŭ inszych zabiraci,

Na swoj zakon prymuszaci.
Prancuzy heta daznali,
Dy na Niemcoŭ i napali,
Znoŭ bilisia, sztob narodu,
Każnomu zdabyć swabodu.
Taj i Niemcoŭ zwajawali
I z czużoj ziamli prahnali,
I na wiek, wiekoŭ wialeli,
Kab tam szołdry nie siedzieli.
A sztob bolsz wojen nie rabili,
Dy narodu nie hłumili,
Kab cary nia mieli woli
Brać nikoha da niewoli. –
Pa usiom swiecie razpisali,
Sztob usie ludzi skazali,
Jak katory chocze byci,
Pod jakim zakonom życi. –
Czuć i nas buduć pytacca,
Jak my choczym zostawacca,
Ci być użo z Maskalami,
Ci znoŭ żyć z Palakami?
Tak pomnicia-ż ŭ tuju paru,
Jak prydzie da prahaworu,
Kab czasami nie akpicca[1]
Na wiek wiakoŭ nie zhubitca.
Pakińcia-ż harełku pici,
Sztob rozumu nie zduryci,
Jak heta słowo skazaci
Dolu sabie wybiraci
Bo choć papy durać-muciać,
Prostyj narod bałamuciać,
Szto to Maskal maje wolu
Palapszyć naszuju dolu. –
Oj nia wiercia tamu, ludzie!
Niczoha z taho nia budzi,
Kab jon chacieŭ tak rabici,
Daŭno|b to musiało byci;
Wszak jon wa ŭsiom wolu maje,
Jak chocze – tak upraŭlaje,
A jak tolki szto nakaże,
Każyn zrobić, szto prykaże. –
Choć prastaki wymyślajuć,
Szto pany pieraszkadzajuć –

[1] Літара ***c*** папраўлена на ***t***: akpitca.

Szto płacili, i krucili,
I Maskala padkupili. –
Na szto-ż jamu padkup braci,
Kali i tak każuć daci,
I każyn płacić niaboże,
I krucielstwo nie pamoże. –
Czyż pany pierekupili,
Jak ich ŭ Sibir wałaczyli,
Jak usiu szlachtu kasowali
I majontki atbirali.
Tak sama i z mużykami,
Oj, Maskali choczuć sami,
Kab nas pany pilnowali, –
Szatacca nie pazwalali;
Sztob każnaho najci u poru,
Dla niekruckaho naboru,
Kab było kamu ławici
I da pryjomu wadzici.
A jak pryducca padatki,
Dziaruć z pana, choć ostatki,
Niechaj sabie pany prawiuć
U dwor im akzykucyiu stawiuć.
Oj tak, tak mai wy ludzie,
Z Maskalami dabra nia budzie,
Tak pomnicia-ż, szto kazaci,
Jak to was buduć pytaci. –
J z zarubieza, jak hlanić
Mirosławski z żaŭnierami
J jak Polszcza usia poŭstanić,
Pajdziom i my z palakami:
Krykniem usie ŭ adno słowo,
Niechaj Polszcza budzie znowa,
Bo jak staniem palakami
Budzim wolnymi panami. –

### Трэці спіс

*Гутарка старога дзеда* амаль не сустракаецца ў запісах фальклярыстаў. Так, у аграмадным архіве М. Федароўскага маецца толькі адна невялічкая картка[1], занатаваная ў 1893 г., з першаю страфою гэтага твора:

Niech będzie pachwalony Jez. Chrsyt.
Pasłuchajcie dobryje ludzi
Szto to cipier na świeci budzie
Ciż to Boh nie zlitujec sa nad nami
I daść pahinuć pad maskalami[2].

Магчыма, аднак, што фальклярысты, якія жылі і працавалі на тэрыторыі Расейскае імперыі, проста не адважваліся друкаваць падобнага кшталту матэрыялы. Як выключэнне трэба разглядаць публікацыю славіста-мовазнаўца Эдварда Кліха (1878–1939), які ў 1901 г. запісаў на Наваградчыне "фальклярызаваны" фрагмент *Гутаркі старога дзеда*. Пэўна, ад інфарматара ён атрымаў звесткі, што "верш складзены палякам, жыхаром Наваградскага павета пасля 1863 г.".

Друкуецца паводле першадруку: E. Klich, *Teksty białoruskie z powiatu nowogródzkiego* [у:] *Materyały i prace komisyi językowej Akademii Umiejętności w Krakowie*, Kraków 1907, t. II, s. 65–66. Фанетычная пісоўня Э. Кліха не захоўваецца.

* * *

Skażecie dobryje ludzi,
Szto na świecie budzie,
Nia użo|ż nie zmiłujecsa Boh nad nami,
da daść prapaści pad Maskalami?

---

[1] Яшчэ на адным аркушы паперы пададзены тытул: *Hutarka staraho dzieda*, але, насамрэч, там занатаваны 14 радкоў з другога нумару *Гутаркі двух суседаў*:

(Urywek znany tutejszej ludności).
Jazeb moj sakoliku a szto heto budzie
Chiba uże kaniec świeta nastupaje
Bo uże nadto car hulaje
I ludziej jak psoŭ stralaje
Dziesiać tysiacz razstrelali
Za to szto praŭdu skazali
A ŭ Warszawi ŭsie kaścioły
Nawat ŭsie żydoŭski szkoły
Ababrali abakrali
Ŭsiej lud z kościoła zabrali
Daŭniej było chleb da chleba
I ŭsia upraż jak patreba
Cipier niczoha ni rodzić
Szto pasiejesz to ni schodzić.

Гл.: Wołkowysk. Od Szydłowic (w. Bencerowszczyzna). M. Federowski: 38 anegdot: Materiały do *Ludu Białoruskiego* [w:] Rkps BUW BUW, 438-I, k. 103.

[2] *1863. Hutarka staroho dzieda* [w:] Rkps BUW BUW, 437-I.

Ach wy bratcy nie tużycie,
Na tu poru spamianiecie,
Jak prat tymi hadami
Biŭso Palak z Maskalami,
Za szto jany bili, wajewali,
Skolko krywi raźliwali.
Ach nasz biedny Palak, uziaŭszy swajo horo,
Paszoŭ az za moro,
G dobramu narodu,
Hdzie sam wyszeŭ na swabodu.
Prykazaŭ wsiakamu narodu, jak katoramu żyć,
Pad jakim zakonam być.
Wialeŭ katorym być papami,
Chadzić u ryzach z baradami,
Bić pakłony i uczycsa,
Jak pa maskoŭski malicsa.
A niachaj jich chto paciery uznaje,
Chto izhadaje,
Zaraz jeho Maskal zwiaże, zdaruŭio addymaje,
I na Siber pasyłaje.
Żandar u zwanku źwiabnie, źwiabnie,
Dobrych ludziej ŭ turmu ciahnie.
Czynaŭniki wsio zbytkujuć,
Abdzirajuć i katujuć.
Wialeŭ stawić makazyny,
Niby dla jakoje pryczyny,
Bo jakaja zdarycsa patreba,
Kab moh mużyk dastać chleba.

# *Ці знаеце, мае дзеці?*

## Першы спіс

Дадзены верш і ў літаграфіі, і ў рукапіснай ды машынапіснай копіях не меў асобнага тытулу, а толькі графічна быў адасоблены ад *Гутаркі старога дзеда*. Не звярнуўшы ўвагу на гэтае графічнае абасабленне, даследчыкі прымалі яго за працяг *Гутаркі* і ніколі не згадвалі ў сваіх публікацыях. Толькі ў 2013 г., транслітэраваны з лацінкі на грамадзянскі шрыфт, ён быў уключаны Л. Кісялёвай і Н. Сянкевіч у чацвёрты том *Залатой калекцыі беларускай літаратуры*[1].

Магчыма, аўтару гэтага твора належыць таксама і прадмова *Ад старога дзеда*: вельмі падобная лексіка дадзеных тэкстаў. Істотна і тое, што ў прадмове ідзе гаворка пра гутаркі дзядоў, а ў вершы выкарыстоўваюцца фрагменты паэмы Я. Баршчэўскага *Рабункі мужыкоў* (радкі 1–5, 7–10, 17–20, 24, 30). Прычым, ведаючы твор Я. Баршчэўскага толькі ў падцэнзурнай публікацыі, мы не можам вызначыць, што было працытавана з яго, а што перапрацавана, дастасавана да новай сітуацыі.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 9–146, k. 9–11.

\- - - - - - - - - - - - -

Czy znajecie, mai dzieci!
Szto heta Maskal na swiecie:
Padajci k’ niamu baiszsia;
Taj jak k’ niamu prybliżyszsia,
Tak wot strach i zabirajeć,
Szto jon u matku abruhajeć –
My sabie siadzieli cicha:
Pryniasło|ż Maskalou licha,
Usio pabrali razahnali,
Panou naszych pawiazali,
Stali brać ich, da kawać,
Taj kazakam addawać,
U Picier stali adsyłać,
Taj u Sibir pieresielać.
Użo im za nas nie|ustupicca!
Samym k’ nam nie waracicca!
A szto|ż za pany bywali:
Sukni budto żar na szali,
Dwa rukawa u nich krasnych
Dwa jeszczo z zadu zapasnych

[1] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4..., с. 554–556, 838–839.

J szapki z czatyrma rahami
Taj z krasnymi czabatami,
Z załatymi pajasami,
Taj na uwieś świet usami!
Pahladzieć na nich tak ładna:
Usio tak bliścić, usio tak składna.
Jak dziaciej nas pryhladali,
Padacej u nas nie brali,
J karmili i paili,
J u niekruty nie wadzili.
Atkul Maskal nalacieu,
J szczaście nasze zajeu:
Stau jon panou zabirać,
A nas bić, muczyć, taj drać,
Dy nad wieroj naśmiechacca,
Taj nad Bohom użo żdziewacca,
Nas z padwodami haniać,
J usio u nas atnimać.
Ni pasłowicoj słyło,
Szto pad Prahoju było!
Rouna szto wot z piekła biesy,
J kazaki i czerkiesy
Na pikach dziaciej nasili,
Oszmiana krouju zalili;
Matek z dzietkami kałoli!
Czaho|ż jeszcze treba boli?
Ksiendza u mszy samoj zabili,
Kielich dnom u wierch zwaracili!
A woj chuda z Maskalami,
Mycca krouju taj slezami!
A użo|ż, dzietki, nie siedzieć!
At Maskala nie cierpieć!
Dabjom jaho jak sabaku!
U kulak skrucić jak tabaku!
Rażnom u nozdry! pieloch u ucha!
Hrym u szeju! por u brucha!
Niechaj kiszki wałakucca,
Waukam u korm dastajucca!
Wouk zareż ich, syzmu hetu,
Won iż Polszczy, won sa świetu!
Budziem że Boha malić,
Sztoby polszczy waracić:
Bo u Polszcze pany panami;

Taj jak pany budziem sami[1],
Nuż k czortu syzmu pluhawu –
Użo nie zdabrawać jamu
Pahanamu Maskalu:
Pany szabli pabiaruć,
Taj nas z saboj pazawuć –
Tak nie|traccia że pary
Dy wastrycie tapary;
J kasu, na pryhatouki
Buduć słaunyje Pietrouki!
Jak Maskalu tkniesz u nos,
To to budzić sienakos!

## Другі спіс

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, k. 98–102.

*   *   *

Ci znaiecia mai dzieci?
Szto heta Maskal na świeci;
Padajci k-niamu baiszsia;
Taj jak k-niamu prybliżyśsia,
Tak wot strach i zabierajeć,
Szto jon ŭ matku abruhajeć. –
My sabie siadzieli cicha:
Pryniasło Maskaloŭ licha,
Usio pabrali, razahnali,
Panoŭ naszych pawiazali
Stali brać ich da kawać,
Taj kazakom addawać,
U Picier stali adsyłać,
Taj ŭ Sibir pieresielać.
Użo im za nas nieŭ|stupicca!
Samim k-nam nie waracicca!
A szto-ż za pany bywali:
Sukni budto żar naszali,
Dwa rukawa u nich krasnych,
Dwa jeszczo z zadzi zapasnych,

[1] Наступны радок верша (“Zażywiom sabie na sławu”) у гэтай копіі прапушчаны, але ў копіі для А. Янулайціса Т. Урублеўскі яго дапісаў, бо ў зборніку *Karo archyvas* ён ёсць.

I szapki z czatyrmia rahami,
Taj z krasnymi czabatami,
Z załatymi pajasami,
Taj na ŭwieś świet usami!
Pahladzieć na nich tak ładna:
Usio tak bliscić, usio tak sładna,
Jak dziaciej nas pryhladali,
Padacej ŭ nas nie brali,
I karmili, i paili,
I ŭ niekruty nie wadzili. –
Atkul Maskal nalacieŭ
I szczaścia nasze zajeŭ;
Staŭ jon panoŭ zabirać
A nas bić, muczyć, taj drać,
Dy nad wieroj naśmiechacca,
Taj nad Bohom użo zdikacca,
Nas z padwodami haniać
I usio ŭ nas atnimać.
Ni pasłowicaj słyło,
Szto pad prahoju było!
Roŭna, szto wot z piekła biasy,
I kazaki, i czerkiesy,
Na pikach dziaciej nasili,
Oszmiany kroŭju zalili,
Matek z dzietkami kałoli!
Czaho|ż jaszcze treba boli?
Ksiandza u Mszy samej zabili,
Kielich dnom ŭ wierch zwaracili!
A woj chuda z Maskalami,
Mycca[1] kroŭju, taj ślazami!
A użo-ż, dzietki nie siadzicia!
At Maskala nie ciarpicia!
Dabrom jaho, jak sabaku!
Rażnom u nozdry! pialoch ŭ ucha!
Hrym u szyju! por u brucha!
Niechaj kiszki wałakucca,
Waŭkom ŭ korm dastajucca!
Woŭk zareż ich, syzmu hetu,
Won iz Polszczy, won sa swietu!
Budziem że Boha malić,
Sztoby Polszczu waracić;
Bo ŭ Polszczy pany panami;
Taj jak pany budzim sami;

[1] Літара ***c*** тым самым чарнілам перапраўлена на ***t***: *Mycca – Mytca*.

Zażywiom sabie na sławu,
Nuż k-czortu syzmu pluhawu. –
Użo nia zdabrować jamu,
Pahanomu Maskalu,
Pany sabie pabiaruć,
Taj nas z saboj pazawuć.–
Tak nie traccia że pary
Dy wastrycia tapary
I kasu na pryhatoŭki
Buduć słaŭnyja Piatroŭki!
Jak Maskala tkniesz u nos,
To-to budzić sianokos!

## *Малітва дзісейшая*

Апошні тэкст у літаграфіі – верш *Malitwa dzisiejszaja*. Яна дайшла да нас – апрача, вядома, асобнікаў выдання – як машынапісная копія Бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх і як публікацыя ў зборніку *Karo archyvas*[1]. *Malitwa dzisiejszaja* – адметны беларускі варыянт перакладу-перапрацоўкі вядомага польскага гімна *Boże coś Polskę*.

Па сведчанню сучаснікаў, ні адна патрыятычная дэманстрацыя напярэдадні паўстання не абыходзілася без таго, каб не спяваўся гэты гімн[2]. Часцей за ўсё выкарыстоўваўся польскамоўны варыянт гэтага твора – прыстасаваны да беларускіх рэалій тэкст, які паходзіў са зборніка *Śpiewy nabożne polskie* (1861, Zeszyt pierwszy [b.m.w.]). Аднак поруч з польскамоўнымі існавала некалькі беларускамоўных варыянтаў гэтага гімна[3]. У напісанні аднаго з іх, "мінскага", таемныя агенты жандараў абвінавачвалі В. Дуніна-Марцінкевіча. Спецыялістам вядомы адно рукапісныя копіі гэтага варыянта. Лёс другога, "усходняга" аказаўся куды больш шчаслівейшы – у 1861 г. у Варшаве ён быў надрукаваны ў брашуры (на васьмі маленькіх старонках) *Песні набожныя* разам з даўнім уніяцкім гімнам *О мой Божа, веру Табе*. На думку Г. Кісялёва, "усходні" варыянт твора, магчыма, напісаў А. Вярыга-Дарэўскі. Існаваў яшчэ г. зв. "паўднёвы", ці "тураўскі" варыянт гімна, надрукаваны ў брашуры (пятнаццаць старонак малога фармату) *Pieredsmiertnyj rozhowor Pustelnika Pietra, katoryj żyu u puszczy dziewiećdziesiat let, a pamior majuczy sto sorok let* (Kijew 1863).

---

[1] А. Янулайціс апублікаваў твор у раздзеле *Giesmes ir Dainos* (*Гімны і песні*), "адлучыўшы" яго ад іншых тэкстаў зборніка *Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi*, якія ўключыў у раздзел *Atsišaukimai* (*Пракламацыі*). Гл.: A. Janulaitis, *Spausdintieji ir nespausdintieji 1863–64 m. sukilimo raštai (Друкаваныя і недрукаваныя творы паўстання 1863–1864 г.)* [у:] *Karo archyvas (Вайсковы архіў)*, Kaunas 1925, t. 1, p. 211–212, 216–219.

[2] Гл.: B. Limanowski, *Pamiętniki (1835–1870)*, Warszawa 1957.

[3] Гл.: Г. Кісялёў, *Агітацыйная публіцыстыка 1860-х гадоў* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у 2-х т.*, т. 2: *Гісторыя беларускай літаратуры. XVIII–XIX ст.*, Мінск 2007, с. 300–301.

Асобнікаў зборнічка *Песні набожныя* захавалася вельмі мала. Сёння прасцей знайсці беларускамоўны польскі гімн у следчых матэрыялах, што датычаць паўстання 1863 г., ці рукапісах сярэдзіны XIX ст. Так, у аддзеле рукапісаў Ягелонскае бібліятэкі ў Кракаве сярод вершаў, дасланых Юзафу Багдану Залескаму (1802–1886) у Парыж, маецца беларускамоўны, відавочна, "усходні" варыянт гімна "Boże coś Polskę"[1]

Падобны, але большы па памеры тэкст гімна трапіў у фонды ИРЛИ [Института русской литературы (Пушкинский Дом) РАН]. Яшчэ ў 1966 г. даследчык польска-расейскіх рэвалюцыйных сувязяў Юры Штакельберг, пішучы пра пераклады польскіх паўстанцкіх песняў на рускую мову, палічыў патрэбным далучыць да расейскіх тэкстаў і беларускамоўную версію *Божа, што Польшчы*[2].

Тэкст, апублікаваны Ю. Штакельбергам, здаецца, самы вялікі па памеру – дзевяць строфаў. Аднак сцвярджаць, што менавіта ён з'яўляецца аўтарскім, – у нас няма падстаў. Тым не менш бясспрэчна тое, што ў аснове аўтарскае ідэі перакладу-перапрацоўкі польскага гімна не толькі выяўленне жадання "вярнуць" страчаную Айчыну, але і аднавіць уніяцтва. Апошні матыў дамінуе ў другой, арыгінальнай, а не перакладной частцы твора.

Параўнаўшы даступныя нам варыянты і фрагменты варыянтаў беларускамоўнага твора, выкажам меркаванне, што ў іх аснове тэкст аднаго аўтара-перакладчыка. Найбольш верагодна – В. Дуніна-Марцінкевіча. І сапраўды, чым жа, напрыклад, адрозніваецца "ўсходні" варыянт ад "мінскага"?

Відавочна, што тэкст, бытуючы ў вуснай форме, і нязначна змяняўся, і, адначасна, "абрастаў" мясцовымі рэаліямі. Так з'яўляліся радкі пра "прасвятую Астрабрамскую Дзеву", "Каралеву Літвы і Польшчы", пра "Бялыніцкую прэнайсвентшу Дзеву", "Літвы і Русі можную каралеву", пра "Туравіцкую прасвятую Дзеву", пра "шызму" у Жыровічах і Барунах, пра "схізму" у Петрыкаве і Тураве. Фактычна, адрозненні варыянтаў – гэта нішто іншае, а толькі асаблівасці "паэтычнага майстэрства" перапісчыкаў, якіх можна назваць сааўтарамі твора.

---

[1] *Wiersze różne przesłane Józefowi Bohdanowi Zaleskiemu* [w:] Rkps BJ 9288, k. 68–69. У гэтым жа самым рукапісе на старонках 85–89 знаходзіцца *Гутарка старога дзеда*.

[2] Гл.: Ю. Штакельберг, *Русские переводы польских повстанческих песен* [в:] *История и культура славянских народов: Польское освободительное движение XIX–XX вв. и проблемы истории культуры*, Москва 1966, с. 87–88.

### Першы спіс

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 9–146, k. 11–12.

## *Malitwa dzisiejszaja*

Boże szto Polszcze czerez usie wieki
Dawau Cześć-Chwału, ścieroch ad niewoli –
J nie żaleuszy atcouskaj apieki –
Suliu paciechu u nieszczasnaj doli –
Piered ałtary malitwu prynosim
Wolnu Atczyznu waracić nam prosim!

Ty pażaleuszy jeje w złoj pryhodzie,
Nie raz pabici wraha dawau siłu,
Sierod nieszczaścia u prawiednom rodzie
Dabawiu chwały – choć paszła u mahiłu –
Piered ałtary malitwu prynosim
Wolnu Atczyznu waraci nam prosim!

Boże katory właść karanawanych
Mouliu bylinku słomisz w swaim sudzie –
Satry|ż u porach tyranou pahanych
Daj nam nadzieju szto Polszcza żyć budzie –
Piered ałtary ….. *i t. d.*

Wierni iej świetność staruju jak była,
Daj urożaj na radnienkoj mieży
Sztoby u pakoi szczaśliwa zażyła
Błahasławi Ty u dziele maładzieży.
Piered ałtary ….. *i t. d.*

Ty Biatynicku[1] Preświetnaja Dziewa –
Jedyna maci prapuszczaho rodu
Litwy i Rusi można Karalewa
Uprasi Syna sztob dau nam swobodu.
Piered ałtary ……….

U Żurawicach[2], Barunach Maskali
J Ciabie z nami u kazionszczynu skuli,
Sprau sztob at syzmy Ty i my atstali,

[1] Так у машынапісе. Павінна быць: *Białynicka*.

[2] Такое напісанне – ва ўсіх вядомых нам спісах верша. Назва Żurowice, Żurowicze часта сустракаюцца ў даўніх дакументах.

Sprau kali|b z Polszczaj uniju wiernuli.
Piered ałtary ……….

U Marciuchowie[1] my papou użo bili,
Ad syzmy Ciabie chacieli atniaci –
Dy usio niczoha, sztob my ni rabili –
Kali nie staniesz Ty nam pomahaci.
Piered ałtary ……….

Twoich słuch wiernych: Antonja Swiatoha –
J Jozafa na syzmu lichoha
Poszli szwydczej Ty k' naszemu narodu;
Prahnać Maskalou i dać nam swabodu –
Piered ałtary malitwu prynosim
Wolnu Atczyznu waracić nam prosim!
Amen.

## Другі спіс

Друкуецца паводле: *Pieśni nabożnyja,* 1861, s. 5–8 з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку.

* * *

Boże, Ty Polszczy praz douhija wieki
Dawau' cześć, chwału, ściaroch ad niawoli,
Nie paskupiu Ty ajcouskaj apiéki,
Suliu' paciéchu w nieszczaśliwoj doli.
Piered Autary madlitwu prynosim!
Wolność, Ajczyznu waraci nam, prosim!

Ty pażaleuszy jaje u złoj pryhodzie
Nieraz pabici wraha dawau siłu,
Sierod nieszczaścia u prawiunom rodzie
Dadau bolsz chwały, choć paszła u mahiłu,
Piered Autary… &.

Boże, ty siłu carou rozhuzdanych
Rouno bylinku złomisz w swajom sudzie
Satryż u porach tyranou pahanych
Daj nam nadzieju szto Polszcza żyć budzie,
Piered Autary… &.

[1] Відаць, гаворка пра падзеі ў вёсцы Марціхова Аршанскага павета Магілёўскае губерні (сёння: Талачынскі раён Віцебскае вобласці). Паводле *Słownika geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich* (t. XV, cz. 2, Warszawa 1902, s. 311) напрыканцы XIX ст. у вёсцы было 22 двары, жыло 115 чалавек; мелася царква.

Wiarni jej świetność jak dauniej była,
Daj urażaj na rodnieńkoj mieży
Kab u pakoi szczaśliwa zażyła
Błahasławi ty u dziele maładzieży.
Piered Autary… &.

Ty Biatynicka Najczystsza Dziewa,
Świataja Maci sirockaho rodu,
Litwy i Rusi można Karalewa,
Uprasi Syna, kab dau nam Swabodu.
Piered Autary… &.

U Żurawicach, Barunach maskali
Ciabie z nami u kazionszczynu skuli;
Sprau kab od syzmy ty i my adstali,
Zrabi kab z Polszczaj Uniiu wiarnuli!
Piered Autary… &.
U Marcinchowie my papou użo bili,
Ciabie ad syzmy chacieli adniaci,
Da usio niczoho, sztob my ni rabili,
Kali nie staniesz ty nam pamahaci.
Piered Autary… &.

Twaich słuh wiernych: Antonja Światoho
J Jozafata paszli da narodu.
Kab jany prahnali syzmu lichoho,
Wyhnali Maskwu, nam dali Swabodu!!
Piered Autary madlitwu prynosim:
Wolność, Ajczyznu waraci nam, prosim!
Amen.

# *Дудар*

Верш *Дудар*, выяўлены Янкам Саламевічам у рукапісным аддзеле бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта ў чэрвені 1966 г., быў апублікаваны ў газеце “ЛіМ” (нумар за 1 снежня 1967 г.) разам з нататкаю *Верш паўстанца 1863 года*, у якой паведамлялася, што М. Федароўскі атрымаў дадзены рукапіс “у падарунак ад Улад. Карытынскага, з папераў, якія засталіся пасля св. пам. Вінц. Каратынскага”, а таксама тое, што “тэкст пісаны рукой Брунона Завадскага <…> вывезенага ў 1863 г. у Сібір”[1].

Я. Саламевіч паспрабаваў атрыбутаваць выяўлены твор: “Хто быў аўтарам верша? Пакуль што на гэта пытанне адказаць цяжка. Магчыма, Б. Завадскі, магчыма, хто-небудзь іншы з паўстанцаў 1863 года. Можна нават думаць, што напісаў яго А. Вярыга-Дарэўскі, сасланы ў 1865 г. у Іркуцкую губерню, чые шматлікія творы разыходзіліся ў спісках па ўсёй Беларусі”; даць яму кароткую характарыстыку: “Верш *Дудар* – своеасаблівая рэмінісцэнцыя вядомай беларускай народнай песні *Ці не дудка мая*. Адзін куплет з яе аўтар нават уманціраваў у тканіну верша”; адзначыць ягоны патрыятычны пафас, “рэвалюцыйна-дэмакратычны змест”. Цікавым з’яўляецца яшчэ адно назіранне публікатара: “Яго [В. Каратынскага. – М. Х.] элегія *Туга на чужой старане* сугучна з вершам *Дудар*”[2].

Твор няраз перадрукоўваўся ў хрэстаматыях і анталогіях[3] з кароткаю пазнакаю: кім выяўлены і дзе захоўваецца арыгінал. Крыху больш інфармацыі пра верш у пятым томе *Залатой калекцыі беларускай літаратуры*, складальнікі якога шырока выкарысталі нататку Я. Саламевіча *Верш паўстанца 1863 года*[4].

Як нядзіўна, але, здаецца, аніколі верш *Дудар* так і не стаў прадметам ні гісторыка-літаратурнага, ні літаратуразнаўчага даследавання. Спроба Я. Саламевіча “падказаць” гісторыкам літаратуры шляхі дзеля атрыбуцыі тэксту (магчымае аўтарства Брунона Завадскага ці А. Вярыгі-Дарэўскага) засталася незаўважанаю. Верш нібыта і ёсць у корпусе ананімнае літаратуры, і адначасна – аніякіх распрацаваных гіпотэз адносна аўтарства, часу і месца яго напісання.

Такі стан рэчаў можна вытлумачыць шэрагам прычынаў, але найваж-

---

[1] І. Саламевіч, *Верш паўстанца 1863 года*, “ЛіМ” 1963, 1 сн.

[2] *Тамсама*.

[3] *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*, Мінск 1971, с. 45, 340; *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*, 2-е выд., Мінск 1988, с. 431–432, 482; *Заняпад і адраджэнне...,* с. 343–344.

[4] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4..., с. 16–17, 782.

нейшая – адсутнасць навуковае публікацыі верша *Дудар*[1].

Пададзены Я. Саламевічам архіўны адрас (Архіў М. Федароўскага, рукапісны аддзел бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта, сігнатура 137, том VII, вокладка [? – *М. Х.*] 5, арк. 1) з цягам часу змяніўся, а таму "выявіць" яшчэ раз гэты верш аказалася няпроста. Сёння ён захоўваецца ў Кабінеце рукапісаў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта (BUW) пад нумарам 441 (Pieśni białoruskie, polskie i ukraińskie zebrane przez Michała Federowskiego – bruliony. Białorus., pol. 1820–1910 r. Bruliony. Woluminów 8. K. ok. 3800 różnych wymiarów. Pismo kilkunastu rąk. Luźne i zeszyty) у пятай папцы (Pieśni małoruskie i białoruskie) VII тома (Pieśni z różnych dzielnic Polski, polskie i białoruskie, nadesłane przez różnych zbieraczy. K. 348). На вокладцы дадзенае папкі архівісты пазначылі: "Spuścizna M. Federowskiego. Pieśni białoruskie i małoruskie (w podarku od Wład. Korotyńskiego otrzymał M. Fed.). K. 3".

У папцы тры дакументы. Першы – уласна, верш *Дудар*. Рукапіс складаецца з аркуша паперы фармату А 4, складзенага папалам; тэкст напісаны ў дзве калонкі з абодвух бакоў аркуша; ніжняя палова 3 і 4 старонак адарваная. Тэкст верша напісаны (як сведчыць прыпіс) Брунонам Завадскім; слова "początek" – у левым верхнім кутку, частка фразы – "Trzeba coś koniecznie z tego tematu" – у правым верхнім кутку, а таксама варыянты першых трох вершаваных радкоў на апошняй, чацвёртай старонцы – верагодна, Вінцэнтам Каратынскім; словы "ręką ojca" пад незакончаным сказам у верхнім правым кутку і фраза ў дужках пад вершам "tekst pisany ręką Brunona Zawadzkiego" – Уладзіславам Каратынскім; алоўкам М. Федароўскі пазначыў, што Брунона Завадскага "wywieziono na Syberję w r. 1863".

Інфармацыі, як бачым шмат, але яна, хутчэй, ставіць шэраг пытанняў, а не тлумачыць паходжанне рукапісу. Сапраўды, хто такі Брунон Завадскі?[2] Ён

[1] Я. Саламевіч, трэба адзначыць, надрукаваў верш "з захаваннем некаторых моўных асаблівасцей арыгінала", але далёка не ўсіх. Больш за тое: нам падаецца, што асобныя арфаграфічныя адметнасці могуць быць карыснымі дзеля атрыбуцыі твора.

[2] Сярод удзельнікаў паўстання вядома больш за сорак асобаў, якія мелі прозвішча Завадскі. Аднак Брунона сярод іх няма. (Праўда, некаторыя з Завадскіх выступаюць толькі пад прозвішчам). У даступных нам геральдычных даследаваннях імя Брунон мае толькі адзін Завадскі – Тадэвуш Шыман Брунон, які нарадзіўся прыкладна ў 1849 г., а памёр у 1900 г. Эпітафія на помніку на Павонзках у Варшаве сведчыць, што быў ён "інжынерам будаўнічым". Карыстаўся ён, як і славутыя віленскія выдаўцы, гербам Рагаля, а таму можна дапусціць, што паходзіў ён з Вільні. У Варшаве – зусім верагодна – апынуўся пасля амністыі 1884 г. удзельнікам паўстання 1863–1864 гг. і дазволу пасяліцца ў Царстве Польскім, але не на Літве ці Беларусі. Пра гэта можа сведчыць і той факт, што шлюб з Юліяй Дамашэўскаю (1866–1929) ён узяў у 1884 г. у касцёле св. Аляксандра ў Варшаве. Праўда, ці мог Тадэвуш Шыман Брунон у свае 14 гадоў удзельнічаць у паўстанні і быць высланым у Сібір? Малаверагодна; аднак улічым той факт, што ягоны год нараджэння выводзіцца з эпітафіі на помніку ("жыў 51 год"), а гэта можа быць недакладным. Цікава, што геральдыстам вядомы гады жыцця бацькоў Тадэвуша Шымана Брунона – Юзафа Завадскага, гербу Рагаля (1814–1890) і Анастасіі з роду Госк (1817–1904), хоць усялякая іншая інфармацыя (месцы нараджэння, жыцця і смерці) адсутнічае. Не пакінем без увагі і той факт, што імя Юзаф у родзе віленскіх Завадскіх сустракаецца, хіба, часцей, чым якое-небудзь іншае імя (таксама меў гэтае імя, дарэчы, сын Брунона, Юзаф Завадскі

проста выпадковы перапісчык ці нешта іншае звязвае яго з дадзеным вершам? Хацелася б ведаць таксама і пра ягоныя дачыненні з В. Каратынскім.

Яшчэ больш пытанняў узнікае пры ўважлівым чытанні тэксту самога верша: здзіўляе ягоная арфаграфія. Бо для перадачы на пісьме беларускіх гукаў [***ў***] і [***в***] тут выкарыстоўваецца адна літара – ***ŭ***. Такое (перадусім, перадача [***в***] літараю ***ŭ***) нам выпала бачыць толькі ў рукапісах В. Каратынскага.

Заўважым, што літару ***ŭ*** для перадачы гука [***ў***] на пісьме першы пачаў выкарыстоўваць А. Рыпінскі ў кнізе *Białoruś: Kilka słów o poezji prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, śpiewach, tancach etc.*, выдадзенай у Парыжы ў 1840 годзе. Гэтую практыку ён працягваў і ў сваёй лонданскай друкарні. Перадусім, з ***ŭ*** з'явілася ў 1853 г. балада *Нячысцік* (трэцяе, асобнае выданне), а ў 1854 г. – верш *Заграй, заграй, хлопча малы*... у кнізе Ігнацы Яцкоўскага *Powieść z mojego czasu, czyli Litewskie przygody*. А вось В. Дунін-Марцінкевіч зусім інакш вырашаў пытанне перадачы беларускага гуку [**ў**]: "litera (u), w narzeczu ludowém, często się krótko wymawia, tak, że z poprzedzającą, lub też następującą, wedle potrzeby, zgłoską zdaje się stanowi jedno brzmienie, w tym więc przypadku (u) takowe, położone *cursive* (*u*), nie przedłuża, lecz owszem skraca uderzenie na tej literze i niejakoś zlewa ją z somsiednią zgłoską"[1].

Відаць, ужо ведаючы публікацыі В. Дуніна-Марцінкевіча, В. Каратынскі прапануе сваё рашэнне праблемы беларускага гуку [***ў***]. Спачатку, у жніўні 1858 г., рыхтуючы да публікацыі свой верш *Наиясьнейшаму Яго Милосьци Гаспадару Імператару Александру Микалаявичу. Песьня зъ паклонам адъ Литовско-Русинскаи мужыцкаи грамады / Najjaśniejszamu Jaho Miłości Haspadaru Imperataru Aleksandru Mikałajaviczu. Pieśnia z pakłonam ad Litovsko-Rusinskai mużyckai hramady* і лічачы патрэбным адлюстраваць асаблівасці беларускага маўлення, ён дае парады, як чытаць ягоны тэкст як грамадзянскім шрыфтам ("В, в, всегда без исключения произносится как латинское u в словах August, Europa; это – русское у, но короткое как согласная"), так і лацінкаю ("V, v, wymawia się wszędzie bez wyjątku jak u w wyrazach August, Europa, t. j. ma brzmienie u krótkiego jak spółgłoska")[2]. Верагодна, дадзеныя ягоныя прапановы тлумачацца ў пэўнай ступені магчымасцямі друкарні. Бо ўжо ў кастрычніку гэтага года В. Каратынскі на месцы свайго ранейшага ***v*** піша ***ŭ***. У "Альбоме" А. Вярыгі-Дарэўскага 23 кастрычніка 1858 г. ён запісвае верш *Daliboh-to, Arcim*…, у якім сямнаццаць разоў ужыта літара ***ŭ*** дзеля перадачы гуку [***ў***] (prypłyŭ, kroŭ, Roŭno, pasłaŭ, Zabłudziŭ, daŭ і інш.) і пятнаццаць – гуку [***в***] (sŭaim, Tŭaja, Czałaŭiek, ŭioscy, Nadźŭinski, źŭinić і інш.). Прычым, гук [***в***] перадаецца толькі літарай ***ŭ***[3].

---

(1886–1951) – вядомы польскі вучоны, фізік-тэхнолаг, рэктар Варшаўскай Палітэхнікі). Дык зусім верагодна, што менавіта Тадэвуш Шыман Брунон быў якраз тым Завадскім, які кантактаваў з В. Каратынскім у Вільні напачатку 1860-х гг. ці ў 1880–1890-я гг.

[1] W. Dunin-Marcinkiewicz, *Dudarz białoruski, czyli Wszystkiego potrosze*, Mińsk, nakładem i drukiem J. Dworca, 1857, s. 76.

[2] Гл.: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F 9-361, k. 197, 200, а таксама публікацыю верша ў трэцім томе *Даследаванняў і матэрыялаў*.

[3] Гл.: Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F 1135–4–391, k. 19.

Дарэчы, В. Каратынскі быў першы, што запісаў беларускамоўны твор у "Альбом" А. Вярыгі-Дарэўскага. Некаторыя іншыя аўтары беларускамоўных тэкстаў у "Альбоме" – Эдвард Г....... з Вільні, Мамерт Рэніер, Мікалай Караткевіч з Мінску і Якуб Т–кі з Магілёва – дзеля абазначэння гуку [ў] карысталіся толькі літарай ***и***. У той час як В. Дунін-Марцінкевіч ужываў дзеля гэтага літару ***ú*** (а дзеля адлюстравання націскнога [***у***] – ***ū***); Ялегі Пранціш Вуль – ***û***; А. Рыпінскі – ***ŭ*** (а дзеля адлюстравання націскнога [***у***] – ***ū***).

У вершы *Дудар* літара ***ŭ*** дваццаць чатыры разы ўжытая дзеля перадачы гуку [***в***], восем – гуку [***ў***]. Толькі чатыры разы гук [***в***] перададзены літарай ***w***. Заўважым таксама, што тройчы літара ***w*** папраўлена на літару ***ŭ***.

Спецыфіка ўжывання літары ***ŭ*** у дадзеным творы падказвае, што Брунон Завадскі адно толькі перапісаў беларускамоўны рукапіс. Чаму ён заняўся капіраванне, – мы не ведаем. Але дакладна можна сказаць, што ён не ведаў (ці кепска ведаў) беларускую мову, бо не найлепш справіўся са сваёю працаю: напрыклад, замест ***zahnali*** ён піша ***zalmali***, відавочна, прыняўшы спалучэнне ***hn*** за ***lm***; памылкаю трэба лічыць і ўжыванне літары ***w*** (пра гэта можа сведчыць і той факт, што тройчы літара ***w*** папраўлена на літару ***ŭ***).

Зусім верагодна, што тэкст, перапісаны рукою Б. Завадскага, – твор самога В. Каратынскага[1]. Дакладней, "накіды" да верша ці, можа, як сведчыць слова ў верхнім левым куце, – пачатак верша. А тыя польскамоўныя радкі, якія маюцца на апошняй старонцы рукапісу, – пазнейшая спроба вершавання на падставе другое часткі *Дудара* (магчыма, на адарванай частцы старонкі былі радкі, натхнёныя першаю часткаю). Паэт некалькі разоў прабаваў знайсці патрэбныя словы: 1. "Jasno niegdyś mi świeciło // Sonko hoże // I sądziłem...". 2. "Niegdyś jasno przyświęcało // ..... słonko hoże". 3. "Jasno niegdyś przyświecało // Słonko hoże // I sądziłem, że ...". 4. "Jasne słonko mi święciło, // Kiedy...".

Здаецца, не атрымалася. Перадусім, у спадчыне В. Каратынскага мы не ведаем твора, у якім былі выкарыстаны матывы *Дудара*. Зрэшты, тэматыка гэта верша дастаткова добра развітая ў творы *Туга на чужой старане*.

Дакладна датаваць дадзены рукапіс не ўяўляецца магчымым. Верагодна, ён паходзіць з "віленскага" перыяду жыцця В. Каратынскага. Менавіта тады ў ягонай творчай дзейнасці назіраюцца схільнасці да паэзіі. З іншага боку, мы не ведаем, ці В. Каратынскі пісаў на падставе сваіх беларускамоўных тэкстаў польскамоўныя творы. Зрэшты, ягоныя дачыненні з беларускім меласам выяўляліся ў даволі складанай форме: ён, здаецца, ніколі не перакладаў народныя песні, але іхнія дух, мелодыка, стылістыка выразна адчуваюцца ў ягонай польскамоўнай паэзіі.

Можна прапанаваць яшчэ адну гіпатэзу і паходжання рукапісу, і атрыбуцыі твора ўвогуле: Б. Завадскі, пакідаючы месца свае высылкі, перапісаў вядомы ў асяроддзі выгнаннікаў тэкст з купюрамі (найбольш вострыя радкі ён замяніў кропкамі). Магчыма, ён не ведаў, хто напісаў гэты твор, хоць больш верагодна,

---

[1] Можна дапусціць таксама, што В. Каратынскі запісаў ад невядомае асобы (ці па памяці) тэкст, які ён лічыў народным, а праз нейкі час даў яго перапісаць Б. Завадскаму.

што былыя паўстанцы ўсё ж ведалі імя паэта – А. Вярыгі-Дарэўскага. Не ведаючы беларускае мовы, Б. Завадскі скапіраваў рукапіс, які належаў – трэба думаць – самому Беларускай Дудзе-Дудару[1]. Вярнуўшыся на радзіму і даведаўшыся, што варшаўскі журналіст В. Каратынскі быў калісь знаёмы з А. Вярыгам-Дарэўскім, падарыў яму верш даўняга прыяцеля.

Друкуецца паводле рукапісу Бібліятэкі Варшаўскага Універсітэта: Rps. BUW 441–VII–5, k. 1.

## *Dudar*

Oh ŭazmu sz ja dudu
Daj u sŭiet pojdu
Cierez lesy, cierez bary
Cierez siały, cieraz dŭary
Budu hraci, prypieŭaci,
Sŭaju ziemlu spominaći. –
Chto jak sŭajaho mianie
Prymie ŭ[2] sŭaju chatu
Tamu zajhraju
Zaśpieŭaju
Jak rodnomu bratu.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .[3]
I zalmali[4] miane ŭ dzikuju ziamlu...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Oj sonka majo, jasnaje[5] sonko,
Czamo tŭajo[6] liczko tumanom zajszło?
Czamu tak nie śŭiecisz[7], jak kaliś śŭieciła,
Kali ja byŭ u sŭajej staranie
Oj dudku moja dziereŭiannaja[8],
Czaho tak tużysz jak dumaju[9]
Czamu kali stanu hraci
Horkija slozy ljucca?

---

[1] На жаль, мы не ведаем аніводнага беларускамоўнага рукапісу А. Вярыгі-Дарэскага, а таму не можам сказаць, як ён перадаваў беларускія гукі [***в***] і [***ў***] на пісьме.

[2] Першапачатковае ***w*** папраўлена на ***ŭ***.

[3] У рукапісе толькі адзін радок (у адрозненне ад усіх беларускіх публікацый верша, дзе іх два) кропак. Трэба думаць, ён азначае прапушчаны (ненапісаны?) адзін вершаваны радок. Два радкі кропак ніжэй, відаць, сведчаць пра прапушчаныя два радкі.

[4] Так у арыгінале. Відавочна, трэба чытаць: *I zahnali*.

[5] У арыгінале ў слове *jasnaje* другую літару *a* можна чытаць і як *o*.

[6] Першапачатковае *a* (*tŭaja*) папраўлена на *o (tŭajo)*.

[7] Першапачаткова ў слове *śŭiecisz* другая літара – хутчэй за ўсё – была ***w*** *ці* ***n***.

[8] Літара ***ŭ*** у слове dziereŭiannaja папраўлена з літары ***w***.

[9] Словы *jak dumaju* пазней папраўлены на *jak duma~~ju~~ moja*. Я. Саламевіч лічыў, што праўка ўнесена “відаць, М. Федароўскім, магчыма, В. Каратынскім”.

Oj niedaŭho dudku, niedaŭho
Budziem ŭ niaŭoli tużyć,
Ŭżo świet śŭitajeć
Sołoŭiej śpiŭajeć
I radnaja staronuńka k’ nam biażyć. –
Oj ŭazmu ja dudu
Daj da radni pajdu
Cierez lesy, cierez bary,
Cierez siały, cierez dŵary[1]
Budu hraci, prypieŭaci
Sŭaju nieŭolu – horku niedolu…[2]
    Oj ty dudko maja
Wiesialutka maja,
Wiasieliła mienie
Ŭ czyżoj[3] staranie
I ciapier hraj że
Tuhi sercu nie daŭaj że
Da ŭiedzi mianie k’ radnoj staranie
J a hrajuzczy[4], dumajaczy
Sam z taboju, jak z sieŭstroju
Pierajdu śmieło cierez świet cełу...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

---

[1] Напісана *dwary*, а пасля над літараю *w* пастаўлены знак кароткасці ˘.

[2] Магчыма, працяг радка быў на той частцы аркуша паперы, які нехта адарваў. У першапублікацыі дададзена ў квадратных дужках слова [*праклінаці*].

[3] Магчыма, літара ***y*** ў слове *czyżoj* – гэта літара грамадзянскага шрыфта ***y***, якая абазначае гук [***y***].

[4] Першая літара **z** у слове *hrajuzczy* напісана не зусім выразна.

# *Размова пана з хлопам*

Упершыню друкавалася ў трэцім томе *Ludu białoruskiego* М. Федароўскага**[1]**. Картка, якая захоўваецца ў фондзе 438 крыху адрозніваецца ад таго запісу, які выкарыстаны фальклярыстам дзеля друку. На картцы маецца толькі кароткая пазнака “Od Słonima” (відавочна, гаворка пра тое, што тэкст быў запісаны ў Слонімскім павеце), у той час як у кнізе звестак значна больш: інфарматарам быў нехта Ткачук з вёскі Студароўшчызна (у М. Федароўскага: “Sł. Od Dworca, Studerowszczyzna”)**[2]**. Выкрэсленыя М. Федароўскім радкі паказваюць, што запісаны Уладзімірам Содалем у 1987 г. у вёсцы Крапіўна Смаргонскага раёна ад В. Васілеўскага тэкст сапраўды з’яўляецца часткаю дадзенага твора**[3]**.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу Кабінента рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта: Rkps BUW 438, vol. 2, k. 22.

## *Rozmowa pana z chłopem po zniesieniu pańszczyzny*

Pan.
– Jak majesz sia Sciepanie?
Chłop.
– Adżyu panie!
– Czamu twaja Darota ~~ni przycho-~~**[4]**
Nie przychodzi do mnie na rabota?
Suczyć, grabić pilnie trzeba,
dam piniendzy dam i chlieba.
– Uże pański chlieb dakuczyu
Jak Pan nas dobra muczyu –
– ~~Coż tam dziatki twoje~~

---

[1] M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej: Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1894*, t. 3…, s. 18.

[2] “Студароўшчызна, вёска і маёнтак, Слонімскі пав., у 4 паліцэйскай акрузе, гміна Дзераўная, за 21 вярсту ад Слоніма”. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. IX, Warszawa 1890, s. 495.

[3] Гл.: *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., Мінск 1988, с. 430–431, 482.

[4] Выкрэслена М. Федароўскім.

~~Przez staranie moje?~~[1]
Dobro pany handlawali
Sługi na sabaki mieniali.
– ~~Coż tam dziatki twoje~~
~~Przez staranie moje?~~

[1] Тут і ніжэй выкрэслена М. Федароўскім.

# *Як былі пад панам*

Да нядаўняга часу гутарка *Як былі пад панам*, вядомая беларускім даследчыкам, не толькі не друкавалася, але нават не згадвалася ў навуковай літаратуры. Аднак жа дадзены тэкст вельмі цікавы сваім ідэйным зместам, які сведчыць, што атрыманая ў 1861 годзе воля расчаравала пэўныя колы сялянства. Паэт з народа на ўвесь голас кажа пра свае няспраўджаныя чаканні, заяўляе пра згубнасць атрыманае волі, наракае на жыццё нібыта вольнае, а на самай справе больш цяжкае, чым пад прыгонам.

Цікава, што падобныя думкі выявіў і Ф. Багушэвіч у вершы *Як праўды шукаюць*:

Як камень у воду, так праўда прапала!
Судоў нарабілі, начальстваў ці мала:
Пасрэднік і воласць, сынод і санаты,
Прысуцтва і вокруг, управы, палаты.
А найбольш міравых, участковых і з'ездаў,
Што ў полі камення, што гвездаў!
Затое ж жыццё цяпер труднае стала[1].

Пра яе публікацыю ў савецкі час, відавочна, і гаворкі быць не магло: ідэйны змест пярэчыў ідалагемам пра спрадвечную барацьбу працоўных з прыгнятальнікамі за свае правы і волю. З гэтай прычыны за лепшае лічылася не згадваць пра твор нават у негатыўным плане. А таму пытанне атрыбуцыі тэксту надзвычай складанае. Адзінае, што магчыма сёння, гэта сцвердзіць, што ён узнік у 1880-я гг. ("Wot użo blizka trydcać hadoŭ, // Jak my stali wolnyja at panoŭ"). Аўтар – малапісьменны паэт-самавук, які спрабуе арганізаваць свае думкі ў больш-менш рыфмаваны тэкст, зусім не клапоцячыся пра ягоную рытмічную структуру.

Паэт-вершаскладальнік закранае праблему залежнасці селяніна ад пана-памешчыка, разважае пра праблему, якую не разумее, бо не мае элементарных ведаў у дадзенай галіне. Шмат у чым ён падобны да аўтара *Гутаркі Данілы са Сцяпанам*, які, стаўшы на шлях асуджэння прыгону, пералічвае крыўды, якія працоўнае сялянства зазнае ад паноў, і спадзяецца на добрага цара, які дасць волю і гэтым самым выраўняе сацыяльнае становішча ўсіх людзей. Ён уяўляе новую грамадскую фармацыю як вяртанне да першабытнага ладу: кожны працуе, каб зарабіць сабе на жыццё. Адсюль у яго аповедзе столькі іроніі ў адносінах да паноў, якіх ніхто не бачыў "за працай". Сялянская свядомасць аўтара

[1] Ф. Багушэвіч, *Як праўды шукаюць* [у:] Ф. Багушэвіч, *Творы*, Мінск 1991, с. 22.

прымае і разумее толькі адзін від працы: апрацоўка зямлі, якая дае хлеб і да хлеба. Менавіта такое разуменне наратарам праблемы волі дазваляе адназначна характарызаваць ягоную ідэйна-мастацкую канцэпцыю як рэгрэсіўную.

Аўтар *Гутаркі Данілы са Сцяпанам* фактычна нічым не адрозніваецца ад аўтара гутаркі *Як былі пад панам*. Бо апошні асуджае тое, чаго першы аніяк не чакаў атрымаць ад волі: станаўленне капіталістычных адносін на вёсцы. Фактычна, атрымліваецца, што другую гутарку мог напісаць той самы аўтар-селянін, які напачатку 1860-х гг. з нецярплівасцю чакаў царскае пастановы, каб пасмяяцца, як пан-памешчык будзе "зарабляць" сабе на жыццё, а які напрыканцы 1880-х гг., расчараваны царскаю міласцю, з непрыязню назірае за "хітрыкамі" старых і новых паноў, што яшчэ больш актыўна ўзяліся за справу эксплуатацыі селяніна, што раней мог, карыстаючыся ашуканствам, сяк-так жыць, асабліва не клапоцячыся пра заўтрашні дзень, а ў новых умовах старыя прыёмы і метады аказаліся малаэфектыўнымі. А таму ў наратара-селяніна застаецца толькі адно: шкадаваць тыя часы, калі ён "быў пад панам".

*Гутарка Данілы са Сцяпанам*, напісаная на хвалі барацьбы ўладаў з "польскімі панамі", а таксама аптымістычных спадзяванняў на волю, карысталася шырокай папулярнасцю і, відавочна, захавалася ў блізкай да аўтарскай рэдакцыі. Твор вызначаецца даволі высокім ўзроўнем версіфікацыі – амаль правільны чатырохстопны амфібрахій. У той жа час адзіны рукапісны варыянт гутаркі *Як жылі пад панам* не дазваляе ўпэўнена сцвердзіць, што гэта аўтарская рэдакцыя тэксту. Праўдападобна, захавалася версія твора, узноўленая перапісчыкам па памяці. У выніку разважаць пра версіфікацыйнае майстэрства аўтара не выпадае: мы маем дачыненне адно толькі з сапсаваным тэкстам, які паходзіць ад перапісчыка. Аднак, думаецца, ідэйны змест гутаркі перададзены дакладна, а ён перадае філасофію жыцця значнай часткі беларускага сялянства другое паловы XIX стагоддзя.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, k. 194–198.

## *Jak byli pad panom*

Wot użo blizka trydcać hadoŭ,
Jak my stali wolnyja at panoŭ.
Bywała nas pany haniajuć na pryhon
Dwa dni ŭ niadzielu z swaim kaszalom;
Pawinin atbyć na pańskiej raboci
Z każdyja duszy, szto jość u chaci;
Także bywało i baby naszy służuć
Papiawajuczy praduć ni ab|czom nia tużuć
Krosny tkuć u mieści z tkaczami,
Jakija uzory, aż pany dziwilisia sami.
Ali pryduć jany z haściami

Taj chwalutca hetymi krasnami,
Szto pryhożyja uzory baby tkuć
I każuć, szto ich nia uczyli niczuć,
Baby sami wydumali i machajuć
A pany radujutca i haściam ich chwaluć
Hości dziwiutca hladzia na rabotu[1]
Dajuć im haścincy atchadzia
Wo tabie, każyć, karbowinic na abnoŭku
Paszyj sabie nowuju sznuroŭku
A małym dziciam sachar i pirahi dajuć
Nu, szto biaz czaho – czasym i pa|śpinie papaduć,
Kali wojt zawiadoŭcu nabreszyć
A jak zawiadoŭca[2] usim kryŭdu spyłyszyć
Dyk i wojta dobra napacieszyć:
Jak zadaduć ŭ szkuru za to, szto breszyć!
I raskażyć panom i panoŭ naśmieszyć
Jak wojt apraŭdawaŭsia zaczaŭszy malitca;
Kab jamu praścili, kab balsze ni łażytca.
A pan i pania każuć: nu, dobra jamu,
Niechaj haworyć praŭdy[3], a nia bresze nikamu.
Zwiadoŭcu pan i pania pachwalać,
Szto jon papraŭdzi saŭsimi pastupaić
Wa|ŭsioj wotczyni usio widzić
Nikoha ni kali[4] ni daść abidzić.
~~Nu, nieczyha jasz było Bohu hraszyć~~
Nu, nieczyha hraszyć Bohu była
Choć pad strachym pańskim żyć nia miła
Dy usiotyki można było pad panom żyć
Nia toja, szto ciapier, usio nada tużyć!
Ni było duża wialikich zaciej,
A żaleli nas – raŭno jak dziaciej!
Bywało skażuć[5] jechać z kaniom na pryhon
Nu nieczyha dziełyć pajedzis na zahon
Dy pahladzisz szto sabrałasia mnoha
Nu padumaisz niachaj sabie niczoha
Tut jość użo narodu wialikij zapas
Tady abjedzisz kała|sadu, dy zaraz
Na swaju paszniu dyj sabie aresz

---

[1] Перапісчык змяніў з дапамогаю лічбаў 1 і 2 парадак слоў: *na rabotu hladzia.*

[2] "ЗАВѢ́ДАЦЬ, аю, (дѣйствія опредѣл.) и ЗАВѢ́ДОВАТЬ, дую, (дѣйствія неопредѣл.), гл. ср. Завѣдывать, имѣть надзоръ за чѣмъ. *Я тутъ завѣдую, а не ты. Икономъ завѣдуець имѣннемъ*". Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...*, с. 163.

[3] Папраўлена алоўкам: praŭd*u*.

[4] Першапачаткова было нейкае іншае слова.

[5] Першапачаткова было: *skażyć.*

I wiasioła tabie, ażno pieśni piajesz
I hetyj dzień tabie pryhonu zaszczytajuć
A ajdzie ty szto rabiŭ taho nia znajuć.
Ni|stanić u ciabie bywało kali chleba
Idziesz k-panu, a pan pytaić: Szto treba?
Dy, wot panoczyk, trecij dzień jak nima chleba
Dziaciej mnoha i ni mało im treba
Sztob ich prakarmić, kab jany uzraśli
Dy panu służyli, dy dobryja byli.
Wo tady pan i zakryczć z złości:
„Za taboj jaszcze letyszniaho doŭhu jości[1],
„A ty łajdaku ~~prosisz~~ jaszcze prosisz?
„Czaho hultaisz, ni paszysz, nia kosisz?
„Dy wam-że i na pasieŭ dajetca,
„Da idzie heta usio dziajetca?
„Prapiwaisz szelma niacnota[2] łajdak!
„Nia dumaisz na dziaciej, dzieci nichaj tak~~?!~~
„Buduć, hołyi[3] choć biaz chleba
„Hinuć nichaj[4], bo tabie wypić treba?!”
Wo hetak pakryczyć, pałaić,
Dy ci mnoha tabie treba? zapytaić,
Sztob stała da nowi prykarmitca,
Kab bolsz k-panu ni wałaczytca,
Dy chaziajskim dziełym zanimatce,
Kab było wiasnaj za szto ŭziatca.
Nu, jak usio tak pirakażyć,
Tady huknieć zawiadoŭcu i skażyć:
Sztob dawać mużykam chleba,
Skolka katorymu budzić treba.
Nu i dajuć, a wojt usio birkuić,
Padworna skolka chto chleba zabraŭ,
A nasz brat sabie miarkuić,
Kab hety chleb uwieś prapaŭ.
~~A wosiń jak użo nastanić~~
A jak wosień użo nastanić
Usio z pola pazwiaziesz
I pakul chałodna stanić
To i harodninu ubiaresz
Tady prystupisz k-maładzbie
Bo na jorud użo wieźć treba

[1] Першапачаткова было: *Dy jaszczeż za taboj letyszniaho doŭhu jości.*
[2] Слова дапісана зверху.
[3] Слова дапісана зверху.
[4] Перапісчык змяніў з дапамогаю лічбаў 1 і 2 парадак слоў: *Nichaj hinuć.*

Aż i wojt idzieć k-tabie
I haworyć: czamu panu ni wiaziesz chleba
Katoryj zabraŭ z pańskiej kleci
Zimoju, jak hałodny byli dzieci
Tady jamu i haworysz: dziadziczka, padażdzycia
Pakul spraŭluś choć z niadzielku znarawicia
Muki ni masz na jorud treba
Nilzia|ż dziaciam być biaz chleba.
Chadziŭ, chadziŭ hetak dali
Dyj k (~~samomu~~) panu mianie pazwali
Tady Pan i zakryczyć sa ŭsiej siły
Czamu nia atdaju jamu chleba
Panoczyk! niama ŭżo jak Boh miły
Dziaciom jaszcze budzić treba.
A wy panoczyk padażdzycia użo na hod tej
Jak na niwcy mnie[1] zarodzić…
Wo tady pan z kresła padskaczyŭ ~~skarej~~
I szparka sa złości zachadziŭ,
Ali kryknuŭ[2]: na stajniu[3] jaho waźmicia,
Sto łoz jamu szelmu zakacicia
Wo tut i zbihatca: starysta, łaŭnik
I zawiadoŭca, ~~najbolszy pański~~ wialik czynoŭnik
Na kaniuszniu ciabie pawiaduć
I ładnych dwa puki rozyk pryniasuć.
A tut zapisku pan szleć łakiejem „malecz"
Użo praszczaju jamu i nia treba siecz.
Wo z|radości[4] i idziesz u charomy tady
Idzie pan i pania siadziać i dzieci ich małady
Pakłoniszsia im nizka – jany ŭżo łaskawa hladziać
Paśmijaŭszysia trochu – czarku harełki dać wilać
Wypjesz, padziakuisz i pojdziesz u swoj dom
I uwieś doŭh twoj kanczyŭsia na tom.
A ciapier choć wolnyja swaboda, da chuży stała
Praŭda, szto ciapier bolszy panoŭ nastała
Dy miłości ninasz[5], a praŭdy saŭsim mała
Dyj jak|że tuta praŭdzie być
Kajli mnoha panoŭ nad nami
Usich że ich nada karmić,
A rabotać to my sami

[1] Слова дапісана зверху.
[2] Папраўлена. Першапачаткова было нешта іншае.
[3] Папраўлена. Першапачаткова было: kaniuszniu.
[4] Слова дапісана зверху.
[5] Так у арыгінале. Магчыма, трэба: *nimasz.*

Jak daŭniej to u nas bywała,
Jak jaszcze pany nami razparażali
Kali chleba u nas ni stała
Dyk jany|ż nam i pamahali
Łaćwiej to nam było tady
Jak heta wolnaść ni była nam dana
Nie znali hetkij my biady
Jak rabotali na adnaho tolka pana
Mnoha nastało zabot ciapiera
Jak hetu wolność dali nam
Rabotaj na wojsko, czynoŭnikoŭ i …
Jaszcz[1] i w sałdaty idzi sam
Praŭda dali wolność i ziamli
I nakłali płaciaża
Usio ŭ wolość[2] pazwiali
Dziaruć skuru biaz naża
Za niedoimku usu chudobu nam prydali
Biez cany, jak sami choczuć
My slazami ~~pro~~ usiu kryŭdu praliwali
A jany jaszcze chachoczyć.
Bjuć ciabie i dziaruć
Biez usiakaha styda
I płakać nie dajuć
I nia maż na ich suda
Takoe prawo pryzwiali
Kab nas tolki pryciasniać
Kab my usio w biadzie żyli
Kab z nas tolki podkup brać

---

[1] Так у арыгінале.
[2] Папраўлена алоўкам: wołość.

# *Маладзіковая гутарка*

М. Федароўскі апублікаваў гэтую гутарку ў трэцім томе *Ludu białoruskiego na Rusi Litewskiej* (Warszawa 1903, s. 73–74)[1]. Фальклярыст пазначае, што тэкст запісаны ад Kierdola Ljasza з вёскі Куклічы гміны Лыскаў Ваўкавыскага павету. У архіве захаваліся дзве карткі з запісам твора. Падаём абодва рукапісы, што дае магчымасць зразумець прынцыпы рэдагавання і характар правак М. Федароўскага.

### Першы спіс

Запісаны невядомаю асобаю; праўкі алоўкам хутчэй за ўсё М. Федароўскага. Угары старонкі: “Od Łyskowa. W. Kukliczy. Pogadanki Wiejskie”. Ніжэй – тытул твора: *Smutek maładoho chłopca*! і пазначэнне алоўкам М. Федароўскага – *Hutorka*.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу Кабінента рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта: Rkps BUW 438, vol. III, k. 56–56 v.

## *Smutek maładoho chłopca!*

Śjeu na pryzwi[2] kała|chaty.
I dumaju kab byu bahaty.
Wzja|by ja poulukowu chryscinu[3].
Albo pietrukowu Jerynu.
Ale hdzie mnie da ich. Kali jeny wyroklisie[4] swaich.
Wysoko hołowy[5] nośjać. Nieczyje łaski nie prosiać.
Jak rasz[6] byli u nas chrysciny.
Pazwau ja na ich Jeryny.
Padlesz ja ko wasilowuj Polini[7].
Jena mnie pa|mordzi dała kab jeje chwarob|wzjeła[8].

---

[1] Паводле гэтага выдання яна была передрукавана ў выданні *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5..., с. 71–73.
[2] Папраўлена алоўкам: pryz*b*i.
[3] Папраўлена алоўкам: *U*zja|by ja p*a*ulukowu *K*rys*ty*nu.
[4] Папраўлена алоўкам: ich*!* ... wyr*a*klisie.
[5] Папраўлена алоўкам: hoł*a*wy.
[6] Папраўлена алоўкам: ra*z*.
[7] Папраўлена алоўкам: Padle*z* ja k*u* ... Po*u*lini.
[8] Папраўлена алоўкам: *u*zjeła.

Zhin ty ciepier[1] prapadzi,
Nawat kała|maje chaty nie|chadzi.
Bo dalboch nie daruju, Kamieniam u|łop afieruju[2].
Ach Boża moj jedyny nie chaczu ciepier Jeryny.
Bo tahdy dałasia u|znaki niechaj jeje kośći ~~kosei~~ ciehajuć sabaki.
Oto budu mieć matulu, Jak wazmu Jaskawu[3] hanulu.
Nie boś heta dla|mienie budzie pryhoża.
Tahdy zaprahu kabyłu.
Zawiezu da wałkałyska miłu.
Zajedziem da smojły[4] albo da noty i wypjem z|achwoty.
I heta kab jeje chwaroba uzieła.
Uże uczora naduta była.
Mnie Boch dau takuju duszu
Szto ja dzieuczat strasznie lubić muszu.
Ja każdamu szaznawaju[5],
Szto aprócz duszy niczoho nie|maju.
Czort ich znaje jakaje[6] im|trasca.
Heto czasam jak udasca[7].
Ja zdajetca taki ~~ea~~ czaławiek skazaci zhawaryć
A jeny nie|hoczuć mienie lubić.
Hlań bracie jak żyć nudno.
Charoszych dzieuczat znajci trudno.
A kab było kamu świet hubić.
Uże antoli dauno para bapkaju[8] być.
A jehniescy suprukowuj 27 let
A marysi i barbary to uże nie budzie pary.
Bo jeny chłopcou nie|choczuć, śmiejutca i chichoczuć.
Nu bracie, uże ja nasiedzieusie, I na hledzieusie.
Pajdu u|chatu źjem zacierku.
I scaplu kaźimierku. Albo padlezu da hanulki
Tam każuć kubieł wielki.
Oto radasć budzie jak na|nadworku,
Kubieł zahudzie.
Prybiehła hanulka pahulać da|mienie,
Jak ja małaciu w humnie.
A ja dobro ~~znie~~ ź|jeju abyszousja.
~~Wzja~~ Pakaciu u hraśi sam adyszousja

---

[1] Папраўлена алоўкам: Zhi*ń* ty c*i*pier.
[2] Папраўлена алоўкам: ło*b* a*ch*fieruju.
[3] Папраўлена алоўкам: Ja*ś*kawu.
[4] Папраўлена алоўкам: s*z*mojły.
[5] Папраўлена алоўкам: *s*aznawaju.
[6] Папраўлена алоўкам: jakaj*a*.
[7] Папраўлена алоўкам: udaca.
[8] Папраўлена алоўкам: ba*b*kaju.

Wzia|by[1] ja i hetu kab bahata była
Kab mnoho hroszej mieła,
Kab mnie dała[2], Ale czort u|jeje[3] dastanie
Jak u kazła małaka.
Tak u jeje ani hrosza ani dwajeka[4].

## Другі спіс

Перапісаны і папраўлены М. Федароўскім. Папера, а таксама абавязковыя пазначэнні навукоўца сведчаць, што гэта тэкст, падрыхтаваны для кнігі. З левага боку старонкі: “Serya III. Tom 3-ci. Okolice Łyskowa, Zelwy i Mścibowa. Rozdział 6-ty”. Угары старонкі: “Rozdział 6-ty. – Podania”. У наступных радках: “Młodzieniec. Białorusin”. (У кнізе засталося толькі – „D. Młodzian”), “3. Przypowieści i gawędy (hutorki)”, „Hutorka. Od Łyskowa (Kuklicze)” і нарэшце – парадкавы нумар тэксту ў кнізе – “150. Maładzikowa Hutorka”.

У дадзены тэкст М. Федароўскі дадаў яшчэ тры радкі: “A kab ich chwaroba ŭziała! // Prasiŭ Maryśki, kab buśki dała, // A jena mnie chfigu pakazała!” (пасля 48 радка), якіх няма ў двух вядомых спісах і якія з’явіліся (як таксама і прозвішча інфарматара), відавочна, на апошнім этапе падрыхтоўкі кнігі да друку.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу Кабінента рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта: Rkps BUW 437, vol. IX.

## *Maładzikowa Hutarka*

„Sieŭ na pryźbi kała chaty
i dumaju: kab byŭ bahaty
ŭziauby Paŭlukowu Krystynu
albo[5] Pietrukowu Jerynu.
Ale hdzie[6] mnie da ich!
kali jeny wyrakli sie swaich, –
wysoko hoławy nosiać,
niczyje łaski nie prosiać.
Jak raz byli u nas chryściny
~~pazwau~~[7] ja na ich Jeryny
padlez ja ~~ku~~[8] Jankowaj Pouliny.
Tak jena mnie pa mordzi dała, –
kab jeje chwaroba uzieła!

---

[1] Папраўлена алоўкам: *U*zia*u*|by.
[2] Першая літара *a* ў слове d*a*ła напісана невыразна.
[3] Папраўлена алоўкам: u jeje.
[4] Папраўлена алоўкам: dwaj*a*ka.
[5] Папраўлена чарнілам: abo.
[6] Папраўлена чарнілам: dzie.
[7] Слова выкрэслена, а зверху напісана: kliknuŭ.
[8] Слова выкрэслена, а зверху напісана: da.

Zhiń ty cipier, prapadzi,
nawat kała maje chaty nie chadzi,
bo, dalboh! nie daruju,
kamieniam u łob achfieruju.
Ach! Boże[1] moj jedyny,
nie chaczu cipier Jeryny,
bo tahdy[2] – tfu! – dała sie u znaki –
niechaj jeje kości ciehajuć[3] sabaki!
O to budu mieć matulu
jak waźmu Jaśkawu Hanulu –
nie boś! heta dla mienie[4] budzie pryhoża:
dzieuka pracawita i piekna[5] jak roża.
Tahdy[6] zaprahii kabyłu,
zawiezu da Wałkałyska (tak) miłu;
zajedziem da Szmojły albo[7] da Noty,
no i wiadomo, wypjem z achwóty:
Ale i heta – kab jeje chwaroba uzieła!
uże uczora naduta była.
Mnie Boh dau takuju duszu,
szto ja dzieuczat strasznie lubić muszu;
ja każdamu saznawaju
szto aprocz[8] duszy niczoho nie maju.
Czort! ich znaje jakaja im trasca,
heto czasam jak udaść sa:
ja zdajec sa taki czaławiek „skazaci–zhawaryć"
a jeny – tfu! zhiń maro – niechóczuć minie lubić.
Hlań bracie, jak żyć nudno,
Chorószych dzieuczat znajści trudno,
a kab było kamu świet hubić…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Uże Antoli dauno para babkaju być,
a Jehniescy[9] Suprukawoj 27 let,
a Marysi i Barbary – to uże nie budzie pary,
bo jeny chłopcou nie choczuć,
śmiejuc sa i chichoczuć.
Nu bracie uże ja nasiedzieu sie,

---

[1] Папраўлена чарнілам: Boż*a*.
[2] Папраўлена чарнілам: *tady*.
[3] Папраўлена чарнілам: ci*a*hajuć. У наступным радку змешчана адно слова: *Koniec*.
[4] Папраўлена чарнілам: *minie*.
[5] Слова выкрэслена, а зверху напісана: *daj cwicie*.
[6] Папраўлена чарнілам: *tady*.
[7] Папраўлена чарнілам: *abo*.
[8] Папраўлена чарнілам: apr*y*cz.
[9] Папраўлена чарнілам: J*a*hnies*z*cy.

Pahawaryŭ … i na hledzieu się,
pajdu u chatu zjem zacierku
i scaplu Kazimierku,
albo[1] padlezu da Hanulki,
tam każuć kubieł wielki; –
Oto radość[2] tady budzie,
jak na nadworku kubieł zahudzie!
Prybiehla Hanulka pahulać da mienie
jak ja małaciu haroch u humnie,
a ja dobro z jeju abyszou sia,
pakaciu u harosi sam adyszou sia.
Uziauby ja i hetu kab bahata była,
kab mnoho hroszej miela,
~~kab~~ tob i mnie dała; ale czort u jeje dastanie:
jak u kazła małaka –
tak u jeje ani hrosza ani dwajaka!”

[1] Папраўлена чарнілам: *abo*.
[2] Папраўлена чарнілам: rad*a*ść.

## *Як запрасілі цешча і цесць ды зяця к сабе на чэсць*

Дадзеная гутарка ніколі не згадвалася ў даследаваннях па гісторыі беларускае літаратуры. Як выключэнне, – *Бібліяграфія* У. Абрамавічуса, дзе пазначана: "401. *Як запрасілі цешча і цесьць ды зяця к-сабе на чэсьць*. Рукописная поэма с конца XIX в. дидактично-сатирического характера (Ф. Багушевича?) находится в сборнике ВБФ – 927, с. 77–83, латиница"[1]. Можна дадаць: гэта першы беларускамоўны тэкст у зборніку, пасля якога складальнік перапісаў творы з літаграфаванага выдання *Гутаркі старога дзеда на Беларусі* і толькі тады ўжо – творы Ф. Багушэвіча.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, k. 77–83.

### *„Jak zaprasili cieszcza i cieść Dy ziacia k sabie na cześć"*

Jakij zwyczaj u „kalady",
Szto ŭsiakij hosciam dużo rady.
Ja chaczu wam raskazać,
Chto ś-kim wremia choczyć praważać.
Jak zaprasiła cieszcza i cieść
Dy ziacia k-sabie na cześć[2];
Jakij jon jaszcze ziać – ni ziać
Jetaha jaszcze niamożna uhadać;
Jany jaszcze ni wienczany,
Tolka tak sabie naraczany;
Dy ziać na jaho|ż pahresznyści paznaŭsia,
At jetaha ni atkazaŭsia,
I pa|prożbie jak jawiŭsia,
Tak-tyki zaraz cieszczy u nohi pakłaniŭsia,

[1] В. Абрамавичюс, *op. cit.*, с. 87.

[2] "ЧЕСЦЬ, и, чсци и тсци, с. ж. 1. Почтеніе, уваженіе. *Отъ дзѣцей своихъ чсци не маёмъ. Заслуживъ на чесць и добрую славу. Чесць приложена, а отъ убы́тку Богъ избавивъ.* Посл. 2. Честность. *Въ ёмъ нема ни чсци, тсци, ни вѣры*. Посл. 3. Угощеніе. *Быць у кого на чесци*. 4. Ласковый пріемъ. *Што по тэй чесци, коли нечего ѣсци*. Посл. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...*, с. 698.

Ach! myja-ż ty matuleńka,
A j dzie-ż twaja Hannuleńka,
Za daczku twaju miłuju,
Ja nożki twaje całuju:
Jak ścisnuw at miłości,
Dyk zatraszczeli w bokach kości –
Ustań mój ziaciu, ustań darahij,
Ni pawyłamaj ty mnie nohi;
Ustań czaho|ż ty płaczysz i wzdychaisz,
Ja baczu, szto kochaisz. –
Tut padjszła k-jamu Hanka,
Pazdaroŭkałasia z-jm kochnka;
Jakoje było zdaroŭkańnia,
Adno było całowańnia,
U chaci użo było na paradku tuta,
Ad parohu, aż da kuta,
Usio było prihatoŭleno
I na stoł pastaŭleno,
I szto tam u chaci była,
Ni pawiazła|b i kabyła:
Tut urad stajać s-harełkaju butelki,
A tam trochu padali tarełki,
Tut kubasy, tut bliny,
Tut i ładki i kułduny,
I blincy, razny słaści,
A tut kuryczka ŭ maśli;
Dy usi-tyki zakuski ni prastyja,
Dy i butyłki ni pustyja:
Tut butyłyczka romca,
A tam sładkaho winca
Pij i jeż – chto szto choczyć,
Dy i samowar styja chlachoczyć.
Wot atyzwaŭsia tatuleńka,
Pani otcze i matuleńka
Na szto nam czas napasno cirać
Chto iż nas hościa prosić hulać.
Lubieznyja naszy dziacinki! Prosza k-stołu bliże
Prosza, prosza sadzicca pawysze
I tak sabie naradzili,
Szto na kut haścia pasadzili;
Po prawoju ruku sieŭ tatuleńka,
A po lewuju Hannuleńka,
A matuleńka dzieła znaj,
Padnasi da naliwaj

Nu každyj at siabie naczaŭ prasić,
To wypić, to zakusić
Nu szto|ż ty ziaciok mało pijesz, mało jasi,
Nutka, Hannula, ty užo prasi!
Ziać nasz atprasicca nia|ŭmieŭ
I atkazacca ni paśmieŭ,
Dy tyki dumaŭ, szto dla jetaha pryzwali,
Tak i dziełaŭ jak kazali.
Wot tut paciecha, wot tut śmiech,
Nabraŭsia nasz ziać, jak miech,
Dy jaszcze|ż na tym ni kaniec,
Tut padsieŭ k-jamu ajciec:
Lubyj ziaciu, tyż mnie heta,
Darażej at usiaho świetu
Prysuńsia pabliże k-dacuszcy,
Wypjem jaszcze pa krużcy
Wot tut nasz ziać z-pantałoku zbiŭsia:
Nia|czuw jak i upuściŭsia[1].
Cieść jetaha ni razsłuchaŭ,
A nasz|tyl tyki nosam zniuchaŭ
Czmych, czmych i dahadaŭsia
Ehe, bratcy, heta|ż iz nas niechta …….!
Jak zaczuła pani maci,
Szto śmiardzić duża u chaci
Zaraz k-stołu podbiżała
I tak z-złościu zakryczała:
Fe, fe! czerci|b was pabrali!
Usiaho wy u sztany panakłali:
I harełki, i kubas,
Dy katorij-ża iz was?
Ci to cieść, ci to ziać,
Dy prasz-tka sztany zniać!
Tut nasz ziać naczaŭ apraŭdatca[2],
Dyj naczaŭ k-dzwieram pryblizacca.
Jak uskaczyła panna Hanka,
Uchwaciła za ruki kachanka:
Prosza, prosza ni pużatca,
Prosza bolszy zabaŭlatca!
A jon dumaić czaho,

[1] "УПУСКА́ЦЬЦА, сов. УПУСЦИ́ЦЬЦА, гл. общ. Имѣть слабость не удерживать испражненія или мочи, быть подвержену слабости желудка. *Который дзень упускаецца малецъ, не чуець, якъ упусцицца*". Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...*, с. 663.

[2] Тут і далей літара ***c*** у асобных словах (apraŭda*c*ca) папраўлена на ***t*** (apraŭda*t*ca). Магчыма, дадзеная праўка з'явілася пад уплывам тэкстаў Ф. Багушэвіча.

Kali użo tut ni da|taho, –
Kali Aciec i Maci
Razchdzilisia pa chaci,
Dyj naczali ni bajki baić,
A prama tyki ziacia łaić:
Ach ty szelma! a ni ziaćku,
Apaskudziŭ ty naszu dziacinku;
Dy jak-że można pani braci
Jak swinie puskać u chaci
Dy jaszcze i za|stałom;
Ach, prańzi leszyj ciabie kałom!
Nasz ziać naczaŭ apraŭdacca,
Naczaŭ k-cieściu prybliżacca.
Tut sam sabie ni razkażysz,
Dyj i ŭ – puzi ni zawiażysz,
Bo ŭ-puzi ni ŭ-miachu;
Dyj i sam-ża ty byŭ ŭ-jetym hrachu:
Ci pomnisz ty jak z chraścin waraciŭsia,
To i nia|czuw, jak na pieczy upuściŭsia;
Jak chwaciŭsia u sztany,
To ni kułaha, ni bliny.
Wot nasz cieść i wzjeraszyŭsia,
Puszcze pierszaho razsierdziŭsia:
Ach ty szelma, a ni ziać!
Śmieisz ty mianie tak zniważać?!
Za to szto tak u mianie pakumiŭsia,
Szto nia czuw jak upuściŭsia;
Ni zawisia szto ty mój ziać,
Ja ni mahu za ciabie daczku atdać,
I ciapier z-majho dwara dałoj,
I szto|b bolsz ka-mnie ni nahoj!

Finis

# *Жаніцьба Сапрона*

Гутарку згадаў у сваім даследаванні (раздзел *Анонимные искусственные стихотворения, представляющие крестьянский быт*) Я. Карскі. На яго думку, “такие стихотворения представляют больше крепостные нравы и возникли, несомненно, раньше 1860 г.”[1], а іхнія мастацкія вартасці – даволі нізкія: “стихи их не выдержаны, нет ритма, больше силлабические, рифма обыкновенно сохраняется. Авторы их простые деревенские грамотеи. Стихотворения их дошли до большого расстройства также вследствие того, что они передавались устно”[2].

Захавалася ў запісе Е. Раманава: спачатку ён уключыў гутарку ў “быль” *Милостивый Осипъ* (Витебскъ 1896, с. 29–32), а пасля двойчы надрукаваў у зборнічку *Тарас на Парнасе и другие белорусские стихотворения* (Могилевъ 1900, с. 20–22; Могилевъ 1902, с. 29–32). Характэрна, што ў першым выданні Е. Раманаў імкнуўся як можна больш русіфікаваць тэкст гутаркі, а вось пазней паправіў напісанне шмат якіх беларускіх слоў і выразаў.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў зборкіка *Тарасъ на Парнасѣ и другія бѣлорусскія стихотворенія*, изданіе новое, дополненное, Могилевъ 1902, с. 29–32.

## *Женитьба Сопрона*

Собирався Холомей[3] женить сына свойго Сопрона,
И брать у нашаго головы[4] дочку́ Гапона –
Кулину.
И ра̀дився съ Сакомъ – братомъ:
Кого взять за свата-ходата?
– Я думаю Кузьму
За свата возьму?
– Нѣ, кажеть: бери кого другого,
Бо ў Кузьмы ковтуновъ не много!
Я думаю Гришку за свата взять, –
У его довжѣйшіе ковтуны висять!
– И правду ты кажешъ, Сача,

[1] Е. Карский, *Белорусы...*, с. 330.
[2] *Ibidem*, s. 338.
[3] Халамей – ад царкоўнага імя Варфаламей (з грэцк. “сын палёў”, “сын узаранае зямлі”). “ХОЛОМЀЙКА, и, с. общ. Простакъ, -*чка*, имѣющій, -*ая* пустую голову. *Ён нашъ братъ-холомѣйка*”. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік...*, с. 682.
[4] Маецца на ўвазе, відаць, валасны старшына.

Ёнъ жа мнѣ еще и своячa!
Послать мальчишку
Позвать Гришку!
Слонца заходить,
И Гришка приходить,
Двери отчиняеть,
Добрый вечеръ даваеть:
– Добрый вечеръ! – Здоровъ!
– Што ты, своячa, до мене маешъ.
Якую претэнзiю накладаешъ?
– Э, дурачина ты, своячина:
Хочу жанить свойго сына Сопрона,
И брать у нашаго головы дочку́ Гапона –
Кулину.
А тебе послать за свата-ходата!
– Я ня ўмѣю!
– А я тябе наўчу:
Возьми громнишную свечку,
Дванадцать хунтовъ перапечку,
Лапти сбоку привяжы,
И хто будя пытатца, – не кажы!
– Я боюсь: ёсть чаровники,
Мяне тамъ счарують!
– Не бойсь: зачапи
Жарновый камень за плечи,
Нехай камень по спи́ни шаруеть,
То тябе нихто не счаруеть!!.
Сватъ Гришка иде́ть,
Сопрона ззади за собой вяде́ть,
Двери отчиняеть,
На кочаргу ступаеть.
Якъ ставъ на кочаргу,
Якъ дала кочарга по лобу!
Хотѣвъ ба свадьбу починать,
Да за кровъю Божаго свѣту не видать.
Тогды кажеть Гапониха до Гапона:
“Треба намъ держатца свойго закона,
Треба намъ сгоноровать,
Зразу Кулины не отдавать!”
Гапониха зъ Гапономъ сгоноровали –
Три дни сватовъ у ёвни[1] держали.
Дали кажа Гапониха до Гапона:
“Годи намъ держатца свойго закона!

[1] Ёўня – памяшканне для сушэння снапоў.

Треба робить заручины,
Бо ўже сватовъ помучили”.
Обозвався и Сопронъ до Гришки:
“А ўже жъ мое́ выполосколо кишки!
Бери барылку[1],
Да йди по гарѣлку!..
И у насъ свадьба йде́ть,
Ажъ любо глядеть!
Стали гомонить,
Коли и вясельля робить.
Отправивши святъ-дяды,
Пошовъ Гришка попа годить.
Черазъ порогъ перавалився
И въ хати повалився, –
Однымъ словомъ охмялився.
Попадьдя на яго глядить,
А ёнъ, лежучи, бубнить.
Пришовъ попъ.
– Што у васъ тутъ стало?
– А, батю́шка:
Нашъ Холомей же́нить свойго сына Сопрона,
И бяре́ть у головы дочку́ Гапона –
Кулину.
Дакъ пришовъ я пытать,
Ти много за заповеди[2] дать?
Попъ за заповѣеди узявъ,
И яму́ слово давъ:
“Иди, кажа, музыкъ[3] старайся,
Да молодыхъ къ вѣнцу выправляй”!
– Да я за музы́ку взявъ бы Апанаса,
Да ў яго ни рымки[4], ни баса[5];
А ўже якъ придя Авласъ,
То почепя и рымку и басъ.
Ёнъ якъ по струнамъ пово́дить,
То насъ гулять изводить;
А якъ до басу доткне́тца,
То намъ не́гди подѣ́тца.

---

[1] Барылка – дзежачка ёмістасцю 8–10 літраў.
[2] Запаведзі – аб’яўленне пра шлюб.
[3] Музы́ка – музыкант.
[4] Рымка – першая тонкая струна ў скрыпцы.
[5] Бас – чацвёртая, самая тоўстая струна ў скрыпцы.

## *Панскае ігрышча*

Гутарка ўпершыню была апублікавана як ананімны твор (70 радкоў) у газеце “Виленскій вѣстник” у 1889 г. і прыкладна ў гэты ж час Б. Эпімах-Шыпіла змясціў яе (72 радкі) у сваёй рукапіснай хрэстаматыі як твор Ф. Тапчэўскага (каля 1838–1892). Праўда, наш славуты навуковец дадаў характэрную пазнаку: “Таксама быццам бы твор Фелікса Тапчэўскага. Спісаў у Лявонаўшчыне ад пані Міхаліны Аскерка, народжанай Давідсон, 25.VI.1889 г.; перапісаў у Пецярбургу 25.X.1890 г.”[1]. У 1894 г. гутарку *Панскае ігрышча* (84 радкі) передрукаваў у зборніку *Smyk białoruski* Ф. Багушэвіч, называючы аўтара Юркам. Дадзеная акалічнасць, а таксама сустрэчы з сястрою, братам і пляменніцай Адама Гурыновіча (1869–1894) паспрыяла таму, што Б. Тарашкевіч падаў сур’ёзныя аргументы на карысць аўтарства вядомага паэта другой паловы XIX ст. Па-першае, ён спаслаўся на сямейную традыцыю Гурыновічаў; па-другое, – немалаважным быў факт, што А. Гурыновіч карыстаўся псеўданімам Юрка; па-трэцяе, – у архіве паэта захаваўся верш *Ох-ох-ох, умру ад смеху...*, які даследчык палічыў пачаткам *Панскага ігрышча*[2]. Дадзеную гіпотэзу падтрымалі М. Маляўка[3] і А. Мальдзіс[4], а быў супраць Р. Семашкевіч[5].

Як ананімны твор (76 радкоў) друкаваў гутарку Е. Раманаў у “былі” *Милостивый Осипъ* (72 радкі) і зборніку *Тарасъ на Парнасѣ и другія бѣлорусскія стихотворенія* (76 радкоў). В. Ластоўскі паведамляў, што *Панскае ігрышча* прыпісвалася Яну Шэмету-Палачанскаму (1826–1905)[6], а Я. Карскі дапускаў аўтарства самога Ф. Багушэвіча[7].

У хрэстаматыях гутарка друкавалася, здаецца, толькі двойчы і заўсёды як твор Ф. Тапчэўскага[8]. Грунтоўна пытанне атрыбуцыі *Панскага ігрышча* ў беларускім літаратуразнаўстве даследаваў Г. Кісялёў[9].

---

[1] Цыт. па: *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., Мінск 1988, с. 472.

[2] Гл.: Б. Тарашкевіч, *Адам Гурыновіч*, “Беларускі звон” 1921, № 3. Цыт. па: *Пачынальнікі...,* с. 482.

[3] М. Маляўка, *Аб некаторых пытаннях вывучэння творчасці Адама Гурыновіча*, “Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук” 1969, № 1, с. 92.

[4] А. Мальдзіс, *Таямніцы старажытных сховішчаў*, Мінск 1974, с. 63–70.

[5] Р. Семашкевіч, *op. cit.,* с. 53–55.

[6] Власт, *Памажыця*! “Наша ніва” 1913, № 38.

[7] Е. Карский, *Белорусы...*, с. 425.

[8] Гл.: *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., Мінск 1988, с. 325–326; *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4..., с. 824–826. Таксама ў выданнях твораў Ф. Багушэвіча як твор Юркі.

[9] Г. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча...*, с. 331–334.

## Першы спіс

Гутарка *Панскае ігрышча* апублікавана як *Корреспонденція ,,Вил. Вѣст."*, дасланая (?) Ив. Сиротко з мястэчка Крэва Ашмянскага павета разам з фрагментам гутаркі *У насъ цяперъ такихъ многа*. Аніякіх звестак пра І. Сіротку не захавалася[1], як таксама і пра тое, дзе і калі ён запісаў беларускамоўныя творы.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку паводле: "Виленскій Вѣстникъ" 1889, № 70 (30-го марта 1889 г.). Зверыў з арыгіналам Вячаслаў Мартысюк.

## *Кабъ ты вѣдау, братъ кумище...*

Кабъ ты вѣдау, братъ кумище,
Што учора видѣу я:
У паноу было игрище,
Да якое жъ – ай–ай, ай!
Вотъ игрищче, так игрище,
Не такое, якъ у насъ,
У цымбалы біу жидище,
Якъ Язепъ[I] твой онъ якъ разъ.
Два жидки у скрипки валяць,
Третій, пархъ, у дудку дмець,
А усѣ разомъ якъ зайграюць,
Ажно, цябе затрясець.
Якъ зайграюць усѣ разомъ
Музыканты казачка
Ажно темно станець глазамъ
И ня помнішь языка.
Сердце бйется, якъ цѣпамі,
Ноги дрожаць падъ табой
И у танецъ идуць сами,
Ажно самъ не свой.
Тут еще одна скрипица,
У обхватъ ена якъ разъ[II];
Вотъ на ей дакъ басъ-басища,
Якъ оборина у насъ.
А паноу тамъ, што на сходѣ,
Якъ начальникъ пріѣдзе къ намъ,
Усѣ убраушися по модѣ,
Такъ што и куды тамъ.
Паничи были прибраны,
Подъ колиберъ, якъ одзинъ,

[1] Калі не лічыць таго факту, што ў 62 нумары гэтай жа газеты ён апублікаваў яшчэ адну карэспандэнцыю пра замак у Крэве.

Рукавички маляваны,
А ботинки бытцымъ клинъ.
Якъ снѣгъ бѣлы ихъ сорочки,
Подрукаунички трубой,
Акуляры[III] якъ два вочки
Висяць тужъ подъ бородой.
А паненки, хоць пригожи,
Але жъ мода – Богъ из-ей,
До чего яны похожи –
До мары не до людей!
Усѣ сабѣ такъ якъ надо –
Животоу тольки нимашъ[IV],
Зъ заду нѣкая прилада[V]
Толька ѣхаць на кирмашъ.
Ни то колпакъ тарчиць изъ заду,
Ни то кошель, ни то кулакъ.
Ня добіуся ни якъ ладу,
Ня додумауся ни якъ.
Паничъ некій ня тутэйшій,
Муси зъ городу пришоу,
Бо тутэйшій енъ цянейшій
И пригожъ сабѣ ништо.
Згомоніу енъ: пойдзем вальца,
Нехай жидки идуць грацъ;
Старый жидъ моргнуу на мальца,
А той стау усимъ моргаць.
Тутъ смычки нарыхтовали[VI],
Наготовились и ждуць;
Послѣ разомъ якъ зайграюць,
Якъ заваляць, якъ дадуць!...
Тады паничи устали
И къ паненкамъ подошли.
Ажно тыя трахъ! устали
Паничи ихъ обнимаць;
Глядь усѣ по дѣвца узяли
И пусцилися скакаць.
Такъ скакали, веселились,
Пили–ѣли усю ночь,
Уже днемъ спать положились,
Бо скакаць было не вмочь.

***Заўвагі І. Сіроткі***: [I] Словомъ „Язепъ” крестьяне характеризуютъ физическое безобразіе; это, очевидно, заимствованное у образованнаго класса имя извѣстнаго баснописца Езопа, прославившагося своимъ безобразіемъ; [II] Контрабасъ; [III] Пенснэ; [IV] Нѣтъ; [V] Тюрнюры[1]; [VI] Приготовілі.

## **Другі спіс**

Апублікаваны ў брашуры Я. Карскага *Матеріалы для изученія бѣлорусскихъ говоровъ* (выпуск 2, Санктпетербургъ 1898 г.) як “Извлеченія изъ сообщеній №№ 5–11, сделанныхъ на (ІІІ-ю) «Программу для собиранія особенностей говоровъ бѣлорусскаго нарѣчія» гг. М. Герштоповичемъ, И.С. Дубиной, Н. Короленкомъ, А.А. Лагуной, И.Г. Моисеенкомъ, г-жею Ситкевичъ и Н. Юшковымъ”. Гутарку запісаў у мястэчку Паставы Дзісненскага павета Віленскай губерні (“47 в. отъ г. Свенцянъ, при узкоколейной жел. дорогѣ”) мясцовы ўраджэнец І.Г. Маісеенка, які вучыўся ў Маладзечынскай настаўніцкай семінарыі.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку: Е. Карскій, *Матеріалы для изученія бѣлорусскихъ говоровъ*, выпуск 2, Санктпетербургъ 1898, с. 27–29.

## ***Па́нская игры́ща***[I]

Капъ ты вѣ́даў братъ, куми́ща,
Што учо́ра ба́чыў я:
У пано́ў было́ игры́ща,
Да яко́я? а-я-я!
Вотъ игры́ща, дыкъ игры́ща,
Ни тако́я, якъ у насъ:
У цымба́лы біў жыдзи́ща,
Якъ кало́мъ, такъ вотъ якъ ра́съ.
Два жыды́ у скры́пки ва́люць,
Тре́ци па́рхъ у ду́тку дме́ць,
А усѣ́ ра́замъ якъ зайгра́юць,
Дыкъ ашъ цябе́ затрасе́ць.
Якъ прыўда́руць усѣ́ разамъ
Музыка́нты казака́,
Ды́къ ашъ цё́мна у во́чахъ ста́ниць
И ня по́мнишъ языка́.
Сэ́рца бъе́цца якъ цапа́ми,
Дрыжа́ць но́ги патъ табо́й
И у та́няць иду́ць са́ми,
Ашъ ты про́ста са́мъ ня сво́й.
Тамъ была́ ищо́ скрипи́ща

[1] Турнюр (ад фр. tournure – пастава, манера трымацца) – прыстасаванне (элемент сукенкі), што выкарыстоўвалася ў другой палове XIX стагоддзя дамамі дзеля надання задняй часткі фігуры пышнасці.

У апхва́тъ, дыкъ во́тъ якъ ра́съ
А ўжо́ ба́съ, ды́къ баси́ща,
Якъ або́рыща у насъ.
А пано́ў, дыкъ якъ на на схо́цца,
Усѣ́ прыбра́ўшыся у кра́мнымъ[II],
Якъ прыбра́ны, куды́ та́мъ,
Панича́ былѝ прыбра́ны
Патъ калѝбаръ, якъ адзѝнъ:
Рукавѝчки маляваны,
То́лька бо́ты, якъ бы клинъ.
И акуля́ры, якъ два во́чки,
Тутъ вися́ць падъ барадо́й.
Якъ снѣ́хъ, бѣ́лыя саро́чки,
Нарука́ўнички трубо́й.
А пане́нки хоць прыго́жы,
Али мо́да, − чо́ртъ-жа ей!
Да чаго́ ина́ пахо́жа,
Да душы́[III] ни да людзе́й!
Вухо́ якъ сабѣ́ ни на́да,
Жывата́ саусѝмъ нима́,
Зъ за́ду нѣ́йкая прыла́да;
То́льки ѣ́зьдзиць на кирма́шъ:
Якъ кульба́ка тарчы́ць зъ за́ду,
Бы́тта каше́ль, ни то мяшо́къ;
Ни дабъе́шся ния́къ ла́ду,
Ни даду́маишся нія́къ.
Панѝчъ нѣ́йки ня туте́йшы,
Му́сиць зъ го́раду, ци што́
На́дъ усѝхъ ёнъ пякнѣ́йшы
И прыго́жы, куды́ што́.
Заманѝў ёнъ бы́тта ва́льца,
Нiха́й идзе́ць жы́тъ игра́ць.
Стары́ жытъ мигнуў на ма́льца,
А той дава́й усѝмъ мирга́ць.
Тутъ смычкѝ нарыхтава́ли
И нача́ли аддыха́ць,
А по́сля ра́замъ якъ зайгра́ли
Ашъ ня мо́жна устая́ць.
Панича́ тагды́ уста́ли,
Спатаўхну́лися, пайшлѝ,
Нѣ́шта тро́ха пашапта́ли,
И да пане́накъ падайшлѝ.
Тагды́ ты́я: ты́цъ, уста́ли,
Панича́ ихъ абыма́ць.

Гля́нь, па дзѣ́ўца усѣ́ узя́ли
И пусьци́лися скака́ць.
Такъ скака́ли, вясяли́лися,
Пили́, ѣ́ли усю́ но́чъ,
Спа́ць ужо́ днё́мъ палажы́лися,
Бо скака́ць было́ ня ў мо́чъ.

***Заўвагі Я. Карскага***: [I] Произведеніе искусственное. Ср. Е. Радимичъ (Романовъ): *Милостивый Осипъ*, Витебскъ 1896, с. 23; [II] Въ купленной матеріи, а не домашняго производства; [III] Ей Богу!

## Трэці спіс

Захаваўся ў рукапісным зборніку канца XIX – пачатку XX стагоддзя. Гутарка запісана адразу пасля вершаў Ф. Багушэвіча са зборніка *Дудка беларуская*.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, k. 170–173. Зверыў з арыгіналам Вячаслаў Мартысюк.

## *Pańskoje Ihryszcze*

Kab ty widzieŭ, brat-kumiszcza!
Szto ŭ uczora widziŭ ja:
U panoŭ było ihryszcze, –
Dyj jakoje – oj! Ja, ja!
Wot ihryszcze, tak ihryszcze!
Ni takoje, jak u nas:
U cymbały biŭ żydziszcze,
Jak Atroch tyj, wot jak raz.
Dwa żydki u skrypku waluć,
Trecij parch u dudku dmieć,
U szaścioch jak zacymbaluć
Ażno ciabie zatrasieć.
A adna była skrypiszcza –
U abchwat budzić jak raz;
Wot na niej byŭ bas basiszcze,
Jak u beryna u nas. –
Usi razom jak zajhrajuć
Muzykanty kazaka
Dyk aż woczy zasijauć
I nia pomnisz jazyka. –
Serce bjetca jak capami,
Dryżać nohi pad taboj
I u plasku iduć sami,
Ażno prosta sam nia swoj.
A panoŭ tych jak na schodzie,

Jak czlen pryjedzić k – nam
Usie prybranyja pa modzie
Tak pryhoży–kudy tam!
    Paniczy byli prybrany
    Pad kalibry jak adzin
    Rukawiczki malowany,
    Tolki boty bytcym klin,
Akulary jak dwa woczki
Wisiać tut pad baradoj,
Jak śnieh biełya ich saroczki,
Narukaŭniczki truboj.
    A panienki tak pryhoży,
    Ali|ż moda, Boh iz niej –
    Da czaho|ż jany pachoży?
    Daduszy ni da ludziej;
No usio|b jaszcze jak nada,
Żywatoŭ saŭsim nimasz;
Zzadu niejkaja pryłada –
Tolki jezdzić na kirmasz.
    Panicz niejki ni tutejszy,
    Musić z horada, ci szto,
    Ad tutejszych jon taniejszy
    I pryhoż sabie niszto.
Zahamaniŭ bytcem walca,
Niechaj żydy iduć ihrać. –
Starszy żyd mihnuŭ na malca,
Tej dawaj usim mirhać.
    Tut smyczki narychtowali,
    Naczali usi ihrać,
    Paśle razym jak zajhrali
    Jak zawaluć jak zadudniać!
Paniczy tady paustali,
Nieszta troszku paszaptali
I k-panienkam padajszli
Tady tyja tyc ustali
I naczali ich abnimać.
    Jak pili jeli wiesialiliś
    I skakali usiu nocz
    Rańnim spać użo łażyliś,
    Bo skakać było nia umocz.
Finis

## Чацвёрты спіс

Захаваўся сярод матэрыялаў М. Федароўскага, якія не былі надрукаваны ў тамах *Ludu białoruskiego na Rusi litewskiej*. Ёсць два варыянты: чарнавы і чыставы[1], падрыхтаваны фалькларыстам да друку. Чарнавы занатаваў нехта Талачманскі са шляхецкае ваколіцы Карэвічы[2] Ваўкавыскага павету (“od Tołoczmańskiego z okol. Korewicze, pow. Wołkowyski, pod Porozowem”). Тэкст запісаны, відавочна, па памяці; асобныя праўкі зробленыя пазней, хоць не заўсёды можна дакладна сказаць, каму яны належаць: Талачманскаму ці М. Федароўскаму. Апошні правіў рукапіс Талачманскага дзеля перапісчыка.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу Кабіненту рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта: Rkps BUW 438, vol. 6, nr 32.

## *Kab ty wiedaŭ, brat kumiszcze…*

Kab ty wiedaŭ[3], brat kumiszcze |[4] szto ŭczory baczyŭ ja
U|naszych panoŭ było ihryszcze | da jakojoż a ja jaj
Dwoch[5] żydkoŭ na|skrypкі[6] hrajuć | trejci parch ŭ dudku|dźmie
A jak ŭsie[7] zahrajuć | to aż ŭsiaho zatrasie
Serce bjetcie[8], jak cepami | nohi drahnuć pot[9] toboj
A jazyka nie pajmiesz | kab ty wiedaŭ sam nie|swoj[10]
A panoŭ tak jak na schodzi | kali czlen pryjedzie k|nam
Ŭsie prybrany pa modzi |[11] kudy tam.
A paniczy poŭbierany | pod kaliber[12] jak adzin
Rukawicy malawany | tolki boty butto[13] klin
Akulary na sznuroczke | wisiać pod borodoj[14]
Jak śniech biełyje soroczki | nadrukaŭniki troboj[15]
A szaliki zawiązany | chto ich znaje nie uzłom

---

[1] M. Federowski: 38 anegdot: Materiały do *Ludu Białoruskiego* [w:] Rkps BUW BUW, 438-I, nr 32, k. 105–108.

[2] Цікава, што ваколіца Карэвічы належала да гміны Талачманы. Гл: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, Warszawa 1902, t. XV, cz. 2, s. 124.

[3] Усе літары ***й*** у гэтым тэксце – гэта перапраўленыя М. Федароўскім літары ***и***.

[4] Вертыкальнаю рыскаю М. Федароўскі дзяліў радок на два, а таксама адасабляў слова ад слова.

[5] Папраўлена чарнілам: Dw*ö*ch.

[6] Папраўлена чарнілам: skryp*cy*.

[7] Дапісана ўгары: jeny.

[8] Папраўлена чарнілам: bje*cs*ie.

[9] Папраўлена чарнілам: p*ad*.

[10] Папраўлена чарнілам: sw*ö*j.

[11] Угары дапісана: stoj, hledzi.

[12] Папраўлена чарнілам: p*a*d kalib*a*r.

[13] Папраўлена чарнілам: *by to*.

[14] Папраўлена чарнілам: sznuroczk*u* ... p*a*d b*ara*doj.

[15] Папраўлена чарнілам: śnie*h* ... s*a*roczki ... tr*o*boj.

Budto szpilkoj pryszpilony | tolki nakrysz kaziełkom[1]
A panienki choć pryhoży | ale moda boh ich znaje na|szto[2]
Na kaho jeny pachoży[3]
Adno hrudzi, żywatoŭ zusim ni masz
A z zadu jakaś pryłada | tak jek jeduć na|kiermasz[4]
Jak kulbaka wisić z|zadu ni|to kaszel ni|to żakan[5]
Ni dabiŭsie ładu ni jak.
Adzin panicz nie tutejszy | musi z horoda[6] czy szto
Ad|tutejszych jon tanczejszy | i pryhož sabie nieszto.
Budziem[7] walca | niechaj żydzi[8] idą grać!
Stary żyd marhnuŭ[9] na malca | a toj dawaj na ŭsich marhać
Użе smyki narychtawali | na toho walca żduć
Paniczy trocho poszeptali[10] | i k panienkam padyjduć
Tyje tyc[11] i ŭstali | paniczy ich obnimać
Hladź aboje obnielisie | i puściliś tancawać
Ŭ kruh pa prostu tak|i walać | jak lewonichu u|nas
Tylko nohi nie tak stawiać | i tachta to nie|tak[12].

## Пяты спіс

Запісаныя ў 1870–1880-я гг. тэксты вуснай народнай творчасці Е. Раманаў выкарыстаў у сваім мастацкім творы *Милостивый Осипъ*. Гутарку *Панскае ігрышча* ён падае[13], каб нібыта паказаць, што ягоныя героі "гуляюць" зусім інакш, не так, як паны. У адрозненне ад пазнейшых публікацый Е. Раманава, тут адсутнічае восьмае чатырохрадкоўе ("Окуляры, якъ два вочки..."). Пры падрыхтоўцы гутаркі да выдання ў зборніку *Тарасъ на Парнасѣ*... Е. Раманаў крыху "збеларусізаваў" тэкст, г. зн. адмовіўся ў асобных месцах ад русіфікаваных канчаткаў (напр., кумище – кумища, жидище – жидища і інш.).

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў выдання *Тарасъ на Парнасѣ и другія бѣлорусскія стихотворенія*, изданіе новое, дополненное, Могилевъ 1902, с. 16–18.

---

[1] Папраўлена чарнілам: *By to* szpilk*o*j pryszpil*o*ny … nakry*ż*.
[2] Папраўлена чарнілам: *Bö*h znaje naszto.
[3] Радок дапісаны пазней.
[4] Папраўлена чарнілам: kirmasz.
[5] У дужках пасля слова – пытальнік (?).
[6] Папраўлена чарнілам: ni tutejszy … z hora*d*a.
[7] Угары дапісана: Hej, panowie.
[8] Папраўлена чарнілам: *Ż*ydzi.
[9] Папраўлена чарнілам: *Ż*yd marhn*o*ŭ.
[10] Папраўлена чарнілам: p*a*sz*a*ptali.
[11] Угары дапісана: *tyc*.
[12] У наступным радку справа ў дужках напісана прозвішча перапісчыка – (*Tołoczmański*), а яшчэ ніжэй па цэнтры – *Конецъ* і *Дня 16 Ноября 1899 года*.
[13] Е. Радимичъ, *Милостивый Осипъ, или Милости хочу, а не жертвы: Быль*, Витебск 1896, с. 23–24.

## *Панское игрище*

Кабъ ты вѣдавъ, братъ кумища,
Што учора видивъ я:
У пановъ было игрища,
Да якое! ай-я-я!
    Вотъ игрища, дакъ игрища!
    Не такое, якъ у насъ!
    На цынбалахъ бивъ жидища,
    Вотъ якъ разъ, якъ Гришка ў насъ!
Два жиды у скрипку валють,
Третій пархъ у дудку дме́ть,
А якъ разомъ заиграють,
Ажно тябе затрасе́ть.
    Якъ пріўдарють уси зразу
    Музыканты казака, –
    Ажно тёмно станеть глазу,
    И не помнишъ языка,
Се́рдца бъе́тца, якъ цѣпами,
Дрыжать ноги подъ тобой,
И у танецъ идуть сами, –
Ажно, знаешъ, самъ не свой!
    А пановъ – якъ насъ на сходи,
    Коли войт пріѣдеть къ намъ;
    Вси прибравшися по моди,
    Такъ пригожа, – куды тамъ!
Паничи уси прибраны
Подъ калиберъ, якъ одинъ;
Рукавички малюва́ны,
Али боты – бытцомъ клинъ.
    Окуляры, якъ два вочки,
    Тутъ висять подъ бородой;
    Якъ снѣгъ, бѣлыя сорочки
    Нарукавнички трубой.
А шалики завяза́ны,
Хто ихъ знаеть, − не вузломъ,
Нѣякъ шпилькой пришпиля́ны,
Бытцомъ наўкрестъ, якъ козломъ.
    А паненки хоть прыгожи,
    Али жъ мода − Богъ изъ ёй:
    На кого яны похожи?
    До-души жъ, не да людей!
Всё, нехай сабѣ, якъ надо −
Животовъ совсимъ немашъ,
Ззаду нѣйкая прилада, −

Тольки бъ ѣздить на кирмашъ.
Якъ кульбака, торчитъ ззаду
Ни то мѣхъ, ни то жавлакъ, –
Не добивсь ниякъ я ладу,
Не додумався ниякъ.
Паничъ нейкій, нетутэйшій,
Мусить зъ города, ти што, –
Отъ тутэйшихъ ёнъ тонѣйшій,
И пригожъ сабѣ ништо, –
Загомони́въ: “будемъ вальца!
Нехай жиды йдуть играть!”
Старшій жидъ моргнувъ на мальца,
Той давай на ўсихъ моргать.
Тутъ смычки нарихтовали,
Приготовились и ждуть:
Тогды разомъ якъ зайграли;
Якъ завалють, якъ дадуть!
Паничы тогды устали,
Стриханулись и пошли,
Тольки трохи пошептались,
И къ паненкамъ подыйшли.
Тогды тыя – тыцъ! и ўстали,
Пачали́ ихъ обнимать;
Глядь – обо́я обняли́ся,
И пустилися скакать!
У круги попро́сту валють,
Якъ лявониху у насъ,
Тольки ноги не такъ ставють,
Да и ў тахтъ яны якъ-разъ…
Такъ скакали, веселились,
Пили, ѣли усю ночь,
Зраньня спать уже ложились,
Бо скакать было́ неўмочь…

## *Сэрца баліць, вочы плачуць...*

Нягледзячы на прывабнасць ацэнкі У. Абрамавічуса (“рукапись с конца XIX в. лирического характера на высоком поэтическом уровне”), дадзены верш не стаў аб’ектам ўвагі беларускіх даследчыкаў. Прычына ўсё тая ж: аўтар смуткуе па “панскіх” часах, па колішнім шчаслівым жыцці, па тых, хто двойчы (вядома, у 1830–1831 і 1863–1864 гг.) узнімаўся на барацьбу, але не адолеўшы акупантаў-захопнікаў, ляглі ў полі без крыжа і без магілы.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–927, k. 213–214. Зверыў з арыгіналам Вячаслаў Мартысюк.

### Spiew

Serca balić woczy płaczuć
Niema nasej[1] doli...
Szto praszło taho nia budzie
Ni wiarnuć nam boli
    Ni wiarnietca nasza szczaścia
    Jano za harami
    Tolki zdaloka smiajetca
    Nad durnymi nami
Mieli szczascia mieli dolu
A idzieź podziewali?
Pili, jeli, spali ŭ wolu...
Cełу wiek hulali...
    Jak propała nasza wola
    Żyć stała nia ŭ siłu
    Raz poszli usi u pola
    I znajszli mahiłu
I druhij raz podnialisia
Z hołymi rukami
Dumali szto wolu znajduć
Szto buduć panami...
    Ażna, Boża|ż ty moj Boża!
    Lahli i jany ŭ poli
    Biez kresta i biez mahiły
    Nieznajszoŭszy woli...

[1] Так у арыгінале. Трэба: naszej.



Рукапіс верша *О мой Божа, веру табе*
са збораў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта (Rkps BUW 441–I, k. 5)

Фрагмент першае старонкі рукапісу гутаркі *Кінуў-рынуў паўстанне...*
са збораў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта (Rkps BUW 438, vol. VI, nr 21)

Першая старонка рукапісу *Гутаркі Данілы са Сцяпанам* са збораў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта (Rkps BUW 437, cz. I, vol. 2)

Фрагмент першае старонкі рукапісу гутаркі *Першы дзень палявання ў кнеі* са збораў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта (Rkps BUW 438, vol. VI)

1.

Trzeba coś koniecznie z tego tematu [~~poezji~~].

(Winc. Koratynski)

początek.

## Dudar.



Oh uaźmusz ja dudu
Daj u sviet pojdu
Cierez lesy, cierez bary
Cierez siały, cierez dvary
Budu hraci, prypievasi,
Svaju ziemlu spominaci. –
Chto jak svajkho mianie
Prymie u svaju chatu
Tamu zajhraju
zaśpievaju
Jak rodnomu bratu.

. . . . . . . . . . . . . .

I zalmali mianie u dzikuju ziamlu . . .

. . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . .

Oj sonko maje jasnaje sonko,
Czamu tvaje liczko tumanom zajszło?
Czamu tak nie śviecisz, jak kaliś śviecila
Kali ja byu u svajej staranie

Першая старонка рукапісу верша *Дудар*
са збораў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта (Rkps BUW 441–VII–5, k. 1)

Od Staryha dzieda.

Chadziŭ baj po ściamie ....
Ci baic, ci nie? ....

Wot tak zaczynali naszy dziady swai hutorki, taki wot takaja była ich prykazka. Ciapier dziady naszy użo śpiać sabie ŭ mahiłach, taj maŭczać i nie kazuć nam kazok, nie piajuć piesianok. Zamaŭczali tatuliczki naszy, niepalubiłasia im, szto Maskal słuchaić ich, taj chachoczyć naruhajuczyśia: i z nich i z nas.- Zamaŭczali jany—lahli ŭ mahiły i śpiać sabie krepka i cicha: Piesinki i hutorki ich chodziuć pa świetu, szukajuć dobrych ludziej, da i szukajuć z nimi ab tom, szto rabić patreba.-

Першая старонка рукапісу празаічнае прадмовы да *Гутаркі старога дзеда* са збораў Бібліятэкі Літоўскай Акадэміі Навук імя Урублеўскіх (F 21-927)

# Імянны паказальнік

## В



## Г



## Д



## Е



## Ж



## З



## І



## К



## Л

## М



## Н



## П



## Р



## С

## Т



## У



## Ф



## Х



## Ц



## Ч



## Ш



## Э



## Я